# ЗМЕСТ

ТЫ

# Вольга ІПАТАВА



*Быццам Лёсу сцяжкі,*
*ўсе імёны мае.*







*З Табою:*

# З Вольгай ІПАТАВАЙ гутарыць Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ

**Г.К.** Вольга, мы заўсёды ішлі з табой у літаратурным жыцці як бы паралельна, але на дыстанцыі Ёсць шанц, прадастаўлены "Крыніцай", лепш спазнаць цябе як асобу, а значыць, стаць бліжэй Як ты ўвогуле ставішся да чалавечай адкрытасці?

**В.І.** Вядома ж, таноўча Некалі, здароўкаючыся адзін з адным, людзі працягвалі раскрытую далонь, каб паказаць, што ў руцэ няма нічога небяспечнага для субяседніка. Аднак творчыя людзі, якія пішуць, здаюцца мне і так расчыненымі ўсяму свету (прынамсі, той яго частцы, якая хоча спазнаць гэтага творцу), і таму, магчыма, пісьменніку так патрэбна адзінота

**Г.К.** Ці ёсць тэма (або тэмы), якіх бы ты прынцыпова не хацела б закранаць?

**В.І.** Ёсць Для мяне гэта — тэма адносін дзвюх жанчын, якія змагаюцца за любоў мужчыны, напрыклад, падчарка і яе мачыха У мяне ў дзяцінстве была такая сітуацыя, я прайграла па ўсіх пазіцыях Д'ябал, мусіць, вельмі смяяўся, паставіўшы мяне праз шмат гадоў у сітуацыю мачыхі, супраць якой стаіць дзяўчынка, гэтак жа закаханая ў свайго бацьку, як я некалі — у свайго Але, здаецца, абедзве мы з годнасцю выйшлі з гэтай сітуацыі

**Г.К.** "Глядзім мы рэдка ў сэрца глыбіню Гаворым мала мы аб самым блізкім" Прыводжу радкі з першага твайго паэтычнага зборніка "Раніца" (1969 г ) Хто паверыць, што гэтыя радкі належаць маладзенькай паэтцы?! Адкуль, скажы мне, такія "дарослыя" разважлівасць і мудрасць у юныя гады?

**В.І.** У юныя гады я вельмі пакутавала ад таго, што не была патрэбная нікому, што ў мяне не было на зямлі кутка, дзе хтосьці мяне чакаў бы, радаваўся б мне По сутнасці, толькі дзіцячы дом, куды я трапіла ў шостым класе, пазбавіў мяне ад адчування, што нехта павінен мяне карміць, а яму гэта — у цяжар Аднак і станаўленне ў дзетдоме было для мяне вельмі цяжкім Шасцікласніца, якая на памяць ведала "Рамэо і Джульету" Шэкспіра і больш за ўсё не любіла хадзіць строем, не надта ўпісвалася ў строгі казённы

# ПАЭЗІЯ ЛЮБОВІ І ГАРМОНІІ

**Вольга Іпатава належыць да другой, маладзейшай плыні таленавітага "філалагічнага пакалення" беларускіх літаратараў, узнятага павевамі кволай, ліберальна-камуністычнай дэмакратыі, названай "хрушчоўскай вясною" і пазней здратаванай брэжнеўска-бюракратычным застоем. Гэта быў не толькі літаратурны, мастацкі ўздым, але і чарговая прылiйная хваля нацыянальнага Адраджэння, моцная і трывалая "рэпрыза" да асноўнай тэмы нашага адраджэнцкага руху, запачаткаванага ў другой палове XIX ст. (Кастусь Каліноўскі, Францішак Багушэвіч), сфармаванага "нашанiўскай" эпохай (станаўленне літаратурна-мастацкай класікі) і пашыранага на ўсе іншыя сферы нацыянальнага духу ў гераічны перыяд беларускай гісторыі (барацьба за незалежную Беларусь у 1917—1920 гг., нацыянальна-вызваленчы рух у Заходняй Беларусі, беларусізацыя ў БССР і Галгофа беларускай нацыянальнай эліты ў перыяд сталінскай дыктатуры).**

**У драматычнай духоўнай барацьбе за ўваскрашэнне Бацькаўшчыны, за вяртанне яе**

распарадак. Праўда, мне тут ужо не трэба было закопваць у снег кніжкі, каб іх не знайшла мачыха, але затое, бывала, я цэлымі начамі, захутаўшыся ў коўдру, стаяла перад дзвярыма, з якіх падаў праменьчык святла ў нашу спальню, і чытала, і чытала, чытала Часам мяне лавіла дзяжурная выхавальніца Аднак з кожным годам адносіны мае з класам і з выхавацелямі паляпшаліся, і апошні свой год там успамінаю з добрым пачуццём

**Г.К.** Пры ўсім, што было перажыта і выпакутавана, усё ж, якую ролю адыграў у тваім чалавечым станаўленні дзіцячы дом? Прыгадаю твае ж словы з верша "Дзіцячы дом — майго жыцця калыска"

**В.І.** Ён умацаваў ўва мне ўпэўненасць, што з любой сітуацыі трэба выблытвацца самой, не перакладаючы гэта на чужыя плечы Можа, якраз гэтая рыса ў жанчыне самая непрывабная для мужчын, бо не толькі Маркс найбольш любіў у жанчынах слабасць Аднак жа традыцыйна ў нас, на Беларусі, якраз на жанчынах стагоддзямі трымалася ўсё, бо мужчыны, паспеўшы толькі, як кажуць, кінуць насенне ў глебу, знікалі, змецены войнамі, рэвалюцыямі, рознымі звадамі Калі прыкінуць, то і нас жа ў асноўным выхоўвалі бабулі альбо маці-ўдовы, толькі на сённяшніх дзяўчат стала ледзь-ледзь хапаць аднагодкаў Да таго ж, цяпер мужчын часта "зносіць" алкагалізм Асабліва гэта бачна па вёсцы Ідзе сінявокі, бялявы хлопчык побач з бацькам, а ў таго, трыццацігадовага, ужо чырвона-азызлы твар алкаголіка Аднак дзіця зачаў ён у кароткі прамежак маладосці, кахання і яшчэ "няп'янства" У мяне заўсёды шчыміць сэрца ці будзе ў сына гэты самы прамежак, каб нацыя працягвала жыццё? Альбо, "прашыты" смяротнай радыяцыяй, псіхічнай няўстойлівасцю нашага сённяшняга жыцця і алкаголем, народ, у рэшце рэшт, сапраўды вырадзіцца, як аб тым крыкам крычаць урачы і генетыкі?

**Г.К.** Часамі ты бываеш, як мне здаецца, занадта ўпэўненай у сабе Гэта не адтуль, не з дзіцячай сіроцкасці і адрынутасці?

**В.І.** Я ўпэўненая не ў сабе, а, хутчэй, у нейкім "парасоне" над сваёй галавой ў тым, што ўсё наканаванае збудзецца, хочацца таго ці не Усе ўрокі, якімі мяне вучыла жыццё, прымусілі працаваць і разбірацца з сабою — дзеля чаго прыходзіла да мяне тая ці ншая сітуацыя? Я і цяпер шукаю адказы Ці знаходжу іх — гэта ўжо другое пытанне Што ж тычыцца высока ўзнятай галавы.. Вядома, яна можа раздражняць Але прыгадваю, што мне нядаўна апісалі — мяне ж пачатку васьмідзесятых — так. "З явілася Вольга, паклала на стол артыкул і, заявіўшы "Як казалі ў адзінаццаць, так я і прынесла, можаце праверыць па гадзінніку", пайшла з ганарліва ўзнятай галавой" Тлумачэнне ў тым, што гэта быў самы горкі час майго юнацтва, мне не хацелася жыць, але пакінуць сына на адзіноцтва, якое было ў мяне самой, я не магла Каб выжыць, трэба было ў л ку ўсяго іншага і напісаць гэты праклятым артыкул, таму, прыносячы яго роўна ў прызначаны час, я чарговы раз перамагала сябе, абставіны, перашкоды

**тысячагадовай дзяржаўнай і культурнай традыцыі Беларусь шмат страціла (амаль усё першае пакаленне нацыянальнай інтэлігенцыі, знішчанай альбо падаўленай бальшавіцкімі рэпрэсіямі, беларускую школу і беларускую масавую культуру, нацыянальна-свядомае сялянства), аднак выстаяла і ў самаахвярнай працы стварыла культуру, навуку, літаратуру, іншыя віды мастацтва, ва ўсіх вымярэннях адэкватную так званай "еўрапейскай" альбо "сусветнай" культуры. Гэтая культура толькі фармальна, па "месцы прыпіскі" (СССР, БССР), паводле вонкавага антуражу (але часта і без яго) называлася "савецкай" Па сутнасці ж яна ўвасобіла беларускую нацыянальную ідэю, хрысціянскую паводле сваіх крыніц і архетыпаў, нацэленую на ўваскрашэнне ўкрыжаванай Беларусі**

**В Іпатавай давялося ад маладых гадоў шмат папрацаваць у дзяржаўных і камсамольскіх структурах настаўніцай, у Гродзенскім камсамольскім актыве, журналісткай у афіцыйных газетах і на тэлебачанні Але вось перачытаў яе паэтычныя кніжкі· "Раніца" (1969), "Ліпеньскія навальніцы" (1973), "Парасткі" (1976), і не сустрэўся са звыклай для савецкай літаратуры 30—70-х гадоў гімнаграфіяй. Няма тут ні наіўнай веры ў камуністычны рай, ні красамоўнай падробкі пад бальшавіцкую ідэалагічную наркаманію. Затое ёсць шчырае захапленне дасканаласцю роднага краю, матчынай мовай, нацыянальнай культурай плёнам боскай і людской творчасці**

**Вось першыя, "ранішнія" вершы "А зямля так даверліва, проста// У сваім характве паўстае,// Што здымаю з ног "шпількі" вострыя:// Незнарок не ўкалоць бы яе.. " А вось**





**Г.К.** Ты цяжка і пакутліва ішла да сябе цяперашняй (г зн самой сябе), ці гэта быў працэс натуральны, гарманічны?

**В.І.** Думаю, што "самой сабой" я якраз найбольш была ў дзяцінстве і раннім юнацтве Тады безаглядна верылася, не было страху перад іншым, чужым, а галоўнае, душа не хацела ведаць, што "мысль изреченная есть ложь", і таму з-за гэтага самыя блізкія людзі часам не могуць знайсці паразумення — што ж казаць пра другіх?

**Г.К.** Як ты ў свой час выйшла на дарогу, што павяла цябе ў "краіну Паэзію"? Ці былі расчараванні на гэтым шляху?

**В.І.** У "краіну Паэзію" мяне павялі Так-так Першыя вершы, якія я паслала Янку Брылю, бо ён з маім бацькам (і мамай) быў у адным партызанскім атрадзе, былі надрукаваныя ў "Зорцы" Тады ж мяне знайшоў у дзетдоме няўрымслівы Аляксей Карпюк, і, узяўшы ў свае моцныя лейцы, літаральна "вёў" да першай кніжкі, падключыўшы сюды і Дануту Бічэль-Загнетаву, якая фактычна і адрэдагавала яе, хаця ў "Раніцы" фармальна іншы рэдактар Аляксей Нічыпаравіч дбаў пра павелічэнне Гродзенскага аддзялення Саюза пісьменнікаў, але для мяне асабіста ён стаўся сапраўдным бацькам, хаця адносіны ў нас не заўсёды былі гладкім Мой "выбуховы" характар часам служыць мне дрэнную службу.. Што ж тычыцца расчараванняў — паколькі я не ірвалася ў літаратуру, то ўсё, што суправаджала мой уваход у яе, прыносіла толькі чыстую радасць вось ты выступаеш, цябе слухаюць і нават апладзіруюць Вось першы ганарар — на яго я купіла пісьмовы стол і машынку, бо Данута аднойчы сказала, што машынку не пазычаюць, у яе павінна быць толькі адна гаспадыня Нават хлопцы, якія ў Каралішчавічах так раскрытыкавалі мае вершы, што Мікола Аўрамчык змушаны быў заступіцца за мяне і доўга даказваў ім адваротнае, успрымаліся па-асабліваму Яны ў маім уяўленні ўжо хадзілі ў тогах і лаўровых вянках на галовах, бо гаварыл пра вянкі санетаў і кніжкі ў выдавецтвах У мяне ж былі першыя падборкі вершаў, і я не прэтэндавала нават на кніжку, а найболей, памятаю, радавалася першым "шпількам" на нагах..

**Г.К.** Пра адну з паэтак расказваюць, што яна шакіравала каралішчавіцкую публіку тым, што ў сталоўку з'яўлялася ў купальніку Ты па-іншаму здзівіла пісьменніцкую грамаду Раскажы, калі ласка, што гэта за гісторыя з камсамольскай граматай?

**В.І.** Паколькі я расказвала пра гэтую "гісторыю" ў "Л Ме", дзе ты працуеш, то не буду нагадваць пра яе ізноў Але ёсць, па-мойму, істотная розніца паміж з'яўленнем на абед у купальніку і тым, што я, вярнуўшы камсамольскую ўзнагароду ў знак пратэсту супраць русіфікацыі, тым самым як бы адразала ўсе свае шляхі не толькі да прэмій, узнагарод, ласкі начальства і іншых прыемных рэчаў, але і да простага друкавання "Ты не ведаеш, што нарабіла!" — сказаў мне там Іван Пятровіч

**верш пра славутую царкву ў Гародні: "Нібы калісьці дзяўчынай за горад// Насустрач бегла верасам калючым,// А там, скамянелая ад гора,// Урасла навекі ў нёманскія кручы [...]. Стаіць здаўна над Нёманам Каложа// Сівою беларускаю жанчынай" Вось заключная страфа верша "Ліпнёвы поўдзень ..": "Я сплю, уткнуўшыся ў шар зямны,// Нібы дзіця ў падол прытульны матчын". А вось простыя і глыбокія, як псалом, радкі. "Беларусь, твая дачка я,/ / Зярнятка я, а ты — мая ралля..." У той жа "Раніцы" ёсць верш-малітва "Вёска": "Я — толькі кропля ў тваіх крыніцах. // Перад табой заўжды схілюся ніц. // Мне і цяпер гарачы подых сніцца // Тваіх духмяных звонкіх касавіц"**

**Вольга Іпатава пачала друкавацца ў 1959 годзе пятнаццацігадовай дзяўчынкай. А першая кніжка яе паэзіі выйшла ў свет праз дзесяць гадоў. За гэты час адбывалася мастацкая прафесіяналізацыя, псіхалагічная адаптацыя да нялёгкай літаратурнай дарогі. Шлях у літаратуру — скрозь калючкі да зорак для шматкаго з пачаткоўцаў аказаўся непасільным, прымусіў спыніцца на ціхім прыстанку**

**Жыццёвая дарога рана асірацелай Вольгі была нялёгкай, нават драматычнай. Шмат часу пайшло на тое, каб сцвердзіць сваё права на жыццё, вучобу, на творчасць у родным слове. Гэты драматызм, дысгарманічнасць зямнога быцця па-беларуску стрымана, тактоўна выявіліся ў яе паэзіі. І ўсё ж не пякельныя, а райскія матывы дамінуюць у яе творчасці. Перамог арганічны народны аптымізм, якім славіцца нашая беларуская нацыя**

**У ранейшых артыкулах я ўжо казаў: Стваральнік Сусвету запраграмаваў чалавека для**

Шамякін. Але не, я добра ведала, у якой сістэме жыву і што можа быць далей Нездарма ж як асоба я выхоўвалася ў Гродне, каля Васіля Быкава, Дануты Бічэль і Аляксея Карпюка, Аляксея Пяткевіча. Да таго ж, перапісвалася я з Ларысай Геніюш, бывала ў яе хаце Памятаю, як чытала яна мне толькі што напісаны верш, які заканчваўся радком “Шукаю шчырых, іншых не бяру”, дзе гаворка ішла, вядома, не пра баравікі ў лесе Калі б мне проста хацелася здзівіць пісьменніцкую грамаду, то выбрала б я нешта больш бяспечнае, чымся вяртанне камсамольскай граматы ў прысутнасці вялікай колькасці мясцовых і маскоўскіх карэспандэнтаў, якія пра гэта, вядома ж, не сказалі нідзе ані слоўца Затое я два гады не магла нідзе надрукавацца, а работы на студыі тэлебачання не пазбавілі толькі таму, што мяне не далі выгнаць з камсамола мае калегі-тэлевізійшчыкі А ў мяне, між іншым, было маленькае дзіця, у якога быў вывіх тазабедраных суставаў і якому пагражала калецтва..

**Г.К.** Дык здольнасць на ўчынкі — дамінанта тваёй асобы?

**В.І.** Хутчэй, гэта здольнасць вельмі балюча адчуваць дысананс паміж словамі і ўчынкамі. Чаго вартае твае слова, калі ты не забяспечваеш яго “залатым запасам” (калі ён ёсць) уласнай асобы? Вось і сёння, як і тады, паўстае пытанне· ці можна жыць, не заўважаючы мэтанакіраванага знішчэння мовы, нацыянальнай культуры? Ці лепей сказаць сабе “На мой век хопіць”, і, штурхаючы адзін аднаго, нешта яшчэ спрабаваць выхапіць з амаль апусцелага карыта? Але ёсць у жыцця адзін непахісны закон — за ўсё трэба плаціць Цяпер і ёсць той час, пра які Купала сказаў: “Я заплаціў народу, чым моц мая магла — зваў з путаў на свабоду, зваў з цемры да святла” Ці заплацілі — мы?

**Г.К.** Мы часцей думаем пра ўласныя амбіцыі Іх у нас так многа . Аднак, ведаючы пра твой грамадзянскі тэмперамент, не магу не запытацца у палітыку ты ні разу не спрабавала падацца ці, можа не пускаюць?

**В.І.** Падацца — спрабавала По асабістай просьбе Зянона Пазняка балаціравалася ў Вярхоўны Савет XII склікання, разам з былым старшынёй райвыканкома. Не хапіла, як мне сказалі, 23 галасоў Але аб гэтым я не шкадую, бо было ў той час шмат чаго цікавага На маіх выступленнях дапамагалі Сяржук Сокалаў-Воюш, Кася Камоцкая, я сустрэлася шмат з якімі людзьмі Апроч таго, з райвыканкома яшчэ цэлы год адна за адной ішлі позвы на дэкларацыю аб даходах з рознымі пагрозамі· “в случае сокрытия” і да т п Але паколькі ў мяне была адна зарплата, нават без ганарараў, то я нікуды не ішла, хаця дзівілася, чаму такім абражаным аказаўся старшыня, які атрымаў нашмат менш галасоў, хаця на яго працавалі многія службы, у тым ліку і некаторыя нашы народныя артысты Ва ўлётках, падпісаных імі, старшыня выдаваўся за абаронцу беларускай культуры і мовы, хаця ён не казаў ні слова па-беларуску А хіба сёння мы не назіраем той жа цынізм і тую ж прадажнасць

**райскага жыцця. Зямная драма чалавека — толькі дарога да перамогі духу над інертнай матэрыяй, шлях пераадолення “звярынага”, хтанічнага пачатку. Нармальнае дзіця ўспрымае свет як гармонію, дасканаласць, як “райскую даліну”. Паэтам, мастаком становіцца толькі той, хто, не ўхіляючыся ад удзелу ў драме зямнога быцця, захаваў гэтую здольнасць глядзець на свет “чыстымі дзіцячымі вачыма” (Максім Багдановіч).**

**Нашай паэтцы ўдалося захаваць гэтае райскае поле зроку ад першай да апошняй па часе кніжкі. На яе паэтычную “Раніцу” адклікнуліся каля дзесяці рэцэнзентаў, сярод якіх былі вядомыя: паэт Анатоль Грачанікаў і крытык Фёдар Яфімаў. Рэцэнзенты віталі ў вершах паэткі шчырае пачуццё, адчуванне прыгажосці жыцця, хвалілі “ціхае чалавечае хваляванне за сябе, свой час, за Айчыну”. Не абышлося без прывычнай для тагачаснай літаратурнай думкі школьнай дыдактыкі, схільнасці ацэньваць творы па двухзначнай арыфметычнай логіцы (добра – кепска). Адсутнічала германеўтыка — выяўленне універсальных і спецыфічных сэнсаў мастацкай творчасці. У выніку гэтага паэзія і проза В. Іпатавай яшчэ не ўпісана нашым літаратуразнаўствам у кантэкст агульналітаратурнай традыцыі. Здаецца, якраз “Крыніца” пачынае гэты новы, германеўтычны этап эстэтычнай крытыкі.**

**У маладой паэзіі (а такой ёсць наша беларуская літаратура), звычайна выяўляецца здаровая, дзіцячая вера ў вечнае вяртанне зямнога жыцця. Так і ў першай кніжцы Вольгі Іпатавай:**

*Веру чамусьці –*
*той, хто жыў на зямлі*
*Зноў на яе ў другім абліччы прыходзіць.*





уладам? Тады мяне гэта моцна здзіўляла. здавалася, усе творцы прагнуць свабоды і праўды. Аказваецца, далёка не ўсе

**Г.К.** Нават тыя, што сэрцам, здавалася б, аддадзены Беларушчыне, падчас мацней за ўсё любяць саміх сябе..

**В.І.** Я не стала б корпацца ў тым, каго яны любяць перш-наперш Няхай працуюць, ну, не дзеля Радзімы, дык хаця б дзеля сябе, але — працуюць! Горш, калі не робіцца нічога

**Г.К.** Ты адна з нямногіх нашых пісьменніц, каго ведае асабіста сённяшняе высокае начальства, а ты, натуральна, ведаеш іх. У цябе не было адчування, што гэта абдзеленыя нечым людзі?

**В.І.** “Сённяшняе высокае начальства” — гэта занадта агульна. Я ведала шмат каго з мінулага ўрада, перадлукашэнкаўскага, у асноўным тых, хто сёння ў апазіцыі і каго я паважаю і зараз Што ж тычыць сённяшніх Не думаю, што мяне ведае “Сам”, хаця пра яго я напісала некалькі вершаў, за якія, калі так усё пойдзе і далей, можна сесці ў турму. Той жа думкі прытрымліваюся і пра ягоных урадоўцаў

**Г.К.** .І як заўсёды — не баішся яе выказаць А сярод творцаў, якія “прагнуць свабоды і праўды”, адны сапраўды верна служаць рэжыму, а другія, якіх яшчэ не паклікалі служыць (жанчыны, прынамсі), усяляк заігрываюць, вершы прысвячаюць, стараюцца звярнуць на сябе ўвагу У сувязі з гэтым прызнаюся у мяне няма яснасці ў адным пытанні Калі мужчына або жанчына ўвасабляюць не столькі палавыя, колькі агульначалавечыя якасці — гэта добра ці блага? Прасцей кажучы, ці вялікая вартасць — быць “сапраўднай жанчынай” (яшчэ кажуць — “бабай”)?

**В.І.** Яснасці мы з табой нашымі разважаннямі таксама не дадамо. Аднак жа магу сказаць· у старажытнасці першая ўрачэбная дапамога была ў тым, што жрацы (я гавару пра Усход, у прыватнасці, Японію і Кітай) гадалі і спрабавалі высветліць, у якіх суадносінах у хворага знаходзяцца Ян і Інь (гэта значыць, мужчынска-жаночы пачатак, бо энергіі і мерыдыяны ёсць мужчынскія і жаночыя — іньска-янскія). Аб чым гэта сведчыць? Аб тым, што не дай Бог жанчыне не мець рысаў “сапраўднай жанчыны”, “бабы” Калі мужчына перастае быць мужчынам і наадварот — парушаецца касмічная раўнавага.

**Г.К.** Дык ці будзем мы з табой размаўляць пра мужчын і ў якім ракурсе?

**В.І.** Не будзем Мабыць, кожная жанчына свядома ці несвядома шукае ў мужчыне тое, што патрэбна толькі ёй — прынц, маркіз дэ Сад, вечна пакрыўджанае дзіця, непрызнаны геній і да т п , і ад супадзення альбо несупадзення таго, хто побач, з яе марамі залежыць яе светаадчуванне Але гэта такая бездань

**Г.К.** Мне даводзілася чуць думку, што калі паміж людзьмі было сур'ёзнае пачуццё, то яно цепліцца заўсёды, як бы ні склаліся жыццёвыя акалічнасці Адным словам — што **каханне не праходзіць** Ты згодна з гэтым?

*Помніш? За рукі ўзяўшыся, мы ішлі*
*Яшчэ ў нейкім далёкім стагоддзі...*

**Верагодна, маладосць ёсць, між іншым, здольнасць перажываць быццё як вечнасць, забываць пра хуткаплыннасць часу. Гэты язычніцкі пантэізм не абмінуў раннюю паэзію Іпатавай:**

*У полі канюшына пахне соладка,*
*Здаецца, час спыніў свой вечны бег ..*

**Для маладосці афарызм “Імгненне, спыніся, бо ты цудоўнае!” — не толькі паэзія, але і рэальнасць. У наступных паэтычных кніжках і мастацкай прозе В. Іпатавай “райскія” і “пякельныя” матывы збалансаваны, аднак дамінуе характэрная для нашай паэзіі акцэнтацыя гармоніі. Яе кніжка “Ліпеньскія навальніцы” пачынаецца вершам “Прыгажосць”: краса, кажа паэтка, патрэбна ўсякаму дыханню на зямлі. І хоць жыццё “спавівае нас туманам, сячэ завеяй, сцюжаю пячэ”, але дабро і прыгажосць бяруць верх, бо нават “у ціхай рэчцы між кустоў гарлачык кладзе галоўку на зялёны ліст”. Праўда, жыццё ўжо напомніла, што нельга сталаму чалавеку “бачыць свет скрозь шкельцаў каляровасць” і верыць у вечнае дабро. “А ўсё ж начамі, — кажа паэтка, — бачу я ў сне, нібы над каляровым поплавам лятаю”. Але поруч з пастаральнымі “Забелле”, “Кіргізія”, “Лес” у другой кніжцы з’яўляюцца драматычныя постаці беларускіх князёў (“Усяслаў”), трагічны вобраз родных і блізкіх па духу людзей (“Слова пра маці”, “Лола Мантэз”).**

**Элегія, роздум-медытацыя і трагічныя матывы ўзмацняюцца ў трэцяй паэтычнай кніжцы “Парасткі”, засведчыўшы духоўную сталасць паэткі. Поруч з драмай беларускай гісторыі (“Рагнеда”, “Полацкай Сафіі”) лірыка новай кніжкі**

**В.І.** Паэт ці мастак часта жыве ілюзіямі і падсвядома не хоча іх пазбаўляцца. Ажаніся Адам Міцкевіч з Марыляй Верашчака — ці пісаў бы ён гэткія вершы? Калі б Жорж Санд і Альфрэд дэ Мюсэ зноў сышліся пасля ўсяго, што было між імі, — ці склалася б усё наноў? І хто можа нават пра сябе сказаць, дзе што — ад сапраўднага, а дзе — ад прыдуманага, нафантазіраванага? Зноў жа — бездань, бездань.

**Г.К.** Ты лёгка даруеш тым, хто цябе крыўдзіў і каго крыўдзіла ты?

**В.І.** Калі ўрэшце зразумееш, што гэта не той ці іншы чалавек крыўдзіў цябе, а праз яго прыходзіць і праходзіць да цябе тая ці іншая сітуацыя — тады няма ніякай крыўды. Важна, як рэагуеш ты сама, ці разумееш, што за інфармацыя пра цябе самую "прыйшла" з абразай ці крытыкай А часам, калі яўна бачна, што тут працавала зайздрасць, то шкадуеш крыўдзіцеля Зайздрасць — страшная іржаўчына, яна мучыць, як цяжкая хвароба Хаця ў кожнага, нават самага знакамітага чалавека (не кажучы ўжо пра нас, грэшных), ёсць свае праблемы Я асабіста не хацела б нічыйго лёсу — толькі таго, які прызначаны мне У народзе даўно заўважана, што самае галоўнае — не колькасць даброт, не прыгажосць і нават не талент, а Доля.

**Г.К.** Кожны, хто многа чытае і працуе над сабой, рана ці позна адкрывае для сябе Усход. У цябе для гэтага, наколькі мне вядома, былі і асабістыя прычыны Чым узбагаціла цябе скарбніца Усходу?

**В.І.** Больш чым пяцітысячагадовай гісторыяй развіцця чалавецтва і таго, што яно паназапашвала Напрыклад, сёння я нікуды не еду без іголак і без падручніка па "су-джок" — унікальнай усходняй сістэмы, якую прывёз у нашу краіну доктар з Карэі Пак Джэ Ву Гэтая сістэма дапамагла мне ўстаць на ногі і паправіць здароўе тады, калі медыцына адмовілася гэта рабіць Часам гэта падобна да цуду: маленькая іголка ў пэўнай кропцы, якую вылічваеш, зыходзячы з дня, гадзіны, мерыдыяна, стыхіі і да т.п , праз лічаныя хвіліны паляпшае стан, таму што праз яе з табою працуе Космас, размяркоўваючы энергетыку Але трэба шмат упартасці, настойлівага імкнення і адчування энергій, якія прыходзяць толькі з практыкай і ведамі А яшчэ — не коснасць погляду на свет, які заўсёды большы за цябе, а ціхае захапленне яго неабдымнасцю і неспасцігальнасцю

**Г.К.** Вольга, ты шмат спасцігла і зразумела, ты жывеш у гармоніі з сабой і светам, чаму тады паэзія прыходзіць да цябе ўсё радзей?

**В.І.** Паэзія — уладар над табою У прозе — уладар ты Муза сапраўды капрызная асоба, яе лёгкія крыллі датыкаюцца да цябе па ейнаму выбару Выглядаць яе, прасіць, каб прыйшла? Вось чаго не люблю, не магу і не ўмею — прасіць.

---

**выявіла элегічныя матывы кахання, сяброўства, грамадскага жыцця ("Адам Міцкевіч у Туганавічах", "Жыцця і з ім, і без яго няма. .", "Час спеласці"). Паэтка ўмее ажывіць мінуўшчыну роднага краю, суперажываючы яго пакутліваму шляху да незалежнасці. Звяртаючыся да славутага сімвала нашай гісторыі і культуры, яна кажа:**

*Хай баляць мне, баляць, Сафія,*
*Дзіды тыя ўсе і мячы,*
*Што прымалі ў грудзі тугія*
*Не скараючыся, крывічы...*

**Спалучэнне матываў элегічных і мажорных, трагічных і пастаральных — прыкмета паэзіі Вольгі Іпатавай. Следам за Усяслававым "Чую звон твой, Сафія, чую..." ідуць вобразы зямнога Раю:**

*У чырвані маліннік – выбірай!*
*Ажыны самі лезуць пад руку.*
*Знайшла і я, нарэшце, гэты рай*
*У сонечным заваблівым кутку..*

**Райскае жыццё ёсць свабода ад знікнення, памірання, выхад за межы хуткаплыннага часу. Гэтыя хвіліны рэдкага шчасця-экстазу наведваюць кожнага нармальнага чалавека. Як у вершы Вольгі Іпатавай:**

*Мой край – мой рай!*
*Аціхлая хаджу –*
*Той першы, дасканалы чалавек,*
*Не ведаючы слоты і дажджу.*
*І адступае на імгненне век...*

**Паэтычная сімфонія першага этапу яе творчасці хораша завяршаецца вершам "Час спеласці":**

*Усе наноў... Прымаць прасцяг нясцерпна:*
*Час спеласці вядзе цябе па цернях*
*Шукаць прастор без столі і без дна...*

**Уладзімір КОНАН**





# СУСТРЭЧА

З самага ранку церусіў дробны цёплы дождж, і, калі дзьмуў вецер, жоўтыя, яшчэ мясістыя і цяжкія лісты з дрэў падалі ў лужыны, на гліністую, ярка-жоўтую каляіну, коўзаліся ўніз па вільготнай глянцавай агароджы дачнага пасёлка. Сцены домікаў былі цёмныя, рэдкія асеннія кветкі ля іх здаваліся асабліва яркімі і сакавітымі, і зрэдку сярод пабляклай лістоты яблынь чырванеў ці зелянеў крэпенькі, прыгожы яблык, што пакінулі на галінцы. Доўгая пажухлая трава здавалася мёртвай, і па бурым бацвінні альбо мятых сцяблінах гароху нага слізгалася, як па гліне

Па пасёлку павольна ішла жанчына. Куртка з капюшонам, якую носяць турысты, шчыльна ахоплівала яе высокую, танклявую постаць, рукзак за спіной, не даючы сагнуцца пад дажджом, крыху адцягваў назад галаву і плечы. Шчыльна зашнураваныя боцікі і штаны дадавалі да яе выгляду маладосці і спартыўнасці Яна і сапраўды была яшчэ не старой і жаўтаваты твар, і задуменныя цёмныя вочы, і вусны, крыху падфарбаваныя, неслі на сабе сляды той мімалётнай, знешняй свежасці, якую так хутка губляе жанчына ў хвіліны стомы ці хвалявання Але пад вачыма і на ілбе густа ляпіліся зморшчынкі, а між брывамі легла, ужо назаўсёды, рэзкая тонкая рыска, якія так любіць праводзіць на чалавечым твары хуткаплынны час. Жанчына ішла як быццам бяздумна, зрэдку адхіляючы з ілба цёмна-русыя мокрыя валасы

Чырвоныя "Жыгулі", што, гайдаючыся ў каляіне, паказаліся ў варотах, паволі паехалі насустрач жанчыне, якая, нібы выціснутая з дарогі, адступілася, адхінулася да вільготнага кустаароніі, чые зморшчаныя ягады блішчэлі, як налакіраваныя Мужчына за рулём раўнадушна кінуў позірк направа, тузануўся і, спыніўшы машыну, спяшаючыся, апусціў бакавое шкло, усё ў дрыжачых струменях вады.

Ліля!

У голасе яго гучала запытальная нотка, і жанчына, усміхаючыся, і ўся як азарыўшыся мяккім святлом, падышла да яго, паціснула руку, адказала.

Я гэта, Паўлік, я Не чакаў тут убачыць? Я ў сяброўкі тут была, гасцявала, яна кіўнула галавой назад А ў цябе што, таксама тут дача?

Таксама. Зусім блізка, за паваротам

— Глядзі, які ты стаў Дача, машына Зусім дарослы мужчына!

Ды ўжо час рабіцца дарослым, Ліля! спахапіўся ён. Што ж ты стаіш пад дажджом? Сядай

---

# НАРОШЧВАЮЧЫ КРЫЛЫ

**Нават не ведаю, калі мы пазнаёміліся з Вольгай Іпатавай. Досыць даўно. І была аднойчы сустрэча — з тых, калі абставіны відавочна не толькі спрыяюць, але і правакуюць: на гаворку. Не на свецкі дыялог і не на ўзаемныя споведзі. На нейкую духоўную транспазіцыю, перагук сэнсаў, па-за праблемамі, тэндэнцыямі, дактрынамі, але з амаль відавочнай прысутнасцю паэзіі імгненняў.**

**Акорды значэнняў, матэрыялізаваныя ў словах вечаровыя хвіліны і пошум соснаў за акном, чары хаосу імгненняў, якія нібыта і не ператвараюцца ў цяжкую важкасць гадзін і дзён, а раскідваюцца — у ілюзіях мрояў, у нявырашаных і невырашальных праблемах, у перастварэнні свядомасці.**

*"Давай ронять слова,*
*Как сад янтарь и цедру.. "*

**...Паўзмрок пакоя ўтульна ахутвае нас, усё спрашчае, не вымагае ад нас прымеркавання ўзроўню нашых магчымасцяў і схільнасцяў.**

**...Мы ў пакоі, куды будзем прыходзіць некалькі дзён, паводле волі тых, хто ладаваў тамтэйшую імпрэзу. Пакой у доме, прызначаным да працы**

— Дзякуй, Паўлік. Сама дайду.

Ды не, я не пра электрычку І туды давязу абавязкова. Я другое. Ты павінна да мяне заехаць Павінна! Так я цябе не адпушчу!

Яна маўчала, усё з той жа ласкавай усмешкай гледзячы на яго, і ён заспяшаўся:

— Чайку пап'ём. Кнігі табе пакажу. У мяне тут ведаеш якія!

— І не баішся за іх?

Не, у нас ціха. Ну, Ліля? Усё паглядзіш, пасядзіш.

Яна лёгенька уздыхнула, і ён таропка расчыніў дзверы, дапамог уладкаваць на задняе сядзенне руказак, пасля ціскануў на газ і, сарваўшы машыну з месца, лоўка вывернуў яе за вугал, пасля, трохі праехаўшы, спыніўся ля доміка, што складзены быў у форме трохкутніка "вігвама" Праект гэты ён прывёз з суседняй Літвы, і гэта быў адзіны, вельмі прыкметны сваёй незвычайнасцю дом ва ўсім дачным пасёлку Ліля агледзела яго адабральна, і на вуснах яе ўсё блукала ціхая, ласкавая ўсмешка

Было відаць, што ёй усё падабалася тут, а найболей глядзела яна на Паўла, на тое, як ён гаворыць, як паварочвае галаву, як лоўка ўпраўляецца ля пліты

Усё агледзеўшы, яны селі піць чай Павел доўга важдаўся з пярэстымі скрыначкамі, па шчопці даставаў з іх нешта цёмнае і духмянае, паласкаў чайнік варам, і ў пакойчыках, перабіваючы пах нежылога, разліўся водар мяты і чабору, і стала ўтульна, асабліва калі на стале з'явіліся белыя сурвэткі з чырвонымі вышытымі ўзорамі, таропка раскіданыя Паўлам на моцным самаробленым стале.

Сіняватым вяночкам гарэў на пліце газ, цяплела ў хаце. Мацней пахла яблыкамі, што чырвона-жоўтым дыванам ляжалі на верандзе. Ліля піла чай павольна, смакуючы кожны глыток, маленькая яе рука трымала шчарбаты кубак цвёрда і ўпэўнена, а погляд быў па-ранейшаму ласкавым і спакойным, толькі пачынала ў ім патроху праглядаць спагадлівасць, нібы яна ведала, аб чым думае Павел і аб чым не рашаецца, не можа загаварыць

Яны перакідваліся звычайнымі, трохі банальнымі сказамі пра здароўе, надвор'е, быццам чужыя, і Павел не асмельваўся, а разам з тым хацеў пагаварыць з ёю пра брата Канстанціна, чыёю жонкай яна была некалі і з якім разышлася пасля доўгіх ваганняў, ярасных сварак, пасля бальніцы, калі яна выпіла амаль пачак снатворнага, а яе ўсё-ткі ўратавалі Тады Канстанціна ледзьве не звольнілі з працы, але абмежаваліся тым, што пазбавілі замежнай камандзіроўкі і далі вымову Было гэта ўсё даўно, гадоў пятнаццаць назад, і за гэтыя гады Канстанцін паспеў яшчэ раз ажаніцца, меў шасцігадовую дачку і быў, здаецца, задаволены сваім жыццём жыццём вучонага, дырэктара інстытута, і ён, Павел, ніколі не гаварыў з братам пра першую жонку, Лілю, якая працавала на кафедры патанатоміі ў мединстытуце, жыла адна, старонячыся ўсіх, хто некалі ведаў яе ў другім, ранейшым, жыцці

Цяпер, седзячы насупраць, Павел углядаўся ў ледзь прыкметныя пухліны ў яе пад вачамі, у ліловыя вены на руцэ, у пальцы з аблупленым там-сям манікюрам, і думаў пра той час, калі яна жыла ў іх, у старой кватэры з высокай, у тонкіх трэшчынах, столяй, доўгімі халоднымі вокнамі, а ён быў падлеткам з жорсткімі чорнымі валасамі і ружовымі прышчыкамі на лбе і вакол рота, то сарамлівым, то нахабным, які па начах чытаў раманы Жорж Санд і Дастаеўскага. Як ён прыслухоўваўся да крокаў на лесвіцы, як чакаў, калі шчоўкне замок і зашапоча на вешалцы Лілін плашчык, пасля пачуецца пацалунак, а потым яна і Косця пойдуць на кухню, застаўленую пашарпанай мэбляй, пачнуць гатаваць чай і спрачацца аб толькі што прагледжаным спектаклі Павел клаўся на раскладанку, але не мог заснуць праз шчыліны прабівалася святло з кухні, побач цяжка дыхала і часта прачыналася маці грузная, заўсёды хворая і незадаволеная. Ён ляжаў і спрабаваў пачуць, пра што шэпчуцца тыя на кухні а яны і спрачаліся, і цалаваліся, і зноў пілі чай, і ў яго пачынала стукаць сэрца, а зоркі ў акне непрыкметна губляліся ў передсвітальным небе, і лёгкі, моцны сон у рэшце рэшт адольваў яго, навальваўся, як цёплае, пушыстае медзведзяня .

Маці не любіла Лілі, і калі тая прыносіла дадому бярэмя кніжак альбо ўрачыста выкладвала на стол білеты то ў тэатр, то на канцэрт, ніколі не ўпускала зручнага моманту, каб не пабурчаць і што грошай не хапае, і што ёй адной даводзіцца за ўсіх выкручвацца, лічыць кожную капейчыну, а гэтыя толькі ўмеюць растрачваць . Гэта было несправядліва. Косця заканчваў апошні курс інстытута, а працавала якраз Ліля, і менавіта на ёй трымаўся асноўны даход сям'і, але, нягледзячы на тое, што нявестка, апроч таго, добра шыла і сям'і не трэба было траціцца на атэлье, маці называла яе "шалапутнай", "транжыркай" і прадказвала, што з такою ніколі не выб'ецца ў людзі яе Косцік Відаць, у нечым яна мела рацыю нешта нетутэйшае, дзікаватае адчувалася ў Лілі, нават калі яна ціха сядзела за сталом і мудрагеліла над Косцінымі рэчамі Здавалася, яна заўсёды прыслухоўваецца да нечага, нейкае цёмнае недаўменне было ў яе вачах, калі яна раптоўна кідала позірк на свякруху, на атачэнне і сядзела так колькі часу, нібы старалася ўцяміць, дзе гэта раптоўна апынулася Тыя позіркі надта абражалі маці, і яна кожны раз падкрэслівала, што нявестка не ўмее гатаваць, не любіць прыбіраць посуд, не цікавіцца ніякімі рэцэптамі Твар маці ў такі час быў зацяты і пакрыўджаны, а Лілін насмешлівы і злосны, яна слухала і насвіствала, а часам проста выходзіла з кватэры "Пайду пагуляю", казала яна, не слухаючы нікога, і сапраўды некуды ішла, а прыходзіла толькі позна вечарам і паводзіла сябе так, нібыта нічога не здарылася

---

**творчай. З фантазіі архітэктараў — тут лабірынт калідораў, што ў гатычным рамане, фасад цытадэлі — ані вокнаў, ні дзвярэй, — і вежа, якая нагадвае вартаўнічую вышку "ў зоне". А замкнёны квадрат унутранага падворка падобны адначасова і на патыо, і на прускі пляц: даўкая замкнёная прастора, ад якой неяк бегла адна ўражлівая, тонкага інтравертнага складу паэтэса.**

**Затое з боку Іслачы гэтая будыніна мае хатнія, утульныя абрысы: ці то катэдж эсквайра, ці то шале сярэдняга французскага буржуа. І ўзнёслыя стромы над ракой, і лугавіны — куды да іх знакамітым ангельскім газонам, і яліны — увесну проста са свята жыцця.**

**Якая духоўная энергія гэтага дома? Мабыць, як для каго. Гледзячы калі. І ў залежнасці ад насельнікаў яго. Таму што нават калі і словам не перакінешся, заўсёды адчуваеш вакуумнае біяполе або нібыта мінамі-пасткамі заторканае пытаннямі: купіць, прадаць, змахляваць. Тут цяпер, як заўважыў адзін вядомы пісьменнік, публіка ў большасці з тых, што не толькі не піша, але і не чытае. Затое лічыць.**

**Але ў тыя дні жыхароў з лічыльнікамі-калькулятарамі і сотавымі тэлефонамі не было. Прысутнічалі два пісьменнікі, якія сімвалізуюць сабою беларускую літаратуру, і была светлая аблічам — Боскай міласцю паэтэса — з Брэстчыны, і яе зямляк, цуд Таленту якога — у таямніцах прынцыпаў Быцця, а думка свежая, слова сутнаснае. Была і наша землячка з Гарадзеншчыны, што марыць, як і мы, не больш, не менш, як "Няхай на крылах галубок падыме наш Край з дрыгвы і да нябёсных брам па той дарозе аж у Божы храм". І недзе тут — у звычаёвых, здаецца, варунках — будзе адчуваць "бездань паміж кожным з нас і жыццём Сусвету" адзін з самых непрадказальна-прадказальных паэтаў.**

**Увогуле былі тут людзі, пра якіх заўсёды згадваюць, ведучы гаворку пра літаратуру. І тыя, хто больш самі гавораць пра іншых. Тыя, што тоесныя ці супрацьлеглыя атачэнню, і тыя, што аддаюць перавагу ўнутранай ізаляцыі і выбудоўваюць у свядомасці паралельнае існаванне. Тамтэйшыя і замежныя.**

**Мабыць, гэта таксама давала водсвет імгненням нашага нядоўгага суседства. У жывым, існым свеце — дзе рэальна ішоў і прайшоў дождж, дзе сосны прамаўлялі сваю бясконцую ці то малітву, ці то легенду... Дзе былі рэальныя, аднолькавыя геаграфічныя каардынаты і ў кожнай — свае, адрозныя, прыродныя каардынаты.**

**Мы вялі гаворку... Пра канкрэтнае і адстароненае, пра паўнату часоў і плынь жыцця, пра сутнасць існавання, што складаецца з фактаў, сустрэч, выпадкаў Мы ведалі — гэта інтэрлюдыя ў чарадзе дзён, дывертысмент рэчаіснасці, тым абумоўлена мера шчырасці і мера даверу.**

**Мы не імкнуліся даведацца нешта адна пра адну. Урэшце — мне Вольга Іпатава была больш знаёмая, як я ёй. Па яе матэрыялізаваных задумах: кнігах, публікацыях у перыёдыцы, шматлікіх тэлеверсіях і тэлеабліччах, па іпастасі трыбуннай розных форумаў. Зробленае мною — больш у шуфлядзе пісьмовага стала ці**

Маці сварылася на нявестку, а ён, Павел, з захапленнем слухаў кароткія, дакладныя рэплікі братавай, разам з дваровымі хлапчукамі бегаў на спаборніцтвы па водным слаламе, дзе Ліля, незнаёмая, з напружаным, зацятым тварам, выгінаючыся ўсім сваім доўгім, мускулістым целам, праводзіла лодку, што ажно скакала па хвалях, міма белых шалёных буруноў, паміж зялёных, вострых каменняў і, валячыся на бок разам з вяслом, раптоўна вынырвала з белай пеннай вады з другога боку Гэта называлася "эскімоскім паваротам" тлумачыў як знаўца Паўлік, і равеснікі яго з павагай цыркалі слінай і першымі віталіся на вуліцы з Косцем і Ліляй, калі яны ішлі побач абодва высокія, ладныя, вясёлыя

А пасля Канстанцін скончыў свой інстытут, уладкаваўся на працу ў адной з клінік, і пра яго неўзабаве загаварылі як пра будучую велічыню ў медыцыне. І адразу пачалі круціцца вакол новыя сябры, знаёмыя, і ён сам закружыўся ў віры заўсёды патрэбных, неадкладных спраў, усё болей мільгалі ў яго размовах "патрэбныя людзі", шырыліся не вядомыя дагэтуль абавязацельствы, і гэта нервавала Лілю, яна папракала Канстанціна за тое, што ён не справай займаецца, не тым, што закладзена ў ім для патрэбы людзям Пасля яна сцішылася, але тады пачалі ўсчынацца ў хаце спрэчкі, сваркі усё болей злыя і несправядлівыя

Павел не надта разумеў, аб чым яны спрачаюцца, чаго хоча ад брата Ліля, хаця не раз у спрэчках крычала яна. "Я хачу, каб душа ў табе засталася, душа!" Але душа гэта было незразумела, а зразумелым было тое, што ўсе і маці, і акружаючыя гаварылі пра Косцю з захапленнем, і здавалася недарэчным, што Ліля бачыць нейкую небяспеку ў тым, што так падабалася ўсім навокал

Але прайшлі гады, і Канстанцін цяпер жыве сваім, адасобленым жыццём абасобленым і ад брата, і ад маці Цяпер маці, бываючы ў малодшага сына, доўга і надакучліва пералічвае свае крыўды, расказвае пра старэйшага і ягоную жонку са злосцю і абурэннем Дробна дрыжаць жаўтаватыя абвіслыя яе шчокі, рукі з апухлымі суставамі бесперапынку жэстыкулююць, і Паўлу няёмка і пакутліва думаць, што і маці, і ён сам, мабыць, зусім не патрэбныя Канстанціну, іх некалі любімаму Кастусю, таму што нават гаворыць ён цяпер з імі суха, таропка, нібыта яны надаедныя наведвальнікі Але ж зусім падобна гаворыць ён і са сваёй новай жонкай пухленькай крыклівай карантышкай у яркіх модных абновах, а тая зусім не крыўдзіцца на тое, нібыта мае недзе яшчэ некага, лепшага за Канстанціна.

Дождж за акном мацнеў, пругкі куст абляцелага бэзу няспынна хістаўся туды-сюды, разгублена тапырачыся галінамі, як бы спрабаваў схапіцца за нешта цвёрдае, рэальнае і нарэшце спыніць сваё пакутлівае хістанне. У бляшаную ванну звонка падаў

**раскідана па выданнях пад сваім і не сваім прозвішчам, а калі і выдадзена — тыражом, так бы мовіць, сямейнага ўжытку, а яшчэ больш — завісла недзе ў паветранай (ці беспаветранай?) прасторы маёй свядомасці і падсвядомасці. Што датычыць імпрэз — прысутнічаю зрэдзьчасу, больш як сузіральніца, а не ўдзельніца.**

**Але — з таямнічай матэрыяй быцця тут сувязь складаная і што больш існаснае — дасягненне мэты ці першаснае адчуванне жыцця — пытанне казытлівае. Ды і тым часам нас прыцягваў мройлівы і блытаны свет самотнай душы, самотнай незалежна ад колькасці сваякоў, сямейнікаў і сяброў. Першаісна-самотна.**

**І можа, таму, што размова не вялася пра звычаёвае і на будзённым узроўні, я неяк не згадала ёй, што з'яўленне постаці Вольгі Іпатавай на літаратурным небасхіле ў маім уяўленні было абавязкова спалучана з нашай суседкай у Наваградку: "Бачыце, у Вольгі з'явіўся новы артыкул", — яна паказвала якое маскоўскае выданне: на тую пару ці не самай ушанаванай "саюзнай" газеты. Была гэтая жанчына ці то разам з Вольчынай маці ў партызанах, ці то пазней таварышавала з ёю. Кожным разам ведала ўсмешку той — у жыцці. І па-жаночы, па-людску радавалася за Вольгу. І безумоўна ж, разумела і спачувала ёй, як разумелі і спачувалі тыя, што чыталі:**

*Матуля, цябе не помню я —*
*Ні ласкі тваёй,*
*ні жалю...*
*Смяецца з магільнага помніка*
*Жанчына чужая.*

**"Жанчына чужая..." І наад-**





струмень вады, пырскі разляталіся па баках, на пабляклую траву і панурыя, згорбленыя пад дажджом кветкі

А Паўлу бачылася, як некалі ён і Ліля ўдваіх сядзелі на кухні і гэтак жа пілі чай. Яе твар тады быў змучаным і нейкім шэрым, у вачніцах густа ляжалі цені, а вочы былі сухія і адрачоныя Кастусь пайшоў на нейкі банкет, пайшоў без жонкі, і Ліля, відаць, думала пра гэта, рука яе вяла трымала сподак. Пасля дванаццаці пад вокнамі спынілася машына, пачуліся прыглушаныя мужчынскія галасы, какетлівы жаночы віскат, грукнулі дзверцы, а праз нейкі час увайшоў вясёлы, ружовы Кастусь у расшпіленым паліто, з-пад якога бачылася белая кашуля, і Ліля, стоячы ў дзвярах, пабялеўшы да васковай жаўцізны, моўчкі глядзела на яго, зрабіўшы Паўлу кароткі жэст, і ён моўчкі шмыгануў у пакой. Але, пастаяўшы там і пакутліва чакаючы крыку і гвалту, ён праз некалькі хвілін выглянуў у калідор, здзіўлены цішынёй, і аслупянеў Кастусь стаяў на каленях перад Ліляй, а яна спрабавала яго падняць На твары брата Павел заўважыў такі наплыў пяшчоты і віны, што яму захацелася заплюшчыць вочы, таму што здалося падгледзеў нешта патаемнае, не для ягоных вачэй. А ў Ліліных вачах была збянтэжанасць, а яшчэ пяшчота, і дакор Пасля, падняўшыся, Кастусь паклаў рукі на яе прамыя тонкія плечы, вымавіў раздзельна, нібы ўбіваючы ў яе:

Я ж кахаю цябе. Кахаю! Разумееш ты гэта, дурніца!

Сам дурань! хутка адказала яна скрозь слёзы, абдымаючы яго і хаваючы твар ў яго кашулю і цвёрдае, нягнуткае паліто

Дождж не спыняўся ні на хвіліну восеньскі, золкі, і нешта безнадзейнае чулася ў яго настойлівасці.

Ты па-ранейшаму адна, Лілечка? пасоўваючы да жанчыны карычневыя хрусткія сухарыкі, спытаўся ён як бы між іншым

Яна пахітала галавой

А ведаеш, ён засмяяўся трохі з прынукай. Я ж некалі быў закаханы ў цябе.

Я ведаю.

Ты ведала?

— Ну вядома. І парадавалася, калі ты жаніўся нарэшце. Яна, твая жонка, харошая Сапраўдная.

Сапраўдная? Дзіўнае азначэнне

Не, не дзіўнае, Паўлік. Многія жывуць нейкім штучным жыццём Дабіваюцца не таго, што грэе душу, што цёпла само па сабе, а таго, што лічыцца прэстыжным, пацяшае самалюбства. А сапраўднае. Яго даводзіцца выганяць, выкідаць з жыцця, калі яно перашкаджае таму, несапраўднаму

**варот — "у жанчыне кожнай цябе адкрываю". З адзінаццаці гадоў — адна. Дзіцячы дом. І — самастойнае жыццё. Усё — сама. Усё — на сваю рызыку. Няма дапамогі, любові — няма і апекі. Воля — і адзінота.**

*Мяне ніхто з дарогі не чакаў.*
*Дзе захачу — заўжды магла застацца.*
*І я люблю па сёння уцякаць,*
*І я па сёння не люблю вяртацца.*

**Хаця... гэта, магчыма, ужо іншыя віткі жыцця Вольгі Іпатавай, яе лірычнай гераіні, гераінь яе прозы. "Празмернасць невыносная любві", калі хацелася "прыручыць, арла пасадзіць у клетку". І тут адчуваецца нават не іншасказальна-пераносная, а па-сапраўднаму спавядальная выпакутаванасць.**

*Мне жыць не захацелася аднойчы.*
*Ды дзень якраз пачаў змагацца*
*з ноччу.*

**Гэтая танальнасць пакуты адчуваецца і ў "Ветры над стромай", і ў многіх апавяданнях — найперш, можа, у апавяданні "Дваццаць хвілін з Немезідай".**

**Свет яе творчы — трапяткі, мройлівы, камерны. На пэўным прасцягу свайго творчага шляху Вольга Іпатава з невычарпальнага мноства непаўторных размаітасцяў пісьма выбірала той, што пазначаюць як лірычны. І ў паэзіі, і ў прозе. Менавіта гэтая законаспалучальнасць успрымання светапарадку прыцягвала яе. І, можа, самыя галоўныя старонкі яе кніг гэтага перыяду — менавіта такое бачанне жыцця. Часам колерабачанне, часам — "гукабачанне". Калі-нікалі мне згадваюцца тут "матывы" Поля Валеры, напрыклад. Але гэта**

Ты пра Косцю? Тое, чым ён займаецца, гэта ж сапраўднае.

Я не хачу судзіць, асуджаць яго Пэўна, я перашкаджала яму Са сваёй патрабавальнасцю, сваім ідыёцкім каханнем, калі як здраду ўспрымаеш нават погляд, зацікаўлены позірк ў бок другой, не тое што сапраўдную здраду Ну што ж. Зараз жанчыны яму не перашкаджаюць. Яму лёгка цяпер

— А табе?

А я ніколі не хацела лёгкага. Я радуюся хаця б таму, што ў маім жыцці было сапраўднае каханне Сапраўднае, павер Кожнаму сваё. Сваё я атрымала.

Яна спакойна дапівала чай, але вочы яе сталі зусім цёмнымі, як у раненай птушкі, калі яе спрабуе прыўзняць нялоўкая рука.

Атрымала тады А зараз што?

Мне ўжо трэба збірацца, замест адказу працяжліва сказала яна ўстаючы, і ён павёз яе на станцыю, да электрычкі, у цемрадзі восеньскага вечара намацваючы залітую дажджом дарогу цьмяна-жоўтымі фарамі аўтамабіля Электрычка доўгі зялёны вусень, што дыхаў жалезам і гарам, падышла амаль адразу, асвятляючы чорны перон, што наскрозь прадзьмуваўся ветрам, павільён у канцы платформы, маленькія постаці, што ціснуліся да сцен. З шыпеннем і скрыгатам расчыніліся дзверы, і, пачакаўшы крыху, ссунуліся зноў, прыняўшы ў асветленую знутры плоць некалькіх пасажыраў, сярод іх Лілю, у яе турысцкай куртцы, з цяжкім рукзаком яблыкаў, што клапатліва нагрузіла сяброўка і які яна падтрымлівала маленькай рукой з набраклымі ад стомы венамі

Працавалі "дворнікі", нястомна адганяючы са шкла машыны змяістыя наплывы дажджу, бязмэтна свяцілі фары наперад, у цемру, а Павел усё сядзеў, курыў, глядзеў туды, дзе даўно згасла чырвонае святло электрычкі

І думалася яму пра сваё жыццё, пра сям'ю, і ўсё ўспаміналася, як трымцела некалі сэрца радасцю, захапленнем і чаканнем нечага — ад аднаго шолаху яе плашчыка, які вешала яна ў калідоры.

"Каханне, думаў Павел Што гэта? Можа, яно, нават адыходзячы, пакідаючы нас, жыве ў свеце, мацуе карані жыцця незалежна ад нас, і ўсе, хто кахаў, падсвядома выконваюць нейкае вышэйшае прызначэнне? Ці грэе свет даўнішняе іх каханне хаця б іскрынкамі, зрэдку, ці яно знікла, развеялася ў бездані, згасла, жменькай попелу ўпаўшы на цяжкую, прасоленую слязьмі і крывёй зямлю?"

*1984 г.*

**так дарэчы яе пісьму і таму, пра што вядзецца гаворка, да ўзору, у "Вузялку Святагора": "...толькі чорны колер валодаў здольнасцю перадаваць унутраную структуру прадмета", чорны колер "быў Нічым і Нечым, ён быў першатворным Хаосам, Ценем, таямніцай..."**

**Мабыць, тут і маё, суб'ектыўнае ўспрыманне, і мае схільнасці: да ўнутранага маналога, да рэальнасці "другога плана", да гульні думкі і сэнсу...**

**А недзе, некалі — інстынктам жыццялюбства і — верагодна — самасцвярджэння адбываецца, на перакрыжаванні часу, перакрыжаванне вертыкаляў і гарызанталяў, абставіны, можа, у нечым і інсцэніраваныя, даюць штуршок — павароту. А такі паварот вымагае характару.**

**А характар, безумоўна, вызначае і выхоўвае жыццё: у спрыянні абставін, і ў супрацьстаянні ім. Вольга Іпатава змагла супрацьстаяць. Ці не адсюль: жаночая мяккасць — і валявая імклівасць, абаяльнасць — і жорсткасць. І перадусім — мэтанакіраванасць і прага самасцвярджэння.**

**Увогуле літаратурная жаночая генерацыя Вольгі Іпатавай і тых, хто прыйшоў крыху пазней, — вызначае сваё месца ў жыцці не толькі творча, але і, так бы мовіць, па наменклатурных крытэрыях. Калі ў папярэдніх пакаленнях хіба толькі Еўдакія Лось шчыльна звязвала творчыя і арганізацыйна-адміністрацыйныя інтарэсы, а "шасцідзесятніцы" Данута Бічэль і Вера Вярба і ўвогуле збіралі нектар толькі творчага поспеху, дык тыя, хто сёння дасягнуў узросту творчай спеласці і сталасці, акрамя**





***

**Вечар чырвоным абрусам**
**На памытай падлозе гарыць.**
**"Ах, веюць над Беларуссю,**
**Веюць злыя вятры".**

**Кладуцца словы гаротныя**
**На сэрца далёкай бядой.**
**Колькі майму народу,**
**Столькі і песні гадоў.**

**Васількі мы у песні ўпляталі**
**І ў слуцкія паясы.**
**Цяпер бабуля спявае**
**І гладзіць мае валасы.**

**І я за ёй паўтараю**
**Замову часоў старых:**
**"О, хай над табой, мой краю,**
**Добрыя веюць вятры!"**

## *ЛІЛІТ*

**Не Ева Ліліт была першай**
**Жанчынай і жонкай Адама.**
**Яна для каханага вершы**
**І нават паэмы складала.**

**А вечарам, як стамляўся**
**Жвавы агонь у пячоры,**
**Доўга, бывала, не ляжа**
**Глядзіць і глядзіць на зоры.**

**І што зусім абурала**
**Адама, адзінага сведку, —**

**літаратурнага рэнаме маюць адміністрацыйныя і грамадскія пасады, стаяць — на чале, узначальваюць, вядуць рэй. Вольга Іпатава, атрымаўшы адукацыю ў Мінску, выдаўшы шэраг кніг, прайшоўшы курс навук у Маскве, адпрацаваўшы і таваразнаўцам кнігагандлю, і інструктарам гаркома, і рэдактарам, і літсупрацоўнікам, і літкансультантам, у 1985 годзе стала галоўным рэдактарам літаратурна-драматычных перадач Беларускага тэлебачання.**

**Па традыцыі БТ яна сталася не толькі галоўным рэдактарам, але і вядучай, і аўтарам шматлікіх перадач, рэпартажаў, "круглых сталоў". Мне асабліва прыгадваюцца тыя "круглыя сталы" — па розных пытаннях беларускай культуры, літаратуры, мовы, гісторыі. На самай адраджэнцкай хвалі. (Тымчасам мне таксама даводзілася рабіць у "Нёмане" "круглыя сталы" прыблізна той жа арыентацыі, але з улікам часопісных асаблівасцяў.) Дык вось размовы Вольга Іпатава вяла разумна, трымаючы ў руках сюжэт гаворкі, умеючы паказаць і сябе, і іншых, даючы магчымасць людзям выявіць сябе, пазначыць сваё стаўленне да праблемы. Пазней, гледзячы перадачы, на якія часам запрашаліся ўдзельнікі, кожны з каторых мог спакойна трымаць увагу тэлевізійную гадзіну, дзівілася як вядучыя раптам збіваліся амаль на маналог або цалкам гублялі стрыжань гаворкі. Вольга Іпатава была на месцы, яе тэлевізійны імідж трывала ўсталяваўся ва ўяўленні гледачоў — але яна робіць нечаканы паварот: ідзе працаваць у новаствораны часопіс "Спадчына". І — урэшце — адважваецца на**

На свежых гаршках малявала
Агністыя райскія кветкі.

"Нашто табе кветкі тыя?
Ад кветак гаршкі не мацнеюць!"
Адкіне кудзеркі густыя:
"А людзі ад іх разумнеюць!"

Быў першы развод не гучны...
Бог шкадаваў мужчыну:
Сам ляпіў, як падручны,
З ягоных рэбраў жанчыну.

Ева была пакорай
У простых гаршках варыла,
Дзяцей гадавала, пра зоры
Ніколі не гаварыла.

А толькі Адам начамі
Хадзіў блукаць у тых далях,
Дзе песні Ліліт гучалі,
Гойдаўся човен на хвалях.

Па сёння яму ўсё сніцца
То росны слядок, то спевы.
Па сёння Адам мітусіцца
Паміж Ліліт
                і Евай...

## *СЛОВА*

*У Гродне на плошчы ў 1903 г. быў засечаны казакамі рэвалюцыянер Голуб.*

Пажоўклыя старонкі дакументаў
Нябачна наліваюцца крывёй...
Ну хто яго пад звон літаўраў медных
Скрозь шэраг вернападданых павёў?

адкрыццё штотыднёвіка "Культура". Вось тут напачатку нядобразычліўцы злацешыліся — напаўпустыя палосы. Але неўзабаве выданне набыло сваё адметнае аблічча, знайшло сваё рэчышча — ўлічваючы існаванне "ЛіМа" і шматлікіх новых перыядычных органаў друку.

Вольга Іпатава запрасіла да супрацоўніцтва людзей, што да таго, з большым ці меншым поспехам, супрацоўнічалі як аўтары з рознымі часопісамі і газетамі. Валянціна Акудовіча, напрыклад. Большы ці меншы поспех — тут я маю на ўвазе насцярожанасць рэдакцыйных начальстваў да нестандартнага, нетрадыцыйнага спосабу мыслення і адпаведна формы выкладання. Вольга Іпатава дала прастору творчай фантазіі супрацоўнікаў і аўтараў. Штотыднёвік займеў сваіх чытачоў Самая пара трымацца дасягнутага поспеху. Але — Вольга Іпатава зноў робіць рэзкі паварот. Яна ідзе на творчую працу.

...Апошнім дзесяцігоддзем творчасць Вольгі Іпатавай таксама набывае іншы кшталт. Яна пачынае пісаць у жанры гістарычнай прозы. Спрабуе сябе ў гэтай тэматыцы як аўтар тэлеп'ес, сцэнарыяў, лібрэта. Тут спрыялі, мабыць, і асабістыя памкненні пісьменніцы, гэта было і ў рэчышчы яе працы, урэшце — у рэчышчы грамадскай цікавасці. Яна аддала даніну запаўненню мастацкім матэрыялам белых плямаў нашай гісторыі, паспрабавала напісаць гістарычныя творы персаналісцкага накірунку. Асоба ў гісторыі. Спроба няпростая, бо, імкнучыся зрабіць гэтую асобу не муміфікаванай, а жывой і зразумелай, вельмі лёгка не толькі выпасці з метрарытму





Павешаны быў брат? Забіта праўда?
І спіны горбяцца штогод ніжэй?
Падумай сам. Жыццё    яно за брата,
За гонар і сумленне даражэй.

А ён крычаў. Крычаў цераз галовы.
Ўядаліся у цела шаблі "Ы-ых!"
Чаму ён аддаваў жыццё за слова,
За слова, што прамоўлена услых?

## *АДАМ МІЦКЕВІЧ У ТУГАНАВІЧАХ*

Туганавічы...
                Туга
Любові і прадчування!
Каштанавым цветам ранне
Стары асыпае курган.
Дапытліва маладосць
Удалеч глядзіць...
                              Трывожна
Ад гэтай смугі прыдарожнай,
Дзе ціш працінае наскрозь.
Запал ліхаманіць кроў:
У словах паэтавых дзіўна
Адна і другая радзімы,
І першая ў іх любоў.
Туганавічы..
                Туга
Кахання яго і прадвесця!
Над тым, што чакае дзесьці,
У полі вячэрнім "ку-га!"
Разносіцца...
                І зямля,
Пакутная і нямая,
Бела-ружовым маем
У сны яго прыйдзе пасля!

тых часоў, але пазбавіцца і каларыту часу, асучасніць рэаліі і паводзіны герояў. Урэшце — засяродзіўшыся на ўнутраным свеце гістарычнай асобы — можна наблізіць і яе вонкавае аблічча, выкарыстаўшы, так бы мовіць, буйны план там, дзе трэба падаць чалавека агульным планам. І забыцца на ўладу рытуалаў, на іншы стыль паводзін, іншую ментальнасць. Асобы ж пэўных колаў, пэўнага сацыяльнага статусу былі літаральна аблытаныя рытуаламі і знакамі этыкету: апрананне — рытуал, сталаванне — тым больш (згадаем усіх чашнікаў, падчашых, піўнічых і г.д.), выхад з дому — рытуальная падзея, прыём гасцей — тым больш. А застацца сам-насам ці выйсці з хаты адной жанчыне высокага паходжання было амаль што немагчыма.

...Псіхалагічная проза на гістарычным матэрыяле... Калі творчыя намеры не вымагаюць ад пісьменніка падрабязнага выпісвання гістарычнай рэальнасці, стварэння эпічнага палатна, тым больш — выпрацоўкі гістарычнай канцэпцыі. Паэтычна-лірычная скіраванасць таленту сустракае тут нібыта супраціўленне матэрыялу, сістэмы іншага пісьма, што мае на ўвазе дакладнасць думкі, фактаў, патрабуе іншага мастацкага вопыту. А на далікатную бязрэчыўнасць душы накладваецца рэальная матэрыя першакрыніц і летапісаў, гістарычны друз падзей.

Складаны момант... Але ж Вольга Іпатава, здаецца, і мае найперш на ўвазе мастацкае вызначэнне суб'ектыўных і аб'ектыўных момантаў жыцця герояў.

Момантаў вызначальных, нечаканых, паваротных. Ёй

## СКРЫЖАВАННЕ

Скрыжаваліся нашы шляхі —
Непазбежна ці выпадкова?
Плешча возера ў берагі.
Круціцца кола.

Адрачыся?
Далей ісці
Мне адной, як наканавана?
Ды бунтуе жанчына ўва мне:
"Не пусці,
Не пакінь гняздо зруйнаваным!"

Бліскавіцай вячэрняю прамільгне
Гэты выбар!
Пазнання дрэва!
І змагаюцца зноў ува мне
Бессмяротна — Ліліт і Ева.

## АДНОЙЧЫ

Мне жыць не захацелася аднойчы.
На мосце
плямы сініх ліхтароў.
Унізе плёскаўся халодны змрок,
Дзень не пачаў яшчэ змагацца з ноччу,
Яшчэ з адною ноччу,
дзе не будзе
Твайго цяпла...
Увесь цудоўны свет
Мне засланіў адзіны чалавек.
О, гэта немагчымасць быць, дзе людзі,
Дзе ў кожнага ўглядаешся
не ён!
Дзе я адна, як на чужым надворку!
Вільготнае асенняе надвор'е

цікавыя гэтыя штуршкі лёсу. Свае — яна шмат у чым вызначае сама. Сёння — зноў вяртаючыся да паэзіі. Вершы — новыя, і тыя, што перагукваюцца з даўнім. Лірычная, інтымна-асабістая тэма, спавядальная танальнасць.

*Ты прайшоў — далёкі, і родны.*
*Вочы ўбок удваіх адвялі.*
*Незваротна. Усё незваротна —*
*І навечна для нас на зямлі.*

На зямлі, якую Вольга Іпатава адчувае і як той абрыс, што наканавана стаўся радзімай, і як планету, і як свет. Як частку Сусвету.

*І я*
*сціскаюся ападаю.*
*Няўтольна, прагная, жадаю*
*Спазнаць.*
*Вяршыня – ці мая?*

Праўда, гэтыя радкі былі напісаныя раней, аднак па надрукаваным сёння, калі "нарошчваюцца крылы", калі ёсць прызнанне, калі выпрабаванні далі свой плён — вельмі заўважны, калі ў яе на зямлі ёсць і тое, што лёс ёй не адшкадаваў у дзяцінстве: сям'я, любоў сына і мужа, ёсць свая сядзіба ў прыгожым азёрным краі (па тэлебачанні гэта мясціна глядзелася вельмі прывабнай), дык вось сёння Вольга Іпатава, мабыць, наноў задае сабе пытанне:

Вяршыня — ці мая?

Такі чалавек. Нечаканы. Актыўны. Дзейсны. Такая жанчына.

Ала СЯМЁНАВА





Было такім халодным, як неон.
Блішчаў асфальт, раўнюткі, нібы шкло.
Было вакол пустэльна так і дзіка!
І я ішла адна,
як Эўрыдыка,
Але са мной
Арфея
не было...
Мне жыць не захацелася аднойчы,
Ды дзень якраз пачаў змагацца з ноччу...

## ПОЛАЦКАЙ САФІІ

Чую звон твой,
Сафія,
чую
Скрозь стагоддзі і скрозь муры
У бяскрайнюю ноч глухую
І пад час світальнай зары!
Паімкне парой на палёгку,
Адарвуся ад роднай зямлі —
Ціха звон ударыць далёкі,
Сэрца водгукам забаліць.
Не ўзбунтуюся
а нашто мне
Працінаць і ўзносіць душу?
Што забыта
усё успомню.
Нежывое
уваскрашу.
Хай баляць мне, баляць, Сафія,
Дзіды тыя усе і мячы,
Што прымалі ў грудзі тугія,
Не скараючыся, крывічы!
Чую звон твой, Сафія, чую!
Аднаго прашу — не маўчы,
Дай мне моцы ў поўнач глухую,
Сваёй мудрасці навучы...

# ПАМІЖ ЛІЛІТ І ЕВАЙ...

З напісанага Вольгай Міхайлаўнай у памяці адразу ўзнаўляецца верш "Ліліт" — як запеўная ўверцюра і да яе томіка паэзіі, і да гістарычнага рамана...

*Не Ева – Ліліт была першай*
*Жанчынай і жонкай Адама.*
*Яна для каханага вершы*
*І нават паэмы складала.*

*А вечарам, як стамляўся*
*Жвавы агонь у пячоры,*
*Доўга, бывала, не ляжа –*
*Глядзіць і глядзіць на зоры...*

Ды Адама сталі абураць райскія кветкі ў пякельнай пячоры — і "быў першы развод не гучны", і

*Ева была пакорнай –*
*У простых гаршках варыла,*
*Дзяцей гадавала, пра зоры*
*Ніколі не гаварыла..*

Прайшлі тысячы гадоў, і Жанчына-Беларуска вымушана станавіцца для абывацеля-лёсу і ўзнёслай мастачкай-музай, і прыслужніцай з парэпанымі рукамі. Пра гэта добра ведалі і Цётка, і Ларыса Геніюш...

Паміж Ліліт і Евай вымушана мітрэнжыцца і Вольга Іпатава: на аскепках пракаветных фактаў і згадак вымалёўваць агністыя кветкі, расчытваць і перапісваць даўно забытыя іерогліфы часоў Ашвінаў,

## *“ЗНАКІ ЗАДЫЯКА” ЧУРЛЁНІСА*

Бесклапотнасцю, злом, адвагай
Пакаленні на спад сышлі.
На блакітных сузор‘евых вагах
Вырашаецца лёс Зямлі.
Над налітаю стомаю пожняй
Пераліўся праменны Марс.
Кіньце жэрабя: быць апошнім
Выпадае камусьці з нас.
Напаўняючы акіяны,
Хлыне кроў. Дарагі наш мір!
На Купалле ўзыходзіць рана
Ў сэрца раненая Чагір*.
І пакоціцца колам сонца,
І пакажа паганскі знак.
Ты трывож нас, трывож, бясконцы,
Неспасцігнуты Задыяк!
Твае Вагі на ўсе рамёны,
І на ўсіх твая абалонь.
І на вогненныя пісьмёны
Пакладзецца мая далонь...

***

“Што ж няма ў цябе
Анікога?”
Лёг у ногі
Пакорлівы цень.
Усміхнуўся.
Кахаць бы такога,
Што не любіць хатні
Агмень!
Хто душу не аддасць
За ўдачу.

* Чагір – старажытная назва зоркі Венеры.

мроіць хвалынскімі хвалямі... і падбіраць даўкую лусту сіроцтва, сямейнічаць, сціраць сажу з брудных гаршкоў будзённасці, шапкаваць перад міністэрскімі чыноўнікамі і тэлебачаннем, ведучы асветніцкія тэлеперадачы і засноўваючы-адстойваючы “Культуру”...

Паміж Ліліт і Евай — як між паэзіяй і прозай. Першая вучыць бачыць “у кожнай вуліцы — радок радасны ці нядобры” і не дае забыць, што “самы маленечкі гарадок // Да тоўстай кнігі падобны”, другая ж — не дазваляе “драмаць у падстрэшшы. . // Як ластаўцы, крылы склаўшы”...

Ці не таму ў вершах Вольга Іпатава — больш празаік, а ў празаіку Вользе Іпатавай — больш паэтэсы? І калі ў беларускіх гістарычных фаліянтах проза Уладзіміра Караткевіча — гэта гісторыя нашай свядомасці, проза Леаніда Дайнекі — гісторыя падзеі, учынку, проза Уладзіміра Арлова — гісторыя радаводу (з пазнакай групы крыві на шчыце-вокладцы), дык гістарычныя раманы Вольгі Іпатавай — найперш гісторыя нашага пачуцця, ізноў жа з часоў прыадамавых...

Толькі сённяшні электаратны Адам і чуць не хоча пра нейкія агністыя кветкі — злосна паглядае на пусты чыгунок і ўжо даўно не “блукае ў тых далях, // Дзе песні Ліліт гучалі”...

І ўсё ж — спяваць і спяваць Вам, Вольга Міхайлаўна, і, вядома ж, — глядзець і глядзець на зоры!

Алесь ПАШКЕВІЧ





Хто апошняй травінцы
Брат.
Хто, калі пайду,
Не заплача,
А пакіне
Не прыйдзе назад.
Ноч у росах
Палошча плацце,
А туга
Крыніцай сплыла...
У жанчыны
Праўда зярняці.
У мужчыны
Праўда крыла.

## *БАЛАДА ПРА ДУБРОЎКУ*

Здалёку крывіцкае племя
Ішло і шукала зямлі.
Спалохаўшы пудкіх аленяў,
Тут коні стамлёна ляглі.

Рашылі ўсе досыць вандроўкі,
Тут гораду быць на вякі.
“Я чую, сказала Дуброўка,
Як плачуць ў агні берагі.

Багіні са мной гаварылі,
Я ім бранзалет аддала.
Тут смерць расхіне сваё крылле,
І плавіцца стане смала”.

Гудзела ад кпінаў паляна,
І смех адбіваўся ад струн:
“Усё, што належыць, зарана
Жрацам адкрывае Пярун!

# У ПОШУКАХ ІДЭАЛАЎ

“Жанчыне пісаць нялёгка яшчэ па той прычыне, што крытыка падчас і не прад’яўляе ёй асабліва высокіх патрабаванняў”, — неяк са шкадаваннем заўважыла Вольга Іпатава. І гэта так: крытыка доўгі час падыходзіла да “жаночай” паэзіі і прозы з відавочна заніжанымі крытэрыямі. Выхад тут адзін — развіць у сабе бязлітасную жорсткасць самаацэнак. Можа, у гэтым была адна з прычын, што змусілі пісьменніцу прафесійна авалодаць нялёгкім у нас жанрам літаратурнай крытыкі.

Пры наяўнасці таленту поспех у літаратуры залежыць ад працаздольнасці і волі да творчасці. Праўда, маюць значэнне таксама лёс аўтара, абставіны яго жыцця і, урэшце, яшчэ ўдача. Вольгу Іпатаву цяжка назваць улюбёнкай лёсу.

“...Табе ж чатырох не было, як пайшла я ад вас у дарогу далёку”, — гэты сумна-элегічны маналог маці ў вершах паэткі аўтабіяграфічны. Рана згубіўшы самага блізкага чалавека, дзяўчынка ў адзінаццаць гадоў пакінула новую сям’ю бацькі, жыла і вучылася ў дзіцячым доме ў Гродне.

Гэтую сілу характару пісьменніцы, што ў раннім

А ты... Адыдзіся ў старонку,
Вячэру мужчынам гатуй!"
І плакала горка Дуброўка,
Шаптала: "Я чую бяду!"

Але — заспявалі сякеры,
І вежы ўверх папаўзлі.
Гараць на ахвярніку веры
Заўсёды сухія камлі.

Жрацы, што запальвалі свечы,
Не зналі — настала пара,
І злую наклікала сечу
На горад багіня Мара́.

Усё, тут нажытае, гіне,
І снег парудзеў ад крыві.
І толькі Дуброўцы багіня
Ускрыкнула зверху: "Жыві!

Сядзі вартаўніцай на Менцы,
Аплач гэты горад як след!
Не слухалі слабых і меншых —
А ты ж аддала бранзалет!"

## *РАГНЕДА*

Чую голас: "Рагнеда!" Адгукаецца... хто?
Палачанка-князёўна, прыдзвінскія плёсы,
Шапаценне свяшчэннага дуба лістоў
І дзявочы слядок, і крыштальныя росы.

"Гарыслава!"
                    Застогнуць бацькі і браты.
Хлыне кроў на парадную смальту палаца.
Тут палон, і насільнік, і вянец залаты,
Пад якім ён з другою рашае пабрацца,

дзяцінстве крута змяніла сваё нялёгкае жыццё, "перанялі ў спадчыну" многія будучыя героі яе твораў. Наш век патрабуе ад пісьменніка, ды і ад кожнага іншага працаўніка, шырокай эрудыцыі і тонкай спецыялізацыі. Гэта зразумела і, мабыць, хутчэй, сэрцам адчула ўжо вядомая ў літаратурным асяроддзі маладая паэтка: у 1975 годзе, узяўшы з сабою малога школьніка-сына, яна едзе ў Маскву, паступае ў аспірантуру пры Літаратурным інстытуце імя Горкага, каб праз тры гады вярнуцца ў Мінск творча і прафесійна пасталелым літаратарам.

Прызнанне прыйшло да пісьменніцы ў 70-х — пачатку 80-х гадоў. Вершы і апавяданні Вольгі перакладаюцца на рускую, узбекскую, балгарскую, славацкую, польскую, англійскую мовы. У 1981 г. яе кніга прозы "Вецер над стромай" у перакладзе на рускую мову была адзначана дыпломам I ступені літаратурнага конкурсу імя Максіма Горкага. У тым жа 1981 годзе пісьменніца стала лаўрэатам часопіса "Советская женщина" за нарыс "Я сонца ратавала" У 1983 г. прэміяй Міністэрства культуры СССР адзначана яе п'еса-аднаактоўка "Памяць у крэдыт".

Чытаючы кнігі Вольгі Іпатавай, нельга не заўважыць дзвюх асноўных тэм у яе творчасці, якія звязваюць яе шматжанравую творчасць у адно цэлае. Маецца на ўвазе ўнутраная спалучанасць праблемы нацыянальнай гісторыі, або народнай спадчыны, з тэмай жаночага лёсу. Неяк на пытанне пра творчыя планы Вольга Іпатава адказала: "Знаходкі апошніх дзесяці-





Занядбанае ложа, дзе выблісне меч,
Каб закончыць усё — нелюбоў і няславу.
Стане сын пад лязо. Упадзе карзно з плеч...
Адгукацца не стану я на "Гарыславу".

Трэцім імем стагоддзі паклічуць мяне:
Абаўе тут манаскаю рызай дарога,
А збалелае сэрца радзіма кране...
"Анастасія!" Вечнае — пошукі Бога.

Ізяславам ціхмяным Заслаўе ўстае,
Прабіраецца рэчка Чарніца па пожні.
Быццам Лёсу сцяжкі, ўсе імёны мае.
Тут на пяльцах Жыццё вышывае апошні...

## *ВЫГНАННЕ ПОЛАЦКІХ КНЯЗЁЎ У ВІЗАНТЫЮ, ГОД 1129*

Над Дзвіной як чорны покрыў ранне.
Гора смокча сэрцы, як змяя.
З Полацка з'язджае на выгнанне
Уся вялікакняская сям'я.
Усьмавы пантофлік з прошвай сіняй
На назе дзявочае прамок.
Слухае манашка Ефрасіння
Бацькі пасівелага папрок.
Ты бясплоднае абрала ложа.
Брат твой ад самоты занямог.
Без унукаў я... Хто нам паможа?
Коратка яна сказала: "Бог".
Уздыхнуў. Ладдзю панесла плынню.
З далечы усе, як мурашы.
З ветрам данеслася: "Ефрасіння!
Прадыслава, Полацк зберажы!"
Не ўстаюць з каленяў, плачуць людзі...
Шмыгнуў некуды з даносам віж...
Юная ігумення, хто будзе

годдзяў сведчаць пра слаўную мінуўшчыну нашага народа, пра глыбокія карані яго культуры і якраз там, дзе мы раней бачылі, як кажуць, суцэльныя "белыя плямы". Поруч з глабальнымі пытаннямі сучаснасці нам, беларусам, даводзіцца запаўняць вялікія прагалы ў вывучэнні гісторыі нашай культуры, узнаўляць літаральна па крупінках тое, што разбурана войнамі і неспрыяльным лёсам. А якраз хочацца паказаць пераемнасць культуры і звязаных з ёю чалавечых лёсаў ад далёкіх гістарычных часоў да нашых дзён".

Вось так і чаргуюцца, нярэдка пераплятаючыся паміж сабою, дзве тэмы ў творчасці Вольгі Іпатавай — паэткі, празаіка і публіцыста — тэма гісторыі народа і тэма жаночага лёсу. Да ўсведамлення іх унутранай лучнасці яна ішла даўно — з першага зборніка вершаў, дзе ёсць такія радкі·

*Князёўнаю Полацкаю пачаты,*
*Той шлях у гісторыю —*
*тонкая нітка.*
*Ішлі беларускія нашы дзяўчаты*
*Па мудрасць, па веды.*
*нібы па здабыткі.*

У першых кніжках Вольгі Іпатавай чытач сустрэне, поруч са сваімі сучаснікамі, полацкага князя-чарадзея Усяслава, рэвалюцыянерку і дзеячку беларускай культуры Камілу — дачку аднаго з заснавальнікаў новай беларускай літаратуры Вінцука Дуніна-Марцінкевіча ("Равесніцы"). У сэнсе мастацкім гэта ўжо даволі сталыя творы. Аднак тут аўтару яшчэ не хапала самастойнасці гістарычнага мыслення. Бо не так Усяслаў, колькі яго супрацоўнікі, што пераступілі прысягу, пралівалі кроў сваіх

Несці за цябе і гэты крыж?
Хай і там надзея не растае,
Мужнасць не утопіцца ў слязах...
Візантыя! Клетка залатая
Вольным птушкам — полацкім князям!
І гады, і жыцці, як атаву,
Косяць Часу вострыя нажы.
А яна ўсё чуе: "Прадыслава!
Ефрасіння! Полацк беражы!"

## *АДЗІНОКАМУ РЫЦАРУ,*

*кіраўніку тэатра "Вольная сцэна"*
*Валерыю Мазынскаму*

Над Вольнаю сцэнаю кружаць штовечар
Калярова-капрызныя словы й пачуцці,
Як матылькі, што аджываюць у няпэўным святле
Адагрэтае хаты.

Вольная сцэна, ты спрабуеш сабраць
Аскабалкі свету, а ён разлятаецца,
Быццам кавалкі Лёду-9
З рамана Ванегута.

Мо таму ў чарадзея, які патрымае тваю
Раўнавагу ваўчка, дзе палос мітусня
Паміж тлом і святлом
Зледзянелі далоні.

Ён ідзе цераз ноч. Белы плашч, бел-чырвоны каснік...
Рыцар болю крывіцкае Атлантыды.
І на Вольную сцэну выходзіць
Наш лёс..

братоў на Нямізе і "косці пляжылі" былых сяброў сваіх, засланіўшы сумленне нізка насунутымі шаломамі. Перадоленне другаснасці ў ацэнцы падзей далёкага мінулага, гістарычная інтуіцыя прыйдзе да пісьменніцы крыху пазней (вершы "Рагнеда", "Фрэска", гістарычныя аповесці), калі яна звернецца да першакрыніц, адкінуўшы іх устарэлыя школьныя інтэрпрэтацыі.

Другая паэтычная кніжка, названая "Ліпеньскія навальніцы", сапраўды засведчыла сталасць паэтычнага таленту. І навальніцы ўласнай душы таксама не абышлі пісьменніцу, хоць шмат чаго яшчэ было наперадзе. Бо не было яшчэ значных, выпакутаваных лірычных твораў пра каханне, якія прыцягваюць увагу чытача ў зборніку вершаў "Парасткі" (1976 г.). Пакутлівае, супярэчлівае і самаадданае пачуццё, адзінаборства з каханым — за сябе і за яго самога, за права на сваю незалежнасць — і разам з тым імкненне да поўнага растварэння ў іншым, дарагім. І за гэтай драмай пачуццяў — далікатнае, нясмела-цнатлівае спадзяванне на гарманічнае шчасце ў каханні. Усхваляваная споведзь лірычнай гераіні паэткі не пакіне чытача абыякавым. Шматзначная і дакладная назва "Парасткі". Глыбокае пачуццё прарастае болем і спадзяваннем, адчаем і верай. Жывая ўсхваляванасць пачуцця, пластычная дакладнасць перадачы стану душы лірычнай гераіні — моцны бок пакуль што апошняга па ліку зборніка вершаў Вольгі Іпатавай. З афарыстычнай дакладнасцю раскрываецца тут сутыкненне двух пачаткаў кахання: "У жанчыны — праўда зярняці. У мужчыны — праўда крыла".





## *НАВАГРАДАК, ПЕРШАЯ СТАЛІЦА...*

Дождж зашаптаў таямніча.
Я падышла да акна.
Хто мяне, хто мяне кліча?
Ноч. Я ў гатэлі адна.
Вецер ліхтарык гайдае
Звонкае колца святла.
...Мама мая маладая,
Ты тут таксама была.
Помню твой ложак апошні.
Жах у паглядзе: "Жыць... ці?"
Ранняя твая пожня
Плача ў маім жыцці.
Пыхнула кветкай і годзе —
Помнік стачыла іржа...
...Як негатывы стагоддзяў,
Цені на гмахах ляжаць.
Постаць Міндоўга паўстала.
Рок напярэймы яму.
Лёсу ўлюбёнкай не стала
Гэта сталіца — чаму?
Сцялі дарогі чужыя,
Варожыя абцугі.
Што нам падрэзвае жылы,
Плацім чые мы даўгі?
Ім бы і зараз цвяліцца:
"Можа, зусім не была?"
Спіць у стагоддзях сталіца —
Жоўтая кропля святла...

Чаму пісьменніца спынілася на самым моцным сваім зборніку вершаў і паспяхова засвоіла законы мастацкай прозы? Дамо слова ёй самой: "Шлях ад паэзіі да прозы, мне здаецца, характэрны для сучаснай беларускай літаратуры. Можа гэта — залішне катэгарычнае абагульненне. Наколькі ён плённы, гэты шлях, — пакажуць час і творы".

Сваю працу ў мастацкай прозе В. Іпатава пачала не з "малога жанру", а з аповесці, якая вымагае ад аўтара аб'ёмнага мыслення, адначаснай распрацоўкі некалькіх жыццёвых пластоў, умення прасачыць станаўленне характару ў дзеянні. У 1977 г. пісьменніца аддала на суд чытача дзве аповесці — "Прадыслава" і "Вецер над стромай".

Вобраз беларускай сярэдневяковай асветніцы Ефрасінні Полацкай жыў у паэзіі Іпатавай даўно. Мастацкая выдумка і рэальная гісторыя (аўтар грунтоўна вывучала ў архівах старажытныя дакументы) перапляліся ў аповесці "Прадыслава" — рамантычным жыццяпісе мудрай князёўны. Можна спрачацца адносна аўтарскай трактоўкі гэтага вобраза, мабыць, крыху асучасненага, аднак нельга адмовіць яму ў абаяльнасці і псіхалагічнай пераканаўчасці.

Не сталі адкрыццём у гэтай аповесці занадта традыцыйныя і ўжо "адпрацаваныя" сюжэтныя хады, знаёмыя па творах папярэднікаў. У агульнай інтанацыі аповесці адчуваецца творчая вучоба ў незабыўнага Уладзіміра Караткевіча. Так, свежасці, навізны сюжэта, вострага і нечаканага — характэрнай асаблівасці больш позняй прозы В. Іпатавай — тут яшчэ

**малавата. Але ж “Прадыслава” захапляе нас іншым: у трагедыі княжны-асветніцы наша сучасніца адчувае водгулле ўласных хваляванняў, выкліканых супярэчлівасцямі сучаснага грамадскага быцця творча актыўнай жанчыны: імкненне сумясціць жыццё сямейнае і грамадскае, быць разам з любімым чалавекам і пакінуць след у памяці нашчадкаў, словам і справай паслужыць свайму народу.**

**Тэма памяці народнай і асабістай займае важнае месца не толькі ў гістарычнай прозе В. Іпатавай: яна адчувальная і ў іншых жанрах — нарысах, вершах для дзяцей, драматургічных дэбютах. Тэма народнай памяці — у аснове парадаксальнай па сюжэту п‘есы-аднаактоўкі “Памяць у крэдыт”, напісанай у традыцыі народнага лубка, той традыцыі, жыццёвасць якой для сучаснай тэатральнай культуры бліскуча выявіў Андрэй Макаёнак. Герой п‘есы прапануе ў дар калгасу значную суму грошай, просячы пры гэтым аднаго: каб на доме культуры, пабудаваным за яго грошы, памятная дошка ўвекавечыла яго імя. Зусім заканамерны пратэст аднасяльчан: памяць народа не прадаецца ў крэдыт. Кожны на зямлі павінен даць адказ: як жыў і чым жыў?**

**Пра тыя ж праблемы на мове, зразумелай і блізкай дзецям, скажа паэтка ў сваіх вершах (зборнік “Казка пра Паўліна”). Гістарычная балада “Петрукова гора” ўсхвалюе самага “баявога”, абыякавага да паэзіі хлопчыка. Звернутыя да малога чытача вершы В. Іпатавай найчасцей вострасюжэтныя, дынамічныя, здольныя разбудзіць фантазію і сумленне дзетак, выклікаць у іх цікавасць да слаўных спраў, што здзяйснялі даўнія нашы продкі. Не забыты ў народзе подзвіг дзевяцігадовага Петрука, які адпомсціў жорсткаму хану-заваявальніку, ахвяруючы сваім жыццём.**

*Кранецца сэрца ціхі шэпт зямлі,*
*І роздум павядзе у глыб*
*стагоддзяў,*
*І ты пачуеш аб сваім народзе*
*Яшчэ нямала казак і былін...*

**Па характару мастацкага мыслення Вольга Іпатава — рамантык. Яе любімыя героі, што гарманічна ўвасобілі аўтарскі ідэал, нярэдка аддзелены ад нас тоўшчай стагоддзяў. Часта, але не заўсёды. Бо жыве ў народзе памяць пра тых, хто ахвяраваў сабою ў барацьбе з фашысцкай навалай.**

**Пасляваеннаму пакаленню нашых пісьменнікаў нялёгка пісаць пра вайну пасля тых, хто пранёс сваё жыццё і свой вялікі талент праз яе вогненныя гады. І ўсё ж В. Іпатава ступіла на гэты шлях без значных страт і паспяхова працягвае традыцыі сваіх папярэднікаў. У яе апавяданнях “Цана”, “Нявестка”, “Хата з блакітнымі аканіцамі”, “Вяртанне”, “Загавораная півоня” адчуваецца грознае рэха вайны.**

**Для мастацкага мыслення В. Іпатавай-празаіка характэрна імкненне да шматграннага аналізу сітуацый і ўнутраных канфліктаў пераважна маральна-этычнага плана. Гэта, часам, змушае яе вяртацца да сваіх герояў. Напрыклад, адна з першых яе аповесцяў “Вецер над стромай”, заснаваная на спавядальных успамінах тэлежурналіста Сяргея, праз некалькі гадоў набывае свой працяг у аповесці “Дваццаць хвілін з Немезідай”. Жорсткі самааналіз мужа тут дапаўняецца споведдзю яго жонкі. Двое чужых людзей пад адной страхой — яшчэ не сям‘я: удваіх яны асабліва адзінокія. Пра блізкага, роднага чалавека, “якому ў цяжкую хвіліну можна было б пакласці на калені галаву і памаўчаць”, марыць многія героі пісьменніцы, — на першы погляд, зусім удачлівыя, аднак яны ўсвядомілі прывіднасць свайго вонкавага дабрабыту, бо захавалі балючую памяць пра сапраўднае каханне.**

**У літаратуры 80-х гадоў прыкметна імкненне паглядзець на людзей і жыццё вачамі дзяцей, бо іх непасрэднасць і першасная чысціня нярэдка судзяць нас больш шчыра, непасрэдна і больш строга, чым дарослае выкрывальніцтва. Прыпомнім “Белы параход” Ч. Айтматава, “Урокі французскай” В. Распуціна, “Брат, знайдзі брата” Г. Немчанкі і інш. Напаўзакінутае дарослымі дзіця, дзетдомаўская дзяўчынка-падлетак — частыя героі апошніх зборнікаў прозы В. Іпатавай: “Вецер над стромай”, “Дваццаць хвілін з Немезідай”, “Перакат”. Дзеці, кінутыя мацяркамі, жанчыны, пакінутыя каханымі, — усё гэта, на яе думку, звенні аднаго ланцуга. Дзіця — маральны цэнтр сям‘і, яно хутчэй за многіх дарослых дакладна ацэньвае блізкіх людзей. Аднастайны бальнічны побыт, штодзённасць інтэрната ці раённага гарадка, а вакол трывожнае быццё прыроды — усё гэта, убачанае безнадзейна хворым дзевяцігадовым Васількам (апавяданне “Перакат”), чатырнаццацігадовай Віняй (аповесць “Вузялок Святагора”), маленькім Антакам (апавяданне “Апоўначы, калі б‘юць куранты”), набывае асаблівую свежасць, яркасць, адцяняючы вастрыню вонкава някідкіх канфліктаў. Мастацкае “мадэляраванне” дзіцячага ўспрымання свету з характэрнай для яго катэгарычнасцю ацэнак не надаюць прозе В. Іпатавай спрошчанай адназначнасці. Непрыкметна ўздымаючыся над побытам, яна ўмее прыдаць той ці іншай падзеі прытчавы, сімвалічны сэнс. Гэтаму садзейнічаюць псіхалагізм і ўменне маляваць словам, адзначаныя В. Быкавым у прадмове да першага зборніка яе прозы на рускай мове.**

**Няма ў яе і павярхоўнай настальгіі па вёсцы, якой не пазбег шмат хто з сённяшніх маладзейшых пісьменнікаў. Следам за Янкам Брылём, Анатолем Кудраўцом, Вячаславам Адамчыкам і іншымі вядомымі калегамі па літаратуры В. Іпатава стварае вобразы простых, духоўна цэльных людзей сталага веку. Ад іх, высушаных доўгім жыццём і цяжкай працай, вялікая сіла Дабра і Праўды, якая вяртае да жыцця скалечаных несправядлівым лёсам дзяцей. Так, суровая на выгляд бабка Марыля ратуе ад тугі і адчаю юную Віню (аповесць “Вузялок Святагора”), а гаваркі дзед Цімох дапамагае маленькаму Васільку перамагчы злую хваробу (апавяданне “Перакат”).**

**Цёплым святлом аўтарскага ідэалу асветлены ў апавяданнях людзі сярэдніх пакаленняў. Як тут не прыпомніць непадкупнага ветэрынара Зосю з апавядання “Авантура”, чуйную да чужога гора Наталлю (“Апоўначы, калі б‘юць куранты”). У адрозненне ад тых, хто пнецца жыць лёгка, з камфортам — па формуле “і не горш за іншых”, любімыя гераіні пісьменніцы ў моманты духоўнага прасвятлення судзяць сябе і сваіх блізкіх па вялікім рахунку. Так, у кожнага чалавека, лічыць В. Іпатава, ёсць свае вяршыні, але не кожны можа ўзняцца на іх, аднак выпрабаваць сябе, ісці ўгору павінен кожны, бо помслівая Немезіда, ці інакш кажучы, лёс чалавека, жорстка карае тых, хто мог, але не захацеў стаць асобай, творцам свайго і чужога жыцця, а бязвольна плыў па цячэнні ракі жыцця або бяздарна растраціў сябе ў пагоні за дробязнымі дабротамі.**

**Схільных да рэфлексіі яе герояў, што захавалі ў штодзённай мітусні вышыню свайго ідэалу, чытач найчасцей сустракае на раздарожжы іх жыцця. Вера аўтара ў іх сілу і творчыя магчымасці, у іх духоўнае адраджэнне перадаецца чытачу.**

**Мы маем справу, такім чынам, з прозай праблемнай, канцэптуальнай, нялёгкай нават для вопытнага пісьменніка. Магчыма, кідалася б у вочы пэўная зададзенасць характараў, калі б не ўменне аўтара жывапісаць словам, перадаваць тонкія псіхалагічныя і моўныя адценні. Творы пісьменніцы хвалююць, прымушаюць думаць, а гэта значыць, як зазначае В. Іпатава, “пакутліва шукаць, параўноўваць сябе і свае ўчынкі з ідэалам”.**

**Лола ЗВАНАРОВА**

г. Масква

# ЧАКАЮЧЫ НОВЫХ ВЕРШАЎ

**Уцёкі з паэзіі ў прозу — з‘ява ў літаратуры надзвычай распаўсюджаная. Але паэзія — жанчына падступная — рэдка з гэтым мірыцца, зноў і зноў вяртаючы творцу ў свой астрог.**

**Таму ў тым, што Вольга Іпатава вельмі рэдка друкуе (а значыць, і не піша?) вершы, ёсць пэўная нелагічнасць. Зрэшты, не толькі, ды і не столькі па гэтай прычыне. У зробленым В. Іпатавай у паэзіі адчуваецца нейкая незавершанасць, недагаворанасць. Так суседка, пачаўшы расказваць цікавую гісторыю, раптам успамінае, што не выключыла дома прас, і выбягае на хвілінку. Але праходзіць пяць хвілін, дзесяць, цэлая гадзіна...**

**Вольга Іпатава таксама пачынала сваю “гісторыю”, пачынала хораша, здзіўляючы і звонкімі, светлымі метафарамі, шчодра рассыпанымі па яе тоненькім першым зборнічку з просценькай назвай “Раніца”.**

*У космас — вось мара мая запаветная.*
*Ды зямля не захоча пускаць мяне, ведаю.*
*Стане, як за дачку баяцца да ліхаманкі,*
*Звязваць па руках нагах маланкамі...*

**Ці:**

*Бы ў нерат папалася сонца ў хмары*
*Цяжкою чырвонай рыбай,*
*І апускаецца стомлена ў Нарач,*
*І робіцца Нарач рыжай.*

*Цікуюць сосны,*
*стаўшы на цыпкі,*
*Як плешчуцца ў хвалях*
*чырвоныя рыбкі...*

**Пасля былі “Ліпеньскія навальніцы”, “Парасткі”, некалькі кніжак для дзяцей. Былі зборнікі аповесцяў і апавяданняў “Вецер над стромай”, “Дваццаць хвілін з Немезідай”, “Перакат”... Проза цікавая, удумлівая, і ўсё ж...**

*За акном марозныя ахаюць дзверы.*
*Мой маленькі пакой дрэмле цёплаю*
*кошкай.*
*Ранак выкінуў мне на стол, як на бераг*
*Папяровы улоў – навагоднюю пошту.*

**Рэдка хто з маладых паэтаў пачынае так ярка і запамінальна. Вядома, як і ў любога творцы, у яе паэтычных зборніках можна знайсці вершы і мацнейшыя, і слабейшыя, але, чытаючы іх, бачыш, як з зернейка, кінутага ў раллю дбайнай рукой, прабіўся праз зямлю і цягнецца ўгору важкі колас, і каб ён наліўся спеласцю, патрэбен толькі час.**

**І сапраўды, недзе ў сярэдзіне васьмідзесятых у вершах паэткі паядналіся вобразнае мысленне, творчы вопыт і жыццёвая мудрасць, што нярэдка прыводзіць да бездакорнасці радка.**

*Прыязджаў счарнелы, як скарынка,*
*Абдымаў калені у тузе...*
*Я адказвала адно: жарынкі*
*Перапалены. Даўно. Усе.*

*Не давалася размова шчырай,*
*Пасміхаліся з чужой бяды.*
*Ах, няма больш жорсткай, чым*
*жанчына –*
*Тая, што разлюбіць назаўжды!*

*Што халодны сустракае золак,*
*А ўначы глядзіць бяссонна ў столь*

*...У якой пад сэрцам, як асколак,*
*Даўняй здрады,*
*даўняй страты боль...*

**Праўда, гэтыя вершы нават не былі аб'яднаныя ў адну кніжку. Пакуль не былі?**

**Вядома, зварот да прозы Вольгі Іпатавай выпадковым ніяк не назавеш. Эпічны пачатак быў закладзены ў некаторых яе вершах яшчэ ў "Раніцы". Там жа праявілася цікавасць паэткі да гістарычнай тэмы, і ў гэтых творах не бачыш ні штучнасці, ні фальшу.**

**І сёння — у прыватнасці, для мяне — пісьменніца існуе як бы ў двух вобразах. усё той жа гарэзнай, а то крыху сумнай і задумлівай Снягуркі, якой яна паўстае ў сваіх вершах і якой яна глядзіць з вокладкі сваёй даўняй кніжкі, і мудрай Князёўны з далёкага, загадкавага і гэтак прыцягальнага мінулага, якой яна бачыцца праз сваю прозу...**

**Алесь БАДАК**

# ГАДАННЕ НА КАРТАХ НА ДАМУ ТРЭФ

Ангельская пісьменніца Джэйн Остэн пісала свае раманы за столікам гасцёўні бацькоўскага дома і сарамліва прыкрывала рукапіс вышываннем ці вязаннем, калі хтосьці заходзіў у пакой.

У той дзень, калі жанчыны перастануць прыкрываць свае рукапісы ад паблажлівага гаспадаровага вока, у свеце, напэўна, запануе гармонія і пачнецца залаты век...

Прынамсі, на Беларусі, якая па сутнасці сваёй — жаночая краіна, і апякуецца ёю Маці Божая. Дый і ментальнасць усяе нацыі нашай чыста жаночая — праславутая цярплівасць, памяркоўнасць, трывушчасць... Няўпэўненасць ва ўласных сілах і адначасна — здольнасць бараніць да апошняга дарагое душы. Так што выратаваць Беларусь, прабачце, дарагія моцныя нашы паловы, можам толькі мы, жанчыны...

Галоўнае, каб не месціцца нам са сваімі рукапісамі ў гасцінным пакоі, дзе вы, мужчыны, з важным выглядам размаўляеце пра палітыку (у якой, далібог, нічога не разумееце) і чакаеце ад сваіх кабет толькі вышывак ды абедаў...

Вольга Іпатава, напэўна, ніколі не прыкрывала свае рукапісы. Прынамсі, цяжка ўявіць яе ў становішчы *залежнай* паненкі. Гэтак жа, як і "*жалезнай лэдзі*". Памятаю, у маленстве я любіла разглядаць малюнкі на бабуліных картах для гадання: каралі, валеты, дамы... Асабіста мне падабалася Дама Трэф — незвычайна прыгожая, строгая і элегантная: ні пунсовых шчочак званковай, ні пякельна спакушальнага віноўнага позірку. Бабуля гадала мне на Даму Трэф, і заўсёды выходзілі нейкія добрыя карты, і будучыня не пагражала ніякімі катаклізмамі. І я марыла калісьці стаць такой Дамай і накінуць на плечы гарнастаевую мантыю, і пазіраць з-пад прыўзнятага вэлюма загадкава і паблажліва...

Што ж, усе дзяўчынкі мараць стаць каралевамі. Ды становяцца імі нямногія .. На сцэне, на подыуме, на друкаваных старонках...

Напэўна, Вользе Іпатавай таксама трэба гадаць на Даму Трэф. Дый і падобная яна нечым на той даўні малюнак на карце. Дама Трэф беларускага прыгожага пісьменства... Першы вечар паэзіі ў Доме літаратара, на які я трапіла яшчэ студэнткай архітэктурна-будаўнічага тэхнікума, быў вечар паэзіі Вольгі Іпатавай. Ён няшмат чым адрозніваўся ад усіх вечароў, пабачаных мною пасля. Было сказана многа ўзнёслага і прыемнага ў адрас гераіні вечарыны, чыталіся новыя яе творы, гралі абавязковыя цымбалы. Запомнілася адно — як змяняўся голас ва ўсіх выступоўцаў-мужчын, калі яны звярталіся непасрэдна да паэткі. Гэта былі звароты да Дамы, дзе мусіла быць і павага, і захапленне.

"Яна ламала свае ружовыя пазногці аб брудныя каструлі", — горача цытавала Вольга Іпатава неяк у прыватнай размове фразу з апавядання Мапасана "Кара́лі", гераіня якога, каб адрабіць сяброўцы за згубленае ўпрыгожанне, мусіла заняцца хатнімі справамі замест служак. Ад чаго згаданая гераіня страціла прыгажосць, пастарэла і ўвогуле загубіла велікасвецкую кар'еру. "Як! Яна ж толькі рабіла звычайныя хатнія справы! Тое, што робім усе мы!" — зазначала-абуралася паэтка. . Ах, гэтыя ружовыя пазногці, несумяшчальныя з каструлямі... Дзе ўжо нам... Так, прыгажосць нашых дам мае куды большую вартасць. Дыямент, як вядома, нельга падрапаць.

Гераіня балады Вольгі Іпатавай паганская жрыца Дуброўка аддала свой бранзалет, каб даведацца, у якім месцы належыць будаваць даўгавечны горад. Яна ахвяравала не вялікім, з пункту гледжання суровых вояў, — так, аздобай... Але гэта была ахвяра часткі свайго — жаночага, запаветнага, свайго дабрабыту, свайго любавання — дзеля ўсіх, дзеля абстрактнай вечнасці... І за гэта Дуброўка была выратаваная — а войска тых, што не змаглі ацаніць ахвяравання прыгажосцю, загінула..

У вачах Вечнасці кожная ахвяра мае сваю сапраўдную цану.

...Тасуецца калода. Тузы, каралі, валеты... Мячы, дзіды, тарчы. Кальчугі, панцыры, шаломы. Дама віновая, дама чырвовая, дама бубновая — у якасці верных сяброваК, што праводзяць войска з мокрымі ад слёз насовачкамі ў руках...

Дама Трэф, якая глядзіць загадкава, сумна і мудра. Таму што дакладна ведае, дзе трэба будаваць горад на вякі, у якім захаваецца агмень зямнога шчасця і надзея на шчасце вечнае.

Але воі яе не слухаюць і ідуць у бойку, якая заўсёды будзе апошняй...

Людміла **РУБЛЕЎСКАЯ**



# Іван ЧЫГРЫН





*Рускія вызвалялі ад палякаў.*
*Палякі вызвалялі ад рускіх.*
*Вызвалялі шведы,*
*Вызвалялі французы,*
*Вызвалялі немцы.*
*І хто нас толькі не вызваляў?*

# НАШЧАДАК АРАТАЯ

***

**І зноў ваюе восень,**
**Пад ногі сцеле лісце.**
**Душа адбою просіць.**
**Душа не мае выйсця.**

**Нібы салдат палонны,**
**Аголенае поле.**
**Нашто той дождж штодзённы?**
**Нашто той шэры колер?**

1974 г

***

**Баяцца ўсе. Усіх!**
**Баіцца кожны кожнага.**
**Не ляпнуць хоць бы ўслых**
**Чаго неасцярожнага.**

**Сядзяць пад кумачом —**
**Плячо ў плячо...**
**Плячо ў плячо...**
**Маўчаць, ажно ўгінаюцца.**
**А раптам пачынаецца.**

1976 г

***

**Загінуў край. Няма Айчыны.**
**Хоць не было яе ніколі.**
**Каля акна ў слязах рабіна**
**Ды мужычок, як сцяг, у полі.**

**Яно то так. Нядоля. Голад.**
**Ўсхліп бізуна па целе кволым.**
**Ўсё ж песні ўласныя спявалі.**
**Ўсё ж казкі ўпотайкі снавалі.**

**Яно то так. Бяда давіла.**
**Зямля зняможана стагнала.**
**Ды быў Скарына, быў Вашчыла,**
**Быў Каліноўскі, быў Купала.**

**А сёння што? Адна уцеха,**
**Што Афрыка цвіце сцягамі,**
**Што негр назваўся чалавекам,**
**Ўздыхнуўшы гордымі грудзямі.**

**Наш гаспадар нас вельмі любіць.**
**І асабліва, як пры чарцы.**
**Трасе руку, цалуе ў губы...**
**Патрэбны людзі ў гаспадарцы.**

**Што я скажу малому сыну?**
**Загінуў край. Няма Айчыны.**





**Слязлівая рабіны доля,**
**І мы пры хатах на прыколе.**

1976 г.

## *У АЎТОБУСЕ “МІНСК—НАРАЧ”*

**За кожнае з кропкай “і”**
**Падводзілі да пятлі.**
**За кожнае з крэскай “у”**
**Кідалі на годы ў турму.**

**— Было ды сплыло**
**І травой зарасло, —**
**Сказаў рыжавусы дзядок,**
**Штурхнуўшы суседа ў бок.**

**Аўтобус, як дапатопны дзік,**
**Распорваў, распорваў, распорваў цалік.**
**Рассоўваў палеткі, палі, сенажаць,**
**Куляўся праз рэчку, адольваў гаць.**

**Навокал цвілі сады.**
**Навокал жыты ў палях.**
**Шафёр — цыгарэта ў зубах —**
**Якраз і прамовіў тады:**

**— Чалавек яно чалавек.**
**Калі нарадзіўся, няхай жыве.**
**Вось гэтае б “і” ды з крэскай “у”**
**Навекі б запёрлі яны ў турму.**

**Над Нараччу-возерам чайкі крычаць.**
**Сядзяць пасажыры і дружна маўчаць.**
**Апошнія метры, апошні цалік.**
**Аўтобус, як дапатопны дзік,**
**З узгорка на ўзгорак кулдык ды кулдык,**
**Кулдык ды кулдык.**

1977 г

***

**На ўсіх скрыжаваннях**
**Папярэджваюць,**
**Што мы**
**Павінны памерці,**
**Бо мы —**
**Беларусы,**
**Што ў тым**
**Прагрэс**
**Гісторыі.**

**Абрыўкі маёй душы!**

Гаворыць Мінск.
Паказвае Мінск.
Застаўкі. Рэплікі. Рэмаркі.
Рэплікі. Рэмаркі. Застаўкі.
Рэмаркі. Застаўкі. Рэплікі.

Учора нудзіла доўга.
Жыць хочацца.
Хочацца жыць.

1977 г

***

Блакітны лёс мае зямлі
Ў абдымкі чорныя ўзялі
Наплывы хмар, даўным-даўно,
Канца гадам тым не відно.

Які ён там, той наш блакіт,
Што хмарамі павек закрыт?

Не адказаў на тое дзед,
І я не адкажу як след.
Нас залівае ўсцяж вадой
Вясною, летам і зімой.

1978 г

***

Радзіму называюць раем.
А тут хоць трэсні —
І жывём і паміраем
Пад чужыя песні.

1979 г

***

Надзіва дзіўны мой народ.
Усё другім піхае ў рот.
А потым "Ах!" і тут жа "Ох!",
Што жыў галодны, а не здох.

1980 г

***

Нашчадак аратая,
Жыву у родным краі —
Без коней і без плуга,
Без поля і без луга.

Ёсць жонка і два мальцы.
І гэтыя во пальцы.





Ды ў жонкі яшчэ пальцы.
Жывём у камуналцы.

Настаўнікам служу.
Вучу дзяцей суседа,
Каб з іх ніхто не ведаў
Надзел свой і мяжу.

І хлеб ёсць і да хлеба.
Ёсць іншае, што трэба.
Ёсць радыё у хаце,
Ёсць пернік для дзіцяці.

Нашчадак аратая,
Жыву у родным краі.
Вучу сынкоў суседа
Свой край не знаць, не ведаць.

1982 г

## *КАЛЯ ПОМНІКА КАЛІНІНУ Ў МІНСКУ*

Той самы Калінін, што двойчы тут быў.
Той самы Калінін, што жонку знябыў.
Той самы Калінін, што Сталіна друг.
Той самы, каторы для ўсякіх паслуг.

Адлітыя ў бронзу чужыя адкіды!
О, як яны гнюсяць мае краявіды!

Халуйства і подласць!..
На нас не глядзіць.
Халуйства і подласць!..
На плошчы стаіць.
Халуйства і подласць высочвае далі.
Халуйства і подласць на п'едэстале.

1982 г

***

Рускія вызвалялі ад палякаў.
Палякі вызвалялі ад рускіх.
Вызвалялі шведы,
Вызвалялі французы,
Вызвалялі немцы.
І хто нас толькі не вызваляў?
А мы як былі нявольнікамі,
Так і засталіся.

1986 г

# У НАС

## Алесь АСТАШОНАК



*Таго вечара загаварылі ў шынку пра бацькоў*

# АПОВЕД





Якіх толькі гутарак не пачуеш у прыдарожным шынку, якіх толькі аповедаў не станеш тут сведкам! Кажуць, мала такіх засталося шынкоў нават ля самых вялікіх гасцінцаў, але вось у нашых краёх адзін такі яшчэ ёсць Як кіравацца на Пярэстраў, ля паваροткі на Стратава, стаіць у ельніку на ўзбочыне хацінка. Мясціна глухая, дужа не падобная на ўсё што ні ёсць наўкол, і блізка, і далёка, — тут і чэрці яшчэ вольна, людзей не баючыся, ходзяць — і гэта ў нашых лясах, па нашым, заўважце, часе, — і зусім не тутэйшыя дзівакі ўмудраюцца сюды трапіць — тады ў нашым шынку можна ўбачыць, як дзіўна апрануты і пастрыжаны, дый яшчэ з манерамі, чужаніца замаўляе ў Ёські кілішак старадарожскай з гуркам. Ён і тэкілы якой з гамбургерам мог бы заказаць, і чаго іншага, і Ёська ўмомант усяго і нальe, і пакладзе, і насыпле, калі трэба што насыпаць, гляньце адно на паліцы, толькі мала калі цягне тут чалавека замест квасу, прыкладам, замовіць сабе джыну ці, скажам, замест халадцу — ростбіф Праўда, што да закускі, дык закусваюць тут мала, хіба што прыкусваюць, як на зуб, дальбог, і п'юць небагата, глыток-другі, бо няма тады сэнсу ў шынку запыняцца напханы трыбух ды тлумная галава неяк не вабяць тут у **сабе чалавека. Чалавек у сабе** тут — вы разумееце? — становіцца-робіцца Ці адразу прыходзіць сюды такі і адно заглыбляецца ў сабе

Як захочацца яму, дык можа ён загаманіць і прабавіць гэткім чынам доўгія гадзіны, а то і дні, і нават ночы, і ўжо не Ёська будзе стаяць каля краніка барылы з медавухаю, а ягоны зменшчык Яська, і ніхто вас адсюль не папросіць, не разгоніць кампаніі, задаволяць тут кожнае ваша чалавечае пажаданне Гаманіць тут наведнікі, як і ўсюды, любяць, толькі паветра ў шынку асаблівае, і чалавек тут, як бы доўга і з кім ні гутарыў, як бы яшчэ даўжэй і каго ні слухаў, усё роўна застаецца **ў сабе**, забіраючыся ў такую сваю глыбіню, што, пабываўшы ў нашым прыдарожным шынку хоць раз, туліцца ў мроях да нашае стараны штонармальнага дня

Гавораць тут на багата якія тэмы. Улюбёныя, ведама ж, тры· жыццё, нараджэнне, смерць. Закранаюць і каханне, але гэтая тэма датклівая, і дужа многія стараюцца яе абыходзіць, хоць некаторыя і сцвярджаюць, быццам каханне яднае ў сабе ўсё што ні ёсць на свеце і жыццё, і смерць, і нараджэнне, і бог ведае што яшчэ — чорт нат забыўся на ўсё накручанае ім у гэтым дзівішчы Як сказаў у шынку адзін разумны прышэлец — збаў мяне, Божа, ад яго і дай мне яго Вось так і сказаў, у такой менавіта паслядоўнасці. Але я на гэтую тэму дыскутаваць не буду, надта ўжо баюся яе, з тае пары, як прыкмеціў, што колькі пра яе ні разважай — анічога не разбярэшся, адно яшчэ больш заблытаешся

Дарэчы, каб скончыць з каханнем, дык з прамоўленай высновы пра паяднанне ў каханні ўсяго найвышэйшага вынікае і выснова адваротная, простая· каханне, як і ўсякая з'ява жыцця, мае час, месца і аблічча сваіх нараджэння і смерці А то яшчэ калі разглядаць жыццё, нараджэнне і смерць як нейкі адзіны ланцуг, дык гэта адно, а калі ўважаць іх за асобныя, самастойныя з'явішчы, якія самі маюць сваё ўласнае жыццё (сэнс слова "жыццё" тут іншы, і трэба прыдумаць якоесь новае слова), дык гэта ўжо другое, і калі, вынікам, каханне — гэта праява жыцця, альбо смерці, альбо нараджэння, дык гэта ж феномены нятоесныя, зусім розныя, антыподныя нават і г.д. у якасна-колькасных адносінах, псіхафізіябіяхімічныя працэсы структуральна аналізу падлеглыя ды непадлеглыя, — і тады... я спыняюся, бо яшчэ больш заблытаўся, заблытаю вас і выб'юся з межаў сваёй гаворкі

З самага пачатку свайго аповеду я не збіраўся казаць пра неабдымнасць чалавечага існавання, а распавесці ўсяго толькі адну пачутую ў нашым прыдарожным шынку гісторыю, якая закранае самае важнае, што ёсць у нашым жыцці, ведама ж, у нараджэнні і, няма цяпер у мяне больш сумніву, нават у смерці

Я меўся гаварыць пра бацькоў

Таго вечара загаварылі ў шынку пра бацькоў...

Шматкроп'е з'явілася тут не выпадкова, бо загаварылі не проста пра бацькоў, а пра бацькоў-нябожчыкаў Шматкроп'е тут неадменна патрэбнае

Шматкроп'е ёсць усё Гэта і тое, што спаміж нараджэннем і смерцю, і тое, што да з'яўлення жыцця, і тое, што пасля ягонага заканчэння, і яшчэ многае іншае, і ўсяго гэтага не было б, калі б не было бацькоў ..

Пра бацькоў увогуле гаварыць можна адно са шматкроп'ем Без яго абысціся можна, кропку паставіць толькі тады, як ты ўпэўнены, што ні ў чым перад імі не вінаваты, ні ў чым, вядома, істотным, што ты ва ўсім у іхніх вачох спраўдзіўся і ўсе іхнія на сваё існаванне-жыццё спадзевы дапамог спраўдзіць, — але ж ці багата бачылі вы святых? . Мусіць, як вынікае з маіх назіранняў у селішчах, мястэчках і мейсцах, яны бадзяюцца недзе ў пустках Ці я памыляюся і яны ходзяць дзесьці натоўпамі?

Сказаў толькі што пра іхняе, бацькоўскае, існаванне-жыццё і згадаў іншую, колішнюю, у нашым шынку размову І тады гаварылі мы пра бацькоў, і як выказаў я запытанне наконт таго, што ж мелі нашыя бацькі. жыццё-існаванне ці існаванне-жыццё, — то адзін мудры чалавек заўважыў, што самае беднае існаванне нашых бацькоў ёсць жыццём, калі ў іх удаліся дзеці, і, наадварот, жыццё пры ўсім чаго толькі хочаш ёсць існаваннем, калі дзеці з тае ці іншае прычыны — гора ім

Гаварыць пра бацькоў без шматкроп'я можна яшчэ ў адным выпадку· калі думка адносна іх здаецца табе бясспрэчнай і неабвержнай Таму я і стаўлю тут часта кропку

Дык вось, загаварылі таго вечара пра бацькоў, і хтосьці выказаў меркаванне, што толькі бацькі дзеля дзяцей могуць усё аддаць Не, не дзеці дзеля бацькоў, о, не! не брат дзеля сястры, не сястра дзеля брата, калі толькі хто з іх не з'яўляецца ва ўсім абдзеленым і яму няма каму і на што раздаваць нікім іншым незапатрабаванае За ідэю можа аддаць чалавек усё, заўважыў яшчэ адзін не пакрыўджаны розумам наведнік, але гэта павінна быць ідэя сапраўдная. не дужа істотна, суворая яна або выкшталцоная, і ён, мяркую, не надта памыляўся, але гэта ўжо гаворка асобная

Дадам адно, што і той самы, крыху вышэй памянёны, наведнік дадаў· але ўсё роўна ж ведаў я людзей, якія ішлі на смерць дзеля ідэі, паклаўшы на плаху гэтае ідэі ўсё сваё жыццё, усе бакі гэтага жыцця, ідэяй зрабіўшы сваё жыццё і самі стаўшы ідэяй, смерць сваю зрабіўшы ідэяй і яшчэ многія смерці іншых людзей, што спрычыніліся да іхняе ідэі, — і не мелі поўнага шчасця гэтыя павадыры, не мелі з розных прычын, не мелі і таму, што вінавацілі сябе перад бацькамі не спраўдзілі яны сябе, як меркавалі самі, у іхніх вачох, не спраўдзілі іхніх спадзеваў .

Загаварылі яшчэ пра тое, што ўсё могуць дараваць бацькі свайму сыну, дачцэ сваёй, нават самым благім Нікому не даруюць, а вось ім — усё

"Распне Іуда Бацьку на крыжы, а той будзе прасіць яму добрага", — сказаў другі наведнік, і тады я падумаў, што, кажучы гэтыя словы, чалавек, можа, нават і ў думках не меў, што спрычыняецца гэткімі словамі да Святога Запавету· чыста бацьку меў ён на ўвазе, зусім не нашага агульнага Айца, — і вось у гэтым усведамленні бацькоў нашых. як багоў, ёсць і адваротнае· Бог таму і стаў Богам, што мы мелі патрэбу ў бацьку, і Ён прыйшоў да нас Бацькам

Я запыніўся тут не таму, што люблю, як, пэўна, заўважылі вы, дадаць " але гэта ўжо гаворка асобная"

Я зрабіў гэта таму, што на гэтых маіх думках, наколькі я памятаю, у гаворку нашую ўмяшаўся адзін, першы раз бачаны намі ў шынку, чалавек, які дагэтуль доўгі час слухаў нас моўчкі і дужа ўважліва, задуменна, нават, сказаў бы я, мройна, быццам і з намі ён быў, і не з намі. Але тут я сапраўды загаварыўся, забыўшыся на тое, што казаў ужо сам. тут, у шынку, чалавек, гаварыць ён ці не, слухае альбо пазяхае, — усё роўна застаецца **ў сабе** Толькі гэты чалавек, па ўсім адразу было відаць, па ўсім умомант адчувалася, яшчэ глыбей у сабе быў за ўсіх нас, — а ў шынок, наколькі вы паспелі ўжо зразумець-здагадацца, далёка не кожны трапляе Як толькі я зірнуў на яго, дык адразу ўцяміў давялося небараку перажыць такое, што ўсім нам і не снілася, і, мабыць, зусім нядаўна, бо пры ягонай заглыбленасці — няйнакш як быць тут першым наведнікам!

Знешнасць ягоную абмалёўваць зусім не варта, хоць, здавалася б, дзеля пацвярджэння гісторыі, якую я мушу пераказаць, гэта зрабіць трэба. Але рэч тут у іншым самае незвычайнае можа адбывацца з людзьмі самымі звычайнымі, як і з незвычайнымі, і яны, адпаведна, могуць быць дужа розныя вялікія і малыя, рослыя і і, паверце, не мае гэта ўсё ў нашым шынку аніякага значэння, а мае значэнне тое, што адбылося з чалавекам

Мела хіба што значэнне яшчэ і тое, што замовіў сабе чалавек гэты пад самы канец піва ірландскага чорнага "Гінэс" і не бутэлечнага, а з барылы, і давялося Яську шукаць Ёську, а галоўнае, вы ж памятаеце, як я на самым пачатку сказаў, што, нягледзячы на найбагацейшы асартымент, мала хто бачыў, каб пацягнула тут чалавека замест ежы й пітва простых замовіць сабе чаго мудрагелістага — не забыліся? Не, я не памыліўся, не мог я не заўважыць такога рэдкага ў нашым шынку здарэння. Але я абмінаю гэтую падзею, я спяшаюся, бо таго вечара — а было гэта ўчора — гамонка задоўжылася, і, вярнуўшыся з жалем да сябе, я таропка запісваю ўсё пачутае, каб не забыцца, апускаючы многія іншыя драбніцы, датычныя гэтага чалавека, хоць яны й маглі б мець пэўную цікавасць і для аповеду, і для роздуму па-за ягонымі рамкамі, скасоўваю ўсе дэталі дзеля галоўнага, дзеля аднае гісторыі з ягонага ўласнага жыцця, якую ён распавёў нам і пад уражаннем якой я цяпер знаходжуся

— Я быў кепскім, я быў дрэнным, я быў благім, я, каб не сказаць горш, быў нікуды не вартым сынам, — пачаў чалавек, і ўсе адразу прыціхлі так, што, як той казаў, муху чуваць было ў гэткай цішы, а паколькі мух у нашым шынку не было, то цішыня запала самая як толькі можа быць найцішэйшая — Бацькі мае былі бедныя й добрыя Яны нічога не шкадавалі для мяне Ва ўсім сабе адмаўлялі, усё аддавалі сыну Недаядаючы, куплялі мне, прыкладам, дарагія цукеркі — гэта па тым часе, вы ж бачыце, у якіх я гадах!

(Яму было прыблізна сорак пяць )

Яны так любілі мяне, што калі я пайшоў у школу, дык пашылі мне ў атэлье касцюм Патрэбны мне быў той касцюм! Памятаю, як я круціўся ў ім перад сябрам , а тыя недаверліва, з усіх бакоў, разглядвалі мяне Лепш бы бацькі звазілі мяне на мора і самі туды з'ездзілі Яны ж пражылі жыццё — а так і не ўбачылі мора! Вы, тут прысутныя, можаце сабе ўявіць — памерці, не ўбачыўшы мора? Мама, тая ўвогуле, далей ад нашага мейсца як за дваццаць кіламетраў ані разу не была Чаму за дваццаць? У вёску, дзе нарадзілася, да матулі ездзіла, а яшчэ раз у доме адпачынку была — у другім канцы. Сорак кіламетраў у два бакі цягніка — вось абсяг убачанага за жыццё чалавекам! А я — пра мора Бацька, калі што і ўбачыў, дык у маладосці, у войску А касцюм я неўзабаве даеў да ладу Не, я не гуляў у ім у футбол, нешта ўжо разумеў, але хоць і парваў я штаны зусім выпадкова, ды толькі няважна, як — парваў, вось і ўсё Бацька жыццё пражыў — і не меў касцюма

(Я вас яшчэ не стамляю? Пацярпіце крыху Я багата чаго мог бы вам пераказаць з таго, што распавёў нам чалавек, але выбіраю самае істотнае І, папраўдзе, я спяшаюся у любую хвіліну мяне могуць патурбаваць )

Маці ў маладосці мела нейкія строі, як мне здавалася, вельмі прыгожыя, яны і цяпер, калі згадаю, як разглядваў іх на ёй ці ў шафе калі яе не было дома, — я любіў яе — яны і цяпер здаюцца мне найпрыгажэйшымі Жыццё яна пражыла зусім нядоўгае, і найперш у тым павінен я Яна гэтак спадзявалася на мяне, гэтак нялёгка было ёй мяне выгадаваць Людзі, і многія людзі — мне сорамна вам пра гэта казаць, але я не хлушу — бачылі ўва мне многае не толькі яна — людзі! бачылі ўва мне дужа многае, што дазваляла ёй на мяне спадзявацца. яна не магла вытрымаць маіх пазнейшых няўдач гэта зламала яе

Калі я ўжо быў студэнтам, то пакахаў дзяўчыну з іншага горада і лётаў да яе на самалёце, і бацькі давалі мне на тое грошы — я ж частаваў яе, рабіў нейкія падарункі, мы пілі шампанскае Стыпендыі, вядома ж, не хапіла б Дзяўчыны той даўно ў маім жыцці няма, амаль усё ў памяці сцерлася, нават сэрца не зашчыміць, як згадаю, але ж застаўся ўсё-такі сумны ўспамін аб маладым шчасці!. А самі яны — ці ж каштавалі хоць калі шампанскае? Што сам-насам, дык перакананы — аніколі І на самалёце ні разу не лёталі, толькі бачылі, як узлятаў на ім я, калі праводзілі мяне — дарослага хлопца — да дзяўчыны Толькі цяпер задумваюся, пра што маглі яны думаць тады, гледзячы ўслед самалёту, што адрываецца ад зямлі. Сорак кіламетраў у два бакі цягніка .. А я неўзабаве ўжо дужа часта пачаў падарожнічаць на самалётах і бываць у самых розных і паглядных гарадах — я пачаў рабіць усё гэта, не надаючы таму, што маю, аніякага асаблівага значэння я проста жыў — вось і ўсё. Я проста жыў, як збіраўся жыць, бо інакш і быць не магло, а як збіраліся жыць яны, няхай і ў свой, **іхні** час, пра гэта я шмат не думаў І яны таксама проста жылі, не ездзілі на мора, не мянялі строяў і самалётаў, не пілі шампанскага. У іх, праўда, усё часцей пачало з'яўляцца на стале мяса, яны купілі сабе каляровы тэлевізар, а да гэтага яшчэ атрымалі кватэрку — атрымалі ў мае цяперашнія гады! — але ніколі і падумаць не маглі аб тым, каб набыць пральную машыну Рукі ў мамы былі такія не, яе рукі былі найпяшчотнейшыя, маміны рукі я задорваў жанчын, амаль выпадковых, кветкамі, а вось пральнай машыны маме не падарыў... А колькі я ёй падарыў кветак? Якіх?. Колькі разоў? Дальбог, не памятаю . можа і ні разу . Тата любіў выпіць, але мала калі дазваляў сабе гэта, ашчаджаў грошы для сям'і, для мяне, значыць, найперш, і, толькі калі я стаў на ногі, пачаў выпіваць часцей Я заўсёды глядзеў на тое, як ён п'е, з замілаваннем ён рабіў гэта неяк грунтоўна, святочна, я сказаў бы нават, рытуальна А ў маёй гарэлцы можна ўжо ў воднае пола гуляць — хопіць і глыбіні, і прасторы Водачнае пола.. Усё жыццё яны пражылі амаль для мяне аднаго і мала сабе ўяўлялі якоесь іншае жыццё, а можа, і зусім не ўяўлялі, а я вось жыў адваротным чынам я ўсё нечага прагнуў, я назапашваў вандроўкі, уражанні, стравы, напоі, я збіраў успаміны, вострыя пачуцці, я захапляўся сваёй працаю, сваімі ўдачамі, поспехамі, у мяне ад іх кружылася галава, — а якая ў іх была праца, якімі ўдачамі, поспехамі маглі яны пахваліцца, ад чаго ў іх магла галава закружыцца? . Хіба што ад бядоты, гарэлкі, калі здаралася, ды ад мяне Мною яны маглі пахваліцца. Але і бяда ўжо тады пачала да мяне падступацца. Сам я гэтага яшчэ не разумеў, але яны, пэўна, ужо ўсё адчувалі Бацькі ўсё адчуваюць. Я гэтак прагнуў узбагаціць, разнастаіць сваё жыццё, што ўжо і жанчын пачаў калекцыяніраваць, бы якіх матылёў. Спачатку па красе ды статнасці, а потым ужо і па нацыянальнасцях, па колеры скуры, разрэзах вачэй Схільная да паўнаты — нясхільная да паўнаты .. Я, вы не паверыце, я так захапіўся, жадаючы спатоліць сваю прагу — з ног збіўся шукаючы, — што нават аб'яву даў у газету "Для сяброўскіх адносін пазнаёмлюся з прыгожай з твару і вельмі поўнай жанчынай з вельмі выразнымі формамі Узрост, рост, матстановішча значэння не маюць" І што вы думаеце — знайшлася. І не адна. Дзве Я не лічыў грошай А бацькі тым часам усё жылі і жылі дзеля мяне Заўсёды мне штосьці дарылі Што толькі маглі, на якія мелі грошы А што падарыў ім я? Нават калі зарабляў шмат Яны заўсёды нешта знаходзілі, каб аддаць мне — мне заўсёды хоць крыху не хапала.. Памятаю, як прыцягнуўся аднойчы ўранку да іх дамоў пасля начной пагулянкі Да сябе дамоў ісці не хацеў — трэба было нешта тлумачыць жонцы Бацькі тады яшчэ не здагадваліся, што ў мяне ўжо з ёю зусім блага Мне было млосна, галава была дурная і ад таго, што выпіў багата, і ад таго, што амаль не спаў, і ад таго, што трэба будзе апраўдвацца перад жонкаю Вось перад бацькамі не трэба было апраўдвацца Бацькі разумеюць усё без слоў Я быў бледны, і маці, не сказаўшы ні слова пра тое, што, дзе, як, адно запыталася "Блага?" Я кіўнуў "Блага, мама" "Грошы маеш?" — спыталася яна, і не таму, вядома, што шкадавала свае, проста хацела выведаць гэткім чынам, як я пагуляў Я пакруціў галавою "Не маю, мама", — і пачаў нешта выдумляць. Яна, вядома, усё зразумела — бацькі заўсёды адчуваюць, дзе праўда, а дзе мана, хоць і цьмяна, але ўсё роўна адчуваюць, бацькоў цяжка падмануць, асабліва маці. Яна выйшла да суседзяў — уранку! — і прынесла мне тое, што трэба было Я сядзеў, піў, яна сядзела насупраць — і каб вы бачылі, як глядзела яна на мяне!.. Тут патрэбны мастак, каб перадаць гэта. Потым я даведаўся, што гэта былі ў яе ці не апошнія на бліжэйшыя дні грошы А колькі тых грошай спаліў я той ноччу! . І вось, і вось мама памерла. А як памерла яна! Яна тады даўно ўжо мусіла не працаваць па ўзросце, але ўсё не магла наважыцца кінуць, яна нават, як і раней, адпачынку ніколі не брала, ніколі — каб больш атрымаць грошай хоць якія гэта былі грошы! — і каб можна было мне дапамагчы... У мяне дагэтуль у вушах стаіць гэтае клятае слова — "кампенсацыя" — я яго праз усё свядомае жыццё чуў Кампенсацыя за нескарыстаны адпачынак Як быў хлопчыкам, дык мне гэтае слова здавалася нейкім таямнічым, дужа важкім Але ж так яно і ёсць. Кампенсацыя за жыццё, што праходзіць — вось што гэта было такое! У мяне тады, перад мамінай смерцю, наперакасяк усё пайшло, і як яна за мяне перажывала Я хоць і пры пасадзе быў, і зарабляў няблага, але бадзяўся абы-дзе, і яна ўсё турбавалася, ці не галодны я. Ці ж не галодны я! Ды яна за ўвесь свой век не пакаштавала таго, што каштаваў я часам за два-тры дні марнатраўства! Незадоўга да смерці яна ўсё прасіла мяне зайсці да яе пад'есці, усё непакоілася, ці еў я гарачага, а я жартаваў, смяяўся, баяў, які я сыты, добра што не вёрз нічога на прыемным падпітку пра свае рацыёны А яна бачыць мяне перадусім хацела! Яна то пэўна ўжо ўсё адчувала! Смерць сваю ўжо прадчувала! Уранку мне патэлефанаваў таварыш і паведаміў пра тое, што здарылася А ў мяне ў галаве аркестр Аркестр — гэта калі мяжа А ў ложку — жынчына Не буду пра тое, што адчуваў — музыканты адразу сышлі Жанчына ціха знікла А потым было пахаванне. якое і прывяло мяне сюды .. Але выбачайце.. расказваючы пра маці .. бо яна пра мяне болей паспела зведаць. я не распавёў вам пра бацькаву смерць, якая здарылася раней... Бацька даруе мне, я гэта ведаю, ён высакародны... А я.. Я і расказваць пачаў: "Бацькі мае былі людзі бедныя й добрыя" А трэба было пачаць так: "Бацькі мае былі людзі высакародныя" Нават цяпер не мог як след ацаніць іхняй вышэйшасці .. Калі памёр бацька, дык напярэдадні ўсё ў мяне — сорамна вам казаць — было прыкладна гэтаксама, як і перад мамінай смерцю. Перад бацькамі ў дзяцей усё паўтараецца — могуць мяняцца толькі абставіны. Двое маіх сяброў, родныя браты, калі ў іх памерла маці, загулялі перад тым недзе надоўга, і ніхто іх не мог знайсці Яны не думалі, пэўна, што гэтак рана можа памерці іх маці, яны, бадай, увогуле не думалі, што маці калі-небудзь можа памерці, яны **адкладвалі гэтую падзею**, я так разумею, на далёкую будучыню — я ж сам і ў думках не мог уявіць, што маці можа памерці сёння, заўтра, на гэтым тыдні . Гэтыя браты рабілі, па чалавечых мерках, немалую справу, неслі людзям нейкую ісціну, і сёй-той лічыў іх шукальнікамі шляху, а некаторыя дык і ўвогуле, уведаўшы іхнюю веру, пачыналі раўняцца на іх. Гора таму мейсцу, дзе святарамі грэшнікі . Але што я пра гэтых братоў? Бацькава пахаванне я бачыў, бы ў сне Хадзіў, як ахутаны нейкай ватаю, што прывід — не ведаю, ці здаваўся я прывідам людзям, але ў сваіх вачах дакладна ім быў А ўжо маміна пахаванне — усё як адна мроя Я не мог паверыць ні ў яе смерць, ні ў сваю адзіноту, цяпер ужо поўную, ні ў тое, што ў жыцці вось гэтак можа паўтарацца напярэдадні і бацькавай, і матчынай смерці я быў аднолькавы Зрэшты, я быў такім большую частку майго дарослага жыцця, але ж павінны быць нейкія дні, прадчуванні — чаму не адчуў я мяжы?! Дык, можа, калі жыццё маё гэткае каламутнае, то яго не варта і жыць? Можа, трэба вынесці сабе прысуд і прывесці яго самому сабе ў выкананне? Можа, там, сустрэўшыся з імі, я задумаюся нарэшце пра іх не менш, чым яны пра мяне, і паруплюся пра іх .. хоць якая там ім ад мяне дапамога? . Хіба ж дзеля таго, каб я жыў такім бязладным жыццём, выгадавалі мяне ў гэткіх цяжкасцях бацькі? Але думаў я адно, а паводзіў сябе зусім інакш. Паводзіў я сябе чорт ведае як, такія паводзіны і ў сне

растлумачыць цяжка. Труна стаяла ў хаце, а я сядзеў у аўтобусе, што прывёз музыкаў на пахаванне, і чытаў газеты, якіх накупіў перад прыездам аўтобуса, і гаварыў з шафёрам пра ўсё, што ні прыставала да языка, пра верагодны вынік заўтрашняй гульні ў футбол, прыкладам, і шафёр дзівіўся, але падтрымліваў сяк-так размову, і я адчуваў, вядома, што ён дзівіцца, але ўсё не спыняўся А потым я заўважыў, што музыкі нудзяцца ў чаканні, і прынёс ім гарэлкі, нарэзаў каўбасы, хлеба, расклаў усё гэта на газетах, і разліваў гарэлку, і падносіў чарку ці не кожнаму асабіста, і нават смяяўся, і гаварыў пра тое, якое неблагое сёння надвор'е і які з гэтай пагоды-нагоды будзе сёлета ўраджай, і музыкі дзівіліся, але пілі, закусвалі і падтрымлівалі са мною, як хто мог, размову, а я, што заведзены, усё не мог супыніцца І дзе раскладваў я ўсё гэта, дзе наліваў, дзе смяяўся — у аўтобусе, што мусіў быць катафалкам, у месцы апошняй мамінай зямной дарогі! І шмат чаго яшчэ вырабіў я, але не хачу пра тое казаць — дастаткова ўжо аднаго таго, што распавёў І як вынеслі труну, як угледзелі мяне людзі, як прыкмецілі, чым займаюся я, і ўбачыў гэта я сам, дык знік адразу, не памятаю куды. Не памятаю і тое, як дабраўся да могілак, памяць вярнулася да мяне адно тады, як апынуўся непадалёк ад магілы Пахаванне яшчэ не закончылася, людзі глядзелі на мяне з агідаю Нават самыя блізкія адварочваліся і казалі, я гэта чуў· "Ну які ён чалавек? Гэта гразь, а не чалавек!" І разгубіўся я Адчуў сябе такім нікчэмным і няшчасным, што ўжо і сілы не хапала, каб закончыць умомант гэты гнюсны фарс, што завецца маім жыццём Як смугою засціла мне вочы, і бачыў я толькі ў мроі перад сабою, што людзі ў аўтобусе-катафалку не прыбралі з сядзенняў мае газеты з хлебам ды каўбасою і гарэлка засталася там недапітая Я сеў на зямлю, заплюшчыў вочы Кожнай сваёй крывінкаю я адчуваў, як пагарджаюць мною, як шкадуюць нябожчыцу-маці, не верась, што мог у яе вырасці гэткі паганец-сын, гадаюць, як так стацца магло І тут, калі ўжо ў труну забілі цвікі, з'явілася аднекуль летная жанчына і загадала выняць цвікі, бо не бачыў сын маці ў труне перад тым, як апусціць яе ў яміну, а гэтак няможна! Усе абураліся, узняўся гоман, і я нічога не разумеў, але вось вынялі цвікі, аднеслі ўбок вечка — і мама, лежачы ў труне, ці не адразу, толькі я наблізіўся да яе, расплюшчыла вочы! Я задрыжэў, а жанчына сказала мне абняць яе І я гэта зрабіў, і мама пачала адаграваацца, і вочы яе расплюшчваліся ўсё болей, і я ўзняў яе на рукі і паклаў сабе на калені, і яна была амаль бязважкая, і я калыхаў яе бы ў калысцы, і не бачыў ужо і не чуў людзей — мама вярнулася на зямлю, каб мяне абагрэць, падтрымаць, каб людзям давесці, што таму яе сын паводзіў сябе гэтак дзіўна — вось, вось, не гідка, а дзіўна! — таму, што, як чалавек найразумнейшы, — а ўжо пра тое, які ён цудоўны быў сын, адна яна можа ведаць, — таму так паводзіў сябе, што прадчуваў з'яўленне гэтай незвычайнай жанчыны, якая чуе, калі чалавека да часу, жывога яшчэ, у труну кладуць!. Ды ён сам адчуваў, даводзіла ўсім сваім выглядам мама, што нешта бязладнае тут адбываецца!

А што далей здарылася — не памятаю Толькі чамусьці закінула мяне сюды Адчуваю, што неўзабаве вярнуся **туды** зноў Куды — туды? Я і сам не ведаю Ведаю адно, што **тут** мяне ўжо не будзе **Там** і пабачу, што з мамаю. Чаму я такі спакойны цяпер? А я і сам сабе не магу растлумачыць Мне здаецца, што пакуль я тут, дык ні на што ўплываць няздатны, а яшчэ, як бы я цяпер за яе ні трывожыўся, з ёю нічога хоць трохі залежнага ад мяне ні ў якім выпадку не здарыцца, а яшчэ адчуваю, што мусіў неадменна распавесці вам гэта

Усе мы былі ашаломленыя. Нейкі час ні пра што спаміж сабою не гаманілі Можа, Ёська выпіць наліў нам болей звычайнага Чалавек непрыкметна знік Услед за ім сышоў і я, каб запісаць аповед наведніка нашага шынка Калі не верыце, дык ведайце як кіравацца на Пярэстраў, ля паваротkі на Стратава, стаіць у ельніку на ўзбочыне хацінка Мясціна глухая



# БУМ-БАМ-ЛІТ У НАС

*Юрась*
*БАРЫСЕВІЧ*



## ІМКЛІВЫ СТРЭПТАЦЫД

Ёсць аўтары, якія пішуць дастаткова цікава, каб хацелася іх надрукаваць, але ў той жа час настолькі непісьменна, што рэдактару даводзіцца амаль цалкам пераказваць іхнія опусы сваімі словамі, рабіць свайго кшталту пераклад у межах адной мовы Зрэшты, далёка не заўсёды гэтыя словы сапраўды свае і для рэдактара. Як і тэатр, літаратура гэта калектыўная форма вагінальнага астыгматызму· нават найвялікшы геній не здольны не толькі што напісаць усе кнігі на свеце, але і ў адным тэксце ўласнаручна паставіць усе патрэбныя коскі Адзін і той жа тэкст, надрукаваны ў некалькіх выданнях, будзе мець там розную арфаграфію (паводле густаў тамтэйшага карэктара) і структурную канфігурацыю у кожнага рэдактара свой "почырк" скарачэнняў

Хто кіруе маёй рукой, калі я рэдагую чужы тэкст для часопіса, у рэдакцыі якога працую, мая школьная настаўніца, прачытаная ўчора кніга, музыка з магнітафона, што стаіць побач? Часам гэта ўяўны сярэдні чытач, якому трэба, каб артыкул быў чытэльны і не надта нудотны Адзначу, што некаторыя рэдактары арыентуюцца на канкрэтнага асобнага чытача асабліва ў тым выпадку, калі ён можа даць грошы на працяг выдання часопіса. У нейкай ступені на жэсты маіх думак і рук уплывае міністэрскі або акадэмічны чыноўнік, што ўсталяваў тыя ці іншыя правілы арфаграфіі і афармлення тэксту ўвогуле Падобны да яго гэтак званы "ўнутраны цэнзар" які закрэслівае палітычна ці маральна сумніўныя пасажы, непрымальныя для дзяржаўнага выдання Іншым разам і гэта самае цікавае я спрабую ідэнтыфікавацца, нібыта акцёр, з асобай аўтара і працягнуць імклівым стрэптацыдам ягоныя думкі, з якімі я не згодны, трохі далей за вобразы і сцверджанні, на якіх спыніўся аўтар А часам я і сапраўды раблюся ананімным сааўтарам тэксту упісваю ў яго ўласныя думкі, ад якіх аўтар вельмі далёкі, але, як я адчуваю, не будзе адмаўляцца.

Такім чынам, калі кліент занадта касназыкі ці лаканічны, рэдактар непазбежна робіцца ягоным фактычным сааўтарам Часам у тэксце застаецца больш думак і словаў рэдактара, чым намінальнага аўтара Калі тэкст друкуецца амаль некранутым —

часта гэта азначае толькі тое, што пісьменнік ведаў, хто будзе ягоным рэдактарам, і адпачатку пісаў свой твор з улікам ягоных густаў У многіх рэдактараў ёсць пазнавальны стыль, а значыцца павінны быць і некаторыя аўтарскія правы на адрэдагаваныя імі тэксты Часам бывае цяжэй адрэдагаваць чужы твор, чым напісаць свой такога ж памеру, бо трэба мімікрыраваць пад чужую стылістыку Пагадзіцеся, гэта творчая, а не механічная, праца і таму вартая нейкага ганарару І цалкам магчыма, што ў будучыні постаць рэдактара заслоніць сабой пісьменніка (у прыватнасці, у кнігах будуць змяшчаць фатаграфію і аўтограф не аўтара, а рэдактара) З гледзішча арніталагічнай оталарынгалогіі, рэдактар гэта пасрэднік (медыум) паміж аўтарам і чытачом, а ўжо ў наш час, як вядома, перавагу ва ўсім маюць менавіта пасрэднікі, а не вытворцы. Напрыклад, у музыцы з кожным годам большай увагай публікі і крытыкаў карыстаюцца не музыканты-выканаўцы, а дыджэі, якія кожны ў сваім стылі ствараюць міксы чужых твораў Электронная музыка зрабіла плагіят асноўным элементам сваёй эстэтыкі, але і ў традыцыйных жанрах кампазітары з задавальненнем выкарыстоўваюць урыўкі чужых мелодый.

Канешне, літаратуру ствараюць не толькі рэдактары Даўно наспеў час перагледзець канцэпцыю трынітарнай шызафрэніі пісьменніка, замацаваную ў літаратуразнаўстве Раланам Бартам (аўтар скрыптар — наратар) Барт спрабаваў забіць аўтара, каб найвышэйшай інстанцыяй літаратурнай творчасці зрабіць чытача, але як можна не заўважаць такіх важных удзельнікаў літаратурнага працэсу, як наборшчык, карэктар, гандляр, бібліятэкар, крытык, зборшчык макулатуры і г.д.? Усе яны ўплываюць не толькі на тое, што будуць чытаць людзі, але нават на тое, якія тэксты і ў якім выглядзе выйдуць у свет Гэта значыць, яны ствараюць не толькі поле чытання, але і поле пісьма. І ўсё ж такі найбольш уплывовая постаць сярод гэтых салдат нябачнага літаратурнага фронту рэдактар, праца якога спалучае ў сабе функцыі прафесійнага чытача і "другога нумара" аўтара.

Велізарны эстэтычны патэнцыял, які мае гэты род дзейнасці, на жаль, звычайна скарыстоўваецца вельмі паверхоўна, без ніякага палёту фантазіі Рэдактары, як сапраўдныя вартавыя, ахоўваюць сваю рубрыку, свой часопіс і саму літаратуру ад недакладнасцяў, прапушчаных фактаў, пытанняў без адказаў, граматычных памылак, шматслоўя, няўцямнасці, дрэннага густу (гл. "Дапаможнік для журналістаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы") Такім чынам, традыцыйная рэдактура мае чыста рэпрэсіўны характар Замест таго, каб узбагачаць тэкст новымі інтэлектуальнымі рэчывамі, рэдактар ператварае яго ў аднастайны бройлерны планктон Замест тысячы новых кветак маем стрыжаны газон

Звычайна рэдактар скарачае тэкст але чаму не зрабіць наадварот? Гэта прынцыповы момант, гэта асноўная зброя рэвалюцыі рэдактараў "Працуйце скальпелем, а не сякерай", добразычліва раіць "Дапаможнік" Але хай нашымі прынцыпамі будуць. "Лепш прышыць, чым адрэзаць" і "Сем разоў адмерай сем разоў прышый". Мы павінны не толькі вызваліць дыскурс аўтара з-пад ярма стандартных вобразаў, густаў і чыгунных думак, але таксама скарыстаць аўтарскі тэкст як адмычку да дзвярэй у нетры ўласнага ўяўлення. Трэба сказаць за аўтара тое, на што яму не хапіла розуму або рашучасці, а таксама выказаць тое, на што не хапала словаў нам самім, пакуль аўтар не даў пачытаць нам свой тэкст Усялякі літаратар пачынае як эпігон, гэта натуральна. Задача ж рэдактара палягае ў тым, каб давесці ягоную стылістыку да ўзроўню паталогіі, без якой не можа быць высокага мастацтва, без якой творчасць застаецца неаўтэнтычнай і ненатуральнай. Калі ўжо абавязкова трэба скарачаць тэкст, то лепш выразаць здаровыя, чым хваравітыя думкі мы развіваемся, пакуль нам нешта баліць.

З юрыдычнага гледзішча, літаратар робіцца аўтарам толькі пасля публікацыі ягонага твора гэта значыць, пасля апрацоўкі тэксту рэдактарам Паводле Барта, усё наадварот аўтар папярэднічае твору, нараджае яго, як бацька сына (прычым, адначасова з тэкстам нараджаецца, парадаксальным чынам, ягоны брат-блізнюк скрыптар) А на мой погляд, аўтар павінен бачыць у творы не дзіця сваё, а пляменніка ці прыёмнага сына. Многія тэксты (і гэты не выключэнне) ствараюцца ў разліку на публікацыю ў пэўным выданні і нават на стыль пэўнага рэдактара. Калі б гэты артыкул я пісаў не для "Крыніцы" і майго звычайнага рэдактара В Акудовіча — ён, верагодна, атрымаўся б зусім іншым ці нават не з'явіўся б увогуле

Урэшце, я не ведаю, хто з нас двух напісаў артыкул, які вы прачыталі (нават калі Акудовіч нічога ў ім не змяніў) Тым не менш, з дазволу рэдакцыі стаўлю свой подпіс







*Альгерд*
*БАХАРЭВІЧ*

# ЗДРАДНІКІ

1

Я здраджваў радзіме таемнаму Дзіму
Здрадзіміў! Здрадзімшчык!
Усе радыя Дзіму
І радыёміця
І радыёколя
Здольныя дзімаву прагу спатоліць
А я ня даў рады
І ззаду
караючы меч радзімы

2.

Ты здраджвала мне
З асалодай салодкай
Смажылі сала
Гайдалася лодка
Муміяў стыў авадзень
Рукой па вадзе
Словы пісала
Смажылі сала
САЛА
САЛА
САЛА
Сала
Сала
Сала
САЛА
САЛА
САЛА
САЛА
Гаідалася лодка.

# ТВОЙ ПОТ

Хутчэй бы гімн маёй роднай рэспубліке
Скончыў гэтую ноч
Хутчэй бы гімн маёй роднай рэспубліке
Скончыў гэтую ноч
Невядомая
Насякомая
Невядомаянасякомая
Шукае ўваход у мой дом

Шукае шчыліну
Шукае люк
Асвятлёная пражэктарам будоўлі
Фарамі міліцэйскіх машынаў
Шукае ўваход у мой дом
Шкрабе лапкамі па шкле
Я навучыўся
Заляпляць дзіркі
Запаўняць адтуліны
Дык хутчэй бы гімн маёй
Роднай рэспублікі
Скончыў гэтую ноч



*Міхась*
*БАШУРА*

## ПАЛІВАННЕ НА МУХ (СА ШЛАНГА)

Нейкі заспаны псялыжнік у скураных пальчатках і пыльным гальштуку (настолькі пыльным, што мая ноздра пачала казытаць правае вуха) схіліўся над маім шкілетам і чыхнуў мне на лысы чэрап з такой сілай, што рэшткі маіх валасоў апалі долу Гэтага яму здалося недастаткова, і ён чыхнуў яшчэ раз, каб я адчуў смак сваіх зубоў Потым гэты таленавіты лекар асцярожна раскрышыў абцасам мне чэрап і пачаў у мяне на вачах марнаваць мае думкі, якія, падхапіўшы драбкі майго розуму, пабеглі басанож у свет Пабачыўшы гэта, я адчуў, што ў мяне едзе дах, але прамаўчаў Азызлы правакатар з пашанай зняў з мяне павуцінне, здзьмухнуў пыл, паставіў на мяне бутэльку малака, паклаў тры здаравенныя кількі і іх пачаў есці з соллю Я з замілаваннем лыпаў вачыма на гэтага здаровага жыццярадаснага прерадавіка вытворчасці, у ляпу якога, як у каналізацыю, з хвалямі малочных ручаін плылі чатыры малюсенькія карасі Сарамлівы алігатар прыхільна мне ўсміхнуўся, паказаў на развітанне фігу (плод такі), якую сам і з'еў, і знік.

Вецер сарваў з водаправоднай трубы пазелянелы манускрыпт, які доўга лунаў у паветры, але так і не змог пераадолець зямное прыцягненне і прызямліцца Толькі я ўсё ж паспеў прачытаць словы, напісаныя дробным мышыным почыркам "Кропка пастаўлена. Трэба ісці назад. Уперад дарогі няма. І канцы ў ваду Трэба змяніць цэнтр цяжару, бо карты зблытаныя, каліф на гадзіну затрымаўся, і ўсе дурні пакінулі нас сам-насам"

Я здагадаўся, што гэта эзопава мова, але самога Эзопа не ўбачыў





*Зміцер*
*ВІШНЁЎ*



## ЧЫТАПАТЫ

Кракадзілы валэндаюцца па
маёй кватэры Тут не заапарк
Тут не запаведнік Тут кракадзілаў
вішнёвы парк Я як помнік
узвышаюся на зэдліку ў
цэнтры цэнтральнага
адзінага пакоя
Кракадзілы на падаконні на
патэльнях на шыфаньеры
на раскладанцы на газавай
пліце на мыйніку
на кніжных паліцах
Раскрываюць зялёныя зяпы
рыпяць наздрынамі
Варушацца як
дрэвы ад ветру
І бадзяюцца ў паветры
мае радкі бессмяротныя
аб афрыканскіх далёкіх далечах
аб смачных тубылках
аб цёплай каламутнай вадзе

*1997*

## ЛЯТУНЫЦЫ СТРАШЭНЦЫ

Я ганяю
зграі
афрыканскіх
мух!
мух ганяю
ганяю мух
Я ганяю
тоўстых
афрыканскіх
мух!
мух ганяю
зграі мух
Я не бачу
афрыканскіх

мух!
мух ганяю
тоўстых мух
Я ганяю
ганяю
ганяю
афрыканскі дух!
дух ганяю
ганяю мух

*1996*

***

Саліце шмат не шкадуйце
дадавайце засыпайце ведайце
вашыя сасуды ператворацца
ў крыштальныя правады вашыя
мазгі зафіксуюць белую
прыгажосць сэрца пакрыецца
каростай скрозь якую вырвецца
слабы крык саліце шмат
нарошчвайце белыя
горы белыя піраміды
Ваш страўнік
застыне помнікам старажытнасці
будучыя будуючыя нашчадкі
ўсвядомяць прывабнасць Салёныя
гуркі і грыбы мякка плаваюць
(па) у талерцы тут
хаваецца расплаўленае дзіва
Яно чакае момант уліцца
ў вашыя змярцвелыя артэрыі
і пахруставаючы зледзянелымі
пазванкамі вы пачуеце
музыку аб якой і не мроілі

*03 01.96*

## ЭКА МАРЫХУАНА

штодня ў тваю кашу я дадаю тоўчанае шкло
цукар са шклом мілая сумесь
даю табе есці Жвакай родная Жвакай
ты памрэш у страшэнных сутаргах
ты будзеш курчыцца як прыціснутая змяя
твае вочы ператворацца ў белыя цукровыя мячы
рукі набудуць надзвычайную бледнасць





я пакладу цябе ў малінавы катафалк
і спіхну яго ў мора
стогны марскіх чаек і гудкі парахода
будуць песняй тваёй
я паплыву жуком-плывунцом і гучна заякатаю
к-в-в-в-в-у-у-у-у-у-у-рррррррррррррррррр

*Чэрвень 1997*



*Усевалад ГАРАЧКА*

## ДЗЕДАВА НАГА

1

На Вялікай, на Айчыннай
Дзед мой быў ледзь не хлапчынай
Не бярог дурны жыццё:
Бомбу кінуў у касцёр

А з Валікай, а з Айчыннай –
Дзед вярнуўся не мужчынай,
Да таго ж і без Нагі
Вось такія пірагі

2

У Берліне ля рэйхстага
Дзед згубіў Нагу
Перад смерцю ён паклікаў
Вашага слугу
І гаворыць мне на вуха.
Каб вярнуць Нагу,
Дык цяпер бы мы не бульбу
Елі, а рагу
І рашыў тады
Радзіме
я дапамагу
Я у Немца адваюю
Дзедаву Нагу

# РАДЗІМА

1
Тлустая баба Радзіма
Паўзе на карачках,
Мые падлогу
Азадак паўнеба закрыў

2
Цяжка выбрацца
З-пад тлустага і смярдзючага
Азадка Радзімы,
Але потым
Якім смешным,
Якім жалюгідным
Ён здалёк падаецца

***

Зоркі
Гэта з Божае ласкі
Здрабнелыя поўні
Надта ўжо вылі сабакі

***

Рыжы Жыжа —
Ночы стрыжань:
Цені крыжам



*Віктар*
*ЖЫБУЛЬ*

# УДАР ГРАДУ

Зараз
скіне фенікс
дар град,
на мутны тын туман
Накрапам рад дарма паркан

Удар граду!
Дар зары – разрад
у маркотны тын ток! Раму
акна ламала маланка.
Зару бор гроб ураз
Зара залевы вывела зараз
А ніва пупавіна
курганка. Я ля акна. Грук
рам хат А вата хмар
села на лес

Удар граду!
"Ура! Манна!" мару
я А магутны тын туга мая
Парканам рад дарма накрап

***

А МАРА ЛІПЫ ПІЛАРАМА.

***

Падала іскра ў каністру з салетрай
там яна прагнула смагу спатоліць.
Гэтую смачную чвэрць кубаметра
хутка як хукнуць змагла б яна здолець

Іскру каністра таксама чакала,
каб праглынуць, бо марыў яе голад,
горлам адкрытым паветра глытала.

Поўнач ахутвала стомлены горад.

Проста ў адтуліну падала іскра,
ды на адлегласці трох сантыметраў
раптам спынілася ўраз і . павісла.

Іскру лагодна люляла паветра.

# НОЧ
# ПЕРАД ЗАРЭЗАМ

Вечар акраічыкі ўзгоркаў
вымазаў чорным павідлам
Неба здзіравілі зоркі
У куце хлява раве быдла.

Сёння раўці ранавата.

заўтра цябе будзем рэзаць
Чаго ты так стогнеш зацята?
Няўжо разумееш, гарэза?

Навошта з такою самотай
ты ў сценку таўчэш капытамі?
Табе паміраць неахвота
мы ведаем гэта і самі

Але ж хіба гэта дрэнна,
калі на сваё кожны ласы
ты любіш есці сена,
мы любім есці мяса?

У лужы хламідаманада
ніцямі бруд засцілае.
У садзе звіняць цыкады
І быдла ніяк не змаўкае.

А я, пачатковец-філолаг,
услухаўся ў крык гэты немы
і лямант няшчаснай жывёлы
спрабую дзяліць на фанемы



*Ілля СІН*

# ТАКСІСТ

як цудоўна боўтаюцца ў вакууме мыльныя пухіры! Я са здранцвелым выразам на твары назіраў за пагойдваннем замкнутых у кола фігурак. У яе ў руцэ была алюмініевая чараўнічая палачка У ранішнім забыцці экран неба часам хочацца згарнуць і паставіць у куточак на кухні, каб яго там з'елі карлікавыя птэрадактылі Урэшце рэшт прыйшла мама і прынесла лёдава. Асляпляльна белую кунсткамеру, дзе былі клапатліва складзеныя рэшткі ягонага мозгу і сэрца, павольна з'ядаў вапняковы кубік. Учора давялося рабіць аперацыю па выдаленні трэцяга вока

Сэнс жыцця адразу згубіўся, калі ягоная мара стаць таксістам пацярпела канчатковае і вырашальнае фіяска. У дзяцінстве ён часта марыў пра імклівыя перамяшчэнні з адной палаты ў другую, а мажліва, калі атрымаецца, і яшчэ далей Ён даўно хацеў займець уласную двухмясцовую інвалідную каляску вытворчасці прэстыжнай замежнай фірмы дый гойсаць на ёй з раніцы да вечара, не зважаючы на абмежавальнікі хуткасці Якімі вачыма паглядзелі б тады трое ягоных сіямскіх братоў-блізнюкоў, каб адным цудоўным ранкам ён уехаў у сваю палату на гэтай зіхоткай і поўнай сілы махіне! Яны б пэўна нават не ведалі, куды падзецца ад добрай і нястрымнай зайздрасці, і болей не прымушалі б яго рабіць штодня хімічную чыстку страўніка.

Шырокія дарогі, вольны свет, вецер у вочы.. Вочы тае дзяўчыны з рэанімацыйнага бокса ў пярэднім люстэрку, блакітныя, не з'едзеныя яшчэ хлараформам. Яна б ужо не намагалася адвярнуць свой твар, пачуўшы ягонае набліжэнне. Галава, ён упэўнены, адразу зраслася б з целам і не сумавала б у адзіноце. А пры наяўнасці, прынамсі, гэтых двух кампанентаў можна ўжо і горы звярнуць. Хаця лепей было б мець яшчэ, прынамсі, адну руку, але ж, у прынцыпе, без яе можна і абысціся Усё ж, цудоўна быць таксістам, анічога тут не скажаш!

Увогуле, ён вельмі любіў марыць, і не любіў, калі ягоныя мары пераўтвараліся ў тленне змерзлай бадуновай цыгарэты У ягонай душы цякла вада, мярзлоцце соцень люстэркаў адбівалася ад ягонага сэрца, як камень ад брані, і патанала ў глыбіні велічнай бездані З зямлі дагары ўздымаліся каляровыя парасткі дзіўных шляхоў Блакітны агонь узносіў яго да ненаэлектрызаванага неба. Вецер барваў вёў яго прэч з гэтага нязрушнага лабірынта, перамагаючы Злосных Вартаўнікоў

Зрэшты, мары і сны неяк выбіваліся са звычайнага распарадку ягонага штодзённага жыцця і зусім не стасаваліся з варэннем Залатой рыбкі ў вялізным і брудным рондалі Увесь час у вушах нешта ламалася, колькі ўжо, у рэшце рэшт, можна было есці растоўчанае шкло. Ён хацеў быць таксістам, а не рабіць дванаццаць разоў на тыдзень флюараграфію пячонкі. Ён хацеў быць вольным і шчаслівым, моцным і ўпэўненым у сябе. Ён ха

Падлога ў кабінеце паркетная Такую робяць на фабрыцы А можа і на заводзе. Цяжка сказаць Чалавек сядзіць на крэсле. Чалавек сядзіць за сталом Чалавек тоўсты Чалавек апрануты ў чорны пінжак і нешта яшчэ Цяжка згледзець адсюль У чалавека ёсць твар У чалавека ёсць два вокі Вусны чалавека варушацца. З вуснаў чалавека выцякае сліна. Учора я таксама хацеў плюнуць. Чалавек глядзіць на мяне. Рука чалавека падымаецца. Рука чалавека выцягваецца ва ўсю яе даўжыню Рука чалавека падобная да галіны засохлага дрэва. Чалавек ужо стаіць Хаця зусім нядаўна яшчэ сядзеў Дзіўна, чаму людзі сядаюць дый устаюць Рука насоўваецца на мяне. Пальцы рукі расшчапляюцца. Ніжнія сем пальцаў ідуць уніз, адзін ідзе ўгару Адзін з пальцаў насоўваецца на мяне. Рот чалавека крывіцца. Рот чалавека раскрываецца. Я магу ўбачыць зубы чалавека. Зубы ў чалавека пажоўклыя На зубах у чалавека відаць рэшткі сняданка. Чалавек снедаў вараным мясам і кіслай капустай. Я не люблю варанае мяса і кіслую капусту Чалавек смяецца. Чалавек кажа. "Санітар Ізмарцэвіч, Ваня, дружок, очэнь цібя прашу, праслядзі, пажалуйста, за эцім у. " Чалавек запальвае цыгарэту. Я гляджу на чалавека. Чалавек не глядзіць на мяне. Чалавек пачынае корпацца ў сваіх паперах. Чалавек чакае, каб я сказаў "Усягонайлепшага". Я не хачу казаць "Усягонайлепшага". Я хачу быць таксістам Да мяне падыходзіць іншы чалавек з вялікай паголенай галавой. Чалавек апрануты ў вайсковую форму камуфляжнай афарбоўкі Чалавек б'е мяне нікелевай палачкай па галаве. Я вымаўляю гукі. Ён таксама вымаўляе гукі. Чалавек вывозіць мяне з кабінета. Мы едзем па калідоры. Мы едзем па доўгім калідоры. Я зноўку знаходжуся ў сваёй палаце. Чалавек падыходзіць да мяне — амаль ушчыльную Чалавек лаецца матам Чалавек сцягвае штаны Чалавек дастае адтуль вялікую жоўтую кілбаску За акном размерана падаюць жоўтыя зорачкі і пад корань зрэзваюць маладыя і крохкія пасмачкі зялёнага жыцця

На антрэсолях швэндаюцца механічныя жабы, у кутку стаіць гільяціна для карлікаў Атмасфера поўніцца пахам цвілі ёлачных цацак. Давайце ламаць металёвыя палачкі Бязводныя рэкі цякуць і знішчаюць кавалкі смажаных птушак. Ведаеце, земнаводным папраўдзе вельмі і вельмі няпроста жыць у згаданых вышэй умовах. Як вы бачыце, аб'ект № 3 нават здох



*Сяржук*
*МІНСКЕВІЧ*

# З ЦЫКЛЮ “ПЭЙЗАЖЫСЦІКА”

Зубы аб лёд, ногі аб неба,
Зыкі аб шыр пукатага зада,
Вухі як скрыдлы, рукі як кіркі,
Нібы набраўся садкае здрады
Дротам пад дых  колкія гікі,
А ў гузаку  электрашарада.
Можа, так проста.  а, можа, так трэба?

**“Коўзка”**

# ДЫПЦІХ

I
Трубадур сцягнуў у трубадуры
Ясназычную чырвоную трубу,
Не сыграла яна танга “Марабу”
І засталася апошняй
каралевай

II
Тутунхамонку шчыпануў Тутунхамон
І пайшоў паліць пад пальму люльку,
Яна ж у тутун кінула капсульку
Ось так настаў яму тады ха-
рошы дзень

ЭПІЛОГ

Тры карсары прыляцелі ў Чэбаксары
Дыій прывезлі на выставу чубок Сары,
Але потым, пэўна, не хапіла тары,
Бо пагромы пачаліся і пажары .

# ТРЭБАТАЛАНА

*ВІШНУ ІЛБІНСІНУ прысвячаецца*

Чорны Крыптаман адчуваў сябе кепска.

У галаве бур-бур  бурбалася шэрая думатня дрыматня дыматня  Пульсавалі вочы бэзавым куродымам, пукаціліся.





Язык, язур, язурышча набрак і набрык, брык, брыкаўся туды сюды дуты дусі  У ім!.  У ім з‘явіліся разоры, падобныя веснавой крызе з віхурнымі ручаямі  Губы бугі… бугіліся, моршчыліся расфарбаваным у маленькую кветачку мікрабаянам, які хацеў выгукнуць траляљёначку на манер “Не глядзі не глядзі ў ночы ў вакенца”  Нос  канячая груша  пыхкаў лілёвай парай

Шыя кудыкалася, тырчала дзюбастым кадыком, быццам разглядала вейкастыя зоры.

Зоры хацелі піць і плакалі слінаю кітайскай ластаўкі

Калі зоры пераўтварыліся ў ружовыя прышчы, Скрыпкаман зразумеў, што прыйшла раніца.

Але кепшчына не праходзіла.
У галаве бр бр брблася
Вочы курдуліся .
Язык язур брык брак.
Губы бугліся, баянчылі
Нос  канячая груша  дзве наздрыны галёшы
Шыя кудычылася як абсерваторыя

У абед Рыптаман выразна акрэслена відавочна верагоднадакладна беспамылкова зразумеў, усвядоміў, упрытомеў, утлумачыў, што, калі пад вечар у галаве будзе блбл, у вачах  курды, на язуры  бык бык, на губах  бн бн, нос  канячая груша, шыя з кадыкавакалася, ён пойдзе да Крымпакрусюлічцы і скажа гэтакайнай ёйцы ўсю гістарычную праўду

*Сяргей*
*ПАТАРАНСКІ*



***

Штодзень я хаджу па вуліцах,
куру, плюю ў сметніцы,
знікаю ў вільготнае метро,
вяртаюся дамоў
І ўсё паўтараецца зноў
штодзень

Вясёлыя filiae et filii мітусні
ўсё яшчэ скачуць у гарадскім садзе
ў абдымках прахалоды,
мала што зmяняецца на свеце,
зрэшты ўсе мы ў свой час
будзем кінутыя на сметнік быцця,
як недапалак у каналізацыйны сцёк

# ВОСЕНЬСКІ ПАЛЁТ

Бялёсая кніга
прыроды раскрыта.
Унізе разбіты
кварталы, як дзіўны
канструктар дзіцячы
і чорныя вокны,
як хворыя ноздры,
туман удыхаюць

І лужынаў вочы,
і дрэваў паходні,
запалкі ліхтарняў
маім стратастатам

Узяты за вобраз
старога спакою
старога маўчання
і вечнай вандроўкі

У вымытай куртцы
сляпымі дажджамі
я ціха плыву
і гляджу зверху ўніз, а
ўнізе па бруку
ўсупор злому ветру
бяжыць руды хлопчык
і штосьці крычыць



*Алесь*
*ТУРОВІЧ*

# СМАЧНА ЕСЦІ

Ты адчуваеш умоўнасць болі,
Мы разам пойдзем дзеля таго, каб зноў памерці
Памерці Але, можна пачуць
Нікому не вядомыя, хоць і паўсюль запісаныя малітвы.
Калі нам робіцца страшна, мы здзяйсняем подзвіг
Кожны дзень і хвіліну Ты забіраеш па кроплі жыцця,
Не свайго і не майго, але проста, проста жыцця.
Паўтараюцца сэнсы, якіх мы не ведаем Правілы руху
Разбураецца ўмоўнасць. тра ля ля-ля-ля
(устаўка дзеля рыфмы)
Расслабіцца.
"Памерці ў зоне жыцця, не адчувай і не кажы, не
помні "
Калі слова зрушыць скалы, нам усім стане лягчэй.
Дзе тое слова, дзе той ліст, дзе тое што называецца "Тое"





Разамкні свой боль, і ўсім стане лягчэй.
Гэта называецца калектыўная лабатамія.
Нам робіцца прыемна.
Той хто не спазняецца — ужо спазніўся
Бессмяротны — даўно памёр
Хто ўмее казаць даўно сказаў
Хто навучыўся плаваць даўно патануў
Цераз кожныя чатырыста год мы ямо сваё цела.

***

Меч пераўтвараецца ў пяро
Пераўтвараецца ў малітву пэндзаль
Успамінаем слыннасць бітвы. .
Горад інфаркт мітынгаў
Зона незалежнасці
Гэта не сон, і гэта не ява
Калі паўтараем асклепкі мінуўшчыны
Гэта твая
Чароўная страва
Калі пакаштуеш
Прыйдзеш сюды
Аб'ядноўваем ловы сэнсу
Зачароўваем сэнс слоў

*З нагоды рыцарскага турніру*
*ў Лошыцкім парку, 1996, 06, 02*

*Дзяніс*
*ХВАСТОЎСКІ*



***

Проста ў хобат, узасос
ты цалуеш пыласос..

Толькі ў гэтай барацьбе
перасмокча ён цябе
выме чорную душу,
як матор не заглушу.
Я стары рагаты лось
ты мяне прапыласось!

***

Крымінальны элемент
ценевай структуры,
свет сабраўся у фрагмент
на твае хаўтуры
месяц матам са святла

выслаў падаконне,
каб працэсія прайшла
чыста па законе.
Па начах не станеш, гад,
ссаць крывю са скуры —
на цябе далі загад
мне ў пракуратуры —
гнуткай трубачкай звярну
ліст "Народнай волі"
ды змахну цябе ў труну
батарэйнай долі



*Ганна*
*ЦІХАНАВА*

***

*З анатамічнага*

Ыркі вынырваюць ад болю,
Страўнік травіць
І сківаца выскоквае набок.
На ўсіх сярчае сэрца.
Вока войкне.
Os zygomaticum паскульвае скула.
І печань аб спякоце цела сведчыць
Ізноў сярчае сэрца.
Вось выя голасна завыла,
Сцягнула штось нябачнае сцягно,
А з чэрапа павычарпаны думкі
На ўсіх сярчае сэрца.

***

Стаяла побач два дрэва.
Адно лысым было,
Другое без скальпа.
Нават парык з павуціння
На лысым ужо не трымаўся
Толькі бліскучыя кашулькі
Ад чужых пупышак
Капцюрыкі маленькія ўтыркалі
Вельмі балюча
У карані засохлыя яго
Дзіркі шматлікія,
Скрываўленасць смалой
І плюс адсутнасць скальпа
Прыцягвалі вока да другога дрэва.
Почырк "хірурга"
Меў намерам сведчыць
Аб велічнасці "гэткага" кахання
Астатняе
Ужо не хвалявала.



# Вольга КУРТАНІЧ





*На століку гатэля ў маім пакоі ляжыць зваротны білет. Трэба толькі паведаміць тым, хто застаецца. Той, хто чакае, ведае: збегчы ад сябе немагчыма...*

# ПА ВУЗКАЙ ДАРОЗЕ Ў ЦЕСНУЮ БРАМУ

Усё праходзіць.

І вось ты сядзіш аднойчы, ахопленая пачуццём гідлівай пэўнасці: “мяне ванітуе ад вас. ”, заглыбляешся ў гэты стан, патанаеш-застываеш, як вішня ў бела-пастэльным жэле; вішня, што праляжала не адну гадзіну і паспела пусціць сок: размыты абрыс, млявыя пражылкі; незаспакоенасць.

Ложак у гатэлі...

Інтуітыўныя збегі ад сябе.

Што вырашыў дзень расстання? І ці быў ён на самой справе? Ты ж так не думаеш? Урэшце, зараз ты ўжо не думаеш так.

Дарога заняла два доўгія дні, дзе бяссонныя ночы. бясконцыя мытні, бясконцыя прыпынкі.. калі цягнік заганялі ў непрыстойна голы, брудны пейзаж, дзе лёгка разумелася вызначэнне *сметнік Еўропы...*

Калі розум намацаў гэты выраз, яна прыўзняла галаву ад казённай падушкі і абыякава зірнула ў акно. Усё той жа бруд каля рэек, два-тры змарнелыя сабакі (адзін з іх, скурчаны, звычна і гучна клацаў скіўцамі, намагаючыся дастаць блох, іншыя пагладалі ў бок семафораў, якія ніяк не хацелі даваць сігнал на адпраўленне; і толькі раз-пораз звыкла-жаласлівым рухам сабакі паварочвалі галовы і пазіралі на закрытыя вокны вагонаў, каб ізноў адвярнуцца ў бясконцым чаканні).

З затоенасцю сабакаў ляжалі на паліцах пасажыры, гатовыя паслужліва падскочыць пры першым з'яўленні тых, хто адзіны ў дадзенай сітуацыі меў права на пытанні.

— Наркотыкі? Зброя?

Загад: “Ваш пашпарт” — гучаў як з’едлівае пытанне: “Вы яшчэ маеце пасведчанне сваёй асобы?” Нібыта час ссылак і лагераў не скончыўся для Еўропы разам са знікненнем сацыялізму з шостай часткі кантынента.

Калі ляжыш вось так — бяздумна, амаль бязмэтна, не толькі мытнікам ты можаш падацца падазронай. Пра што ён думае, загадваючы табе выйсці з купэ ў вузкі калідор да акна, каб параўнаць твой твар з фотакарткай у дакуменце? Разгубленасць і адчай робяць цябе надзіва падобнай да сябе. Ты з палёгкай адчуваеш паблажлівасць чыноўніка ў форме, не здзівіўшыся нават ягонай манеры трымаць руку на тваім плячы; ты стаіш надта блізка, каб нешта выправіць.

І толькі праз доўгі-доўгі прамежак часу, калі цягнік рушыць, ты са шкадобай падумаеш пра адсутнасць душа: так хочацца змыць дотык!

У Мінску застаўся твой дом, які ты, па сутнасці, яшчэ не паспела адчуць домам; усё чужыя куты, абавязкі быць ахайнай і ашчадна карыстацца святлом Сувеніры, — як намаганне зрабіць утульным чужое жытло, — зніклі, згубіліся на працягу гадоў ці былі проста выкінутыя... А *твой* пусты дом знудзіўся ў чаканні цябе.

Плыннасць часу адчуваецца не тады, калі жывеш, а тады, калі пачынаеш аналізаваць сваё жыццё. Нават змена дня і ночы ў цягніку не сведчыла пра бег часу Рух існаваў па-за табой, адлучанасць, стома, сон... І не пакутлівае ляжанне на ложку ў гасцёўні пасярод чужога горада сведчыла пра рух. Першыя дні знаходжання тут не прынеслі яснасці, пэўнасці, толькі разгубленасць затаілася і саступіла месца падазронасці. Хіба што ўжо не чыноўнікі, а ты сама мела права задаваць сабе пытанні.

Але час адказваць на іх яшчэ не настаў

..Што зробіш, калі ў нас не было дома?

— Я? Так. А ты?

— А я? Не...

Унутраны дыялог, сведчанне пра андрагіннасць, пра зліццё супрацьлегласцяў, якія не былі з таго ў раўнавазе. Нас паранейшаму было дзве. Адна пытала, другая не ведала адказу, бо “не” вызначалася нерашучасцю, нявырашанасцю.

Дарогай у мяне з'явіўся спадарожнік. Ззаду засталася першая ўкраінская мытня; не хацелася ізноў чуць характэрны ўкраінскі акцэнт Прыцемкі за акном далі магчымасць прыкінуцца незацікаўленай, соннай. Мужчына расклаў рэчы, пакінуўшы на століку пластыкавую бутэльку з напіткам і кніжку. Потым прысеў моўчкі. Ён пасядзеў колькі хвілін і выйшаў Я чула, як грукнулі дзверы ў тамбур.

Ізноў накацілася стома, звычайны стан, характэрны для доўгай дарогі.

Чаму я не ўзяла білет на самалёт? Ужо даўно была б на месцы Але з таго, што ніхто не ведаў пра маё з'яўленне там і не чакаў мяне, было ўсё адно, калі прыехаць. Па сутнасці, я не мела ніякіх спраў, адно — інтуіцыя... Мусіць, я прыснула, бо калі адплюшчыла вочы, незнаёмец ляжаў, выцягнуўшыся на сваёй паліцы. Яму было нязручна, ногі даставалі да дзвярэй купэ, а галава была высака ўзнята. Я пазнала ледзь чутны пах тытуню, адразу ж з'явілася жаданне паліць. Спадарожнік не варушыўся, але не спаў, ляжаў з прымружанымі вачыма.

Існым быў толькі сінхронны грукат пад намі.

Усё засталося ззаду І нават той, хто парушыў маю адзіноту, належыць мінуламу Бо выйдзе на нейкай станцыі і, падхоплены плынню свайго жыцця, знікне для мяне назаўсёды.

Яшчэ ніколі не даводзілася мне бегчы так нечакана, так раптоўна і так самаўпэўнена належаць будучыні. Жыццё цягнулася трыццаць гадоў, і ў адну хвіліну засталося ззаду, у волкіх ранішніх прыцемках Мінскага вакзала, дзе высокі маладжавы мужчына спрабаваў прыхаваць разгубленасць і ўсё імкнуўся затрымаць расстанне апошнімі цнатлівымі дотыкамі. Вера ў наканаванасць рабіла жанчыну рашучай, спакойна-пагрозлівай і ўзнёслай. Ён адчуў яе ўцёкі, яе незразумелую засяроджанасць, пагардлівую ваяўнічасць і моўчкі саступіў, калі яна рушыла ў вагон.

Смяротная стома.

А ці бывае смяротнай надзея? Я дала яму надзею на шчасце і знікла.

Ён заўважыў, што я не сплю,і павітаўся. Ён быў падобны і не падобны да ўкраінца.

— Как вас звать?

— Вольга.

— Олга.

Мы ехалі ў Сафію: ён — дадому, я — у нікуды. Ён збіраўся правесці адпачынак з сям'ёй, ужо два гады, як ягоная фірма адкрыла філіял на Украіне, нешта звязанае з хлебапрадукцыяй (я не запаміна ла — усё неістотна). Мы былі раўналеткамі, магчыма, існавала розніца ў пару гадоў; мяне гэта не цікавіла. Я выцягнула пачак цыгарэт і прайшла ў тамбур. Амаль адразу ж туды заявіўся і ён. Мы не былі суайчыннікамі, і сталася неабавязковым тлумачыць сваю няветлівасць. Яшчэ ў мінулым жыцці я стамілася ад прысутнасці людзей,і зусім не падумала пра тое, што гэтая дарога вымусіць цярпець нахабнае ўварванне чужынцаў, перагляд рэчаў, загаднае: *ідзі сюды, на свята!* (з невыносным акцэнтам, але так зразумела!), уладны цяжар чужой рукі на плячы і богведама што яшчэ. Я прагла спакою. А ён спрабаваў распавесці пра сваю работу, пра эканамічную сітуацыю, пра нахабства чыноўнікаў і набліжэнне новых сустрэч з памежнікамі. Я разумела не ўсё і і больш маўчала, удыхаючы дым, які рабіўся едкім і рэзкім у закрытай прасторы тамбура. Яго звалі Асен, як аднаго з балгарскіх цароў, але я не ведала: нашто мне ягонае імя, калі ў мяне не ўзнікаюць пытанні. Каб хоць штосьці зрабіць, я прайшлася па вагоне да месца, дзе вісеў расклад. Бліжэйшы прыпынак. Мытня. Гадзіны нерухомасці.. Некалькі пасажыраў, пяць ці шэсць на ўвесь вагон І мы з Асенам у прамежкавай прасторы. Свет забыўся на нас. Нас заўважылі б толькі тады, калі б здарылася крушэнне... Рэдкія агні за акном зніклі — я адгарадзілася ад свету шчыльным дэрмацінам, чорным, як і ноч за пыльным шклом.

Ціхмянае сядзенне ў гатэлі. Снег за акном. Трыццатае сакавіка. Словы, якія нараджаюцца хутчэй, чым фразы, фразы, больш складаныя, чым думкі. Сарока ўладкавалася на вершаліне сасны, торгае хвастом, на адным узроўні з маім паглядам. Пяты паверх. Снег Калі сачыць за рухам сняжынак, заўважаецца сінхроннасць, заканамернасць.. Вільготныя згусткі падаюць з галін, гучна ўсмоктваюцца ў асфальт, расплываюцца. На дварэ плюсавая тэмпература. Падаюць. . Характэрнае шалахценне, галіна трэцца аб галіну, калі саслізгваюць крохкія снежкі. Я чую, як спальваецца цыгарэта. Гукі за акном не парушаюць цішыні.. Я падаю, каб сутыкнуцца з цвёрдай вільгаццю, асфальтам, набрынялым шараватымі разводамі ападкаў, снег мяняе колер, абураецца ўціску чужога прадмета, рассоўвае баразёнкі пад гарачай плоццю. Цела апякаюць халодныя брудныя пырскі, пара шкляных вачэй, у якіх цягнецца палёт спалоханай сарокі. А вакол — дробныя кроплі рассыпанай спелай вішні.

Ізноў цыгарэта... Я стаю ля парэнчаў на адкрытай пляцоўцы балкона, цела — проста пад маім паглядам — яшчэ курчыцца: эфект святлацені ад узмоцненага руху мокрых пуховак; дворнік вынес шырокую драўляную рыдлёўку, ахайна скрабе дарожку, пракладзеную для прагулак. Я ўжо ведаю, што дарожка абкручваецца вакол будынка, заварочвае за кут, а адтуль скіроўвае свой тонкі змяісты хвасток у парк, які ўначы папраўдзе здаецца лесам . Там ціша, там прагульваюцца хатнія сабакі. Вольныя ж сабакі будзяць мяне раніцай, гучны брэх сутычак чуваць з боку блізкіх дамоў і замкнёных пад'ездаў Сабакі тут маюць свае застарэлыя звычкі. Дворнік ужо паспеў расчысціць месца пад маім балконам. Паранейшаму падае снег Я запальваю новую цыгарэту. Папярэдняя працягвае дыміцца ў папяльніцы.

Раніцай мяне ўразілі лапікі зялёнай свежай травы і беласнежны сувой вакол са слядамі сабак і птушак. Я пакінула побач адбіткі сваіх ботаў. Калі б непадалёку праходзіў чалавек, мы абавязкова б павіталіся, паківаўшы галовамі, — *добър ден!* — як два незнаёмыя суайчыннікі, зніт аваныя надта ранні м шпацырам.. Я гуляла бязмэтна і досыць доўга, покуль не пачала пазнаваць маршрут· бульвар Віташа, Ракоўскі, царква Аляксандра Неўскага. Час замкнёных сладкарніц і адчыненых цэркваў. Загледзеўшыся на засяроджана-строгую жанчыну, я прайшла за ёй на гукі ўрачыстай музыкі. Крыпта, раз на месяц канцэрты для аматараў старасвецкай музыкі. Іконы і паўкруглыя скляпенні, выдатная акустыка; маладыя жанчыны з галасамі анёлаў Мне захацелася агледзець падсвечаныя іконы, але ўсе сядзелі; нехта азірнуўся. Я села побач... У паўзе, пад воплескі, прыўзняўся кампазітар, пажылы яўрэй, перад тым капэла выканала “Яўрэйскія песні з лагера Аўшвіц” (калі верыць вядучай). Увесь час, колькі я слухала, мяне ўсупор разглядалі крыху раскосыя вочы славянскага маляванага Бога Каб не сустракацца з ім поглядам, я заплюшчвала

вочы, і тады перада мной з'яўляўся мужчына ў цёмным адзенні, шэрыя скулы торгаліся, вусны варушыліся, дастаткова было зірнуць на яго, каб ведаць. што ён казаў — у той момант, калі цягнік зрушыў, і вакзал разам з самотным мужчынам марудна паплылі назад...

Што я раблю тут, у незнаёмым горадзе, я, жанчына, якая прагне вясны?

Наступным разам ён падыходзіць да мяне хутчэй, годна, але ўсё-ткі я заўважаю змену рытму; *една чаша кафе, имате ли цигари, добре, мерси, мерси;* ён ветліва пасміхаецца, спрабуе пажаліцца на надвор'е, ён ведае, што я не ўсё разумею, але ківаю, таксама ветліва і на ўсё адказваю: *добре* Я для яго чужаземка. Мне сумна. Ён разумее мой сум і прыносіць чыстую папяльніцу Ад прасторнай залы мяне адгароджвае высокі мяккі фатэль колеру сухіх водарасцяў Перада мной, на століку, кубачак кавы (я адчуваю пах), апошні выпуск газеты *"Стандарт"*, далей — штучны садок, скурчаныя камлі і кароткія ствалы дрэўцаў, якія на волі не выцягнуліся б вышэй. Мне ўтульна побач з шырокімі кволымі лістамі пластмасападобных раслін. Я прашу яшчэ кубак кавы, але венскай, і пакуль мяне абслугоўваюць, разгортваю газету *Папа Іаан Павел ІІ цалуе ногі дванаццаці служкам падчас службы ў Ватыкане; ураган у Еўропе, ад якога загінулі дзесяткі людзей; беларускі прэзідэнт дэпартаваў рускага журналіста, 39 сектантаў-самазабойцаў у ЗША шукалі райскае жыццё праз камету* Пра крушэнне цягніка ніякіх звестак, хаця мінуў тыдзень, роўна сем дзён з таго часу, як знікла жанчына, чыё плячо хвіліну абмацваў нейкі памежнік; каб жа ён ведаў, што прыглядаецца да памерлай! Але ў яго не было ніякіх прычын падазраваць яе ў самагубстве. Непрыемнае адчуванне ад двух кубкаў кавы нашча. . хутчэй заглыбіцца ў горад.. выпаўзці з інваліднага крэсла колеру сухіх водарасцяў вытаргнуцца ў будзённасць дарагіх вітрын. засяроджанасць прахожых, штурханіну жабракоў Першая ж дзвярная ручка сведчыць пра маё існаванне ў гэтым свеце, укол статычнага разраду, намагаюся заходзіць толькі ў тыя дзверы, якія маюць пластык шыкоўных разнастайных ручак, усё часцей трапляю ў дарагія магазінчыкі, дзе няма пакупнікоў, дзе мяне сустракаюць надзвычай ветліва. Азіраюся: адно й тое, адно. . і тое. стома.

Вечар. Разгортваю падручнік балгарскай мовы, куплены на кніжным развале. Малюнкі расказваюць пра наведванне пошты, сведчанне, што я магу напісаць ліст і кінуць яго ў *пощенската кутия*[1] Замест гэтага п'ю аспірын... Са мной нічога не адбываецца, я не памятаю адраса жанчыны, якая аднойчы сарвалася з месца, каб рушыць у дарогу. За маім акном горад з колькасцю насельніцтва, як і Мінск, хіба што з іншым геаграфічным становішчам. Сафія ў агнях. З усіх бакоў — горы (я бачу толькі частку), я на гары, сярод снежных сумётаў, на мне шчыльныя акуляры, каб абараніць вочы ад сонца і снежнага пылу (сонца гэтай парой не бывае), я здымаю іх, і адразу падаю ў снег, бо ездзіць на лыжах не ўмею, і ўжо наўрад ці калі давядзецца навучыцца. Звяры, калі яны ёсць, ладкуюцца нанач, птушкі (іх я таксама не чую) спяць, і я засынаю разам з імі. . Сплю доўга і неспакойна каб падхапіцца нарэшце з прыгаломшаным шэптам "ма-ма" .. На мне мокрая кашуля — хоць выціскай, вільготныя валасы. Ізноў прымаю таблетку, здымаю мокрае адзенне і перакочваюся на край ложка, здаецца, там яшчэ засталося сухое месца. Халодна, балкон адчынены, не хапае сіл падняцца, і я пакутую, спрабуючы перапыніць дрыготку цела, падкурчваю ногі самотным эмбрыёнам у чэраве туманавай Сафіі. Мяне будзіць гвалт, гэтым разам сабакі зусім блізка, яны ўпэўненыя: самы час нарадзіцца. За ноч снегу пабольшала, балкон накрыты пульхным марозным кілімам, ступаю па яго басанож і з ціхім скігатаннем бягу ў душ пад гарачую ваду. Аднойчы я вывучу мову, і звычкі, каб упэўнена зайсці ва ўстанову, дзе пацвердзяць маё права жыць сярод сабе падобных... Я тут

Сёння я размаўляла з афіцыянтам. Акрамя мяне, наведнікаў не было. Я папрасіла яго прачытаць тэкст з падручніка (пра пошту), і ён падсеў за столік. Я замовіла яму кавы. Ён загаварыў пра бліжанне НАТА на ўсход (не ведаю, забаўляла яго гэтая тэма ці палохала), а *ваша країна?*

Я не ведала. "У мяне можа не быць краіны, наш прэзідэнт далучае яе да Расіі. " "Эльцын.. " — пацвярджаў ён, і таксама не разумеў мяне. *Така доживя до пролетта на скрито място, да няма зверове, да няма врагове.* [2]

— Хутка вясна? — спытала я.

Ён засмяяўся і адшпіліў з цёмнага пінжака сваю марценічку[3], каб падарыць мне. Заканчваўся сакавік. Калі я пабачу ластаўку, я закіну марценічку на дрэва.

На вуліцы, проста ля мяне, спыняецца аўтобус Заходжу, прабіваю квіток і еду (*нехубово, —* скажа кантралёр, адбіткі кампосцера зусім з краю; *нехубово, —* згаджуся і паеду далей) На канечным прыпынку даводзіцца перайсці ў пластыкавую кабінку, якая вязе мяне на Віташу, наверх. Кабінка гойдаецца, я ўскрыкваю, ніхто не чуе, знізу застаюцца дрэвы, яны ў звыклым маўчанні прасочваюць шлях падвешаных на канатах кабінак. Людзі ўнізе не падымаюць галоў, яны занятыя сабой і сваімі дзецьмі, якія вучацца катацца на горных лыжах. Калі вы нарадзіліся тут, вы мусіце ўмець ездзіць з вяршыняў Далей дарогі няма. Я выходжу, здымаю з шыі ядвабную хустку і абвязваю вакол галавы. Лёгкі палітон выдае выпадковасць майго з'яўлення тут Каб жа была апранута адпаведна, я б паспрабавала дабрацца пешкі да *Капитата*; яго вяршыня застаецца справа ад мяне (згодна ўказальнікам). Злева, амаль на той жа адлегласці — *Чорни връх.* . Снег пад нагамі прасядае, я купляю чорныя лыжныя акуляры ў нейкай гандляркі, якая расклала свой тавар ля станцыі канаткі. Яна робіць сур'ёзны твар, покуль я прымяраю акуляры. Недарэчнасць, я ведаю, але адлічваю грошы і адыходжу За спіной смяюцца дзеці, абарочваюся, іх сабака таксама смяецца. Хутчэй, бегчы! Але мае крокі няспешлівыя, павольна і мякка пружыняць ногі ў вільготных ботах.

Чыноўнік не прыме мяне. Я блытаюся ў займенніках і не змагу напісаць заяву Хіба што прыкінуцца нямой, каб не адказваць на пытанні, але ён пакладзе перад сабой чысты аркуш і ручку, яму будзе цікава даведацца пра мяне. Я надзену чорныя лыжныя акуляры перад сціплымі дзвярыма адміністрацыйнага будынка і рашучым крокам зайду ў кабінет "Вы працуеце інструктарам?" — папытае ён і здзівіцца пастэльным колерам адзення, якія падкрэсліць яркую барву абведзеных вуснаў. "У мяне няма працы", — скажу я. У краіне крызіс, работу цяжка знайсці. "Ідзіце дадому", — ён так і не зразумее маёй просьбы, і не даведаецца, што *дома* ў мяне няма.

У гатэлі я набіраю нумар тэлефона, маўчанне, трэск, потым доўгія гудкі. Ніхто не падымае трубку; але ж я тут, і кватэра пустая, ніхто не меў права зайсці туды без мяне. Нават той, у каго былі ключы. Але ён застаўся на вакзале, растварыўся ў люмінесцэнтным святле, яго шчокі колеру золку торгаліся ледзь-ледзь, скрыўляліся — праз прызму вільготнай кроплі ў маіх вачах; невядома з якой прычыны на золку ўзыходзіла бледна-зялёнае сонца, з-за чаго тыя, хто праводзіў цягнікі (нямыя рыбы за вагонным шклом), шырока вырачыўшы вочы, блыталіся ў бетонных водарасцях бурых ліхтарняў і адплывалі задам. . задам Толькі падводныя лодкі жалезных цягнікоў паспяхова вырываліся з гэтай прасторы на захад.

Горы зноў не ратуюць сафіянцаў ад хмар. Ападкі ўзмацняюцца, вяршыні пакрываюцца новым снегам; усю ноч я чую, як абрынаюцца з дрэў вільготныя камякі. Закрытая цемраддзю кутоў, абыякава назіраю за нашэсцем святла, няпрошанае, яно пакрысе адцяняе рэчы: стол, лямпу на ім, два крэслы, банальную карціну (удзень на ёй можна бачыць горы, парослыя лесам), голыя ногі, уціснутыя ў цёплыя пашчы пантофляў, худыя доўгія рукі, пакрытыя пупышкамі (іх не бачна). Бяру руку ў руку, пальцы імгненна сашчэпліваюцца, падымаю іх да твару, чую пах мыла, пах мяккі і несапраўдны, несапраўдны настолькі, што ён не можа сведчыць пра жывую плоць. Стаянне ля акна знясільвае, апускаюся на кукішкі і, апынуўшыся ў купе, звінаюся ў рэч-мадэрн: пластык, гіпс, мармур, увянчаны міні-канструкцыяй звону, нябачны званар штомоцы разгойдвае гарачы язык. Мая ўпартая спроба дапамагчы яму заканчваецца глухімі ўдарамі: бум-бум-бум... Бунт перапынены, галава цэлая, толькі баліць ад стукання ў шурпатасць сцяны.

Прыйшла бабка-павітуха. "Які сон народзіцца?" — пытаю ў яе. "Многа", — адказвае яна і не ўдакладняе сэнсу Бабка-павітуха сноў Яна суцешліва кранае мае валасы і нахіляецца, каб прыкласціся сухімі вуснамі да палаючай шчакі. Ад яе сыходзіць спакой і плыннасць. Павольна заплюшчваю вочы.

Гэты чалавек дапамагаў эмігрыраваць многім. Мы пазнаёміліся з ім мінулым летам у Варшаве, ён прыязджаў з нейкай місіяй ЮНЕСКА. Цяпер ён працаваў у Балгарыі. З таго часу я памятала ягоныя расказы, і адзін з іх — пра недарэчныя ўцёкі Алілуевай, дачкі Сталіна, сведкам якіх ён быў; не прыклаўшы да таго рук, толькі суправаджаў яе ў машыне на прыём да пасла Савецкага Саюза ў Дэлі. Гэта было яшчэ да таго, як Святлана, рабаватая і злосная — з яго слоў — кабета, аднойчы выйшла да веснічак пасольства, каб выклікаць таксі. Ахоўнік амерыканскай рэзідэнцыі смяяўся так доўга, захоплены ўпэўненай версіяй вар'яткі, нібыта родзічкі самога Сталіна, покуль з ягоных рук не выслізнула на брук зброя; а Святлана Алілуева паспяхова вылецела ў Амерыку пад патранажам спецагента.

Святлана. У мяне таксама ёсць сяброўка, але твар яе гладкі і характар зусім не злы, і яна не марыць пра эміграцыю. Прынамсі, я не чула. Між намі ўсё нерухома. Толькі таму, што мы з ёй па розныя межы, як і з другой прыяцелькай, якая носіць футра з апосума.. Ці ляжыць снег дома: там, дзе мёртвая ціша ў пустой кватэры, дзе паўднёвае млявае сонца ў гэтую хвіліну можа быць падобным на бурштын. ?

Сведчаннем сур'ёзнасці прапановы, і выдатнай магчымасці пераасэнсаваць факты, былі дадзены мне некалькі імёнаў маіх суайчыннікаў, якія цяпер жылі па ўсім свеце. У нейкую хвіліну ён меў дачыненне да іх далейшага лёсу; а я ўжо сутыкнулася з ім. Выпадкова. Астатнія мелі імёны і прызнанне; я — толькі ўцёкі, яшчэ ў нікуды. З аднаго пачуцця ўдзячнасці

я павінна была пазваніць яму, але таму, што шлях у невядомасць пачынаўся з афіцыйнай паперы, запрашальніка, у які было ўпісанае яго імя, я працягвала сядзець, тупавата і ўважліва аглядаючы сцены часовага прыстанку Калі б уліццё ў свет пачыналася з сонца, падобнага гэтым часам на бурштын, ці з мужчыны з тварам спалоханай рыбіны, ці хаця б з той, што ўзімку насіла футэрка з апосума, мне было б значна лягчэй. Значна. Але пад сонцам ішло звыклае жыццё: галубы рассоўвалі крыламі шараватае, цяжкае гарадское паветра, няспешліва прабіраліся па знаёмых маршрутах трамваі, а людзі ішлі па справах, не задумваючыся пра Еўропу. Ці ім не дадзены выбар?

Хірамантыя, семантыка, алегарычнасць, — бясконца паўтараю складаныя словы, толькі для таго, каб заняць розум, прымусіць яго працаваць, упэўніцца, што магу думаць пра нешта іншае Мая краіна рыхтуецца да афіцыйнага свята. Заўтра, 2-га красавіка, павінны падпісаць ДАМОВУ АБ САЮЗЕ ДЗВЮХ ДЗЯРЖАЎ· Расіі і Беларусі. Свята аб'яўлена дзяржаўным яшчэ 5-га сакавіка, 6-га пра гэта напісалі газеты . Нават калі дамову не падпішуць, у святочным календары застанецца яшчэ адна чырвоная дата. Уключаю тэлевізар; мясцовую студыю не цікавіць лёс далёкіх суседзяў; да выпуску навін на першым расійскім канале сорак хвілін. Гэты канал яшчэ працуе, але няспешліва і інтэнсіўна ідзе пераарыентацыя грамадства, да часу канал лічыцца вольным; пакуль на яго адкрыта не прэтэндуюць, але ў нейкі момант на экране могуць з'явіцца замежныя дыктары Чытаю прэсу, цяжка, са слоўнікам, шукаю тлумачэння сваім думкам, усё ўскосна, no comment...

Па-ранейшаму шмат гуляю, у тыя гадзіны, калі не сяджу ў пакоі. Сабакі мяне прызналі за сваю, з кожным разам падбягаюць шпарчэй, ветліва круцяць хвастамі. Ім не дадзена ведаць, што мяне будзіць іхні брэх; але я не злуюся... Усе чакаюць цяпла, зіма зацягнулася. Дрэвы ў парках выпускаюць зялёныя лісты, фарзіцыя набірае жоўты колер. Гандляркі кветкамі ветліва пасміхаюцца.

— Это русская, — гавораць яны, калі я падыходжу выбраць букет. Кветак так шмат, што я губляюся. Яны хваляць тавар.

— *Много хубово,* — адказваю я і выбіраю кволы гіяцынт Цыганка ў брудным адзенні цягнецца за мной, я хаваю рукі ў кішэні, акуратна прытрымліваючы кветку Гіяцынт патрабуе волі, ён надта пяшчотны, каб змясціцца ў вузкай прасторы, ён прагне святла.

Я падымаю яго да вачэй, каб палюбавацца. Цыганка застаецца ззаду

Пачуццё няўпэўненасці. Здаецца, я жыву з ім гады. Але ж гэта смешна. Хто добраахвотна прызнаецца ў слабасцях? Часам я забываюся на яго, заводжу знаёмствы (як тады, у Варшаве), але ў адну хвіліну пачуццё вяртаецца, і мне больш нічога не застаецца, як клясці сваю слабасць і прыналежнасць да жаночага полу Мужчыны ў маіх вачах не выклікаюць даверу, але жанчыны пазначаны шчэ горшымі якасцямі... У ролі мужчыны маё жыццё было б іншым: канцэнтраваным, з адказнасцю перад грамадствам. Я не ўмею здымаць цяжар расчараванняў, у хвіліны няўпэўненасці дазваляю рабіць гэта іншым. Мяне ж пачынаюць лічыць ненадзейнай, пустой і фанабэрыстай. Супрацьўленне бессэнсоўнае: кожны жыве сваім.

Маё рашэнне быць да канца самастойнай, не вытрымлівае крытыкі; у гатэлі на стале ляжыць запрашальнік. Вайна не аб'яўленая, можна атрымліваць насалоду ў час пераміра, калі настойлівым з'яўляецца толькі голас голаду На маім шляху адкрывае дзверы кітайскі рэстаранчык. Раскіданыя па ўсім свеце, яны здабылі славу ўменнем падслухоўваць нязмушаныя размовы палітыкаў і дыпламатаў У мяне няма суразмоўцы. Заказваю ежу, не ўпэўненая, што давядзецца пакаштаваць. Прыносяць бамбук і грыбы, смак дрэва і соі. Супакойваюся. Кілішак ракіі, ён апякае, але дае цеплыню. Хочацца напіцца, але гэта ўжо прывілея мужчын.

Краіна, якая на працягу сямі апошніх гадоў намагаецца пазбыцца расійскай мовы, спакойна заяўляе пра набліжэнне голаду Рускі Культурны Цэнтр прымае знаёмых наведнікаў; я прыхадзень, але мне ніхто не здзіўляецца. Дырэктарка бібліятэкі, расчуленая маім выглядам, даверае мне кнігі са свайго кабінета; літаратура, што стаіць у агульнай зале, мяне не цікавіць, але "спісаць" кнігі ніхто не спяшаецца, імі карыстаюцца як і даўней; пратэставаць няма каму, хаця рускі літаратурны працэс тут амаль не назіраецца *Довольствоваться малым* набывае прыкметы нацыянальнай прыналежнасці.. Я гляджу на гадзіннік, чым перапыняю гаварkую дырэктарку, развітваюся, але паспяваю прыняць запрашэнне на мерапрыемства: вечарыну, якая адбудзецца праз два дні.

— Приходите, — гаворыць яна, — вам будет интересно!

У мяне няма часу

Яе час таксама абмежаваны.

— Мы ждем новые книги. Они должны скоро прийти. Вы еще вернетесь?

Яна не разумее сваёй зацікаўленасці, і таму яе прапанова вяртацца гучыць шчыра.

— Да, я обязательно приду, — упэўнена адказваю і насоўваю пальчатку на правую руку:





мне давядзецца ўзяцца за жалезную ручку дзвярэй. Манеўр з пальчаткай не заўжды абараняе ад статычнага разраду, але гэтым разам шэнціць.

— Валодзя! — крычу я і кідаюся праз клумбы і бетонныя агароджы, каб перахапіць мужчыну, апранутага, у адрозненне ад усіх, хто адпачывае, — у чорныя джынсы і цёмны летнік. Ягоны — толькі што, імгненны прыезд выдаваў парасон, які ён збіраўся шпурнуць у траву; я заўважыла гэты рух і кінулася насустрач.

Мае ўцёкі не былі прычынай. Я з'ехала на два тыдні ў Палангу: мора, хвоі, бурштын, кава на тэрасах. . Мой ліст яшчэ быў у дарозе, а ён не хацеў чакаць, і прыехаў сам. Як ён збіраўся мяне шукаць? Я наняла пакой у чыстым і ўтульным доме (вакол было шмат падобных прыватных дамоў) і зараз, невядома з якой прычыны, пацягнулася не на пляж, а ў бок аўтавакзала; іншага вакзала тут не было. Абцасы гучна стукалі па бетонных плітах, але вакол тупацелі дзеці, сінхроннасць і рытм гукаў не парушыліся; нечаканая сустрэча набыла будзённасць. Хіба магло быць інакш? Толькі ў згадках такія сітуацыі набываюць меладраматызм, у згадках, падмацаваных даўнопрамінулым часам, яны атрымліваюць новае хваляванне і сэнс. Каханне памерла? Vivat!.. У маім пакойчыку на другім паверсе пахла свежаабшаляваным дрэвам і нагрэтай смалой, за тонкай перагародкай корпаліся суседзі, такія ж аматары летняга адпачынку; мы знялі покрыва з ложка і паслалі яго на падлогу

Я павінна была з'ехаць.

Ён не даваў мне шанцу

Мы абое пакутавалі Хаця прагна і беспадстаўна прыхоўвалі першапрычыну Ці зразумела б я, калі б ён сказаў, што хоча кінуць мяне, каб пабачыць свет? Мы перасталі разумець адно аднаго.

Я не магла так доўга не званіць яму. Аднойчы наш агульны знаёмы прызнаўся, што бачыць у маіх адносінах з мужам адносіны трусіка і ўдава; ведаць, што я кахаю яго, было яму мала; але ён не хацеў зразумець сваёй адказнасці за мяне. Рана ці позна павінна была надысці адплата, і я была вінаватая не ў меншай ступені, чым ён. Бог пакуль не даваў яму шанцу прайсці праз духоўную здраду І хаця я была ўпэўненая ў пачуццях, часам мае прызнанні "кахаю цябе" былі змушанымі. Я адчула гэта, упарта вышукваючы прычыны не падыходзіць да тэлефона.

— Працэс закончаны, — аб'яўляе суддзя, у зале ўзнікае радасны шэпт, на задніх радах устаюць людзі. Усё. Можна ісці; але ж я шчэ не ведаю прысуду, занятая сваімі думкамі, я прапусціла самае галоўнае ў сённяшнім працэсе. Хто быў маім адвакатам, і ў чым палягала абвінавачванне? Каб атрымаць адказ, я паварочваюся на сваім месцы і пільна ўглядаюся ў таго, хто сядзіць побач. Мой погляд выхоплівае яго з дрымоты; дзве зморшчаныя далонькі пакладзеныя крыж-накрыж на кіёчак (на выгляд, бамбукавы), пачынаюць трусіцца; кіёчак, заціснуты паміж старэчых каленяў, губляе раўнавагу і выслізгвае. Нахіляюся і прашу прабачэння. Нашы рукі сутыкаюцца ў паветры, да прадмета нашых намаганняў сантыметраў дваццаць. Спрабую выглядаць нязмушанай, але даверу не ўзнікае, стары марудна прыўздымаецца з лаўкі. Я раблю гэта хутчэй і шырокім крокам кіруюся прэч. На выхадзе з парку азіраюся: голы куст бэзу, пажылы мужчына ў сонечнай пляме, ён праводзіць мяне поглядам .. Прыснуць у такі час занадта рызыкоўна, вакол яшчэ не растаў снег, сонечныя плямы прытульваюць старых падманнай цеплынёй. Калі б я не апынулася побач, ці змерз бы ён, незнаёмы аматар спаць навідавоку, выпускаючы сліну на падбароддзе, самотны верабей сафійскіх паркаў? Хоцькі-няхоцькі, а ён павінен адчуваць удзячнасць... На дварэ плюс чатыры. У такое надвор'е ніхто не мае шанцу беспакарана замерзнуць, але мне хочацца крохкага пачуцця перамогі... У той момант, калі абедзве мае рукі занятыя цыгарэтай і запальнічкай, уздрыгваю ад нечаканага:

— Олга!

За маёй спіной стаіць Асен, я адчуваю гэта, але не паварочваюся; зала апусцела, а я не ведаю прысуду

— *Как сте?* Как вы? — выпраўляецца ён, і я працягваю яму руку, у якой перад тым трымала запальнічку

— Ужо добра.

Ён не разумее падтэксту "ўжо", проста рады сустрэчы. Ён не адважваецца запрасіць мяне ў кавярню, і я раблю гэта за яго. Нас прымае "Лазана", утульная сладкарніца, пластыкавая ручка на ўваходзе, пластыкавыя сталы, папяльніцы, тут лёгка пачувацца нязмушанай. Выдатная кава, але я палю цыгарэту за цыгарэтай, хаця дыхаць і так цяжка; кожны наведнік лічыць сваім абавязкам паліць гэтаксама шмат, які я. У горадзе поўна жанчын, якія кураць, напачатку гэта здзіўляла, цяпер мы на роўных. . Размаўляем. Паступова авалодвае меланхолія, я не ведаю, як пазбегнуць яе, пакуль суразмоўнік не палічыў мяне няўважлівай; ратуе ўсмешка, на жаль, штучная. Забываюся, што здраджваюць вочы, іх выраз досыць яскрава сведчыць пра абыякавасць.. Асен намагаецца перахапіць мой погляд, што нарэшце з цяжкасцю яму ўдаецца. Збянтэжанасць. Колькі я прабуду тут? Дзе, у "Лазане"? Я гатовая падняцца і

сысці, але па-ранейшаму працягваю сядзець. Магчыма, прабуду да лета, ніхто не ведае пра тое, нават я сама. Пара расплаціцца, але мы не спяшаемся саступіць гэтую ролю адно аднаму

Ён мой каханак, той, стары, якога мне аднойчы давялося пабачыць у парку Яму патрэбная нянька, а я як найлепей падышла на гэтую ролю. У яго вялікая кватэра, на два ўзроўні, карціны і кнігі, абавязкова. Я там жыву Але калі мяне папрасілі — проста так (у нейкай размове я нахвальвала жытло: усходнія статуэткі, гадзіннікі незвычайных канструкцый, рэдкія выданні на рэдкіх мовах) — папрасілі азначыць пралёты, размяшчэнне пакояў, — я сумелася, і не змагла ўявіць. якой была тая кватэра. Па сутнасці, я заставалася шчаслівая там. Ці не з таго, што пакідала на пыльным глянцы рэчаў адбіткі пальцаў?

Мне перасталі верыць. У адказ я пакінула давяраць усім, каго запрасіла. Госці жадалі музыкі, якая б падкрэсліла інтымнасць "Яўрэйскія песні з лагера Аўшвіц" напалохалі б іх больш, чым немагчымасць уявіць кватэру, дзе прайшла частка майго жыцця. У нейкі момант я ўсвядоміла, што са мной не цырымоняцца, ніхто не патрабуе паўтарыць гісторыю прыгод; госці разняволіліся настолькі, што смела корпаліся ў маёй калекцыі дыскаў .. Я хацела прынесці фотаздымкі, але зручны для гэтага час мінуў Заставалася хадзіць паўз іх на дыбачках, каб незнарок не патрывожыць прысутнасцю. Гэта самая мілая краіна, дзе даводзіцца існаваць, бо толькі ў першую хвіліну цябе раўнуюць да ўспамінаў Потым усё забываецца, і ты можаш стаяць на кухні, калоць лёд, але ціха, акуратна, заціснуўшы тронак нажа сухім ручніком: у вялікім пакоі танчаць парачкі Лёд узрываецца, вялікі кавалак выслізгвае з няўлежнага месца і падае на падлогу Нехта з тых, разняволеных пяшчотай, хто застаўся ў танцы, уздрыгвае, каб мацней прыціснуцца да партнёра. Гэта жанчына. Яе блакітныя вочы з вільгаццю фіялкавых ранкаў прымружаныя, нібыта яна рыхтуецца да пацалунка. І ўсё-ткі факт застаецца фактам, з-за няўважлівасці я выйду з кухні з нажом у руцэ (ручнік не прыкрывае ляза), але з'яўленне нікога не напалохае. Госці не звернуць увагі. Я хаджу на дыбачках, у цёплых шкарпэтках; іх мяккая цеплыня нагадвае мне пра сафійскі снег

— Хто гэта? — спытае незацікаўлены госць, які прыйшоў на кухню дапамагчы зрабіць кактэйлі. Я сяджу за сталом перад пустымі келіхамі, занятая здымкамі жанчына ля каменных калонаў, якія нічым не выдаюць прыналежнасць да пэўнай цывілізацыі; група людзей ля царквы святой Петкі Самарджыйскай (жанчыну накрыў цень, царква хаваецца ў яміне падземнага перахода); тая ж асоба ля кніг з іерогліфамі на вокладках, іерогліфы зацёртыя часам, трэба мець лупу, каб убачыць іх.

— Олга, — абыякава адказваю я.

Госць разумее, што ў нейкі момант мы былі з ёй блізкімі. Ён пачынае верыць у гісторыю з нянькай, але не хоча абцяжарваць сябе развагамі Нашто, калі можна прыціснуць блакітнавокую сяброўку і паблажліва пачувацца абаронцам? Олга не ўмее фліртаваць, чаго добрага пакрыўдзіцца, калі ён дазволіць сабе нявінны жарт

Мы выйшлі з "Лазаны", дзе прабавілі паўтары гадзіны. Ягоны намер пабачыцца ўвечары ўсё яшчэ заставаўся прапановай; бледны гіяцынт, пакінуты на стале, так і не дазнаўся адказу Тым не менш я ўзяла Асена пад руку, нібыта наша сустрэча была абгавораная зараней, паміж дзвюма паліцамі ў цягніку Жанчына з трамвая ўважліва паглядзела ў наш бок Жонка? Мой твар застаўся спакойным. Хацелася падняць руку і памахаць ёй. Трамвай прайшоў, каб спыніцца непадалёк. Выйшлі людзі, пяць ці шэсць, жанчына засталася. Мінуў поўдзень. Асен стаяў і працягваў запальнічку незнаёмаму хлопцу, які абагнаў нас, каб папрасіць агню. Мая рука ўсё яшчэ трымае яго за локаць, хаця я адчуваю жаданне прыбраць раўнадушна-цэпкія пальцы. Нечакана Асен змірыўся з бессэнсоўнасцю сітуацыі і, ідучы, працягваў разглядаць пыл на нашых ботах. Я згадваю прапанову: ён хацеў паказаць мне работы свайго сябра, выстаўленыя гэтымі днямі ў галерэі. Яшчэ ёсць час, але мы падбіраемся да вуліцы Лайаша Кошута, дзе, па сутнасці, і размешчаная галерэя. Я не магу паверыць адразу, бо бачу магазінчык моднага адзення, але дом цягнецца ўглыб, за фасадам з шырокімі вітрынамі, застаўленымі манекенамі ў еўрапейскім адзенні, калі мінуць дзверы, ёсць дворык з дрэўцамі пад шкляным дахам. Магазін і галерэя суседнічаюць. З большай ахвотай я б стаяла зараз у кабінцы за сіняй шторай і назірала, як маладая кабета падладжвае на мне самашытую сукню. Адышоўшыся ўбок, кабета пляснe ў ладкі і пабяжыць, каб праз імгненне прынесці вузкі шалік. Колеры супадуць, і мне давядзецца падумаць, перш чым апрануць старое адзенне...

Нас прадстаўляюць гасцям, хаця мой спадарожнік амаль усіх ведае ў твар.

— Это мой друг Асен и его любовница, — з лёгкім акцэнтам абвяшчае гаспадар. Колькі гадоў таму ён вучыўся ў Маскве і захаваў любоў да многіх рускіх слоў Фраза гучыць па-руску з-за павагі да мяне. Я не бянтэжуся, аніколькі; у Мінску ў мяне таксама ёсць сяброўка, якая трымае галерэю, я ўжо ведаю, што рабіць, каб





заставацца па-за ўвагай Бяру келіх з мінеральнай вадой. Не так лёгка быць адной з іх. Асен стаіць, акружаны купкай знаёмых, яго пастава выдае палёгку, зрэдку ён кідае погляды ў мой бок. Пад намі не грукаюць колы, што, відочна, выводзіць нас з раўнавагі З магазінчыка выходзяць апошнія пакупнікі, усе з пустымі рукамі; ніхто з іх не завітвае ў галерэю. Святло ў вітрынах патухла, кабета-мадэльер-прадавачка зачыняе дзверы на ключ і падымаецца па сходцах на другі паверх. Яна — былая жонка мастака, які ацаніў свае работы па дзвесце – трыста даляраў (я паспяваю вывучыць каляровыя ўклейкі пад кожнай карцінай, покуль Асен трымае шклянку ў атачэнні незнаёмых мне людзей), яе бацька вядомы архітэктар, які спраектаваў дом, дзе суіснуюць былыя сужэнцы Мне радасна думаць пра іх адносіны, уяўляць, як кабета спускаецца ўначы ў галерэю, працягвае натыкацца на халодныя сцены, і плача. ледзь чутна. У яе знаёмы тэмбр голасу; я чула яго неаднойчы. На шкляны дах апускаюцца ранак і шэрыя галубы. Бледны анёлак аднойчы таксама наведаўся, каб стрэсціць снег са стомленых крылцаў; боская істота шукала спакою і ціхамірнасці, але засяродзілася на перажываннях жанчыны Кароткі дыялог анёлак зляцеў, галерэя апусцела. Што іх чакала ў будучым: мастака і мадэльерку? Паўтор трагедыі?

Гэтая думка выклікала ўва мне спачуванне. Галерэю зачынілі а дзесятай.

Навіны былі несуцешлівыя; яна пазваніла, каб сказаць, што прыехала, што ўжо тут На другім канцы провада не выказалі здзіўлення, як, зрэшты, і радасці. Дамовіліся на сустрэчу ў сладкарніцы "Моцарт" (яна досыць добра вывучыла цэнтральную частку горада) Ён з'явіўся, калі на талерцы перад ёй заставаўся кавалак амлету (адзін долар за порцыю); яна не ведала, што з ім рабіць, і ў адну хвіліну паспрабавала праглынуць, але давялося вітацца з поўным ротам. Ёй не хацелася, каб яе прынялі за жабрачку Азіраюся, нібыта не мела часу вывучыць інтэр'ер; на белых сценах вісяць карціны: Big Ben, Эйфелевая Вежа, безыменны канал у Венецыі, усё — у пастэльных тонах; яркія плямы — я і спадар за маім столікам Дождж за акном. Дзень, калі не думаеш пра вяртанне. Ён цікавіцца: што я рабіла так доўга пасля прыезду, намагаюся дапамагчы яму зняць сумненні, але да канца размовы застаюся няўпэўненай, што намаганні дасягаюць мэты. Апісваю дзень за днём, блытаюся ў датах, пераскокваю з адных успамінаў на іншыя. Ён хоча сысці? Замаўкаю, але вочы выдаюць ягоную цікаўнасць, і, натхнёная, з новай сілай апавядаю пра бяссонне ў пустым нумары гатэля, не забыўшыся на сабак і іх прыязнасць. Мой знаёмы забірае мяне з сабой; мы едзем на машыне ў зваротным парадку: *Александър Стамболийски, Витоша, Стефан Караджа, Драган Цанков,* гатэль, парк (у якім мне падабаецца гуляць раніцамі), заварочваем у вузкі завулак, каб спыніцца ў незнаёмым месцы. Я ўпершыню бачу ягоны дом, кватэру, зусім не падобную на тую, дзе жыве стары з бамбукавай кульбай і іерогліфамі на вокладках пыльных кніг Даведваюся, што ён жанаты. Гэта для мяне адкрыццё Атрымліваю дазвол запаліць цыгарэту, але на кухні... Яны разышліся дваццаць гадоў таму, я не ведаю прычыны, і жанчына на фотаздымку не дае мне ніякай зачэпкі Адчуваецца, што яму прыемна расказваць пра дзвюх дарослых дачок, якія гадуюць сваіх дзяцей (не збіраючыся пры гэтым нікуды ад'язджаць). Ён гаворыць пра іх з такой цеплынёй, што нішто не можа пахіснуць маю ўпэўненасць. ён жанаты! І тым не менш аднойчы я здраджваю яму, калі набіраю нумар хатняга тэлефона. Мне адказвае мужчынскі голас. .

Звыкла, хутчэй для сябе, чым для мяне, ён уключае тэлевізар: апошні выпуск навін. Час, адведзены на абед, закончыўся, яму трэба ісці, але ён затрымліваецца ненадоўга. У тыя хвіліны, калі мы сядзелі ў кавярні, у Крамлі адбылося падпісанне дамовы аб Саюзе дзвюх дзяржаў

— Гэта адказ на пашырэнне НАТА, — каменціруе прысутны (ён заўважае слёзы ў маіх вачах).

— Гэта не можа з'яўляцца адказам на пашырэнне НАТА, — перабівае яго прадстаўнік дзярждэпартамента ЗША...

Я веру таму, хто побач; ён ведае правілы палітычных гульняў

Увечары я назіраю, як у ягоным чайніку закіпае вада; дастаю два кубкі і акуратна стаўлю на стол.

— НАТА не можа прызнаць свае памылкі, ім не трэба было пашырацца на Усход.

— Чаму? Беларусь не ўяўляла для іх небяспекі.

— Пакуль заставалася незалежнай У Эльцына (ён так і сказаў: "Эльцын", як той афіцыянт, з якім я пазнаёмілася), у Ельцына, — папраўляецца ён, — ёсць на руках толькі адна карта супраць праграмы пашырэння. Усё гэта ўяўляе небяспеку

— А калі Украіна захоча ўступіць у НАТА?

Ён зірнуў на мяне з цеплынёй, так, як бацькі глядзяць на дзяцей, калі хочуць ухваліць іхнія ўчынкі.

— Цалкам верагодна. Процідзеянне ў выніку можа прывесці да трэцяй сусветнай вайны.

За акном пачуўся перазвон; я не магла

ведаць дакладна, як называлася царква. Навошта? Дзіўна было назіраць у святле таршэра, як рухаецца гаспадар кватэры· шукае акуляры, каб прачытаць ксеракопію нейкай паперы (службовая запіска ці расклад перадач расійскага тэлебачання?), перакладае газеты (*"Стандарт", "24 часа"*, "Дума"). Я сачу за ім, прымружыўшы вочы. Ён азіраецца, яму ў галаву прыходзіць думка, што я сплю, утульна ўладкаваўшыся ў крэсле, адкінуўшы галаву Ён набліжаецца і нечакана для сябе праводзіць рукой па маім ілбе; гэта палохае яго, але ў пакоі няма верхняга святла; у той момант, калі ён падыходзіў, я сапраўды заплюшчыла вочы, а сведкаў больш няма, калі не ўлічваць жанчыну на фотаздымку.

Упершыню за апошнія дні я ні пра што не думала, дазволіўшы прымаць рашэнні іншаму чалавеку. У чужой кватэры мною авалодаў сон...

Тое няпраўда, што я здрадзіла яму аднойчы Яго яшчэ не існавала побач, а я ўжо прыдумала яму пасаду, і знешнасць, нашы адносіны не былі адносінамі блізкіх людзей: ён хацеў займець у маёй асобе жонку, але найперш сяброўку, афармленую афіцыйна за жонку. Ён быў дыпламатам высокага рангу, у гадах, нізкарослы, з німбам пуху на голым чэрапе, з разумнымі вачыма Едучы ў грамадскім транспарце на работу, я сустракалася з ім позіркам; старасць надавала мужчынам агульныя рысы,і калі мне ўдавалася пазнаць яго, — я пачынала прыглядацца, асабліва ў тыя моманты, калі вакол было няшмат людзей; ніводнага разу чалавек з *такімі* вачыма не адчуў збянтэжанасці Асобныя рысы зніталіся ў вобраз, і мне ўжо не трэба было хлусіць, калі давялося расказаць пра нашыя з ім адносіны

Мужчына, які прыехаў да мяне ў Палангу, бо не змог прымусіць сябе дачакацца хоць нейкай вестачкі, больш не хацеў залежнасці. Ён пазнаёміўся з дзяўчынай, маладзейшай ад яго на шаснаццаць гадоў, і перастаў адказваць на званкі. Я заставалася спакойнай да таго вечара, калі, натхнёная злосцю, не прысела за столік на рагу Скарыны і Захарава; непадалёк засталіся дзверы, праз якія ён праходзіў на работу Шоргат шын вакол плошчы, галасы шматлікіх людзей: і тых, што пераходзілі вуліцу, і тых, што, як я, сядзелі за столікамі, і буркатанне заўсёдных галубоў, і прысутнасць кавы ў пластыкавым кубачку, — не маглі паўплываць на рашэнне застацца надоўга.

Між тым пачало змяркацца, рабілася халаднавата, наведнікі змяніліся: на месцы гаманлівай моладзі з'явіўся паважны грамадзянін у акулярах, дзве размаляваныя маладзіцы саступілі месцы п'янаватым хлопцам.. а дзверы так і не адчыніліся, хаця я дакладна ведала, што ЯНЫ там..

Неверагодна, але кабета з бібліятэкі палічыла сваім абавязкам запрасіць мяне выступіць на вечарыне, прысвечанай Бэле Ахмадулінай. Чым я выклікала яе давер, застаецца загадкай і да сёння. Магчыма, яна адчула ўва мне трагічнасць, прыкмету славянскіх паэтак. Я не змагла ёй адмовіць.

Праз два дні пасля нашай першай сустрэчы, я сядзела ў зале Рускага Культурнага Цэнтра, дзе сабраліся балгарскія пісьменнікі, каб згадаць пра недарэчную, — як заўжды ў такіх выпадках, — смерць рускага паэта Уладзіміра Сакалова; саракавіны, таксама славянскі звычай. У мяне не знайшлося неадкладных спраў, інакш наўрад ці я прыйшла б сюды. Усе гаварылі па-балгарску, толькі вершы і два рамансы прагучалі па-руску, на той мове, якая сведчыць пра належнасць да іншай моўнай культуры.

— Вам понравилось? — спыталася дырэктарка бібліятэкі, калі я шчыра прызналася, што здзіўлена і кранута іх жаданнем казаць пра чужога паэта. — Он умер в Софии ("у Софы", — сказала яна, з націскам на першым складзе, выдаўшы тым самым аднесенасць да тутэйшых), его вторая жена была отсюда. Ах, как жаль! Мы все знали его. дружили.

— Вряд ли в Москве сегодня почтили яго память.

— Да, вряд ли, — згадзілася яна.

— Я тоже буду знаменитой.

Яна не выказала сумненняў і правяла мяне да выхаду

Мяне заўважаюць: маладзён, саўдзельнік мясцовай эліты, аўтар палітычнага рамана, у якім улада прадбачліва аддаецца "сінім"[4]; сціплы ўладальнік тэкстыльнай імперыі, былы міністр лёгкай прамысловасці краіны, даўні сябра Андрэя Луканава[5], апантаны аматар жаночага полу (на ягоных фабрыках цяпер гаспадараць "сінія", што ўплывае на адносіны з жанчынамі); самотна-расчараваны мастак, жонка якога любіць плакаць начамі; сябра, які ўключае для мяне выпускі апошніх навін; стары з кіёчкам; юнак, якому спатрэбіўся агонь, калі я ішла з іншым. версіі множацца я застаюся безудзельнай, бязмэтна туляюся ад будынка да будынка, блукаю між ліхтарняў, вымушаючы ўвесь картэж кіравацца крывымі лініямі, густа пракладзенымі чырвоным фламастэрам на папяровай карце Сафіі.

..Я назвала яго Разумнік за тое, што ён ведаў больш, чым я патрабавала.

—Раскажы пра сябе ўсё. І пачні з дзяцінства.

Я клалася побач, каб пачаць узгадваць, і пакуль ён падымаўся, каб прынесці мне кубак з гарбатай ("як смачна". "бергамотавы чай"...), я паспявала правесці класіфікацыю: што трэба ведаць, што можна, а што — недарэчы.. Яго заўжды цікавіла тое, што недарэчы. Падобна, астатняе ён ведаў сам... Цнатліва ляжым гадзінамі (можа, яму трэба хлопчыкі?); Разумнік задаваў тон размовам, так што напрыканцы лёгка забывалася, што я паспела распавесці. Ці падазраваў ён пра існаванне мужчыны ў традыцыйна цёмным адзенні (з моманту майго ад'езду ён насіў толькі чорнае), які на маё "не" прымчаўся на вакзал: я бачыла, як ён выходзіць з таксі; горкае разуменне саўдзелу ў здрадзе.

— Разумееш, — мы перайшлі на ты, — мне цяжка рашыцца.

Яго забаўляла эксцэнтрычнасць і непаслядоўнасць, — уласцівыя той, што любіла ўцёкі, не разважаючы пра наступствы: у коле ягоных зносін шал адсутны цалкам; на ланчах і кактэйлях кажуць кампліменты, але не заносяць іх у службовыя паперы· машыністкі перадрукоўваюць сухія размовы, у якіх толькі чыноўнікі бачаць прыхаваны сэнс; тым не менш "дакладныя" ўплываюць на развіццё міжнародных адносін.

Разумнік пачаў мне званіць, каб ставіць перад фактамі: у тры гадзіны ланч. паніхіда. сустрэча. нібыта штосьці змянілася паміж намі, і цяпер я патрабую: "Прызнайся ў чым-небудзь!" Па магчымасці, ён водзіць мяне за сабой: мы ў гасцях, мы ў тэатры, у гарах, у балканскіх тунелях. Ён глядзіць на будучае адназначна: яму трэба жонка, сяброўка, афармленая за жонку У нейкі дзень жанчына з фотаздымка апынулася ў альбоме; яна пратэстуе, але ўжо не бачыць маёй салідарнасці: не ў маіх звычках корпацца ў чужых рэчах; суцяшаюся тым, што цяпер яна можа назіраць забаўкі ўнукаў· альбом захавае іхні час на памежжы мінулага.

Збіраю немудрагелісты скарб, каб ля нейкай брамкі спыніць машыну з шашачкамі *(О'К СУПЕРТРАНС),* — у гатэль! хутчэй!. Дворнік з рыдлёўкай усё яшчэ саскрабае снег пад маім балконам. Драўляная рыдлёўка падае ў той момант, калі таксі спыняецца ля ўвахода.

Я бягу.

Мая паспешлівасць апраўданая.

Я бягу

Валодзя сядзіць ля тэлефона і чакае майго званка. Я амаль упэўненая ў гэтым. Тым не менш на званок ніхто не адказвае. Іду ў душ, каб скараціць чаканне. Цяпер звоняць мне. Не падыходжу: што можа рабіць жанчына ў нумары ў гэты час? Як толькі апарат супакойваецца, здымаю трубку на тым канцы правада, праз тры граніцы, ёсць нехта, каму неабходна пачуць мой голас. Плачу

—Я прыеду Я пастаўлю ўсё з ног на галаву, але знайду цябе.

Голас, які заўжды мяне палохае, у якім я адчуваю пагрозу, хаця мужчына размаўляе спакойна, нават пяшчотна. Прычыны майго жаху тояцца глыбока; няможна ўявіць шпацыр у лес без яго (чаму менавіта ў лес — не ведаю, хаця магу паіранізаваць: "земную жизнь пройдя до половины, я заблудился в сумрачном лесу"); лес ці, яшчэ лепей, дуброва бачыцца мне: улетку, з ветрыкам за спіной — дзе луг і малады сасоннік, я іду з кіем, як заўзяты грыбнік, але багацці айчыннай прыроды ў даны момант мяне не цікавяць... птушкі пералятаюць з дрэва на дрэва, спалохана прашамаціць пад нагамі нябачная істота. заглыбляюся, але так, каб адчуваць вецер; мая дарога не мае канца, яна заўжды паварочвае і выводзіць назад.

.Мы так і не навучымся жыць паасобку

Рэч у тым, што жанчына, да таго, як зрабіцца Олгай, маніякальна любіць уцёкі. Гэты талент незаўважны, але той, хто кахае, ні з чога ні з якога, пачынае вызначацца паводзінамі раўнівца: не дазваляе званіць у яго адсутнасць, стрымгалоў бяжыць следам, калі ў выхадны яна збіраецца ў магазін ці да сяброўкі. А ў момант, калі яна апраўданая ў ягоных вачах і атрымлівае нарэшце права быць сабой, жанчына сядае ў цягнік, каб у той самы дзень паспець прамінуць граніцу.

.Авечка, выпушчаная на волю; праз тыдзень яе брудны, спарахнелы хлеў падасца ёй раем, і яна пачне кідацца ў пошуках пастуха, шчаслівая толькі з таго, што далёка. . недзе. яе могуць чакаць.. і, можа, дазволяць вярнуцца, далучыцца да статка.

Сённяя ўпэўненая, што мне трэба застацца.

Ад мяне чакаюць пачуццяў, якіх быць не можа.

Я ведаю толькі адно· пачуццё бліжання ночы; яно не здольнае суцешыць нікога. Якімі брыдкімі здаюцца мужчыны, калі яны хочуць ведаць праўду.. *ну прызнайся, прызнайся ў чым-небудзь..* пакуль дзяўчо, маладзейшае на шаснаццаць гадоў не раскажа жаласлівую байку пра гвалтоўную блізкасць з першым мужчынам; і таму, што крыўдзіцель не ты, можна ўвайсці ў давер, стаць крыху героем, абаронцам цудоўнай паловы чалавецтва (тае бяды, што аднойчы дзяўчына дазнаецца моц тваёй поўхі; яна ўжо цябе палюбіць. ).

Олга?

Я не бачу прычын, з якіх нас могуць прызнаць падобнымі, яна застаецца ў парку, з заплюшчанымі вачыма, а не выходзіць замуж за старычыну: пасля вянчання ён дорыць ёй бамбукавы кіёчак, новы, без адзінай драпінкі, з бліскучым паліраваным вяршком Аматар усходніх традыцый нічога не ведае пра яе жаданне мець самурайскі меч, якім робяць

харакіры. Мігценне агеньчыкаў царкоўных свечак узбуджае яго, яго пальцы ў той момант, калі яна працягвае руку, набываюць пругкасць, ён адчувае раптоўную насцярожанасць з яе боку, і паступова вяртае дрыготку ў старэчае цела. Яна прызнае свае хібы: легкаважнасць, няўважлівасць, і шэптам просіць прабачэння; гэта няцяжка; дрыготкі палец ніяк не можа патрапіць у пярсцёнак; абодва шчаслівыя.

Я працягваю назіраць за імі збоку, не парушаючы гармоніі, але ў нейкі момант яны пачынаюць рабіць усё хутчэй, чым таго патрабуе абрад. Мне весела, я смяюся ў царкве, прысутныя пагрозліва азіраюцца.

— Выведите ее! (У рускай царкве гавораць па-руску )

Выходжу

Я прывыкла бачыць на вуліцах гандлярак семкамі, а тут на кожным кроку гандлююць кветкамі. Злуюся на сябе ў пошуках зерняў *слънчоглед,* дома мне ніколі ў галаву не прыходзіць думка лускаць іх навідавоку; раблю паралель. на колькі букетаў хопіць маёй зарплаты дома, атрымліваецца зусім няшмат Адчайна абвяргаю спакуслівае жаданне даведацца назву наступнай раскошлівай кветкі; прэтэндэнты на месца прыхільнікаў адной звар'яцелай служыцелькі рампы адсутнічаюць. Хто з іх бачыў мяне на падмостках?

Маё "ego" вартае любові аўдыторый; чуць мяне лічыцца за шчасце, бачыць зблізку — за гонар. У грымёрцы штодня з'яўляюцца новыя кветкі. Мой сябар — стары з пляшывай галавой, падразае слабыя галінкі, сашчыкавае скручаныя лісткі і змятае пялёсткі ў ярка-жоўты пластмасавы савок. Ён носіць чорныя акуляры, павязка на рукаве пінжака і яго заўсёдная наяўнасць выдаюць на тое, што мой сябра сляпы, сляпы ўжо некалькі гадоў (з таго часу, як мы пазнаёміліся), мала хто з маіх блізкіх ведае, як яго завуць, але калі мы застаёмся ў грымёрцы сам-насам, ён чуе сваё імя, моўленае ўслых: Гантэнбайн[6]; яму падабаецца, як яно гучыць, і я звяртаюся проста так, без справы...

.Хлопчык пасярэдзіне плошчы, галубы злятаюцца на ягоныя рукі; маё дзяцінства не такое даверлівае. На вуліцы Лайаш Кошут за расчыненымі веснічкамі знаходзіцца рэтракавярня "Стары фаэтон", там папраўдзе і стаіць яго гістарычны арыгінал; здымак на памяць, пісьменнік няцвёрдым крокам сунецца па бруканцы: у кавярні зачакаліся прыяцелі, адзін з іх — даведваюся дакладна, бо ён называе імёны, — мае знаёмых у Мінску, завязваецца размова. Ён можа прыехаць, але ні адна кавярня не зважа нас выпадковай сустрэчай, бо ў мінскіх пісьменнікаў няма сталага месца спатканняў Набываю хранічны вопыт гультайства, разбэшчанасць свабоды. атрымліваю на памяць кніжачкі з аўтографамі; адсутнасць галосных абачліва заменена белымі вершамі, што выдаецца за наватарства і еўрапейскі стыль. Мае мінчукі таксама любяць эксперыменты. Прахалода вымушае хаваць рукі ў кішэні, кніжкі знаходзяць месца ў сумцы, якая абцяжарвае левае плячо (за правым ніхто не стаіць, усумніўшыся – азіраюся) Чыноўнікі з беларускага пасольства завяршылі працоўны тыдзень; пасля просьбы прадставіць імёны літаратараў для тоўстага альманаха, які выйдзе праз некалькі месяцаў, яны падалі спіс добранадзейных аўтараў (ці ёсць там імёны тых, каго прыгадалі ў кавярні "Стары фаэтон"? Мне няма да гэтага ніякага клопату), але збянтэжанасць, калі я праходжу ля будынка, дзе часова ўладарыць былы сталічны мэр, узрастае, а разам з ёй узрастае маё шкадаванне, што Эзоп ужо жыў, і паспеў напісаць байку пра фетыш, якому пакланяліся жабы. . O tempora, o mores!

Надвор'е застаецца нетыповым для Балгарыі; я, сведка халоднай вясны, радуюся, калі чую па тэлевізары, што ў Мінску на два градусы вышэй. Навіны паведамляюць, што ўжо зняты з пасады памочнік расійскага прэзідэнта, нейкі Рурыкаў, адзін з тых, хто рыхтаваў саюзную дамову: пры падпісанні афіцыйны дакумент аказваецца скарочаным на 26 старонак: дзесяць з трыццаці шасці. Афера, як старажытнае божышча, паглынае сваіх дзяцей, каб, магчыма, выплюнуць іх пры іншым рэжыме ў іншай дзяржаве — такія выпадкі былі й раней...

Пад парывамі ветру ў прыадчыненае акно выслізгвае фіранка і надоўга застаецца там: на волі трапечацца белы цюлевы сцяг; ён нагадвае пра тое, што маёй краіне могуць спатрэбіцца сёстры міласэрнасці.

Удзельнікі ранішніх прагулянак трымаюць сабак на кароткіх павадках; іх насы казыча салодкі пах кагадзе прыгатаванай яешні: квартал абуджаецца Насуперак дабрадзейным гаспадыням, адкідваю коўдру, каб легчы ў ложак. Мой галоўны інтэрас у тым, каб выспацца і набрацца сіл Я даведваюся тое, што даведваюся: дзе нас няма — лепей.. Сябры, забыўшыся на школьную ісціну, мараць пра Новую Зеландыю і Аргенціну ..

Прагну вярнуцца. Хачу ў сваю галечу, хачу быць жабрачкай па-свойму .. Калі б у мяне быў каханак-мастак, я папрасіла б яго намаляваць мой партрэт і назваць. "Птушка перад выраем", каб цешыцца думкай пра магчымасць уцёкаў .. Птушкі ў палёце. галубы; імгненне вечнасці сашчыкнула з рудавата-барвовых лапак жалезныя кольцы; лісты пераносяцца сталёвымі





іхтыязаўрамі, натрамбаванымі сучаснай тэхнікай.

Вы пішаце лісты?

Вам ёсць каму пісаць іх?

. .Вянчацца — гэта думка прыходзіць і сыходзіць, а Бог не дае часу на роздум, нібыта спяшаецца. Што здарылася? У мяне адпачынак! Анёлак, што прылятае аднойчы на шкляны дах сафійскай майстэрні, ужо злоўлены на гарачым: сочыць за мной. Хочацца падняцца да месца, пазначанага на карце як *Златни мостове,* але там снег, і я адганяю прагную думку, падахвочаную веданнем. у гарах няма крыўдзіцеляў, там усе вітаюць адзін аднаго, там можна сказаць "добър ден" з гонарам пакаральніка, як лёгка сустрэць за вялізнымі камянямі чужых анёлаў-ахоўнікаў: навошта браць на сябе не сваю карму? Для мяне існуе толькі адзіны мост, праз які можна прайсці беспакарана — вузкі тэлефонны дрот; да д'ябла! — ускрыкваю тры разы, з-пад ног выслізгвае котка, ніводнай чорнай плямы.

Падымаешся, каб трапіць у кватэру N 21, упершыню адмыкаеш дзверы сваім ключом, пераступаеш парог, ні адзін метр жылой плошчы не абдзелены тваёй увагай; уніклівае, гаспадарлівае абдумванне робіць тваю прысутнасць заканамернай, калі не сказаць неабходнай; прыкідваеш, дзе павінна ляжаць бульба (2—3 кілаграмы), а дзе цыбуля і морква. Прыносіш гародніну з рынку, які размяшчаецца за рогам суседняга дома, ахайна рассоўваеш усё па належных месцах, пры гэтым ужо марыш пра кветкі на падаконні (але няма ўпэўненасці, якім колерам ты аддасі перавагу), і ў адзін з дзён сядаеш за стол на кухні, далей ад акна, якое — без цюлю і гаршчэчкаў — выглядае пасірочы, шмат разоў прыкідваеш так і сяк: што можна змяніць, дадаць, выправіць, займаешся гаспадаркаю прагна і асуджана, упэўненая, што ўначы з панядзелка на аўторак, ці з аўторка на сераду, больш верагодна, з пятніцы на суботу цябе неспадзеўкі заспее званок.

— Хто там?

— Гэта я.

Падрыхтаваная пачуць гэты голас, падрыхтаваная да з'яўлення, але палохаешся, бо чаканню заўжды належыць будучыня, а для цябе надышло "зараз"

Будзе яшчэ не так позна, і ты накінеш сваю лепшую кофту (гэта хутка), ты спяшаешся выйсці з кватэры, бо паспела сказаць. "зараз выйду" таму, хто націснуў кнопку перамоўніка і чакае ля пад'езда, — шырокія дзверы з меднай ручкай замкнёныя; чужая тэрыторыя пад'езда прыпыняе твае крокі, ты не выклікаеш ліфт, а марудна спускаешся, каб мець час падумаць, ідзеш з асуджанасцю жывёлы, хіба што не равеш, чапляешся за нядаўна пафарбаваныя парэнчы ў надзеі, што ніхто гэтым часам не вернецца дадому і не расчыніць дзверы таму, хто стаіць перад уваходам з выглядам знаўцы старасветчыны· дом, у якім ты жывеш, з іншай эпохі (гранітныя блокі заканчваюцца на ўзроўні другога паверха, высокія аканіцы, размаляваная лепка, — усё ў добрым стане, бо перад тваім прыездам дом паспелі адрэстаўрыраваць). Нарэшце першы паверх, бетонная пляцоўка па той бок дзвярэй асветленая адмысловымі — у старым стылі — ліхтарнямі, праз матавае шкло бачны дом насупраць, частка вуліцы, якая павінна была б уразіць сваёй пустэчаю, але не ўражвае, бо кожнае дрэва і кожны куст узнікаюць перад тваім поглядам пагрозлівымі сілуэтамі. Ты глядзіш па баках, а той, хто назваўся "я", ужо торгае медную ручку З-пад масіўных дзвярэй цягне проймаю, і ты нарэшце паварочваеш ключ, ка.. прахалода прыняла цябе ўсю — цалкам: ад тугі ў спалоханых вачах да ўчарашняй дзірачкі на калготках (пра існаванне якой ты пакуль не ведаеш). Аматар архітэктуры раптам раскідвае рукі табе насустрач, і ты проста падаеш у іх, не маючы сіл ані плакаць, ані смяяцца. На адно імгненне вы абое паверылі, што твой ад'езд у іншы горад быў неабходны, каб падшукаць для вас жыллё, сямейнае гняздзечка, у якім можна будзе пачувацца шчаслівымі; а насамрэч шлях твой ляжаў на захад, з перасадкамі ў невялікіх гарадках, назвы якіх не засталіся ў памяці; дарога доўжылася датуль, покуль ты не апынулася ў даволі мілым мястэчку, настолькі далёкім ад цывілізацыі, што адразу ж палюбіла яго, зачараваная ўсім катамі, тоўстымі ад пяшчоты і агульнай увагі, немаўлятамі, падобнымі да задаволена-прыручаных звяранятаў, галубамі, цяжкімі ў палёце і з таго вымушанымі сядзець на гатычных карнізах ашчадна збераженай культавай пабудовы, нарэшце, хатнімі гаспадынямі, якія шчасліва корпаюцца ў напоўненых зелянінаю кошыках на рынку квартала, дзе мясцовыя ўлады перад тваім з'яўленнем паспелі адрэстаўрыраваць раскошлівы дом-помнік. Сімпатыя ўзаемная: табе давяраюць, калі ты спрабуеш блытана тлумачыць, што згубіла багаж і крэдытную картку на сціплую суму — нішто не мае значэння ў вачах чыноўнікаў (катоў-галубоў-немаўлят-жыхароў) і гаспадыні, якая здае табе кватэру Расчуленая, ты ставіш свечку ў царкве і ўпершыню за доўгі-доўгі час спакойна засынаеш адна Млявая разняволенасць доўжыцца да таго часу, покуль не заканчваюцца грошы, але й гэта ўжо не турбуе, бо надыходзіць пэўнае веданне, што ўначы з панядзелка на аўторак, ці з аўторка на сераду будзе моўлена самотнае "зараз выйду"

Вы седзіце ў кавярні насупраць *твайго* дома: ты і той, хто — прычына ўцёкаў, п'яце "Мерло от Сакар", 1987 года, маленькімі глыточкамі; мужчынская далонь накрывае жаночую, халодныя тонкія пальцы (каб толькі афіцыянт не заўважыў іх дрыготкі!); на цёмнай паліраванай паверхні стала сірацее ружовы бутон (калі кветку не паставіць у ваду, яна звяне); вы не размаўляеце, толькі плачаце абое, але так, каб ніхто не западозрыў вас у сентыментальнасці; сонны наведнік за суседнім столікам раптам прачынаецца, адну дзве хвіліны здзіўлена вывучае вас як парачку, паварочваецца і просіць паставіць ягоныя ўлюбёныя *стари градски песни,* яны засмучаюць яго настолькі, што ён папраўдзе пачынае плакаць, вы хаваеце слёзы, вы маўчыце, вы маўчыце мацней — больш заўзята, чым да таго..

Нарэшце святло ў тваіх вокнах (адзінае ва ўсім доме) прыцягвае вас: начныя матылі — рукі сашчэпленыя, плячо ў плячо — крадком падымаюцца па шырокіх сходцах, каб праз якую хвілю заняцца любоўю Суседзі адгароджаныя тоўстай, па ўсіх правілах, гуканепранікальнай мурОўкай, і цяпер вам не трэба слаць шлюбнае ложа на падлозе.

Вы зноў кахаеце адно аднаго, бо час расстання надаў кожнаму з вас новыя рысы: пакутніцтва і святасці.

Ён расчулена заўважае свой фотаздымак на століку ля *твайго* ложка.

Упэўненыя, што набылі досвед, у якім вам няма роўных, вы пачынаеце новае жыццё ў старадаўнім доме.

Упэўненыя, што набылі досвед, у якім вам няма роўных, вы вяртаецеся назад, каб паведаміць сябрам і знаёмым, што скончыўся твой зацягнуты адпачынак, і ты перапоўненая жаданнем выйсці на працу, або заняцца хатняю гаспадаркай, або: не займацца нічым, а паспрабаваць свае здольнасці ў напісанні сентыментальнай кнігі, трылера для жанчын, бо — каханне a posteriori[7], і ў той дзень, калі раман апублікуюць, у вашым доме збяруцца самыя блізкія з настойлівымі і шчырымі віншаваннямі і, ведаючы вашу даўнюю прыхільнасць, нехта абавязкова папросіць паставіць касету: *стари градски песни.*

Гісторыя паўторыцца наноў У марах, успамінах, наяве — тое яшчэ не ведае ніхто з вас.

ІзноўРускі Цэнтр, куды я заходжу на правах заўсёдніцы, таму што вячэрнія кавярні — не лепшае месца для самотных жанчын. У відэазале дванаццаць наведнікаў (разам са мной) чытаюць нямыя цітры, *тържествен език* агучвае голас Янкоўскага; складаны Таркоўскі: хлопчык з паголенай галавою трымае ў руках бутэльку з малаком, камера ловіць яго ў старым люстры, — кадр павінен займець новы сэнс; хроніка грамадскіх падзей, якія нагадваюць нам, дванаццаці, пра катастрофы. Тых, хто ў гэты час дома ці на вуліцы, катаклізмы не турбуюць. Цягне далучыцца да іх, вольных, покуль у зале гучаць таленавітыя вершы, *език* намагаецца перадаць іхні сэнс, рытм парушаецца стратай галосных; зручней ладкуюся ў крэсле. Сон сярод нешматлікіх гледачоў выглядае непрыстойна... Мяне чакаюць, звяраюся з картай, патрэбны дом за рогам, праходжу паўз ахоўніка, які сцеражэ пасольства пад паласатым сцягам; раблю выгляд, што не маю да яго ніякай справы; ён мне верыць і адварочваецца..

У гасцях дазнаюся, што былы міністр лёгкай прамысловасці доўгі час жыў у Парыжы, яму прыемна згадваць, што цяпер цяжкі перыяд для ягонай краіны, ува мне ён бачыць прадстаўніцу вялікай дзяржавы ("згубленыя тэрыторыі, падзел на суб'екты, няма апраўдання. ") і, каб зрабіць мне прыемнае, ставіць касету з песнямі Шуфуцінскага, на настойлівую просьбу, адрасаваную паручніку Галіцыну, весела адгукаюцца наменклатурныя госці; графін на стале не пусцее, у нашых келіхах увесь час чырвонае віно Мой розум бунтуе, мы размаўляем на дыялекце, адмыслова створаным для нашых зносін; кепскі настрой не ў пашане; складаныя словы вынішчаюцца адназначна, віно развязвае языкі. Прысутныя ўважліва слухаюць; Парыж яднае двух: гаспадара і аматара выпускаў навін; Разумнік пераносіцца з намі на rue Grenelle, дзе аднойчы цалюткі вечар у старым савецкім пасольстве ўладарыла Марына Уладзі: сукенка з аголенаю спінай, грэцкі блакітны шалік з дзесяткамі звонкіх манет, абкручаных вакол галавы ("жанчыны ўжо тады спрабавалі выказацца наконт яе знешнасці; зайздрасць, вядома. "), змена танальнасці, калі яны — рука ў руку з Высоцкім пераходзілі з залы ў залу. Высоцкага ў нашай кампаніі любяць больш, чым Шуфуцінскага; "Валодзю любяць усе балгары", — з гонарам паведамляецца мне. За сваіх суайчыннікаў я адказаць не магу; зрэшты, гэта нікога не цікавіць. Наступныя паўгадзіны ласуюся сушанай японскай рыбкай, пакуль не мініяцюрная акварыумнасць перастае здзіўляць. Мая сяброўка Святлана палічыла б, што гэтую рыбку лепш за ўсё запіваць цёмным півам, яна любіць марку "Леў". Сярод ночы адплюшчваю вочы; арганізм хоча спаць, але вочы: у столь, слухаю сафійскіх салаўёў.

Усё гэта фікцыя, і паколькі фікцыя мае права быць праўдай, маё разуменне праўды разбуранае: я шкадую тых, каго давядзецца вучыць; у першы клас пойдуць шасцігодкі, дзеці, народжаныя да зліцця дзвюх славянскіх дзяржаў; паняцце "еўразія" для іх яшчэ недаступнае, дома і ў садках яны даверліва спяваюць адзіны гімн яднання: "Калыханку". Але *Санта-Клаўс* з густой барадой і ў чырвоным адзенні ўжо дасылае бацькам паштоўкі-рэкамендацыі: якія вершы ён хоча пачуць на ранішніках; ініцыятыва аматара непрадказальных святаў падтрыманая загадчыкамі раённых аддзелаў адукацыі. Нас ніхто не можа запэўніць, што на двары XX стагоддзе! Мы не маўклівая нацыя, нам проста не хочацца спрачацца з дрымучымі еўрапейцамі: яны адкрыта прызналі, што наша ўнутраная палітыка іх не датычыць... Памежныя дзяржавы адзываюць сваіх паслоў: на гэтым этапе развіцця мы становімся нецікавымі. Пазней яны салідарызуюцца з далёкім Захадам, каб распачаць кампанію хлусні, але нашы прыёмнікі будуць бязмоўнымі, і паклёп захлынецца сам сабою: каму захочацца павучаць дарма? Абаранцелька-*матушка – глухая матрона* будзе занятая ўмацаваннем эканамічных сувязяў з нашымі непрыяцелямі, цяжкасці стануць невырашальнымі, і мы прапануем новую дамову на новы саюз з тым самым партнёрам, паспеўшы, між іншым, вырашыць праблему правоў чалавека: праз высылку дысідэнтаў; нашы турмы поўныя, але не палітвязнямі, хіба што большае парушальнікаў закону аб мітынгах і шэсцях; але мы, астатнія законапаслухмяныя грамадзяне, паважаем сваю Канстытуцыю, і смела асуджаем ненадзейных; гэта бачна па шматлікіх публікацыях у прэсе, часцей — па радыё, бо газеты дарагія і на вёсках даўно прывыклі давяраць радыёкропцы; мы не кладзёмся ў сямейны ложак, покуль не пачуем родны, знаёмы да болю голас Таго, Хто раскрывае нам новыя замовы; у спісе імён і сыны матухны, якая шукае ўжо дрын, бо: *субота, і не высеку — не прощу*

На жаль, грамадзян Сусвету выносяць з радзільняў іншых дзяржаў Мая бабка-павітуха знудзела ў чаканні: ноччу Сафію асвятляюць агні, у пакоі на пятым паверсе светла нават з заплюшчанымі вачыма...

*Бяссонне не мучыць.*
*Сафію слухаць —*
*Забава прыўкрасная ад забаў*
*Чуйна, таропка выструньвае ў вуха*
*Рэха прыблуднае дзікіх сабак.*
Маё бяссонне.
Ранак у Сафіі.
Памяць паслужліва вяртае вобразы.

Мужчына і жанчына, яны тут, побач, апранаюць свае старыя ўсмешкі, накладваюць грым адзення, асабліва шчыруе жанчына: ёй яшчэ хочацца перамагаць і быць пераможанай; доўжыцца бясконцы дзень паасобку, але, калі яны ўвечары сустракаюцца дома ля тэлевізара, аказваецца, што дзень прамінуў незаўважна, а бясконца цягнецца вечар — вечар удваіх, калі трэба паказваць сімвалы ўвагі: прынесці гарбату, падаць газету, раскласці ложак. Каханне правяраецца тым, хто першы скажа "дабранач"; рытуал пройдзены, можна смела паварочвацца і пашыраць сваю фантазію пошукам начных адмысловых ценяў на сценах пакоя; прычым цені на сцяне і столі значна адрозніваюцца, што пачынае непакоіць, і вы амаль штоночы параўноўваеце вобразы; пакуль адзін з вас не наважваецца далучыцца да разгадкі сваю найдаражэйшую палову; высвятляецца, што вас хвалюе адна і тая ж праблема (о, дзякаваць Богу, гэта не падстава для сваркі!), вы зноў даверліва раскрываецеся і паварочваецеся насустрач (так зручней размаўляць), вы прызнаяцеся досыць шчыра, што не памыліліся калісьці ў выбары партнёра; словы, якія раптам вяртаюцца з глыбіні гадоў, з першых сумесных месяцаў, сведчаць, што можна быць шчаслівымі разам, але рэдка, вельмі рэдка... Нарэшце паразумеўшыся, вы прымаеце зручныя позы, каб паспець выспацца да таго, як зоймецца ранне.

Цікава, ці існуюць праблемы ў сям'і Асена?

Мінулым летам нашы адносіны з мужам зайшлі ў тупік. Наканаванне безвыходнасці было настолькі моцнае, што засталося адзінае: адмовіцца назаўсёды, адмовіцца ад няшчасця быць побач (якое, па сутнасці, пры нечаканай сустрэчы вызначылася ў нашай размове, як "шчасце, але былое"). Трыумвіратам, канцом надзей на ўзаемнасць сталася з'яўленне новага пачуцця: рэўнасці, хаця мая сяброўка Святлана назаве яго самалюбствам. І будзе мець рацыю... бо любіць адно аднаго — гэта пэўнасць, любіць сябе — зусім іншае; кахаць, прапускаючы праз сябе: сваю душу, мары, памкненні, праз свой боль, нарэшце, — гэта выпрабаванне, амаль гераічны ўчынак. А рэўнасць — памежжа; ваганне; калі не ведаеш. каму аддасі перавагу — *сабе* ці *таму, хто* адкрыты, хто даверыўся тваймушчодраму: "кахаю" Але, пакрыўджаная аматарка аналізаваць, ты заглыбляешся ў стан, прызнаны за самалюбства; у стан, калі цалкам засяроджваешся *на сваіх* перажываннях, знітаваная з імі, як слімак з ракавінкай, урастаеш у гэты ахоўны дамок. покуль не пачынаеш разумець, што аднойчы не знойдзецца ні сіл, ні жадання скінуць яго. . Падобна, ён адчувае тое самае, і пакідае шкадаваць дзяўчыну, якой дасталася поўха... Твой раман завяршаецца, мой — толькі што распачаўся: не плакаць у падушку, а — больш уважліва прыглядацца да тых, з кім едзеш у ранішнім трамваі... Пакуль словы "прабачыць" (за ўсё кепскае, што было

паміж намі!) — як гарант поспеху — не набывае ўзаемавыгодны, узаемадаверлівы, узаемараўназначны сэнс.

Цяпер усё можна цвяроза абдумаць. Увважыць. Выказаць папрокі. Падзяліцца надзеямі. Можна, зрэшты, працягнуць рукі насустрач. Абмяняцца званкамі; даведацца пра здароўе, пра справы — казаць вольна, спакойна, нібыта не было доўгіх званкоў з маўчаннем, маўчаннем, якое не датычыла нас абаіх, а толькі некага трэцяга.

На тэрасах Палангі прыемна чуць родную мову, рэдкасць, але гэта было на нашай памяці; як і больш значныя дзеі, якія былі пры нас, сведкамі якіх мы паспелі пабыць разам...

Новы партнёр? Верагодна. Новы ўзровень адносін; але раўналежнасць паміж вамі ўчорашнімі і вамі сённяшнімі выключана цалкам, прычым перавага аддаецца вам учорашнім. Каштоўнасці, па якіх вас ацэньвалі ў мінулым, сёння набываюць іншую вагу, вы губляецеся ад няведання: як паводзіцца з новымі знаёмымі, і ўжо не ўспрымаеце сябе як адзінку, як індывідуум Спелы плод сэрца наскрозь прагрызае чарвяк сумнення Вы чакаеце інфаркту ці любой іншай хваробы з пасцельным рэжымам, і аддаляецеся тым самым ад адказнасці за тое, што здарылася ў выніку вашай агульнай віны. Вы яшчэ спрабуеце даказаць. невінаваты; спрабуеце пераканаць сведкаў (шмат хто з іх ахвотна згаджаецца, але пры сустрэчах з апанентам робіцца прыхільнікам іншага) Усё дарма! Нішто не дае спакою, радасць прыносяць адно думкі пра самагубства; яны палохаюць знаёмцаў, палохаюць настолькі, што ў іх выпрацоўваецца імунітэт трымацца на бяспечнай адлегласці Іх месцы сустрэч перамяшчаюцца ў тыя кампаніі, дзе пра вас не ведаюць, дзе разважаюць на іншыя тэмы, далёкія ад суіцыду etc.

Праз шмат-шмат гадоў, упэўненыя, што вы яшчэ працягваеце кахаць адно аднаго (прычым пэўнасць узрастае прапарцыянальна пражытым гадам), вы абодва паміраеце ў розных гарадах (паміж імі пажадана мець адлегласць у сотні тысяч кіламетраў, але калі крыху меней — таксама няблага) Смерць прыходзіць уначы між двух будняў, а таму блізкія (калі яны яшчэ застаюцца) даведваюцца пра здарэнне не адразу Суседзі, не здзіўленыя цішынёй (мураўка, старадаўняе майстэрства), а толькі доўгай адсутнасцю (за апошні час яны прывыклі бачыць вас у двары, на лаўцы пад кустом бэзу, які вы самі і пасадзілі), узламаюць масіўныя дзверы і, заціскаючы насы, як спелеолагі, прабяруцца ў пакой, каб адправіць тэрміновую тэлеграму; паперка з адрасам ляжыць на століку каля смяротнага ложа; стары фотаздымак побач з цыдулкай. За лічаныя хвіліны паведамленне перададолее кіламетры адлегласці і дасягне адрасата, але. вы памерлі ў адну ноч.

Я хлушу, што не раблю іншым балюча, але ўсе вакол мяне пакутуюць, апраўданні выносяцца на ўсеагульны разгляд. Кепска, але ніхто не збіраецца пакінуць мяне ў спакоі: пра што ты думаеш цяпер? Ні пра што; перастаю думаць. На століку гатэля ў маім пакоі ляжыць зваротны білет Трэба толькі паведаміць тым, хто застаецца. Той, хто чакае, ведае: збегчы ад сябе немагчыма. У апошні момант мне могуць прапанаваць працу ці білет на іншы рэйс, у іншую краіну Развагі ўскладняюцца фізіялогіяй, дзве таблеткі аспірыну нашча яшчэ не паспелі надаць лёгкасці, галава, — як абымшэлы камень, рухі замаруджаныя. Хроніка апошніх дзён завершыцца абдымкамі на вакзале; паводле злой іроніі цягнік прыбудзе ўвечары, у той час, калі размытыя цені падкрэсляць прысутнасць чорных постацяў; "жалоба скончаная!" — крыкну ў адчыненае акно, але ніхто не зразумее, хіба што нехта адзін, а можа. Рэдкая людская плынь выведзе нас да стаянкі таксі, мы сядзем у адну з машын, поўныя слёз і цалункаў, якія перарываюцца балючымі ўколамі: на маіх каленях спачываюць ружы.

*Как хороши, как свежи были розы,*
*Твоей рукой мне брошенные в гроб.*

Ты просіш расказаць табе ўсё, усё — ад пачатку і да канца (" прызнайся"), просіш так, як просяць паслугі, не забыўшыся пры гэтым пакласці маю руку на твае валасы, рука застаецца нерухомаю, і ты круціш галавой, імітуючы пагладжванне:

— Скажы.

Паўза непрыстойна зацягваецца. Нічога не застаецца.

— Хочаш, я раскажу табе казку; казку (занадта складаную, каб быць праўдай.)

*Сафія, сакавік-красавік, 1997*

---

[1] паштовая скрыня (балг ).

[2] Так дажыве да вясны на скрытным месцы без звяроў, без ворагаў (балг )

[3] сувенір, зроблены па традыцыі, з нітак белага і чырвонага колеру, які 3 сакавіка, у дзень бабы Марты, дорацць адзін аднаму і прышпільваюць на адзенне.

[4] партыя, якая другі раз атрымала ўладу ў Балгарыі напачатку 1997 г

[5] вядомы балгарскі палітычны дзеяч, загінуў 2 кастрычніка 1996 г.

[6] герой рамана М Фрыша "Назаву сябе Гантэнбайн"

[7] на аснове досведу (лац.).



# Паўла УРБАН

НАШ



*занатаваныя ў летапісах палітычныя прэтэнзіі Кіева да Полацкага княства, у тым ліку й выстаўленьне полацкага князя Ізяслава ў якасьці сына Ўладзімера Сьвятаславіча, былі вынаходзтвам летапісцаў пачатку XII стагодзьдзя, калі Кіеўская Русь стаяла на парозе поўнага развалу й тым-жа часам узмоцнілася ейная агрэсія супраць Полацкага княства або ягоных паасобных земляў.*

## *Пра Паўлу Урбана*

**Паўла Урбан нарадзіўся 27 сакавіка 1924 г. у шматдзетнай сялянскай сям'і ў вёсцы Закаліўе, што на Лепельшчыне. Дзядзька ягоны ў 1920-м загінуў у партызанцы супраць палякаў, а бацька ў 1929-м быў раскулачаны Саветамі, хоць гаспадарку меў серадняцкую. Сям'ю двойчы гвалтам заганялі ў калгас. Паўлу ж, як сыну "кулака", не дазволілі вучыцца нават на слесара. На ўласныя вочы юнак бачыў несправядлівасці, а ў 1930-х і рэпрэсіі, якія цярпелі аднавяскоўцы.**

**Калі пачалася вайна, застаўся з роднымі ў сваіх мясцінах. У 1944 годзе ў складзе вядомай 30-й Усходняй дывізіі быў перакінуты ў Францыю, дзе іх батальён перайшоў на бок амерыканцаў. Пасля другой сусветнай вайны вучыўся ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Рэгенсбургу, працаваў на шахтах у Вялікабрытаніі, быў сябрам гэтак званай "Дванаццаткі" маладых беларускіх патрыётаў, якая выдавала літаратурна-грамадскі часопіс "Наперад".**

**Закончыўшы гістарычны факультэт Лювэнскага каталіцкага універсітэта, Паўла Урбан падрыхтаваў дысертацыйнае даследаванне "Вялікае Княства Літоўскае ў часы вялікага князя Аляксандра. 1492–1506".**

**З 1955 г. і па сёння жыве ў Мюнхене. Ажаніўся, збудаваў дом, атрымаў нямецкае грамадзянства. Спачатку працаваў у Інстытуце вывучэння СССР, затым пятнаццаць гадоў быў супрацоўнікам радыё "Свабода". У тыя часы ў Мюнхене літаральна віравала беларускае грамадска-культурнае жыццё: функцыяніравала беларуская**

# “ХТО ПА СВАЙМУ ПАХОДЖАНЬНЮ БЕЛАРУСЫ?”

Гэтак загалоўлены першы разьдзел брашуры прафэсара Абэцэдарскага На пачатку гэтага разьдзелу Абэцэдарскі інкрымінуе Беларусам за мяжой тое, што яны, “выконваючы загад сваіх сучасных гаспадароў”, “назойліва” прытрымоўваюцца гэтак званай “балцкай тэорыі” паходжаньня беларускага народу Яны быццам цьвердзяць, што “беларусы сваім прыходам із Захаду, сваёй культурай, доўгі час балцкай, вельмі розьніліся ад усіх народаў славянскай мовы” Гэтым самым, як часта паўтарае Абэцэдарскі, яны, бач, хочуць “пакінуць Расею па-за Эўропай”, вылучыць з гэтае Расеі Беларусь Хто на імя прытрымоўваецца гэткае канцэпцыі, Абэцэдарскі не называе

На самай рэчы, “балцкая тэорыя” пра паходжаньне беларускага народу, якая канстатуе, што ў паўстаньні гэтага народу меў удзел балцкі (неабавязкава г зв. “літоўскі”) субстрат, — гэта ніякі ня “вымысел” нейкіх “беларускіх нацыяналістых” Тэорыя гэтая йснуе ўжо даўно, яшчэ ад мінулага стагодзьдзя, і яна ўзьнікла найперш у васяродзьдзі расейскіх ды польскіх навукоўцаў Пры канцы мінулага стагодзьдзя яе выстаўлялі ды абгрунтоўвалі гэткія гісторыкі, як П Галубоўскі ды А. Качубінскі Яна грунтуецца галоўна на дадзеных тапанімікі, лінгвістыкі й археалёгіі Удзел балцкага субстрату ў этнагенезе беларускага народу прызнавалі й гэткія вучоныя, як Я Карскі ды Ул Пічэта, якім Абэцэдарскі хіба-ж ня ў стане прыляпіць нейкага “беларускага нацыяналізму”. У СССР цяпер гэтая тэорыя распрацоўваецца, прыкладам, расейскім археалёгам В В Сядовам[1] ды яна падтрымваецца й іншымі савецкімі расейскімі й украінскімі гісторыкамі й археалёгамі[2] Зь нейкіх незразумелых прычынаў тэорыя гэтая не распрацоўваецца ў БССР ды тут заўважаецца тэндэнцыя аспрэчваць ейную вартасьць[3]

Згаданая тут “балцкая тэорыя” паходжаньня Беларусаў мае пад сабой пэўны грунт Няма нічога “прыніжальнага” ў тым, калі ў складзе беларускага народу застаўся асыміляваны балцкі субстрат Гэтак званых “чысьцюсенькіх” у этнічным дачыненьні народаў фактычна ніколі не йснавала Тымчасам, як цьвердзіць, прыкладам, згаданы Сядоў, гэтая “балцкая тэорыя” дапамагае зразумець выразную гістарычную апрычонасьць беларускага народу, якая, як падчырквае ён, паўстала ня ў выніку развалу Кіеўскае Русі й ня ў сувязі з уваходам сучасных беларускіх земляў у склад

---

**рэдакцыя радыё “Свабода”, выходзіла беларуская газета “Бацькаўшчына”, навуковы гадавік “Запісы” (1962–1970), “Беларускі зборнік”, выданні мастацкай літаратуры, і ва ўсім гэтым Урбан браў самы чынны ўдзел. Для радыё ён рыхтаваў скрыпты на актуальныя тэмы гісторыі Беларусі, адначасова выступаючы з грунтоўнымі навуковымі артыкуламі. Вучоны сачыў ці не за ўсімі гістарычнымі выданнямі ў Беларусі і часта рэагаваў палемічнымі водгукамі. На ягоным рахунку каля ста публікацый з розных перыядаў гісторыі Беларусі па складаных пытаннях гістарыяграфіі і палітыкі – на беларускай, рускай, ангельскай, нямецкай і французскай мовах. Варта згадаць ягоныя артыкулы “Кастусь Каліноўскі і “Мужыцкая Праўда” (1963), “Пра нацыянальны характар Вялікага Княства Літоўскага і гістарычны тэрмін “Літва” (1964), “Возрождение “национализма” в историографии БССР” (1967).**

**Коштам фундацыі імя Пётры Крычэўскага выйшла кніга Паўлы Урбана “У сьвятле гістарычных фактаў” (Мюнхен–Нью-Ёрк, 1972), адкуль і ўзяты прапанаваны чытачам “Крыніцы” раздзел, прысвечаны, як і ўся кніга, палеміцы з вядомым прадстаўніком афіцыйнай гістарыяграфіі Л.С. Абэцэдарскім (Апошні выдаў у 1969 годзе ў Мінску сумна вядомую брашуру “У святле неабвержных фактаў”, дзе займаўся апалогіяй тэзісаў пра “адзіную старажытнарускую народнасць”, пра адсутнасць да XX стагоддзя беларускай дзяржаўнасці etc.)**

**Чатыры гады таму ў Мінску пабачыла свет яшчэ адна кніга П. Урбана – “Да пытання аб этнічнай прыналежнасці старажытных ліцвіноў”.**

**І цяпер, быццам сорак гадоў таму, нястомны Паўлюк, як яго называюць сябры, у далёкім Мюнхене карпее над старадрукамі, піша чарговую працу з беларускай гісторыі, толькі час ад часу адрываючыся, каб прыпасці да радыё і пачуць пра падзеі на Бацькаўшчыне.**

**Генадзь САГАНОВІЧ**





Вялікага Княства Літоўскага, а куды раней. Для ведама прафэсара Абэцэдарскага зацытуем асноўную думку Сядова, што грунтуецца на ягоных шматгадовых дасьледваньнях:

“Таким образом, — падсумоўвае ён, — изучение истории и некоторые языковые данные позволяют говорить о воздействии балтского субстрата на формирование белорусской этно-лингвистической общности..

При изучении процесса формирования белорусского языка и народности нельзя недоучитывать и политико-экономические факторы Включение западнорусских земель в состав Литовского государства и признание белорусского языка в качестве официального языка в этом государстве несомненно повлияли на эволюцию днепродвинско-неманского славянства в особую этнографическую единицу Однако политическое обособление западнорусских земель не было первопричиной образования белорусского языка и народности В сложении белорусов более существенная роль принадлежит этническому и языковому субстрату[4]

Што-ж да гэтак званага “прыходу Беларусаў із Захаду”, дык пра гэта ў нейкай ступені гаворыцца ў “Повести временных лет” — хоць-бы ў апавяданьні пра Радзімічаў. Таксама той-ж В В Сядоў даволі пэўна давёў, што й Крывічы прыйшлі з захаду, г зн раней уваходзілі ў заходнюю групу славянства[5] А Крывічы, як ведама, былі асноўным кампанэнтам сучаснага беларускага народу Вынікае, што й у гэтым выпадку няма падставаў абвінавачваць у чымсьці “беларускіх нацыяналістых”

Даволі заблытаная гісторыя старажытных Ліцьвіноў-Літвы, ведамыя з даўных часоў славянскія асаблівасьці іхнай мовы й культуры змушаюць некаторых беларускіх навукоўцаў зьвярнуцца да заходніх прыбалтыцкіх Славянаў, што калісьці выступалі пад назовам Люцічы-Велеты-Вільцы. Гэта тым больш, што шмат раней Пталамей зьмяшчаў іх дзесьці на ўсход ад Віслы, а ў гістарычных крыніцах часоў Міндоўга й Гедыміна таксама летапісная “Літва” называлася часамі Лютвой і Ліцьвінамі, г.зн гэтым сваім назовам зьбліжалася з тымі-ж Люцічамі-Вільцамі — лютымі ваўкамі Як ведама, і тапаніміка Заходняй Беларусі, асабліва Віленшчыны, багатая тэрмінамі, зьвязанымі з гэтым лютым зьверам вілкам-ваўком (Ваўкавыск, Вількомір, Ваўкавышкі, Валкінікі, Вільканцы, Ваўкалаты, Вількішкі й іншыя), што таксама трэба браць пад увагу Вось тут і ўзьнікае пытаньне, ці ня было нейкай лучнасьці між заходняпрыбалтыцкімі Люцічамі-Велетамі-Вільцамі й усходнімі Літвой-Лютвой-Ліцьвінамі Першыя маглі пасунуцца на ўсход у выніку франка-саксонскіх войнаў ці пазьнейшага нямецкага наступу супраць прыбалтыцкіх славянаў

Гэтае дапушчэньне быццам падцьвярджаецца сагай Тыдрэка Бэрнскага, у васнове якой ляжыць саксонская легенда з IX—X стагодзьдзяў Паводля гэтае сагі — аналёгію чаго можна адшукаць у апавяданьнях пра Рагвалода — князь Люцічаў-Вільцаў Вількін зьдзейсьніў паход на ўсход, захапіў Полацак і Смаленск, а затым і “сталіцу рускага князя” — Ноўгарад. Пасьля ягонае сьмерці, аднак, верх узяў гэты “рускі князь” (Гэртніт з сынамі Азантрыксам, Вальдэмарам і Ільлёй), падпарадкаваўшы навет “зямлю Вільцінаў”[6]

Таксама, як ведама, старажытныя Ліцьвіны сваё паходжаньне выводзілі ад Рымлянаў — сучаснікаў Юлія Цэзара й Пампэя (у іншых варыянтах — сучаснікаў Нэрона). Падобная легенда бытавала й у Люцічаў-Вільцаў, згодна якое галоўны іхны горад, калісьці слаўны Волін, таксама быў заснаваны гэтым Юліем Цэзарам[7]

Праўдападобна, прафэсар Абэцэдарскі за гэтыя нясьмелыя спробы “беларускіх нацыяналістых” спалучыць Люцічаў-Велетаў-Вільцаў зь Літвой-Лютвой-Ліцьвінамі інкрымінуе ім згаданую вышэй “ерэсь” Аднак-жа, як і кожная праўда, праўда гістарычная нараджаецца ў пошуках і дыскусіях, і гэтыя пошукі й дыскусіі ня могуць быць загадзя схарактарызаваныя як нейкая “буржуазна-нацыяналістычная назойлівасьць”. Як ведама, калісьці было спыненае вывучэньне дзейнасьці Ф. Скарыны й К. Каліноўскага й спыненае толькі з тае прычыны, што гэтую іхную дзейнасьць нехта назваў “папоўшчынай” і “мяшчанствам” У сувязі з гэтым тут згадаем і пра наступнае

Ведамы савецкі гісторык Б.А. Рыбакоў, прыкладам, займаецца ўсемагчымымі экспэрымэнтамі ў пошуках гэтак званага славянскага народу ці племя “Русь-Рось” Існасьць гэтых ягоных пошукаў і экспэрымэнтаў у тым, што гэты народ Русь ён выводзіць ад містычных Росаў Псэўда-Захарыя й “Росаманаў” Йёрдана, шукае сьледу

гэтага народу ў тапанімічных назовах "Рось" ды катэгарычна цьвердзіць, што гэты "народ Русь" і ягоная "Руская дзяржава" йснавалі ў Сярэднім Прыдняпроўі ўжо ў VI стагодзьдзі ды навет і раней. Гэтыя экспэрымэнты Рыбакова знаходзяць доступ навет у шматтомныя акадэмічныя выданьні[8], а сам ён славіцца ў савецкай гістарыяграфіі як "выдающийся историк-патриот"

Іншы савецкі гісторык, кандыдат гістарычных навукаў А.Г Кузьмін, у гэтым дачыненьні выходзіць з супрацьлежнага боку Народ Русь ён шукае сярод заходнепрыбалтыцкіх славянаў і адсюль перасяляе яго ў Ноўгарад, а затым і ў Кіеў[9] Наадварот, ведамы гісторык і археалёг П Н Трацьцякоў, які даўгі час прытрымваўся канцэпцыі Рыбакова, у вапошняй з сваіх працаў прыйшоў да наступнае высновы.

"Общий итог наших попыток ответить на вопрос, кем были древние русы, давшие свое имя древнейшему государственному образованию днепровских славян, является далеко не утешительным Группа археологических памятников, быть может, принадлежавшая этому "племени", как видим, пока что не поддается сколько-нибудь удовлетворительной этнической расшифровке"[10]

Тут і ўзнікае пытаньне: чаму ў гэтым выпадку за нясьмелыя спробы спалучыць старажытных Літву-Лютву-Ліцьвіноў з заходняпрыбалтыцкімі Люцічамі-Велетамі-Вільцамі беларускія навукоўцы абавязкова надзяляюцца мянушкай "буржуазных нацыяналістых" ці навет "паслугачоў" таго ці іншага ідала?! Як бачна, у зразуменьні прафэсара Абэцэдарскага тут павінен дзеіць старарымлянскі прынцып· Quod licet Jovi, non licet Bovi!

Далей, прафэсар Абэцэдарскі імкнецца давесьці, што, пачынаючы ад сівое мінуўшчыны й канчаючы на XIV стагодзьдзі, ня можа быць мовы пра апрычонае нацыянальнае й дзяржаўнае разьвіцьцё беларускага народу. Ён катэгарычна цьвердзіць, што культурна, моўна, рэлігійна й дзяржаўна тады йснавалі "старажытнарускі" народ і "старажытнаруская" дзяржава, непадзельныя ў сваёй існасьці Гэтае "старажытнарускае" адзінства не пакрыжавалася навет фактам канчальнага распаду Кіеўскай Русі на пачатку XII стагодзьдзя. Іншыя пагляды ён залічвае да "хлусьлівых сьцьверджаньняў сучасных фальсыфікатараў гісторыі Беларусі", што пушчаюцца ў ход дзеля таго, каб "супрацьпаставіць беларускі народ рускаму", "стварыць бачнасьць, што ў далёкім мінулым сучасныя брацкія ўсходнеславянскія народы ня мелі нічога супольнага" Гэтыя свае сьцьверджаньні прафэсар Абэцэдарскі будуе, фактычна, на сыпучым пяску, тым-жа часам выступаючы й супраць паглядаў (у васобных выпадках) некаторых аўтарытэтных савецкіх гісторыкаў Гэтак, прыкладам, вышэйзгадваны Рыбакоў, усяляк абараняючы гэтае "старажытнарускае" адзінства, усёткі павінен быў прызнаць, што распад Кіеўскай Русі на шмат незалежных княстваў "тыпу заходняэўрапейскіх каралеўстваў" быў спрычынены хісткай палітычнай структурай гэтае "старажытнарускае" дзяржавы, папярэднім адасобленым разьвіцьцём і традыцыйнай варожасьцяй да яе ейных паасобных кампанэнтаў Пры гэтым Рыбакоў даволі часта нагадваў пра "раньняе адасабненьне" Полацкага княства, хоць ён і ўлучае гэтае княства ў склад Кіеўскае Русі недзе ў IX стагодзьдзі ды навет і раней

Вышэй мы гаварылі пра "балцкую тэорыю" паходжаньня беларускага народу В В Сядова й іншых савецкіх гісторыкаў З гэтай тэорыяй, якая не пакідае й сьледу ад канцэпцыі пра гэтак званы "адзіны старажытнарускі народ", не пагаджваецца, прыкладам, П.Н Трацьцякоў Але-ж і ён канстатуе

"Очевидно, правы были те историки XIX в., которые считали кривичей "наполовину литовцами" И недаром наименование этой группировки — кривичи — имеет балтийское происхождение Криве — это имя одного из персонажей литовской языческой мифологии"[11].

Тут Трацьцякову трэба было-б выходзіць з адваротнага боку, бо ня трэба забывацца, што да канца XII стагодзьдзя старажытныя Ліцьвіны знаходзіліся ў залежнасьці ад Крывічоў і ад апошніх толькі маглі запазычыць свой гэты "мифологический персонаж" — Крывэ-Крывэйта Здаецца, гарады Крэва ці Крыўгорад (што стаяў на месцы пазьнейшае Вільні) таксама былі заснаваныя гэтымі Крывічамі Але й гэтае прызнаньне, што Крывічы былі "наполовину литовцами", сустракаецца з тэй-жа "балцкай тэорыяй" на некарысьць канцэпцыі пра непадзельную "старажытнарускую народнасьць", праблемам якой і прысьвяціў цытаваную тут працу Трацьцякоў.





Аднак вярнемся да непадзельнае "старажытнарускае" дзяржавы. Прыкладам, у сваёй працы "Полацкая зямля", спэцыяльна прысьвечанай Полацкаму княству, рэдактарам якое быў акадэмік Б Рыбакоў, маскоўскі гісторык і археалёг Л Аляксееў прыходзіць да такое высновы

"Итак, Полоцкое княжество представляло наиболее самостоятельную политическую единицу древней Руси, обладавшую к тому же и оригинальной культурой. Во внутриполитической жизни княжества это проявилось прежде всего в известном своеобразии социального строя, выразившемся в развитии вечевого начала в XII в и в слабости княжеской власти Во внешнеполитической жизни княжества обособленность начала проявляться весьма рано Уже Брячислав овладел торговыми путями у волоков пути "из варяг в греки" (1021 г ), обеспечивая тем самым контроль товаров, идущих в южную Русь и обратно, а при Всеславе Полоцкая земля почти полностью освободилась от власти Ярославичей в течение всей второй половины XI в Феодальная раздробленность, захватившая Полотчину в XII в. и ослабившая власть князей, ищущих в борьбе с горожанами союзников в среде враждующих между собой княжеских группировок южной Руси, не сломила прежних сепаратистских устремлений Полоцкой земли Киевским князьям не удается навязать Полоцку своих ставленников, в деле мира, войны и приглашения князей полоцкие бояре и именитые горожане ведут свою самостоятельную политику"[12].

Мы ня можам згадзіцца й з гэтай канстатацыяй Л Аляксеева, бо тут, як пісаў калісьці ў вадпаведнай рэцэнзіі Мікола Ўлашчык (зь Інстытуту гісторыі Акадэміі навукаў СССР), недацэньваецца палітычная незалежнасьць і магутнасьць Полацкага княства, якое, згодна асьветчаньня таго-ж Улашчыка, "фактычна ніколі не падначальвалася Кіеву"[13] Гэтую думку Ўлашчыка пазьней падтрымаў і згадваны тут расейскі гісторык А.Г Кузьмін, які таксама пісаў· "Локализация кривичей в верховьях трех рек и исключение их из числа подчиненных Киеву племен также относится ко времени Ярослава и его сыновей, когда здесь, видимо, было самостоятельное княжение Полоцк был подчинен Киеву при Владимире (978—1015) Но при нем же княжество обособляется снова"[14] Дарэчы, як прызнаецца сам Аляксееў, у сваёй працы "Полацкая зямля" ён "стремился показать, что, несмотря на черты обособленности, Полоцкая земля никогда не порывала экономических и культурных связей с Киевской Русью" й "что, несмотря на балтийский субстрат в прошлом, этническое самосознание населения Полотчины прочно тяготело к землям всей Руси, с которыми ее связывали общность территории, экономической жизни, языка и культуры", што, нарэшце, "будучи от Руси неотделимой, Полоцкая земля принимала живейшее участие в сложении русской народности"[15] Аднак-жа, нягледзячы на гэтую казуістыку, зацытаваная вышэй канстатацыя Аляксеева дыямэтральна разыходзіцца з канцэпцыяй Абэцэдарскага.

Можна дадаць, што з гэтай канцэпцыяй Абэцэдарскага не пагаджаецца таксама сяньня даволі ўплывовы савецка-расейскі гісторык В.Л Янін. Прымыкаючы да тэорыі пра заходнеславянскае паходжаньне Крывічоў ды пра ўдзел заходняпрыбалтыцкіх Славянаў у заснаваньні Ноўгараду, а таксама зьвяртаючы ўвагу на імкненьні полацкіх князёў пашырыць межы свайго княства ў кірунку "крывіцкіх" Пскова, Ноўгараду й Смаленску, у сваім супольным з М.Х. Аляшкоўскім артыкуле ён, між іншага, піша ў вадпаведнай зносцы

"Отметим также, что в наше время, говоря о Руси, историки обычно преуменьшивают значение Полоцка и противопоставляют только Киев и Новгород как два главных города. Между тем, с точки зрения героев Эймундовой саги, вся Русь делилась на три части — Новгород, Полоцк и Киев. В связи с этим понятно, почему в XI в. Софийские соборы имелись только в этих трех городах и нигде больше, что отражает соперничество трех центров даже в области церковного строительства"[16]

Гісторыю Полацкага княства прафэсар Абэцэдарскі наагул абыходзіць поўным маўчаньнем Заміж таго, каб хоць крыху зазірнуць у гэтую гісторыю, ён працягвае паўтараць наступную зьбітую "праўду"·

"Палітычная гісторыя заходніх зямель Русі таксама была неаддзельнай ад палітычнай гісторыі ўсёй Старажытнарускай дзяржавы У паходах кіеўскага князя Алега на Візантыю прымалі ўдзел і воіны заходнерускіх зямель Пераможаная Візантыя была

вымушаная даць "уклады" (дань) шмат якім старажытнарускім гарадам, у тым ліку і Полацку. Жыхары заходніх зямель Русі ўдзельнічалі ў абароне паўднёвых земляў Старажытнарускай дзяржавы ад нападаў качэўнікаў-печанегаў У 1068 г кіяўляне, паўстаўшы супраць вялікага князя Ізяслава, пасадзілі на вялікакняжацкі прастол полацкага князя Ўсяслава" (бб 12—13)

Тым-жа часам, перш-наперш, няма ніякіх асноваў улучаць Полацкае княства ў склад Кіеўскай Русі за часамі Алега (882—912) ці навет яшчэ раней Такога паходу Алега на Бізантыю ў 907 годзе, пра які тут кажа Абэцэдарскі, зусім не адбылося Бізантыйскія крыніцы, якія занатоўвалі ўсе іншыя набегі Русі, пра гэты "пераможны" паход Алега ня знаюць, дый у "Повесть временных лет" ён трапіў як фантазія летапісца, складзеная з элементаў іншых набегаў на Бізантыю тае-ж Русі й Баўгарыі[17] Значыцца, не магло браць удзелу ў гэтым паходзе й Полацкае княства. З гэтае прычыны яно не магло й скарыстаць з тых "пераможных укладаў", якія быццам-бы тады былі накінутыя Алегам Бізантыі Сваім часам яшчэ А.А. Шахматаў, дапушчаючы магчымасьць існаваньня нейкае гандлёвае ўмовы з 907 году, паставіў пад пытаньне праўдзівасьць гэтых "пераможных" паходаў Алега й ягоных "укладаў" зь Бізантыяй ды давёў, што ўлучэньне ў гэтую афэру Полацку, Растова й Любеча было звычайным "домыслом составителя "Повести временных лет". Пасьля да падобнае думкі прыйшоў і савецкі гісторык А.Н Насонаў[18]; а зусім нядаўна паўтарыў яе іншы савецкі гісторык В.А. Кучкін, зазначаючы, што, прыкладам, Растоў ня мог браць удзелу ў гэтым паходзе Алега ўжо толькі з тае прычыны, што тады ён яшчэ зусім не йснаваў[19]

Дарэчы, за часамі Алега не йснаваў таксама й Пераяслаў, аднак аўтар "Повести временных лет" улучае й яго ў гэтыя Алегавы "ўклады" Таксама ў Любечы ніколі ня было "вялікага князя", але той-жа аўтар, як у выпадку Полацку, Растова, Пераяслава й Чарнігава (Ноўгарад наагул адсутнічае), і ў Любечы садзіць "вялікага князя" ды "ўзалежнівае ад Алега" "вялікіх князёў" усіх гэтых гарадоў ("по тем бо городом седяху велиции князи под Олгом суще").

Трэба тут яшчэ нагадаць і пра той факт, што няма гутаркі пра Полацак у гандлёвых умовах Кіеўскае Русі зь Бізантыяй 912 і 944 гадоў; ня згадвае пра Полацак і бізантыйскі імпэратар Канстантын Парфірагенэт, хоць у сваёй ведамай працы ён і пералічвае ўсе залежныя ад Кіева гарады Дарэчы, у другой палавіне X стагодзьдзя Полацкае княства жыло сваім незалежным палітычным жыцьцём, пра што будзе гутарка ніжэй Як вынікае, незалежным яно было і ў першай палавіне гэтага X стагодзьдзя. Шмат якія савецкія гісторыкі, у тым ліку А Н Насонаў, М І. Артамонаў і В Т Пашута[20], канстатуюць, што за часамі Алега й пасьля Кіеўская Русь абмяжоўвалася да земляў сьціслае Кіеўшчыны й Ноўгарадчыны Ейны тэрытарыяльны рост прыпадае толькі на часы княжаньня Сьвятаслава Ігаравіча й ягонага сына Ўладзімера, пра што, між іншага, сьветчыць і "Повесть временных лет" Для ранейшых часоў, прыкладам, Пашута дапушчае йснаваньне нейкага незалежнага дзяржаўнага аб'еднаньня ("саюзу племяў") з цэнтрам у Полацку

Між іншага, у "Повести временных лет" пра Палацак згадваецца яшчэ пад 862 годам, г.зн раней княжаньня Алега Тут ідзе гутарка пра тое, як Рурык быў пакліканы ў Ноўгарад ды раздаваў "мужем своим грады· овому Полотеск, овому Ростов, другому Белоозеро" Пад 980 годам зноў паведамляецца, што "бе бо Рогволод пришел из заморья" й "имяше власть свою в Полотьске" Як можам канстатаваць, тут, фактычна, паўтараецца адна й тая-ж легенда пра "вараскае" валоданьне ў Полацку: і пакліканы "вараг" Рурык тут садзіць "свайго мужа" і Рагвалод прыходзіць "из заморья" Згадваецца таксама й пра той-жа Растоў, які, згодна В.А. Кучкіна, быў заснаваны толькі ў канцы X ці пачатку XI стагодзьдзя Зноў-жа, гістарычна даведзена, што гэтак званыя Варагі-Русы аселі на ўсходзе Эўропы куды раней, а гэта недзе на пачатку IX стагодзьдзя, пра што сьветчаць шмат якія крыніцы, у тым ліку й крыніцы арабскага паходжаньня[21]

Даводзіцца толькі сьцвердзіць, што IX стагодзьдзе — гэта даволі цёмны пэрыяд у гісторыі ўсходніх Славянаў, што прывяло да ўзьнікненьня розных дапушчэньняў, да ведамага змаганьня ў гістарыяграфіі між "нарманістамі" й "антынарманістамі" Яшчэ цямнейшы быў ён для аўтара "Повести временных лет" Не забывайма, што гэтую "повесть" ён пісаў на пачатку XII стагодзьдзя, калі Кіеўская Русь перажывала агонію поўнага развалу Маючы жаданьне і заданьне ратаваць ейную цэласьць і "магутнасьць",





ён, бясспрэчна, узаляжняў ад Кіева з даўных часоў усе землі ўсходніх Славянаў, у тым ліку й Полацкае княства, тым больш, што гэтае княства сваёй незалежнасьцяй найбольш спрычынілася да развалу самое Кіеўскай Русі.

Выходзячы зь гісторыі палітычна-тэрытарыяльнага росту Кіеўскай дзяржавы ў X стагодзьдзі й з факту незалежнасьці Полацкага княства ў другой палавіне гэтага стагодзьдзя, даводзіцца таксама канстатаваць, што Полацкае княства было самастойным і раней У другой палавіне X стагодзьдзя ў Палацку княжыў Рагвалод. Ён быў гістарычна-рэальнай асобай, бо пра яго шмат згадваецца ў летапісах ды сярод князёў Полацкага княства й пазьней сустракаліся князі на імя Рагвалод. Пра першага гістарычна ведамага полацкага князя Рагвалода ў летапісах паведамляецца супярэчліва. Гэтая супярэчлівасьць датычыцца й да ягонага канфлікту з ноўгарадзкім князем Уладзімерам. Летапісы гэты канфлікт адносяць да 980 году, і ён быццам узьнік з тае прычыны, што ў змаганьні Ўладзімера з сваім братам кіеўскім князем Яраполкам Рагвалод сьхіліўся на бок Яраполка, пасватаўшы навет за яго дачку Рагнеду У сувязі з гэтым Уладзімер напаў на Полацкае княства, забіў Рагвалода й "сына его два", сілай забраў Рагнеду, тады перамог Яраполка. Схэма гэтая выглядае даволі спрошчанай, бо цяжка дапусьціць, каб Ўладзімер адначасна мог выступіць і супраць Кіева, і супраць Полацку. Таксама ў гэтую схэму неяк не ўплятаецца пазьнейшая "міласьлівасьць" Уладзімера — зварот Рагнедзе "з сынам" Полацкага княства, пры гэтым у вабставінах, калі гэтая "паланянка" ці звычайная "ваенная здабыча" зрабіла замах на жыцьцё таго-ж Уладзімера

Калісьці яшчэ А.А. Шахматаў зьвязаў гэтую сутычку Рагвалода з Уладзімерам з 970 годам[22] Дарэчы, і ў летапісах сустракаюцца асьветчаньні, што гэтая сутычка здарылася тады, калі Ўладзімер быў яшчэ "дзіцём", а ў канфлікце галоўную ролю адыгрываў Дабрыня — дзядзька й ваявода Ўладзімера. Яны й былі пакліканыя ў Ноўгарад у 970 годзе. Расейскі гісторык XVIII стагодзьдзя В.Н Тацішчаў, які карыстаўся летапісамі, у тым ліку адным із полацкіх летапісаў, што пасьля загінулі (праўдападобна, у пажары Масквы 1812 году), пісаў, што разгляданы тут канфлікт узьнік у сувязі з тым, што полацкі князь Рагвалод "повоева волости новогородские"[23] І гэта магло здарыцца ў 971 годзе. У гэтым годзе кіеўскі князь Сьвятаслаў Ігаравіч, бацька Ўладзімера, у баўгарскім паходзе мусіў быў скапітуляваць перад бізантыйскім імпэратарам ды загінуў ад Печанегаў, варочаючыся ў Кіеў Гэтыя абставіны мог выкарыстаць Рагвалод, напаўшы на Ноўгарад. У гэтай вайне з Ноўгарадам Рагвалод, праўдападобна, і загінуў

Полацкае княства, аднак, ня страціла свае самастойнасьці. Найбольш праўдападобна, што княжая ўлада ў ім перайшла да Рагнеды, якая, магчыма, была не дачкой, а жонкай Рагвалода. Ейным сынам быў Ізяслаў, які адначасна быў адным з тых "двух сыноў" Рагвалода, што быццам-бы загінулі разам з бацькам Як паведамляецца ў летапісах, гэты Ізяслаў памёр у 1001 годзе, таксама ўжо маючы двух сыноў: Усяслава, што памёр у 1003, і Брачыслава Гэты Ўсяслаў згадваецца, як полацкі князь, што змушае ўгледжваць у ім дарослага чалавека. Дзецьмі, што паміралі рана, тым больш дзецьмі "правінцыяльных" князёў, звычайна кіеўскія летапісы не займаліся. Усё гэта змушае адначасна ўважаць і Ізяслава за куды старэйшага, чымся мог быць як сын Ўладзімера й Рагнеды, народжаны дапушчальна ў 981 годзе, г.зн пасьля гэтак званага зваяваньня Полацкага княства Ўладзімерам і "паланеньня" Рагнеды ў 980 годзе Аднесьці "паланеньне" Рагнеды да падзеяў 971 году й зьвязаць з гэтым годам і нараджэньне Ізяслава мы ня можам з прычыны маленства ў тым часе самога Ўладзімера

Таму дапушчальна, што пасьля сьмерці Рагвалода ў 971 годзе Рагнеда княжыла ў Полацку, у сувязі з чым, ужо будучы пры двары кіеўскага князя, яна ня зьніжала тут галавы й дзейнічала энэргічна ці як "царыца" Пазьней, калі Ўладзімер перамог свайго брата Яраполка й прыдбаў славу моцнага князя Кіеўскай Русі, дайшло да сужэнства Рагнеды з Ўладзімерам Сужэнства гэтае насіла больш палітычны характар ці прадбачвала палітычна-дынастычную вунію Полацкага княства зь Кіеўскай дзяржавай У Полацку аднак часова заставаўся княжыць сын Рагнеды — Ізяслаў[24] Пасьля 988 году, калі Ўладзімер прыняў хрысціянства й ажаніўся зь бізантыйскай прынцэсай, вярнулася ў Полацак і сама Рагнеда.

І Рагнеда вярнулася ў Полацак не таму, што быццам на просьбу баяраў ("уже не

убии ея деля сего, но воздвигни отчину ея и даи еи с сыном своим") яна была высланая сюды самым Ўладзімерам  Ня можна ўявіць Ўладзімера нагэтулькі сантымэнтальным, каб з прычыны сьлёзаў "паланянкі" ці гэтага заступніцтва баяраў ён мог згадзіцца на адасабненьне ад Кіеўскай Русі Полацкага княства, раней "заваёванага" ім Ўладзімер якраз і вызначаўся сваёй палітыкай узбуйненьня Кіеўскае Русі й наданьня апошняй нейкае дзяржаўна-палітычнае цэласьці  Калі ён, як гэта згадваецца ў летапісах, зьвярнуў Рагнедзе ейную "отчину", дык на гэта павінны былі быць нейкія паважныя прычыны.

Як-бы там ня было раней, але даводзіцца сьцьвердзіць, што пасьля звароту Рагнеды ў Полацак Полацкае княства жыве сваім самастойным жыцьцём, бо, як згадваецца ў летапісах, "и оттоле мечь взимають Рогволожи внуци противу Ярославлим внуком"  Тым больш яно было незалежным у часе княжаньня Брачыслава Ізяслaвіча (1003—1044), хоць прафэсар Абэцэдарскі ўпэўнівае пра адваротнае  Гэты князь у 1021 годзе здабыў Ноўгарад, у сувязі з чым ён сутыкнуўся зь кіеўскім князем Яраславам Ўладзімеравічам, які сьпяшаўся з дапамогай Ноўгараду  У летапісах кіеўскага паходжаньня паведамляецца, што ў сутычцы на рацэ Судаміры Яраслаў перамог Брачыслава й вызваліў захопленых Брачыславам ноўгарадзцаў  Летапісы ноўгарадскага паходжаньня дадаюць, што тады-ж, відаць на полі бітвы, была зробленая згода, у выніку якой Яраслаў "даў" Брачыславу гарады Ўсьвят і Віцебск за прапанову "буди же со мною за один"  І далей сьцьвярджаецца ў летапісах ноўгарадзкага паходжаньня  "И воеваша Брячислав с великим князем с Ярославом вся дни живота своего"

Выходзячы з гэтых кароценькіх летапісных вестак, гісторыкі, у тым ліку, відаць, і Абэцэдарскі, ствараюць цэлую тэорыю пра залежнасьць у тым часе Полацкага княства й самога Брачыслава ад Кіева  Калі-ж добра прачытаць, дык з гэтых вестак вынікае наступнае  Кіеўскія летапісы згадваюць толькі пра перамогу Яраслава над Брачыславам і больш ні слова  Але, як вынікае з ноўгарадзкіх летапісаў, у гэтым выпадку наагул ня было якой-колечы перамогі  Наадварот — Яраслаў мусіў адступіць Брачыславу гарады Ўсьвят і Віцебск, праўдападобна, захопленыя ім крыху раней, а можа, навет, у гэтай вайне, пра якую тут гаворыцца  За гэта ён атрымаў палоненых Брачыславам ноўгарадзцаў і, магчыма, згоду "быти за один", г.зн  быць у саюзе, што абсалютна не гаворыць пра падпарадкаваньне, але пра сужыцьцё й падтрыманьне  Выраз. "И воеваша Брячислав с великим князем с Ярославом вся дни живота своего" зусім цьмяны  Ваяваў Брачыслаў супраць Яраслава або ў саюзе з гэтым Яраславам супраць кагосьці іншага? У летапісах ня згадваецца ні пра тое, ні пра другое

Палітычная незалежнасьць Полацкага княства пры Ўсяславе Брачыславічу (1044—1101) бадай не аспрэчваецца ніводным паважным савецкім гісторыкам, дый як можна яе аспрэчваць, калі эпоха Ўсяслава Чарадзея характарызуецца войнамі Полацкага княства зь Кіеўскай Русяй, у якіх Кіеў не атрымаў перамогі  Пасьля-ж, а гэта ў першай палавіне XII стагодзьдзя, настаў поўны развал Кіеўскае Русі, зь якой выдзеліліся іншыя незалежныя княствы — дзяржавы тыпу заходняэўрапэйскіх каралеўстваў, як іх называе акадэмік Б.А. Рыбакоў

Як мы маглі бачыць з пададзенае цытаты, прафэсар Абэцэдарскі выкарыстоўвае факт абраньня Ўсяслава Чарадзея ў 1068 годзе на пасад вялікага кіеўскага князя, каб паказаць "дынастычную" й "дзяржаўна-палітычную" супольнасьць Полацкага княства зь Кіеўскай Русяй  Ён аднак ня кажа, як гэта здарылася ды як сам Ўсяслаў ставіўся да кіеўскага "залатога пасаду"  Уся-ж гэтая гісторыя выглядае гэтак: пасьля бітвы 1067 году на рацэ Нямізе Ўсяслаў быў запрошаны кааліцыяй кіеўскіх князёў узяць удзел у мірных перамовах за Дняпром каля Воршы. Прыбыўшы туды, здрадніцкім спосабам Усяслаў з двума сынамі быў схоплены тут і адвезены ў Кіеў  У часе забурэньня кіяўлянаў супраць свайго князя Ізяслава Яраславіча Ўсяслаў Чарадзей быў высечаны з порубу і ўзьведзены на вялікакняжы пасад. Аднак, як, прыкладам, канстатаваў аўтар "Слова о полку Игореве", у Кіеве Ўсяслаў "чуў званы Сьвятой Сафіі Полацкай", г.зн , калі перакласьці ў простую мову, лятуцеў пра зварот у родны Полацак. Нагода да гэтага здарылася, калі выгнанец Ізяслаў з польскай дапамогай падыйшоў да Кіева  Ня ўступіўшы навет у бітву й пакінуўшы кіеўскае войска на волю долі, Усяслаў зьвярнуўся ў Полацак. Калі-б Усяслаў Чарадзей гэтак быў зачараваны "залатым" кіеўскім пасадам і да таго-ж "спадчынай", дык напэўна ён памерыўся-б сілаю зь Ізяславам і ягоным





польскім саюзнікам, бо ён ня быў з палахлівых, за што ўвайшоў у легенды й быў апяяны Баянам.

Таксама, у летапісах няма ніякіх ведамак пра гэтак званую матар'яльную залежнасьць Полацкага княства ад Кіева як за часамі Ўладзімера Сьвятаславіча, так і пасьля  У тых часох палітычная залежнасьць вызначалася першым чынам складаньнем даніны ў скарб кіеўскага князя й ваенным падтрыманьнем апошняга  Аднак гэтае даніны Полацкае княства ніколі не плаціла Кіеву, не памагала яно яму й войскам  Вынятак — удзел Ўсяслава Чарадзея ў 1060 годзе ў паходзе кіеўскіх князёў супраць Полаўцаў (Торкаў). Але тут можна гаварыць пра звычайную ваенную дапамогу, а не пра "фэўдальную залежнасьць" Полацкага княства ад Кіева  Залежнасьць паасобных земляў ад Кіева вызначалася яшчэ абсаджаньнем гэтых земляў намесьнікамі вялікага кіеўскага князя (звычайна ягонымі сынамі) ды іхным зьмяшчаньнем з прыходам да ўлады новага вялікага князя  Адным словам, практыкавалася гэтак званая ратацыя гэтых намесьнікаў, пры гэтым і згодна іхнага "старшынства". Яны заўсёды перамяшчаліся як пасьля сьмерці аднаго зь іх, так і пасьля сьмерці вялікага кіеўскага князя  Гэтая практыка аднак не датычылася да Полацкага княства. Гэтае простае рэчы, што так яскрава адкідае канцэпцыю пра палітычную залежнасьць Полацкага княства ад Кіева, таксама не заўважыў прафэсар Абэцэдарскі

Таму можна з пэўнасьцяй сказаць, што занатаваныя ў летапісах палітычныя прэтэнзіі Кіева да Полацкага княства, у тым ліку й выстаўленьне полацкага князя Ізяслава ў якасьці сына Ўладзімера Сьвятаславіча, былі вынаходзтвам летапісцаў пачатку XII стагодзьдзя, калі Кіеўская Русь стаяла на парозе поўнага развалу й тым-жа часам узмоцнілася ейная агрэсія супраць Полацкага княства або ягоных паасобных земляў

Тут трэба падчыркнуць, што тагачаснае Полацкае княства не абмяжоўвалася да сянняшняе сьцiслае Полаччыны, як гэта намагаюцца прадстаўнікі савецкія гісторыкі, у тым ліку й Л В. Аляксееў у сваёй згадванай вышэй працы "Полацкая зямля"  Апрача сьцiслае Полаччыны, да якое тады належылі таксама Дзьвінск, Рэжыца, Люцын, Себеж і Невель, у Полацкае княства ўваходзілі яшчэ землі· Усьвятчына й Віцебшчына да возера Касьпля на ўсходзе, пасьлейшыя Магілеўшчына й Рагачэўшчына да Дняпра й да ўтоку Бярэзіны ў Днярпо, Бабруйшчына й Меншчына да Слуцку й Капыля, Слонімшчына, Ваўкавышчына, Горадзеншчына й пасьлейшая Беласточчына, а таксама Навагрудчына, Вялейшчына ды, праўдападобна, й Віленшчына  Апрача таго, валоданьні Полацкага княства заглыбляліся ў сяньняшнюю Лацьвію ўздоўж Дзьвіны, і ад яго залежылі таксама старажытныя Ліцьвіны

Пералічаныя тут заходнія беларускія землі ў гістарыяграфіі розных кірункаў звычайна выключаюцца із складу Полацкага княства ды далучаюцца да Кіеўскай Русі. Гэта робіцца галоўна на аснове таго, што ў XIII стагодзьдзі на гэтыя землі прэтэндавала Галіцка-Валынскае княства, а таксама што ў паходзе 1127 году злучаных сілаў Кіеўскае Русі супраць Полацкага княства прыняў удзел "Всеволодка из Городна" (у Лаўрэньцеўскім і Гіпацеўскім летапісах ён называецца яшчэ, як "Всеволодко из Городка" й "Всеволодко Городецький")  Калісьці яшчэ ўкраінскі гісторык М  Грушэўскі пісаў у "Гісторыі Ўкраіны-Русі", што гэты Ўсеваладка, сын Давіда Ігаравіча, княжыў ня ў Горадні над Нёмнам, а ў Горадні, што ляжала на паўдня ад Прыпяці  Разам з Дубровіцай яе якраз і атрымаў гэты Ўсеваладка Давідавіч  Гэтая Горадня — гэта цяпер мястэчка ці вёска Гарадная, што ляжыць на ўзмежжы БССР на аднолькавай адлегласьці ад Століна й Дубровіцы  Як гэта бачна зь гістарычнай карты ВКЛ, складзенай польскім гісторыкам Янам Якубоўскім, пад назовам Горадня (Городно) у XVI стагодзьдзі яна была яшчэ невялікім гарадком[25]

Дарэчы, як сьцьвярджаецца ў летапісах, гэты Ўсеваладка Давідавіч быў падручным вялікага кіеўскага князя, г.зн  паўнасьцяй залежыў ад яго й прыходзіў яму на дапамогу пры першым пакліканьні  Гэтага аднак не магло-б быць, калі-б Ўсеваладка запраўды княжыў у Горадні над Нёмнам

Аўтар "Слова о полку Игореве" таксама згадвае пра "городеньские трубы", якія аплаквалі князя Ізяслава й ягоную дружыну, што былі "притрепаны литовскыми мечи"  Але гэты Ізяслаў тут выразна выступае сынам полацкага князя Васількі й праўнукам "слаўнага дзеда" Ўсяслава Чарадзея. Ўладзімер Пічэта ў сваёй працы "Полацка-Менскае княства", што была зьмешчаная ў "Очерках истории СССР" выданьня 1953

году, таксама пісаў, што яшчэ ў 1102 годзе полацкі князь Барыс Усяславіч ваяваў супраць Яцьвягаў. Паход гэты ён мог ужыцьцёвіць, маючы толькі за сабой моцнае заплечча, і магчыма з тае-ж Горадні. З свайго боку Пётра Дусбурскі ў сваёй "Пруской хронікі" сьцьвярджаў, што ў 1221 годзе "Рутэны" напалі на прускі горад Рагніту й доўга трымалі тут аблогу[26]. Дарэчы, і Адам Брэменскі, які напісаў сваю хроніку каля 1075 году, таксама гэтых Рутэнаў ці Ruzzos памяшчаў на мяжы з Прусамі[27]

Згадваючы пра гэтае паведамленьне Пётры Дусбурскага, савецкі гісторык В.Т Пашута, не знайшоўшы якіх-колечы вестак пра пранікненьне на межы старажытнае Прусіі Галіцка-Валынскага княства, абегла зазначае, што "вероятно" паход супраць Рагніты быў зарганізаваны "смоленскими князьями"[28]. Можна, ведама, далучыць сюды яшчэ і "владимиросуздольских" князёў, але, як сьцьвярджаў той-жа Пётра Дусбурскі, гэты горад Рагніта ляжаў на ўзьмежжы з "Рускім каралеўствам" дый сама Прусія мяжавалася зь "зямлёй Рутэнаў" Тэрмін "Рутэны" нас не павінен бянтэжыць, бо, прыкладам, і Генрык Лівонскі ў сваёй ведамай хронікі называе Полацкае княства "Рускім каралеўствам"

Што-ж да згадваных вышэй прэтэньзіяў Галіцка-Валынскага княства на заходнія беларускія землі, дык тут можна канстатаваць наступнае У летапісах няма ніякіх вестак пра гэтыя прэтэньзіі пры канцы XII і на пачатку XIII стагодзьдзя. Затое ў іх паведамляецца, што тады тут княжылі незалежныя князі — Ізяслаў Наваградзкі, Глеб Ваўкавыскі, Ізяслаў Сьвіслацкі, якія якраз прынялі актыўны ўдзел у станаўленьні маладога Вялікага Княства Літоўскага. Праўда, гэтыя прэтэньзіі Галіцка-Валынскага княства на заходнія беларускія землі выявіліся ў часе ўзьніклае вайны між галіцка-валынскім князем Данілам Раманавічам і Міндоўгам, а таксама ў часе паходаў супраць ВКЛ у 1258—1259 і 1276—1277 гадох татара-мангольскіх ваяводаў Бурундуя й Мамшэя Аднак-жа з гэтых падзеяў чыста агрэсыўнага характару неяк не выпадае, дый нелягічна выводзіць нейкую папярэднюю "прыналежнасьць"

Адным словам, тагачаснае Полацкае княства — гэта даволі вялікае й палітычна моцнае гаспадарства Таму яно ня толькі магло захаваць сваю незалежнасьць, але так-жа магло й палітычна спаборнічаць зь Кіеўскай Русяй Праўда, пасьля сьмерці Ўсяслава Чарадзея, які, як і ў выпадку Кіеўскай Русі, падзяліў паасобныя землі гэтага княства між сваймі сынамі, Полацкае княства ўвайшло ў паласу разьмяжаваньня на мясцовыя княствы. Гэта найперш і прывяло да ведамага ў гісторыі эпізоду 1127—1132 гадоў Тады менскі князь Глеб Усяславіч на собскую руку ў 1104 годзе пачаў даволі амбітны канфлікт (імкнуўся пашырыць Менскае княства за кошт валоданьняў кіеўскіх князёў), які аднак скончыўся ў 1119 годзе ягоным палоненьнем, замардаваньнем у Кіеве ды далучэньнем Менскага княства да Кіеўскае Русі Крыху пасьля, а гэта ў 1127 годзе, злучаныя сілы Кіеўскае Русі літаральна з усіх бакоў — зь Кіева, Чарнігава й Курску, Уладзімера (Валынскага), Турава й згаданае вышэй Горадні, а таксама Ноўгараду й Смаленску — нарэшце дабраліся да самога сэрца Полацкага княства Аднак і гэты агульны "рускі" паход супраць "Крывічоў" тады яшчэ скончыўся кампрамісам: з згоды палачанаў вялікі князь полацкі Давід Усяславіч быў заменены іншым князем — Рагвалодам Усяславічам, а апошні павінен быў узяць на сябе нейкія забавязаньні адносна Кіеўскае Русі Мы нічога ня ведаем пра гэтыя забавязаньні; ведама толькі, што й Рагвалод Усяславіч адмовіўся ўзяць удзел у паходзе кіеўскага вялікага князя Мсьціслава Ўладзімеравіча супраць Полаўцаў. У выніку апошні зарганізаваў у 1129 годзе новы паход супраць Полацкага княства, які закончыўся здабыцьцём Полацку, паланеньнем некаторых полацкіх князёў і іхным выгнаньнем у Канстантынопаль ці, фактычна, продажам тут у нявольніцтва. Гэта здарылася з двума сынамі Рагвалода, а таксама з Давідам, Расьціславам і Сьвятаславам Усяславічамі, іхнымі жонкамі й дзецьмі. Сам Рагвалод Усяславіч, праўдападобна, тады загінуў на полі бітвы У Полацку часова запанавалі стаўленьнікі Кіева, аднак ужо ў 1132 годзе, відаць у сувязі зь сьмерцяй вялікага кіеўскага князя Мсьціслава Ўладзімеравіча, гэтыя стаўленьнікі былі выгнаныя з Полацку, а за вялікага князя тут быў абраны Васілька Сьвятаславіч — сын вывезенага ў Канстантынопаль Сьвятаслава Ўсяславіча. Недзе неўзабаве пасьля 1135 году было вызваленае таксама й Менскае княства Гэтак хутка скончылася "фэўдальная залежнасьць" Полацкага княства ад "агульнарускай дзяржавы" — Кіеўскай Русі





Як-жа ў сьвятле пералічаных вышэй, запраўды незапярэчных ці, паводля прафэсара Абэцэдарскага, "неабвержных" фактаў можна цьвердзіць і цьвердзіць катэгарычна, што ў мінулым беларускі народ ня меў свае дзяржаўнасьці?!

Яшчэ больш парадаксальнае цьверджаньне, быццам "старажытнаруская дзяржаўная супольнасьць" працягвала сваё йснаваньне ў XII—XIII стагодзьдзях, калі ў запраўднасьці ад старое Кіеўскае Русі заставалася адно ейнае імя, і больш нічога. Ня менш парадаксальна таксама ўважаць Кіеўскую Русь X—XI стагодзьдзяў, калі яна была ў зэніце свайго палітычнага росквіту, за нейкую адналітную ці цэнтралізаваную дзяржаву, перад чым, між іншага, перасьцерагаў у сваёй апошняй працы згадваны вышэй савецкі гісторык А.Н Насонаў (памёр у 1965 годзе)[29]. Такой яна ня была ўжо хоць-бы дзеля таго, што залежнасьць ад яе паасобных ейных земляў вызначалася выплачваньнем адпаведнае даніны й вайсковай дапамогай. Далей за гэта тады ня йшла кіеўская адміністрацыя Дарэчы, гісторыя адносінаў між сьцісла Кіеўскім і Чарнігаўскім княствамі таксама не дазваляе гаварыць пра нейкі там "цэнтралізм"

Прафэсару Абэцэдарскаму выпадала-б таксама прасачыць, да якое тэрыторыі тарнаваўся назоў "Русь" Навет у савецкай гістарыяграфіі (праўда, у спэцыяльных працах) агульна прызнаецца, што назоў гэты, зьвязаны зь дзяржаўнасьцяй, датычыў толькі да Сярэдняе Прыдняпроўшчыны з цэнтрамі Кіеў—Чарнігаў—Пераяслаў

Што-ж да Полацкага княства, дык яно звычайна называлася як зямля Крывічоў або Палачанаў Гэтак, прыкладам, у Лаўрэньцеўскім і Гіпацеўскім летапісах пад 1127 годам сьцьвярджаецца: "В то же лето посла князь Мстислав братью свою *на Кривичи* четырми пути" У Гіпацеўскім летапісе таксама паведамляецца, пад 1140 годам: "В то же время взидоста княжича два ис Царягорода, заточени были Мьстиславом великим князем Киевьскым, зане не бяхуть его воли и не слышахуть его, коли я зовяшеть *в Рускую землю* в помощь", і крыху далей "посла *по Кривитьстеи* князе по Давида по Ростислава и Святослава и Рогволодича два и усажа у три лодьи и поточи и Царюграду за неслушание их, и мужа свои посажа по городом их"; ці пад 1162 годам: "Том же лете Рюрик и Святополк Гюргевичь Туровьскии и с *Кривьскими князьми* идоша к Случьску на Володимера на Мьстиславича"

Адначасна прафэсар Абэцэдарскі цьвердзіць, што за часамі Кіеўскае Русі ўжо йснавала "адзіная старажытнаруская народнасьць", якую ён часамі называе й "адзінай усходнеславянскай народнасьцяй" Хоць Абэцэдарскі зазначае, што "Русь, "русскую" народнасць тых даўніх часоў нельга атоесамліваць ні з рускай (вялікарускай), ні з украінскай, ні з беларускай народнасцю", агульная ягоная тэндэнцыя выступае даволі выразна[30]. А рэч у тым, што пры дапамозе гэтае містычнае "адзінае старажытнарускае народнасьці" савецкая гістарыяграфія фактычна намагаецца зьліквідаваць узьніклую "гістарычную ненармальнасьць" існаваньня ў сучасьнасьці беларускага і ўкраінскага народаў Бо, згодна тэндэнцыяў гэтай гістарыяграфіі, іхнае месца павінна быць "в общерусском народе", пад якім разумеецца толькі расейскі народ і які беспасярэдня выводзіцца з тэй "древнерусской народности" Праўда, калі трымацца нейкае навуковае ці лягічнае пасьлядоўнасьці, дык тую "старажытнарускую народнасьць", выпадала-б найперш зьвязваць з сучасным украінскім народам. Наагул канцэпцыя пра "адзіную старажытнарускую народнасьць", узятая ў прынцыпе й перанесеная ў сучаснасьць у якасьці палітычнага аргумэнту, магла-б лёгка тарнавацца, прыкладам, да Італьянцаў, Гішпанцаў, Французаў, Румынаў у тым сэньсе, што сучасныя Італьянцы таксама маглі-б прыгадаць іншым пра свае "гістарычна-нацыянальныя" правы А як-жа, усе гэтыя народы ў мінулым тварылі супольную "старажытнарымлянскую дзяржаву" й агульную "старажытнарымлянскую народнасьць", а прасьцей — італьлянскую нацыянальную й дзяржаўную "старажытнасьць"

Згадваны ўжо намі Б.А. Рыбакоў, прыкладам, станаўленьне гэтае "адзінае старажытнарускае народнасьці" адносіць недзе да VI—IX стагодзьдзяў Аднак, карыстаючыся рознымі апэрацыямі, ён і станаўленьне Кіеўскае Русі пераносіць у тыя-ж VI—IX стагодзьдзі, уключаючы ў яе — дзесьці пры канцы VIII ці ад пачатку IX стагодзьдзя — і Полацкае княства Гэтую думку Рыбакова паўтарае ў васноўным прафэсар Абэцэдарскі, цьвердзячы, што "ў перыяд разлажэння першабытнаабшчыннага ладу і ўтварэння класавага грамадства (VI—VIII ст ) на тэрыторыі Усходняй Еўропы адбывалася фарміраванне адзінай усходнеславянскай народнасці, якая атрымала

назву Русь" Аднак паводля Абэцэдарскага, "Старажытнаруская (Кіеўская) дзяржава, у склад якой увайшлі і землі крывічоў (палачан), дрыгвічоў, радзімічаў, склаўшы заходнюю частку яе", толькі "ўтварылася ў канцы IX стагодзьдзя", што й "паскорыла фарміраванне старажытнарускай народнасці, садзейнічала ўмацаванню яе адзінства" Зазначым, што паводля Рыбакова поўнасьцяй складзеная "старажытнаруская народнасьць" ужо існавала ад пачатку IX стагодзьдзя. Адным словам, "фарміраваньне" гэтае "старажытнарускае народнасьці" Абэцэдарскі адносіць да эпохі, калі яшчэ, паводля ягонага цьверджаньня, не магло быць і мовы пра йснаваньне "Старажытнарускае дзяржавы" Калі-ж зрабіць гістарычную папраўку ды аднесьці дзяржаўна-тэрытар'яльную кансалідацыю Кіеўскае Русі да эпохі Уладзімера Сьвятаслвіча, г.зн. на канец X стагодзьдзя, дык з гэтым канчатковым "фарміраваннем старажытнарускай народнасці" прафэсар Абэцэдарскі зноў пасьпяшаўся на цэлае стагодзьдзе Паводля савецка-марксыстаўскае канцэпцыі, народнасьць або народ — гэта прадукт клясавага распластаваньня грамадзтва й згуртаваньня апошняга ў моцнай палітычна-дзяржаўнай арганізацыі. А з гэтага вынікае, што й утварэньне "адзінае старажытнарускае народнасьці" можна аднесьці хіба толькі да эпохі канца X і цэлага XI стагодзьдзя, калі Кіеўская Русь вызначылася як нейкая палітычна-дзяржаўная цэласьць. Але-ж і ў гэтым выпадку ня трэба забывацца пра слабасьць палітычных і эканамічных сувязяў між еййымі паасобнымі землямі, пра кволасьць ейнае палітычна-дзяржаўнае структуры наагул Ня трэба забывацца таксама, што побач зь Кіеўскай Русяй й незалежна ад яе тут існавала таксама іншая палітычна-дзяржаўная арганізацыя — Полацкае княства.

Вышэй мы цыталі ведамага савецкага гісторыка П Н Трацьцякова Ягоная праца "У истоков древнерусской народности" зьяўляецца, можна сказаць, апошнім словам савецкай гістарыяграфіі ў выпадку разгляданае тут праблемы І вось што канстатуе Трацьцякоў·

"Не следует думать, что сложение древнерусской народности полностью завершилось сразу после образования Древнерусского государства. На первых порах средневековья народность являлась общностью весьма относительной. еще долго сказывалось своеобразие ее компонентов Не только языковые особенности, связанные с древними диалектами различных славянских группировок и неодинаковым неславянским субстратом, не только специфические черты культуры, бытового уклада и религиозных представлений, унаследованные от прошлого, но и конкретные особенности в развитии общественного строя и различные хозяйственные традиции в первое время так или иначе отличали друг от друга отдельные части формирующейся древнерусской народности Поэтому древнерусское население далеко не сразу стало воспринимать себя в качестве единой народности Не только в IX—X вв., но в XI—XII вв. Русью, Русской землей называлась обычно лишь сравнительно небольшая область в пределах Среднего Поднепровья, лежащая вокруг трех городов Киева, Чернигова и Переяславля-Русского Население других земель — галичских, смоленских, новгородских, залесских — русским первоначально не называлось Лишь позднее, после значительных изменений в жизни Древнерусского государства, прежде всего вместе с укреплением феодальных порядков и возникновением новой исторической обстановки, вызвавшей перемещением центра Руси и больших масс населения из Среднего Поднепровья на север, наименование Русь распространилось на все древнерусские земли, их население повсеместно стало считать себя русским

В последующие столетия представление о единстве русской (древнерусской) народности продолжало все более и более крепнуть. И это происходило уже в период, когда Древнерусское государство стало дробиться на части, вступило в полосу политической феодальной раздробленности Разве это не прекрасная иллюстрация того, что сложение народности и история государства — хотя и связанные друг с другом, но все же особые процессы?"[31]

Вытрымка даволі доўгая, але яна вартая таго, каб зацытаваць яе поўнасьцяй. Трацьцякоў, як можам канстатаваць, не згаджаецца з аптымізмам прафэсара Абэцэдарскага, які, між іншага, моцна падсечаны таксама "балцкай тэорыяй", якую разьвівае В В Сядоў Што да асьветчаньня А.Н Трацьцякова, быццам "древнерусская народность", усьведамленьне ёю "русского единства" складваюцца толькі ў эпоху "феодальной раздробленности" ды зь "перемещением центра Руси на север", дык тут заўважаюцца моцныя нацяжкі, спалучаныя з тэндэнцыяй перакінуць мосьцік ад таго "древнерусского единства" да такога-ж "общерусского единства" ў сучаснасьці

Існаваньне вынайдзенае ім "адзінае старажытнарускае народнасьці" прафэсар Абэцэдарскі намагаецца падмацаваць яшчэ гэтак званай агульнасьцяй тэрыторыі, мовы, культуры й навет рэлігіі Агульнасьць тэрыторыі ў пэўнай ступені пакрываецца дзяржаўнай супольнасьцяй, і гэтае пытаньне разглядалася вышэй Агульнасьць рэлігіі, хоць яна й мае нейкі ўплыў на нацыянальную кансалідацыю народаў, трэба тут выключыць ужо толькі з тае прычыны, каб не адшукаць "адзінага" народу ў каталіцкай Эўропе й не распыліць "старажытнарускую народнасьць" у бізантыйска-праваслаўнай атмасфэры

Застаецца яшчэ аргумэнт пра агульнасьць мовы й культуры. Пра агульнасьць мовы цяжка сказаць штосьці канкрэтнае, бо з тых далёкіх часоў вельмі мала захавалася пісаных помнікаў дый то ў штучнай царкоўнаславянскай мове Занатаваныя пасьля ў гэтых крыніцах некаторыя народныя моўныя асаблівасьці не маглі паўстаць, як канстатуюць мовазнаўцы, у XIII—XIV стагодзьдзях, а належаць да куды ранейшых часоў Дарэчы, мова ўсіх славянскіх народаў тады яшчэ не вызначалася сваёй пасьлейшай разнастайнасьцяй

Тое самае можна сказаць і пра агульнасьць культуры Культура, ня ў прыклад мове, — рэч агульналюдзкая Для ўсіх народаў, калі яны неадмежаваныя толькі нейкай штучнай заслонай, яна разьвіваецца паводля натуральнага прынцыпу прыліву й адліву мора Гэтак званая народная культура — народныя песьні, казкі, паданьні, звычаі, танцы, народная філязофія, і г.д. — для гэтых часоў проста няведамая Калі-ж дапусьціць, што культура гэтая найбольш традыцыйная й захоўвае ў сабе найбольш старадаўнасьці, дык у гэтым выпадку трэба загадзя адмовіцца ад канцэпцыі "адзінае старажытнарускае народнасьці" Пры намаганьні-ж знайсьці нейкую самабытную й агульную культуру для гэтае "старажытнарускае народнасьці" прафэсару Абэцэдарскаму выпадала-б неяк успрыняць, прыкладам, і тагачасныя культурныя асаблівасьці тае-ж Заходняе Эўропы Магчыма, і тут прытарнавалася-б тая-ж канцэпцыя пра нейкую "адзіную старажытназаходняэўрапейскую народнасьць"?!

Наагул, як вынікае, тут мы маем дачыненьне з звычайным палітычным апартунізмам, бо ў наступным разьдзеле свае брашуры, прысьвечаным Вялікаму Княству Літоўскаму, прафэсар Абэцэдарскі шмат разоў зазначае, што нацыянальнай адзнакай дзяржавы й народу, які ў ёй пануе, ня могуць быць ні сама дзяржава й агульнасьць тэрыторыі, ні сам народ і ягоная мова, культура й, тым больш, рэлігія.

*З кнігі.*
*"Паўла Урбан. У святле гістарычных фактаў*
*Мюнхэн—Нью-Ёрк, 1972*

---

[1] **В.В. Седов. К происхождению белорусов,** *Советская этнография*, **1967, № 2, бб. 112—129; Яго-ж. Еще раз о происхождении белорусов,** *Советская этнография*, **1969, № 1, бб. 105—121.**

[2] **Л.В. Алексеев. Полоцкая земля. Очерки истории Северной Белоруссии в IX—XIII вв. Изд-во "Наука", Москва, 1966; Яго-ж. Происхождение народов Восточной Европы. Изд-во "Наука", Москва, 1969; М.Ю. Брайчевський. Походження Русі Вид. "Наукова думка", Київ, 1968; И.И. Ляпушкин. Славяне Восточной Европы накануне образования Древнерусского государства. Изд-во "Наука", Ленинград, 1968.**

[3] **В.А. Жучкевич. К вопросу о балтийском субстрате в этногенезе белорусов,** *Советская этнография*, **1968, № 1, бб. 107—113; М.Я. Гринблат. К происхождению белорусской народности,** *Советская этнография*, **1968, № 5, бб. 79—92.**

[4] **В.В. Седов. Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья. Изд-во "Наука", Москва, 1970, бб. 185—186.**

[5] *Там-жа*, **бб. 91—124; Яго-ж. Кривичи,** *Советская археология*, **1960, № 1, бб. 47—62.**

[6] **А.Г. Кузьмин. "Варяги" и "Русь" на Балтийском море,** *Вопросы истории*, **1970, № 10, бб. 54—55.**

[7] Гельмольд. Славянская хроника. Изд-во АН СССР, Москва, 1963, б. 103 (гл. таксама бб. 269—270, заўвагу 2).
[8] "Очерки истории СССР. Кризис рабовладельческой системы и зарождение феодализма на территории СССР III—IX веков". Изд-во АН СССР, Москва, 1958, бб. 733—878; "История СССР с древнейших времен до наших дней". Изд-во "Наука", т. 1, Москва, 1966, бб. 476—491 і іншыя; Б.А. Рыбаков. Первые века русской истории. Изд-во "Наука", Москва, 1964.
[9] А.Г. Кузьмин. Цыт. артыкул, бб. 28—55.
[10] П.Н. Третьяков. У истоков древнерусской народности, Изд-во "Наука", Ленинград, 1970, б. 110.
[11] *Там-жа*, б. 66.
[12] Л.В. Алексеев. Полоцкая земля. Очерки истории Северной Белоруссии в IX—XIII вв., бб. 290—291.
[13] Мікола Улашчык. Кніга пра Полацкую зямлю, *Полымя*, 1967, № 4, б. 242.
[14] А.Г. Кузьмин. К вопросу о "полочанах" начальной летописи, у зборніку: "Древние славяне и их соседи". Изд-во "Наука", Москва, 1970, б. 127.
[15] Л.В. Алексеев. Полоцкая земля, б. 291.
[16] В.Л. Янин, М.Х. Алешковский. Происхождение Новгорода (К постановке проблемы), *История СССР*, 1971, № 2, стр. 48.
[17] Irène Sorlin. Les traités de Byzance avec la Russie au X[e] siècle (I), *Cabiers du monde russe et sovietique*, vol. II, 1961 (Paris—La Haye), no. 3, pp. 329—331, 336—350.
[18] А.Н. Насонов. "Руская земля" и образование территории Древнеруского государства. Изд-во АН СССР, Москва, 1951, б. 30.
[19] В.А. Кучкин. Ростово-Суздальская земля в X — первой трети XIII веков, *История СССР*, 1969, № 2, бб. 63—65.
[20] А.Н. Насонов. Цыт. праца; М.И. Артамонов. История хазар. Изд-во Гос. Эрмитажа, Ленинград, 1962; В.Т. Пашуто. Особенности структуры Древнерусского государства, у кнізе: "Древнерусское государство и его международное значение". Изд-во "Наука", Москва 1965, бб. 77—127.
[21] Henryk Paszkicwicz. The Making of the Russian Nation. Darton, Longman & Todd, London, 1963, pp. 151—177; Irène Sorlin. Opus cit., pp. 316—321; Idem. Le témoignage de Constantin VII Porphyrogenète sur l'état éthnique et politique de la Russie au début du X[e] siècle, *Cabiers du monde russe et sovietique*, vol. VI, 1965, no. 2, pp. 180—183; А.П. Новосельцев. Восточные источники о восточных славянах и Руси VI—IX вв., у кнізе: "Древнерусское государство и его международное значение", Москва, 1965, бб. 355—419.
[22] А.А. Шахматов. Разыскания о древнейших русских летописных сводах, С.-Петербург, 1908, бб. 173—175.
[23] В.Н. Татищев. История Российская. Изд-во АН СССР, т. I, Москва-Ленинград, 1962 б. 111.
[24] Ад нейкага часу парадненьне полацкага князя Ізяслава зь кіеўскім князем Уладзімерам Сьвятаславічам дый узалежненьне Полацкага княства ад Кіева робіцца на аснове гэтак званай "пячаткі Ізяслава Уладзімеравіча". (...)
Найбольш праўдападобна, што гэтая пячатка, якая быццам-бы "принадлежала старшему сыну Владимира Святославича — Изяславу, который жил в последней трети X в. и княжил в Полоцке", проста была пячаткай Вялікага Ноўгараду. "Вялікім" ён пачаў звацца крыху пасьлей — ад XII і асабліва ад XIII стагодзьдзя, што й адлюстравалася на ягоных пячатках гэтага часу: "Печать Великого Новагорода" з рыцарам, зьверам ці з птушкаю на пярэднім баку пячатак. Крыху ранейшай пячаткай Ноўгараду магла быць гэтая пячатка з стылізаванымі контурамі царквы ці "царскіх варотаў" у саборы, пры гэтым яшчэ з надпісам на адваротным баку: ГРАД ці, калі дадаць зацертыя часам літары, — НОВОГРАД.
[25] Jan Jakubowski. Mapa Wielkiego Księstwa Litewskiego w połowie XVI wieku. Nakładem Polskiej Akademji Umiejętności, Kraków, 1928.
[26] "Scriptores Rerum Prussicarum". Herausgegeben von Dr. Theodor Hirsch, Dr. Max Töppen und Dr. Ernst Strehlke, Band I, Leipzig, 1861, p. 133.
[27] Adami Gesta Hammaburgensis Ecclesiae Pontificum. Edito altera, Hannoverae, 1876, pp. 165—166.
[28] В.Т. Пашуто. Образование Литовского государства. Изд-во АН СССР, Москва, 1959, б. 400.
[29] А.Н. Насонов. История русского летописания XI — начала XVIII века. Изд-во "Наука", Москва, 1969, б. 78.
[30] Між іншага, у БССР зьявілася спэцыяльная праца (Я. Карнейчык. Беларуская нацыя. Гістарычны нарыс. Выдавецтва "Навука і тэхніка", Менск, 1969), у якой трактуецца й праблема гэтае "старажытнарускае народнасьці". Канцэпцыя ейнага аўтара збліжаецца з канцэпцыяй прафэсара Абэцэдарскага.
[31] П.Н. Третьяков. Цыт. праца, бб. 9—10.



# Барыс ВІЯН



# НАВЕЛЫ

## Пажарнікі

Патрык усё чыркаў і чыркаў запалкаю аб сцяну Ён ужо і не спадзяваўся ні на што, хоць фарба на сцяне патрэскалася і паверхня была шурпатая — зусім як запалкавы карабок. Шостая запалка дык і зусім зламалася Патрык спыніўся Ён не змог бы запаліць кароткі абломак і не абпячы сабе пальцы

Не панурыўшыся, напяваючы песеньку пра Хрыста, ён прайшоў на кухню Бацькі чамусьці былі ўпэўненыя, што запалкам месца побач з газавай плітою, а не ў ягонай шафе з цацкамі Тут колькі ні пярэч, пытанне вырашалася не на карысць Патрыка А імя Хрыста выкарыстоўвалася як довад, дзеля краснага слоўца у сям'і ў царкву ўсё роўна ніхто не хадзіў

Узняўшыся на дыбачкі, ён дацягнуўся да бляшанкі і дастаў адтуль запалку. Браў ён па адной — яму падабаўся сам працэс паходу па запалкі

Потым ён вярнуўся назад у гасцёўню Калі я ўвайшоў, шторы ўжо гарэлі прыгожым яркім полымем

Пат сядзеў пасярэдзіне пакоя, разважаючы, — але ўпэўненасці ў тым, што гэта смешна, у яго не было Убачыўшы, што я здзіўлены, ён вырашыў усё-такі насупіцца

— Паслухай, — сказаў я, — выбраць трэба адно з двух. Калі табе цікава, то і плакаць не трэба, а калі не — то як уцяміць, навошта ты гэта зрабіў

— Ды не таму, што цікава, — адказаў ён — Але ж запалкі дзеля таго і ёсць, каб запальваць імі хоць што.

І заплакаў

Жадаючы пераканаць яго, што не раблю з гэтага трагедыі, я спакойна сказаў:

— Няма чаго засмучвацца. Калі мне было шэсць гадоў, я падпаліў старыя бітоны з-пад бензіну

— Але ж тут няма бітонаў, вось я і падпаліў першае, што падвярнулася

— Хадзем у сталовую, — сказаў я, — і забудземся на гэта

— А давай пагуляем у машынкі, — узрадаваўся ён. — Мы ўжо тры дні не гулялі

Мы выйшлі з гасцёўні, я акуратна прычыніў дзверы Шторы ўжо тлелі, а агонь падбіраўся да дывана

— Паехалі, — сказаў я — Твае сінія, мае чырвоныя.

Пат уважліва паглядзеў на мяне і, пераканаўшыся, што я больш не думаю пра пажар, супакоіўся

— Трымайся! — усклікнуў ён.

Так гулялі мы сама меней гадзіну, потым спрачаліся нейкі час, ці варта яму адыгрывацца Урэшце, мне ўдалося зацягнуць Пата ў ягоны пакой, згадаўшы, што скрыначка з фарбамі сумуе без яго. Пасля чаго, захапіўшы прасціну, я ўвайшоў у гасцёўню, з адным намерам — спыніць пажар, у якім не хацеў бачыць вялікай трагедыі

Нічога не было відаць — густы, задушлівы дым ахапіў увесь пакой. Я доўга вызначаў, чым пахне мацней· гарэлай фарбаю ці паленай поўсцю, але раскашляўся і ледзь не задыхнуўся

Выплёўваючы і выдыхаючы дым, я абматаў галаву прасціною, але адразу быў змушаны адмовіцца ад яе, бо й яна загарэлася.

Наўкол іскрылася, лёталі камячкі сажы, падлога трашчала-свістала То тут, то там скакалі вясёлыя агеньчыкі, ад якіх загаралася ўсё, што яшчэ не згарэла Я пакінуў гасцёўню, калі полымя падабралася да мяне і яго доўгі язык праскочыў у маю штаніну. Прайшоўшы сталовую, я ўвайшоў у сынаў пакой.

— Выдатна гарыць, — сказаў я — Цяпер давай выклічам пажарных.

— Я падышоў да тэлефона і набраў нумар семнаццаць.

— Алё, — сказаў я

— Алё, — адказалі мне

— У нас пажар

— Ваш адрас?

Я прадыктаваў ім каардынаты сваёй кватэры — шырыню, даўжыню і вышыню над узроўнем мора

— Добра, — сказалі мне. — Запішыце нумар тэлефона вашай пажарнай каманды

Я імгнення дazваніўся, яшчэ ўзрадаваўшыся, што служба сувязі так выдатна працуе, і пачуў шчаслівы голас:

— Алё?

— Алё, — сказаў я. — Пажарная каманда?

— Я яе прадстаўляю, — адказалі мне

— У нас пажар, — сказаў я

— Шанцуе вам, — адказаў пажарнік. — На які дзень вас запісаць?

— А хіба зараз вы не зможаце прыехаць? — спытаўся я

— Ніяк нельга, — сказаў чалавек — Мы зусім перагружаныя, наўкол адны пажары Пазаўтра ў гадзіны тры — іншых варыянтаў няма

— Добра, — сказаў я — Дзякую Да пабачэння.

— Да пабачэння, — адказаў пажарнік. — Пастарайцеся, каб не згасла

Я паклікаў Пата

— Збірайся, — сказаў я яму — Мы паедзем на некалькі гадоў у госці да цёткі Сурынам.

— Во добра! — узрадаваўся Пат

— Разумееш, — сказаў я, — ты з часам не разлічыў пажарнікі могуць прыехаць толькі пазаўтра, а так бы ты ўбачыў пажарныя машыны

— Скажы, — спытаўся Пат, — праўда ж запалкамі трэба нешта падпальваць?

— Вядома, — адказаў я — А як жа інакш?

— І які дурань іх прыдумаў — сказаў Пат. — Не, каб зрабіць так, каб не ўсё імі можна было запаліць.

— Ты, безумоўна, маеш рацыю

— Ну, — сказаў ён, — ужо нічога не зробіш. І давай гуляць. Цяпер твае сінія

— Пагуляем у таксоўцы, — сказаў я — Збірайся хутчэй

# Водаправодчык

Званіла не Жасмэн — яна выправілася разам з каханкам у нейкую падазроную краму І не дзядзька — ён памёр два гады назад. Сабака тузае шнурок двойчы, а ў мяне ёсць ключ. Значыцца, нехта іншы. Званок быў выразны цяжкі . можа, важкі. не, хутчэй, нетаропкі і значны

Ну вядома, водаправодчык Ён увайшоў, на плячы ў яго вісела нейкая смешная торба са скуры вымерлага траваеднага, у ёй звякалі жалезкі

— Ванная там, — паказаў ён. Калі ён працягваў руку ў бок патрэбнага яму памяшкання, то быў падобны на музейнага стральца.

Ён не задаваў пытанняў. Ён паказаў мне, дзе ў маёй кватэры ванная Без яго я яшчэ доўга мог бы і не ведаць, дзе ж яна — і зрабіў ён гэтае паведамленне адной кароткаю фразай, аздобленай пераканальным жэстам. Паколькі ў гэты час дня Жасмэн дома не было, паколькі дзядзька памёр і паколькі сабака тузаў шнурок двойчы (найчасцей), то ў доме былі толькі мае адзінаццаць пляменнікаў і пляменніц, яны гулялі на кухні з газавай калонкаю, і ў доме была цішыня.

Водаправодчык вельмі доўга хадзіў па кватэры, суправаджаючы свае пошукі тым самым указальным жэстам, і прыйшоў нарэшце ў гасцёўню Я вывеў яго на патрэбную дарогу, і мы дайшлі да ваннай Я вырашыў увайсці туды ўслед за ім, але ён спыніў мяне — і зрабіў гэта без грубасці, але з цвёрдасцю, уласцівай толькі спецыялістам.

— Вы мне не патрэбны, — сказаў ён. — А то можаце запэцкаць ваш **новы** касцюм.

Ён зрабіў націск на слове "новы".

І яшчэ ўсміхнуўся з'едліва.

Нічога не сказаўшы ў адказ, я стаў зрываць лейбу, што вісела на касцюме

Яшчэ адна хіба Жасмэн. Але нельга ж, урэшце, патрабаваць ад жанчыны, якая вас і ведаць не ведае, імені вашага ніколі не чула, не падазравае нават пра вашае існаванне, якая і сама, мажліва, існуе адно часткова, а то і зусім не існуе, — нельга ж патрабаваць ад яе дысцыплінаванасці амерыканскай гувернанткі Алісы Маршал, па нараджэнні дэ Брыджпорт (графства Уілшыр); а я ж і Алісу цэрабіў за пастаянную да мяне няўважлівасць. Яна заўважыла, што нельга адначасна выхоўваць пляменнікаў і зразаць лейбы, і мне давялося схіліцца перад гэтым аргументам, бо якраз у той самы момант я праходзіў з вітальні ў сталовую, а дзвярны касяк быў відавочна нізкі, пра што я шмат разоў казаў глухому архітэктару, нанятаму нашым домаўладальнікам.

Выправіўшы недахопы ў касцюме, я рушыў да спальні Жасмэнінай маці, на дыбачках, каб не разбудзіць яе Я аддаў гэтай жанчыне адзін з лепшых пакояў, з тых, што выходзяць вокнамі на вуліцу

Ужо час, мажліва, абмаляваць вам Жасмэн, але калі зрабіць толькі накід (вокны заўсёды зашторaныя, бо паколькі Жасмэн няма, то, як вынік, у яе не можа быць маці, што ёсць неаспрэчнасцю, у чым вы самі пераканаецеся на працягу гэтага аповеду), — партрэт не будзе дастаткова дакладным.

Я прайшоў цераз спальню Жасмэнінай маці і асцярожна адчыніў дзверы ў більярдную, сумежную з ваннай У чаканні магчымага прыходу водаправодчыка я досыць даўно прабіў у сцяне ваннага пакоя адтуліну, чым і можна растлумачыць той факт, што цяпер я мог з задавальненнем назіраць адсюль за працай спецыяліста. Узняўшы галаву, ён убачыў мяне і зрабіў знак далучыцца да яго

Я быў змушаны спешна рушыць тым самым шляхам у адваротным накірунку Па дарозе я заўважыў, што мае пляменнікі яшчэ распраўляліся з газавай калонкаю, і перажыў пачуццё невытлумачальнай, але глыбокай пагарды да ўсіх рэчаў кшталту газавых калонак. (Пачуццё, праўда, было нядоўгае, бо водаправодчык чакаў мяне і затрымлівацца было нельга, а то ён палічыў бы маё спазненне за праяву фанабэрыстасці, якую часта ўгледжваюць у маёй самавітасці ) Я хутка трапіў у хол, адчыніў дзверы, што вялі на вузкую пляцоўку з чатырма ўваходамі, адзін з якіх быў у більярдную (праўда, ён быў забіты), другі, таксама забіты, — у спальню Жасмэнінай маці, і чацвёрты — у ванны пакой Я зачыніў за сабою трэція дзверы і ўвайшоў нарэшце ў чацвёртыя

Майстар сядзеў на краі ванны і меланхалічна разглядаў тоўстыя дошкі, якія ў нядаўнім мінулым закрывалі трубы, — ён выламаў іх зубілам.

— Ніколі не бачыў такой канструкцыі, — запэўніў ён мяне

— Яна старая, — сказаў я.

— Яно відаць.

— Вось я й кажу

Ну адкуль мне ведаць, калі яна зроблена — гэтага ж ніхто не ведае

— Некаторыя любяць пагаварыць, — заўважыў водаправодчык, — і куды гэта іх заводзіць?. Але той, хто рабіў гэта — не спецыяліст

— Устаноўку рабіла вашая фірма, — сказаў я. — Я добра памятаю.

— Я тады ў іх яшчэ не працаваў, — растлумачыў ён — А калі б працаваў, дык дакладна пайшоў бы ад іх.

— Значыцца, — сказаў я, — так яно і ёсць; раз вы пайшлі б, то можна лічыць, што вы там былі, з моманту, калі вас там не было

— Ва ўсякім разе, калі б мне трапіўся гэты паскуднік, гэты суччын сын, ахвяра злучкі шлюхі са смярдзючым кенгуру, вылюдак, які так пагана зварганіў гэтую г .. ўстаноўку я б яму . як кажуць, ён бы ў мяне кампліментаў не дачакаўся.

Потым ён пачаў сварыцца, і ад лаянкі вены на ягонай шыі ўздзьмуліся, што вяроўкі Ён нахіліўся над ваннай, накіраваў голас на дно — з мэтаю дамагчыся найлепшага рэзанансу, і працягваў гэтак ажно гадзіну

— Годзе, — закончыў ён, усё яшчэ задыхаючыся — Давядзецца ўзяцца за працу

Я ўжо паспрабаваў усесціся ямчэй, каб назіраць за тым, як ён працуе, калі ён дастаў са скуранога футарала вялізную зварачную гарэлку Потым выняў з кішэні флакон і выліў ягонае змесціва ў заглыбленне, прадугледжанае вынаходлівым вытворцам Чыркнуў запалкаю — і полымя ўскінулася аж да столі.

Потым нахіліўся, увесь у блакітным святле, і грэбліва агледзеў трубы гарачай і халоднай вады, газавую трубу, трубы цэнтральнага абагрэву і яшчэ нейкія, прызначэнне якіх мне невядомае

— Лепей за ўсё, — сказаў ён, — усё к чорту раструшчыць і пачаць з нуля. Але вам давядзецца раскашэліцца.

— Раз трэба, давайце, — сказаў я

Не жадаючы прысутнічаць пры пагроме, я на дыбачках пакінуў ванную. У той самы момант, калі я зачыняў дзверы, ён павярнуў вентыль зварачнай гарэлкі і гуд полымя заглушыў ледзь чутны лязг дзвярной засаўкі, што вярнулася на сваё месца.

Увайшоўшы ў Жасмэнін пакой — дзверы ў яго былі спачатку таксама забітыя, але

потым узнікла неабходнасць карыстацца імі, — я прайшоў цераз гасцёўню, збочыў да сталовай, адкуль ужо мог трапіць да сябе

Мне ўжо шмат разоў даводзілася заблудзіцца ў кватэры, і Жасмэн хоча любой цаною змяніць яе, але тады яна будзе змушана шукаць замену сама, раз так упарта вяртаецца ў мой аповед.

Зрэшты, я сам упарта вяртаюся да Жасмэн, і гэта таму, што я проста кахаю яе, яна не выконвае ў маім аповедзе аніякай ролі і, верагодна, ніколі й мець яе не будзе, калі, вядома, я не перагледжу сваё да гэтага стаўленне, але гэтага ўжо ніхто не можа прадбачыць, а паколькі рашэнне маё адразу ж стане вядомым, то няма ніякай патрэбы запыняцца на такой нецікавай тэме, бадай, яшчэ менш цікавай за якую іншую, — напрыклад, за развядзенне цірольскай мушкі ці даенне травяністай тлі.

Апынуўшыся нарэшце ў сваім пакоі, я сеў каля паліраванай дубовай шафкі, якая даўным-даўно — без перабольшвання — была ператворана мною ў электрафон. Манеўруючы выключальнікам, які размыкае блок-схему, замыканне якой прыводзіць апарат у дзеянне, я ажывіў дыск, на якім стаяла плытка, што вырывае з сябе, з дапамогаю вострай іголкі, мелодыю.

Змрочныя матывы "Deep South Suite"[1] неўзабаве вярнулі мяне ў любімую летаргію, і ўсё хутчэйшы рух маятнікаў уцягнуў сонечную сістэму ва ўзмоцненае кругавярчэнне і скарацію існаванне свету амаль на дзень. Неўзабаве я зразумеў, што ўжо палова дзевятай і я прачынаюся, занепакоены тым, што не лашчу сваімі нагамі спакуслівыя ногі Жасмэн, на жаль, Жасмэн не ведала мяне. А я чакаю яе няспынна, валасы яе струменяцца, як вада на сонцы, і мне хацелася б моцна сціснуць яе ў сваіх абдымках і ўпівацца ў яе вусны, але не ў тыя дні, калі яна становіцца падобнай на Клода Фарэра[2].

"Палавіна дзевятай, — сказаў я сабе. — Водаправодчык можа з голаду памерці".

Я хутка адзеўся, з'арыентаваўся і рушыў у ванны пакой Подступы да яго здаліся мне прыкметна зменененымі, нібыта перажылі не адзін глабальны катаклізм. У ваннай я адразу ж убачыў, што на звыклым месцы адсутнічаюць трубы, і ўмомант супакоіўся.

Водаправодчык, які выцягнуўся ўздоўж ваннай, яшчэ дыхаў. Я ўліў яму булён праз нюхаўкі — у зубах у яго быў заціснуты кавалачак волава. Не паспеў ён яшчэ ажыць па-сапраўднаму, як адразу зноў узяўся за працу.

— Увогуле, — сказаў ён, — асноўная праца ўжо закончана, усё разбурана дашчэнту, і я пачынаю з нуля. Вы не супраць?

— Рабіце, як лепш, — сказаў я. — Я цалкам давяраюся вашаму прафесіяналізму і ні за што на свеце не хацеў бы, каб нават найменшая мая заўвага хоць неяк сцішыла ўвас дух ініцыятывы. які, мушу вам сказаць, з'яўляецца эксклюзіўнай вартасцю чальцоў карпарацыі водаправодчыкаў.

— Не напружвайцеся, — параіў ён мне — У прынцыпе, я разумею, што вы хочаце сказаць, але школу я закончыў даўно, і калі вы будзеце тлуміць мне глузды, я з вамі размаўляць не буду Смешна проста, як гэта людзі, якія лічаць сябе адукаванымі, адчуваюць неабходнасць пакпіць з усіх!..

— Запэўніваю вас, — сказаў я, — што я перапоўнены найвялікшай павагаю да найменшага акта, які вы тут здзяйсняеце, і не думайце нават, што я хоць нейкім чынам хацеў вас прынізіць.

— Добра, — адказаў ён — Я хлопец не злы. Значыцца, так: я зраблю адну рэч — аднаўлю ўсё, што яны тут зляпалі. Усё-ткі калега тут працаваў, а водаправодчык ніколі не памыляецца. Часта кажуць: "Вось тая труба крывая! " І пытаюцца ў сябе, чаму, і, вядома, пачынаюць вінаваціць водаправодчыка, але калі па-сапраўднаму разабрацца, дык часцей за ўсё гэта адбываецца таму, што яны ў гэтым нічога не разумеюць і ім выгадней лічыць, што труба крывая. А гэта сценка крывая Што ж да нашага выпадку, то я перараблю ўсё акурат як было. Цюцелька ў цюцельку Ну а пасля гэтага, я ўпэўнены, усё запрацуе як трэба.

Я ледзь стрымаўся, жадаючы выказаць сваю асабістую думку· усё працавала як трэба і да ягонага прыходу Але, можа, я і на самай справе нечага не разумею? Парадокс з прамой трубою не выходзіў у мяне з галавы, і я змаўчаў

Мне ўдалося адшукаць мой ложак. На верхнім паверсе чуліся занепакоеныя крокі. Людзі — істоты надакучлівыя, нельга, ці што, як нервуюцца, ляжаць у ложку, а не хадзіць з кута ў кут? Прыйшоў да высновы: нельга.

Жасмэн праследавала мяне, быццам насланнё, і я кляў яе маці за тое, што яна адарвала ад мяне Жасмэн са злосцю, якую ніштое не апраўдвае. Жасмэн дзевятнаццаць гадоў, і я ведаю, што ў яе ўжо былі мужчыны, не я адзін, — яшчэ адна прычына не адмаўляць мне ў блізкасці Гэта ўсё яе маці — і рэўнасць. Я спрабаваў знайсці якую-небудзь іншую прычыну, значна адрозную, скажам, якуюсь незразумелую злосць, але мне было так цяжка ўявіць яе ў пэўнай дакладнай форме, што цяпер я сам знепрытомнеў У ванным пакоі блакітнае полымя зварачнай гарэлкі ахоўвала мяжу майго сну няроўна акісленымі махрамі

II

Водаправодчык прабыў у мяне сорак дзевяць гадзін. Праца набліжалася да свайго заканчэння, калі, ідучы на кухню, я пачуў стук ва ўваходныя дзверы.

— Адчыніце!. — казалі мне. — Тэрмінова!

Я адчыніў і ўбачыў суседку зверху, у глыбокім смутку Па яе твары было відаць, што нядаўна яна перажыла вялікае гора. З яе цякла на мой дыван вада Здавалася, яна з Сены толькі што выбралася

— Вы ўпалі ў ваду? — пацікавіўся я.

— Выбачайце, што турбую, пан, — сказала яна, — але справа ў тым, што ў мяне ў ванным пакоі цячэ вада. Я выклікала водаправодчыка, і ён мусіў прыйсці тры дні назад..

— У мяне тут адзін працуе, — сказаў я

— Можа, ваш?

— Сямёра маіх дзяцей патанула. Двое старэйшых яшчэ дыхаюць, бо вада даходзіць ім толькі да падбароддзя. Але калі ў водаправодчыка яшчэ засталася праца. я не хачу вам замінаць. .

— Я мяркую, ён памыліўся на адзін паверх, — сказаў я — Пайду спытаюся ў яго на ўсялякі выпадак. А ўвогуле ў мяне ўсё працавала нармалёва.

III

Калі я ўвайшоў у ванную, водаправодчык крэсліў апошні штрых, аздабляў пры дапамозе зварачнай гарэлкі голую сценку кветкаю ірысу.

— Вось так, бадай, можна пакінуць, — сказаў ён мне — Я ўсё аднавіў, як вы бачыце Усё стала як было, я толькі падварыў сёе-тое, гэта ў мяне заўсёды як найлепш выходзіць, а я люблю, калі праца добра зроблена.

— Тут адна пані вас пытаецца Вы не на паверх вышэй мусілі ўзняцца?

— Гэта ж пяты?

— Чацвёрты.

— Значыцца, я памыліўся, — зрабіў ён выснову — Я падымуся да гэтай пані. Рахунак вам прышлюць з фірмы Але не шкадуйце ні аб чым.. Для водаправодчыка ў ваннай праца заўсёды знойдзецца.

# Тужлівая гісторыя

У чорнай зашклёнай пустаце акна ўспыхнуў каламутна-жоўты ліхтар — было роўна шэсць гадзін вечара. Уэн паглядзеў і ўздыхнуў Праца над словалоўкай ішла марудна.

Ён цярпець не мог незашторaных вокны, але яшчэ больш ненавідзеў шторы і згадаў цяпер благім словам архітэктараў: якое ўжо тысячагоддзе жылыя дамы будуюць з прадзіраўленымі сценамі Ён з нудою зноў узяўся за працу· трэба было як найхутчэй падагнаць кручкі дэзінтэгратара, які разбіваў сказы на словы, перш чым яны будуць злоўлены. Дзеля большае цікавасці ён ускладніў задачу· вырашыў не лічыць паўнацэннымі словамі саюзы — яны занадта сухія і не могуць мець высакароднай важкасці Таму, перад тым як пачаць фільтраваць тэкст, яму трэба было вычляняць іх цяпер уручную і ссыпаць у скрыначкі, якія ўжо кішма кішэлі кропкамі, коскамі ды іншымі знакамі прыпынку. Аперацыя нескладаная, проста прымітыўная, але патрабуе пэўнага спрыту. Уэн сцёр сабе на гэтым пальцы.

Але ці не запрацаваўся ён? Уэн адклаў убок залаты пінцэцік, прыўзняў брыво, вызваліў заціснутую ў вачніцы лупу і ўстаў. Адразу ж захацелася размяцца. Энергія перапаўняла яго. Някепска было б выйсці пагуляць.

Ходнік пустыннай вулкі выслізнуў у яго з-пад ног, і, хоць Уэн прызвычаіўся ўжо да гэтай вераломнай ягонай уласцівасці, яна ўсё яшчэ раздражняла яго Ён перайшоў на край бруку На ім, там, дзе яшчэ не высахла сцёкавая вада, брудна блішчэлі разводы бензіну

Ісці было прыемна. узнімаючыся па

---

[1] "Глыбокая паўднёвая сюіта" (англ.).

[2] Клод Фарэр — французскі пісьменнік са знешнасцю марскога воўка.

насавых перагародках, паветра прамывала звіліны мозга і аслабляла прыліў крыві да гэтага важкага, аб'ёмістага двухпаўшарнага органа. Эфект звычайны, але кожны раз ён выклікаў у яго захапленне

Дзякуючы гэтай пастаяннай прастадушнасці і жыццё яго было багацейшае, чым у іншых.

Дайшоўшы да канца кароткага тупіка, ён засумняваўся, таму што апынуўся на скрыжаванні Нездатны зрабіць выбар, ён пайшоў, як і ішоў, напрасткі. ні ўлева, ні ўправа яго не вабіла. Монанакіраваная дарога вяла да моста; адтуль можна было паглядзець, якая сёння вада, няма сумніву, яна мала адрознівалася ад учорашняй сваім выглядам, але ж вонкавасць — усяго толькі адна з незлічоных якасцяў вады.

Вулка, як і тупік, была бязлюдная, жоўтыя плямы серы на мокрым асфальце былі падобныя да саламандры Дарога выцягвалася ўверх, да моста, што перасякаў раку. Там Уэн і збіраўся спыніцца, абапёршыся локцямі на парэнчы, пры той, вядома, умове, што абодва бакі моста будуць вольныя ад такіх, як ён, назіральнікаў, але калі там стаяць, утаропіўшыся ў ваду, іншыя, то які сэнс далучаць свой погляд да чужых?

Паўз яго ціха праслізнулі, быццам два згусткі цемры, два маладыя святары, час ад часу яны спыняліся, заходзілі ў які-небудзь закутак і любаярліва цалаваліся Уэн быў крануты гэтым відовішчам Як усё-такі добра, што ён выйшаў пагуляць. сякія-такія сцэнкі вулічнага жыцця выдатна казычуць нервы Ён паскорыў хаду і адразу ж вырашыў, што рабіць з апошнімі цяжкасцямі ў канструкцыі словалоўкі — па сутнасці, зусім нязначнымі, трэба адно крыху пастарацца, і ад іх следу не застанецца, ніякае бачнасці, ніякага на іх намёку

Потым паўз яго прайшоў генерал, ён вёў на скураным павадку ўзмыленага арыштанта, якому, каб ён не ўздумаў які-небудзь параніць генерала, спуталі ногі і скруцілі рукі за галавою Калі арыштант прыпыняўся, генерал тузаў яго за павадок, і той падаў тварам у лужыну Генерал ішоў хутка, працоўны дзень быў скончаны, дома яго чакае булён з літарамі, і ён яго ўмомант заглыне Сёння ён, як заўсёды, выкладзе сваё імя на краі талеркі ўтрая хутчэй за арыштанта і на поўных нянавісці арыштантавых вачах зжарэ абедзве порцыі У гэтым спаборніцтве арыштант быў проста асуджаны на паразу: ягонае імя было Ёэф Ульрых дэ Заксакра-мерыготэнсбург, а генерала звалі Поль, але гэтай дэталі Уэн не ведаў Аднак ён звярнуў увагу на лакіраваныя боцікі генерала і падумаў, што на месцы арыштанта ён адчуваў бы сябе няважна. Гэтаксама, зрэшты, як і на месцы генерала, але арыштант, у адрозненне ад апошняга, свайго месца не выбіраў І ўвогуле, не заўсёды знойдзеш прэтэндэнтаў на пасаду арыштанта, а вось ад тых, хто жадае стаць асенізатарам, вышукнікам, суддзёю ці генералам, падзецца няма куды доказ таго, што самыя брудныя заняткі маюць, несумненна, свае вабныя бакі. Уэн пачаў разважаць аб непрывабных прафесіях. Бясспрэчна, у дзесяць разоў лепш збіраць словалоўкі, чым быць генералам Дзесяць нават недастаткова вялікі каэфіцыент Зрэшты, галоўнае — прынцып.

На апорах моста высіліся тэлескапічныя маякі — яны не толькі прыгожа свяціліся, але яшчэ і вызначалі шлях караблям. Уэн даўно ацаніў іх і, не гледзячы, прайшоў паўз. Мэта была блізкая, і ён паскорыў хаду Але тое, што ён убачыў, змусіла яго прыпыніцца. Над парэнчамі моста віднелася невысокая постаць. Уэн адразу ж пабег туды. Па той бок парэнчаў, на карнізе з бляхай для сцёку ападкаў, стаяла зусім яшчэ маладая дзяўчына з бэжавымі валасамі. Было відаць, што яна збіралася кінуцца ў ваду, але не магла наважыцца. Уэн абапёрся локцямі на парэнчы за яе спіною.

— Я гатовы, — сказаў ён — Можна скакаць.

Дзяўчына азірнулася і нерашуча паглядзела на яго.

— Не магу вызначыць, з якога боку лепш кінуцца. вышэй ці ніжэй па цячэнні. Вышэй цячэнне можа падхапіць мяне і разбіць аб апору Ніжэй мяне закруціць віры. Але калі ад скачка мяне аглушыць, то я магу зачапіцца за апору І ў першым і ў другім выпадку мяне будзе відаць і на мяне, пэўна, зверне ўвагу які-сь выратавальнік.

— Тут ёсць над чым паламаць галаву, — сказаў Уэн, — і я дужа ўхваляю сур'ёзнасць, з якой вы падыходзіце да вырашэння праблемы. І, ведама ж, я цалкам да вашых паслуг і гатовы дапамагчы вам паспяхова выйсці са складанага становішча.

— Вы робіце мне вялікую ласку, — сказала дзяўчына Вусны ў яе былі ярка нафарбаваныя — Мяне гэта ўжо так прытаміла, што я й не ведаю, з якога боку да гэтай справы падысці

— Мы маглі б усё дэталёва абмеркаваць у кавярні, — сказаў Уэн. — Я без чарачкі кепска глуздамі варушу Можна, я вас пачастую? Да таго ж, гэта паскорыць потым кровазліццё

— Ахвотна згаджуся, — адказала дзяўчына.

Уэн дапамог ёй перапезці назад на мост і выявіў пры гэтым, што яе найбольш акрэсленыя і, адпаведна, небяспечныя месцы — вераломна акругленыя Ён зрабіў ёй камплімент.

— Я павінна была б, вядома, пачырванець, — сказала яна, — але, калі шчыра, вы маеце поўную рацыю. У мяне ўсё як мае быць. Гляньце на ногі.

Яна задрала фланелевую спаднічку, і Уэн змог ацаніць форму яе ног і пяшчотнасць скуры. Галава ў яго крыху закружылася.

— Я разумею, што вы хочаце сказаць, — адказаў ён. — Ну, што ж, хадзем возьмем па чарачцы, а калі ва ўсім вызначымся, вернемся сюды і вы кінецеся з таго боку, што трэба.

Яны пайшлі рука аб руку, нага ў нагу, у выдатным гуморы Яна сказала, што яе завуць Флавія, і гэтая праява шчырасці яшчэ больш узмацніла ягоную прыязнасць да дзяўчыны.

Неўзабаве яны ўжо сядзелі ў сціплай установе, куды звычайна заходзяць матросы са сваімі шлюшкамі.

— Я не хацела б, — загаварыла яна, — каб вы прынялі мяне за ідыётку, але з-за нерашучасці ў выбары месца самазабойства я зусім звялася, і цяпер час пераадолець гэтую нерашучасць. Інакш, памры не памры, я ўсё роўна засталася б ні на што няздольнай дурніцай

— Бяда ў тым, — згаджаючыся, сказаў Уэн, — што колькасць варыянтаў рашэння не заўсёды бывае няцотнай. У вашым выпадку не задавальняюць абодва варыянты: і вышэй, і ніжэй па цячэнні І выбар паміж імі двума таксама непазбежны. У якім бы месцы ні стаяў мост на рацэ, ён раздзяляе яе на гэтыя дзве часткі

— Калі толькі не ля самага вытоку, — заўважыла Флавія.

— Абсалютна дакладна, — сказаў Уэн, ацаніўшы выказаную ёй вастрыню розуму — Але каля вытоку рэкі зазвычай не вельмі глыбокія

— У тым уся праблема, — сказала Флавія.

— Аднак, — знайшоў выйсце Уэн, — застаецца магчымасць скарыстаць падвясны мост

— Але ці можна тады лічыць справу чыста выкананай?

— Калі звярнуцца да іншых рэк, дык Туўр, напрыклад, дастаткова паўнаводны для любога нармальнага самазабойцы.

— Гэта дужа далёка, — запярэчыла яна.

— У басейне Шаранты, — удакладніў Уэн.

— Калі нават тапіцца — і то праца, калі гэта так цяжка, як і ўсё астатняе ў гэтым жыцці, дык што ж гэта тады за жах? Адно пакончыць з сабою і застаецца.

— А праўда, — пацікавіўся нарэшце Уэн, — што штурхае вас да гэтага ўчынку?

— Тужлівая гісторыя, — адказала Флавія, выціраючы адзіную слязу, якая раптам зрабіла яе твар асіметрычным.

— Я згараю ад нецярпення пачуць яе, — сказаў Уэн, распаляючыся.

— Я распавяду вам яе зараз.

Уэну была даспадобы простасць Флавіі. Яе не трэба было ўпрошваць расказаць сваю гісторыю. Несумненна, яна разумела, якую выключную цікавасць уяўляюць сабою такія прызнанні Уэн падрыхтаваўся выслухаць дастаткова доўгі аповед. у маладой дзяўчыны зазвычай маса магчымасцяў для кантактавання з асобамі абодвух полаў, — тарцінка з джэмам мае нашмат большыя шанцы азнаёміцца з пабудовай і паводзінамі двухкрылых, чым шурпаты кавалак крэменю. Так што, гісторыя жыцця Флавіі будзе, вядома, багатая на факты і падзеі, з якіх можна зрабіць карысны маральны вопыт Карысны, натуральна, для яго, Уэна: асабісты маральны вопыт уяўляе каштоўнасць адно для бліжняга, самі мы добра ведаем тайныя матывы, якія змушаюць нас падаваць гэты вопыт ва ўрэзаным, утрамбаваным выглядзе

— Я нарадзілася, — пачала Флавія, — дваццаць два і восем дванаццатых года таму назад у невялікім нармандскім замку Бацька мой, выкладчык добрых манер у пансіёне мадэмуазель Кабак, разбагацеўшы на службе, адасобіўся ад усяго свету ў гэтым замку са сваёю служанкаю, каб атрымліваць насалоду ад усіх ейных вабнотаў ды спакойнага жыцця пасля доўгіх гадоў цяжкай працы; маці мая, былая яго вучаніца, якую яму ўдалося спакусіць з вялікай цяжкасцю, — ён быў вельмі непрыгожы, не паехала ўслед за ім

і жыла ў Парыжы паперамена то з архіепіскапам, то з камісарам паліцыі Бацька, зацяты антыклерыкал, не ведаў пра яе сувязь з першым, інакш бы ён запатрабаваў разводу; а вось пэўная роднасць, якая з'явілася ў яго, як вынік, з вышукнікам, нават радавала яго яна дазваляла яму пакпіць з гэтага сумленнага службоўца, які задавальняўся ягонымі аб'едкамі. Апрача таго, яму дасталася ад нейкага продка багатая спадчына ў выглядзе шматка зямлі, які месціўся на Плошчы Оперы ў Парыжы Ён з задавальненнем наведваўся туды па нядзелях і важдаўся з пасаджанымі там артышокамі пад самым носам у вадзіцеляў аўтобусаў Як бачыце, бацька пагарджаў любой уніформаю, ва ўсіх яе відах.

— Але пры чым тут вы? — спытаўся Уэн, адчуваючы, што дзяўчына губляе нітку аповеду

— На самай справе

Яна адпіла глыток маладога віна. І тут, раптоўна, заплакала — ціха, быццам водаправодны кран у добрым стане Здавалася, яна ў адчаі Так, бадай, і было. Усхваляваны, Уэн узяў яе за руку Але адразу ж выпусціў, не ведаючы, што з ёю рабіць. Аднак Флавія ўжо супакойвалася.

— Сасіска я сіняя, — сказала яна.

— Ну не, — запярэчыў Уэн, развахжыўшы, што яна залішне суровая да сябе — Дарэмна я вас перапыніў

— Усё, што я расказала вам — хлусня, — сказала яна — З гонару Архіепіскап быў звычайным епіскапам, а камісар — вулічным рэгуліроўшчыкам А сама я краўчыха і ледзьве зводжу канцы з канцамі Заказчыцы бываюць рэдка, ды яшчэ і злосныя, самыя сапраўдныя сцервы Можна сказаць, смяюцца, калі я са скуры лезу Грошай няма, пастаянны голад, я такая няшчасная! А мой сябра ў турме Ён прадаваў сакрэтныя звесткі замежнай дзяржаве, але ўзяў вышэй таксы, і яго пасадзілі А зборшчык падаткаў бярэ ўсё болей і болей; гэта мой дзядзька, калі ён не заплаціць сваіх картачных пазык, цётка з шасцю дзецьмі пойдзе па свеце, вы ўяўляеце, старэйшаму трыццаць пяць, а ведалі б вы, колькі ж ён з'ядае ў ягоным узросце!

Не стрымаўшыся, яна горка заплакала.

— Дзень і ноч я не выпускаю з рук іголку, і ўсё марна, бо няма на што купіць нават катушку нітак!

Уэн не ведаў, што сказаць. Ён паляпаў яе па плячы і падумаў, што трэба яе падбадзёрыць, але як? Гэта ж не проста. падзьмуў на яе зверху, і ўсё ў парадку А зрэшты. хто хоць калі спрабаваў?

Ён падзьмуў.

— Што з вамі? — спыталася дзяўчына.

— Нічога, — адказаў ён. — Я ўздыхнуў Вашая гісторыя ўразіла мяне

— О, — сказала яна, — гэта яшчэ так сабе Пра горшае я й расказваць баюся

Ён ласкава пагладзіў яе па сцягне.

— Даверцеся мне, гэта дае палёгку.

— Праўда? І вам таксама?

— Божа мой, — сказаў ён, — так проста кажуць. Вядома, гэта агульныя словы.

— Дык ці не ўсё роўна? — сказала яна.

— Дык ці не ўсё роўна? — паўтарыў ён.

— Яшчэ ператварае ў пекла маё клятае існаванне, — прадоўжыла Флавія, — мой заганны брат Ён спіць са сваім сабакам, плюе на падлогу — толькі прачнецца, б'е кацяня, а прайшоўшы паўз кансьержку, гучна псуе паветра.

Уэн знямеў Калі чалавек гэткі разбэшчаны, дык пра якія каментары тут можа ісці гаворка?

— Падумайце, — сказала Флавія, — калі ён такі ў паўтара гады, то што з ім будзе потым?

Тут яна зноў заплакала — не так жаласліва, як папярэдні раз, затое мацней. Уэн пагладзіў яе па шчацэ, але надоўга яго не хапіла: яна плакала такімі гарачымі слязьмі, што ён адразу ж прыбраў абпаленую руку

— Бедная дзяўчынка! — усклікнуў ён.

Гэтых слоў яна і чакала.

— Я неяк ужо вас папярэдзіла, — загаварыла яна, — галоўнага я вам яшчэ і не сказала.

— Кажыце, — настойваў Уэн, цяпер ужо гатовы да ўсяго

Яна пачала, і ён таропка ўвёў у вушы іншародныя целы, каб нічога не чуць, але і таго нешматлікага, што ён усё ж пачуў, хапіла, каб яго прабіў халодны пот — нават бялізна да цела прыстала.

— Гэта ўсё? — спытаўся ён гучным голасам нядаўняга глухога.

— Усё, — сказала Флавія. — Мне стала лепей

Яна адным глытком перакуліла змесціва сваёй чаркі, якое адразу ж вывернула на стол Але гэтая гарэзлівасць мала развеселіла суразмоўцу

— Няшчаснае стварэнне, — уздыхнуў ён нарэшце

Ён выняў з кішэні кашалёк і паклікаў афіцыянта — той падышоў з відавочнай агідаю.

— Вы мяне паклікалі?

— Так. Колькі я вам вінен?

Афіцыянт назваў суму.

— Вось, — сказаў Уэн, даючы болей.

— Дзякуй сабе скажыце самі, у нас самаабслуга.

— Цудоўна, — адказаў Уэн. — Ідзіце прэч, ад вас смярдзіць.

Афіцыянт пайшоў, абражаны — усё-такі Уэн няблага пастаяў за сябе. Флавія глядзела на яго з захапленнем.

— У вас ёсць грошы!

— Вазьміце ўсе іх сабе, — сказаў Уэн. — Вам яны больш патрэбныя, чым мне

Твар яе знерухомеў ад здзіўлення, усё роўна як перад ёю быў Дзед Мароз Выраз твару Уэна перадаць цяжка — Дзеда Мароза ніхто ж не бачыў.

Уэн вяртаўся дамоў адзін. Было позна, гарэў толькі кожны другі ліхтар, астатнія спалі стоячы Уэн ішоў, панурыўшы галаў Ён думаў пра Флавію, пра тое, з якой радасцю ўзяла яна ўсе ягоныя грошы Гэта дужа кранула яго Бедная дзяўчынка, не пакінула яму ані франка У яе ўзросце, калі няма на што жыць, адчуваеш сябе зусім разгубленым. Дзіўнае супадзенне. ён згадаў, што яны аднаго ўзросту! Такая абяздоленая! Цяпер, калі яна забрала ў яго ўсё, што ён меў, ён зразумеў, да чаго ж няўтульна ў яе становішчы Ён агледзеўся Вуліца бліщчэла ў цьмяным святле месяца, які вісеў акурат над мостам Грошай болей няма І словалоўка не закончаная На пустынную вуліцу павольна ўступіў вясельны картэж лунацікаў, але і ён не прывабіў да сябе ўвагі Уэна. Ён успомніў арыштанта. Вось каму, мусібыць, рэчы ўяўляліся простымі. Дый яму самому таксама Мост усё бліжэй Грошай больш няма Бедная, бедная Флавія. Не, цяпер у яе былі грошы. Але якая ўсё-такі тужлівая гісторыя! Як скарыцца з такой галечаю? І якая ўдача, што ён своечасова апынуўся побач Для яе. Не да кожнага паспявае своечасова чалавек.

Ён пералез цераз парэнчы і стаў на карніз. Удалечыні заціхалі крокі вясельнай працэсіі. Ён паглядзеў направа, налева. Вядома, ёй дужа пашанцавала, што ён праходзіў міма. Аніводнай душы наўкол Ён паціснуў плячыма, памацаў пустую кішэню. Бясспрэчна, жыць у такім становішчы не варта. Вышэй, ніжэй па цячэнні — розніцы аніякай

І ён кінуўся ў раку, адпрэчыўшы ўсе сумненні. Дзе ні скокні, усё роўна пойдзеш да дна. Розніца невялікая

# Залатое сэрца

## I

Ольн прыціскаўся да сценаў дамоў і падазрона азіраўся на кожным кроку. Толькі што ён завалодаў залатым сэрцам айца Міміля. Небараку, праўда, давялося крыху выпатрашыць — у прыватнасці, успароць яму садовым нажом грудную клетку, але калі выпадае нагода стаць уладальнікам залатога сэрца, дык не даводзіцца вагацца ў выбары сродкаў.

Прайшоўшы трыста метраў, Ольн дэманстратыўна зняў сваю зладзейскую кепку, кінуў яе ў люк вадасцёку і надзеў фетравы капялюш — такія носяць людзі прыстойныя У хадзе ягонай з'явілася ўпэўненасць, замінала толькі залатое сэрца айца Міміля — усё яшчэ цёпленькае, яно непрыемна ўздрыгвала ў кішэні. Ужо адным сваім выглядам яно павінна было падштурхоўваць да зладзейства, і Ольн з вялікім задавальненнем палюбаваўся б зараз ім

На адлегласці аднаго кабельтава ад першага люка Ольну трапіўся другі, большы памерамі; натуральна, ім ён і скарыстаўся, каб пакінуць там дубінку і нож, з дапамогаю якіх здзейсніў забойства. Яны былі ў плямах крыві з прысохлымі да іх валаскамі, а паколькі Ольн рабіў усё, за што ні браўся, з асаблівай руплівасцю, то на іх, вядома, — можна не сумнявацца, — засталося багата адбіткаў пальцаў Пераадзявацца ён таксама, натуральна, не стаў, хоць адзежа была ўся ліпкая ад крыві людзі ўсё ж не прызвычаіліся, каб забойцы былі адзетыя, як і ўсе астатнія, а прыняты ў грамадстве парадак трэба шанаваць.

На стаянцы таксі ён выбраў машыну самую яркую і прыкметную – "берназізі" ўзору 1923 года, з самаробнымі плецёнымі сядзеннямі, вострaканечным багажнікам, крывым шафёрам і памятым заднім бамперам Атласны верх у малінавую і жоўтую палоскі надаваў калымазе проста незабыўны выгляд.

— Куды ехаць, начальнік? — спытаўся ў яго шафёр, мяркуючы па акцэнце, украінскі эмігрант

— Аб'язджай квартал — адказаў Ольн.

— Колькі разоў?

— Роўна столькі, каб табе на хвост селі лягавыя

— А-а — пачаў разважаць уголас шафёр — Добра. значыцца... глядзіце хуткасць я дужа перавысіць не магу, дык давайце я паеду па левым баку

— Давай, — адобрыў прапанову Ольн.

Ён апусціў верх і выструніўся на сядзенні, каб лепей было відаць ягоны акрываўлены касцюм, у спалучэнні з капелюшом прыстойнага буржуа ён красамоўна абвяшчаў· гэтаму чалавеку ёсць што ўтойваць.

Яны зрабілі дванаццаць кругоў і сустрэлі нарэшце поні з нумарам паліцэйскага вышуку Поні быў пафарбаваны ў сталёвы колер, а лёгкую павозку, якую ён цягнуў, аздабляў гарадскі герб. У павозцы сядзеў паліцэйскі ў параднай форме. Поні абнюхаў "берназізі" і заіржаў

— Усё нармалёва, — сказаў Ольн, — яны ўзялі нас на кручок. Едзь зараз па правым баку, а то яшчэ, барані Божа, дзіцё раздушым.

Шафёр збавіў хуткасць да мінімуму, каб поні мог праследаваць іх. Спакойны Ольн аддаваў распараджэнні, у выніку яны дабраліся да раёна высотных дамоў

Неўзабаве да першага поні далучыўся другі, пафарбаваны ў такі ж колер У павозцы, якую ён цягнуў, таксама сядзеў паліцэйскі, таксама ў параднай форме Пакуль лягавыя перагаворваліся, застаючыся ў сваіх калясках і паказваючы на Ольна пальцам, поні паціху рухаліся наперад, крок у крок, патрэсваючы галовамі, як пара галубкоў

Выглядзеўшы прыдатны дом, Ольн загадаў шафёру спыніцца і выскачыў на ходнік, перамахнуўшы цераз дзверцы аўтамабіля — з разлікам на тое, каб паліцэйскія змаглі лепш разгледзець кроў на ягоным касцюме

Увайшоўшы ў пад'езд, ён накіраваўся да чорнай лесвіцы.

Не спяшаючыся, падняўся на чацвёрты паверх. Там размяшчаліся пакоі прыслугі. Перпендыкулярна лесвічнай клетцы цягнуўся выкладзены цёмнай шасцівугольнай пліткаю калідор. У левым яго канцы, паміж ваннамі й туалетамі, было акно, якое выходзіла на ўнутраны двор. Туды ён і пайшоў. І неўзабаве ўбачыў над галавою слухавое акенца. Акурат пад акенцам, як зоркаю асвятляючы шлях, стаяла лаўка. Ольн шпарка выбраўся на дах.

Там ён перавёў дух — пагоня мусіла ўжо змарыцца. Набраў пра запас больш паветра — пры спуску прыдасца.

Па спадзістым схіле даху ён збег хутка. А каля стромкага спыніўся, павярнуўся спінаю да зіхоткае прорвы вуліцы, прысеў і, абапіраючыся на рукі, з'ехаў у вадасцёкавы латак, пасля чаго, прыўзняўшыся, пайшоў па краі ацынкаванага даху

З гэтае вышыні брукаваны двор здаўся зусім малюпасенькім. Унізе віднеліся пяць бакаў для смецця, старая мятла, падобная зверху на пэндзаль, і скрыня для адкідаў

Далей трэба было спусціцца ўніз і трапіць у адзін з ванных пакояў, дзеля чаго Ольн мусіў· спачатку скарыстацца ўбітымі ў сцяну скобамі, потым учапіцца абедзвюма рукамі за падаконне і падцягнуцца. Але рамяство забойцы не з лёгкіх. Ольн смела палез уверх.

А паліцэйскія разгублена бегалі па даху, грукочучы чаравікамі, — яны старанна выконвалі ўстаноўленую прэфектурай інструкцыю, у прыватнасці, яе параграф, датычны гукавога аспекту пагоні

II

Дзверы былі зачыненыя, таму што бацькі Мальца пайшлі. Малец застаўся дома адзін У шэсць гадоў людзі звычайна не нудзяцца ў кватэры, дзе ёсць шкло, каб яго біць, шторы, каб іх падпальваць, дываны, каб заліваць іх чарніламі, сцены, каб аздабляць іх адбіткамі пальцаў, — палітра, у выніку арыгінальнага выкарыстання сістэмы Бэрцільёна[1], пры наяўнасці так званых бясшкодных акварэльных фарбаў, не абмежаваная. А яшчэ ў кватэры ёсць ванная, краны, розныя рэчы, што могуць плаваць. . і выдатнае прыстасаванне для разьбы па гумцы — татава брытва, цудоўнае доўгае лязо.

Пачуўшы шум у двары, куды выходзіла акно ваннага пакоя, Малец расчыніў яго, каб выглянуць. І тут перад самым ягоным носам за падаконне ўхапіліся дзве здаравенныя мужчынскія рукі Услед за імі Малец убачыў барвовую фізіяномію Ольна.

[1] Бэрцільён распрацаваў сістэму ідэнтыфікацыі злачынцаў, дзе асоба распазнаецца па адбітках пальцаў

Але Ольн пераацаніў свае гімнастычныя здольнасці — падцягнуцца з аднаго разу яму не ўдалося. Праўда, трымаўся ён надзейна, сіла яшчэ заставалася, і Ольн вырашыў перадыхнуць, паднабрацца сілы, павіснуўшы на выцягнутых руках.

Малец асцярожна падняў руку з заціснутай у ёй брытваю і правёў вострым лязом па збялелых суставах пальцаў забойцы. Здаравенныя ўсё-ткі былі ў таго ручышчы!

Залатое сэрца айца Міміля ўсім сваім цяжарам цягнула Ольна да зямлі, рукі кроватачылі. Адно за адным, як гіганцкія струны, лопаліся сухажыллі Нарэшце на падаконні засталіся толькі фалангі, з якіх яшчэ цекла кроў. Цела Ольна з'ехала па сцяне, ударылася аб карніз другога паверха і ўпала ў бак з адкідамі. Даставаць яго адтуль сэнсу не было. заўтра анучнікі падбяруць.

# Падарожжа ў Ханастрова

I

Паравоз пранізліва загудзеў Машыніст зразумеў, што ягоны лакаматыў стрымліваюць тармазы, і павярнуў ручку ў патрэбным накірунку Тым часам чалавек у белай фуражцы трымаў з дапамогаю свістка сваё апошняе слова. Цягнік паволі крануўся з месца. На вакзале было сыра, змрочна, і цягніку стала няўтульна.

У купэ было шэсць чалавек — чацвёра мужчын і дзве жанчыны Пяцёра з іх абменьваліся вакабуламі[1], пяцёра — але не шосты. Злева направа ад акна, гледзячы перад сабою, сядзелі Жак, Раймон, Брыс і Карына, маладая, вельмі прыгожая бландзінка. Насупраць яе сядзеў мужчына, імені якога не ведалі, — звалі яго Сатурн Лям'ель. Насупраць Раймона сядзела другая жанчына, чарнявая Прыгажосцю яна не вылучалася, але ногі напаказ выстаўляла Яе звалі Гарамюш.

[1] Вакабула — слова *(лац.)*.

— Цягнік адыходзіць, — паведаміў Жак.

— Холадна, — сказала Гарамюш.

— Пагуляем у карты? — прапанаваў Раймон.

— Ды ну іх! — сказаў Брыс.

— А вы не вельмі ветлівы чалавек, — заўважыла Карына.

— Можа, пагуляеце са мною і Раймонам? — спытаўся Жак.

— А што? — ажывіўся Раймон.

— Файная ідэя, — пацвердзіў Брыс, які не вылучаўся ветлівасцю.

— Яна сядзе насупраць мяне, — прапанавала Гарамюш

— А я сяду побач з вамі, — сказаў Брыс.

— Лепш не варушыся, — запярэчыў Раймон.

— Не, перасядзьце, — сказаў Жак.

— Добра, — згадзілася Карына.

Усе адначасна ўсталі і перамяшаліся, і трэба зноў сказаць, дзе хто сядзіць. Адзін толькі Сатурн Лям'ель застаўся на ранейшым месцы і працягваў маўчаць. Такім чынам, цяпер ужо на другой лаўцы, злева направа, пачынаючы ад акна, апынуліся: Брыс і Гарамюш, а Сатурн Лям'ель сядзеў на адлегласці Насупраць яго таксама нікога не было А потым — Жак, Карына і Раймон.

— Так лепей, — сказаў Раймон

Ён выразна паглядзеў на Сатурна Лям'еля — той міргнуў, але не сказаў ані слова.

— Горш не стала, — сказаў Брыс, — але і ненашмат лепей.

Гарамюш падцягнула спаднічку вышэй. Сталі бачныя нікелевыя падвязкі на яе панчохах. Яна старалася сесці так, каб падвязкі было відаць з абодвух бакоў

— Вам не падабаюцца мае пазногці? — спыталася яна ў Брыса.

— Паслухайце, — сказала Карына, — вы непрыстойна сябе паводзіце Пра такія рэчы не пытаюцца.

— Дзівачка, — сказаў ёй Жак — Калі б у вас была такая пыса, як у яе, вы б таксама ногі выстаўлялі

Ён паглядзеў на Сатурна Лям'еля. Той, не рэагуючы, глядзеў у акно

— Пагуляем у карты? — зноў прапанаваў Раймон.

— К чорту! — запярэчыла Карына. — Мяне гэта не грэе Лепш пабалбочам.

На нейкі час запала няўтульная цішыня, і кожны ведаў, чаму Брыс сказаў не да месца.

— Калі б у гэтым купэ не было людзей,

якія не хочуць адказваць, калі з імі загаворваюць, усё было б у парадку

— Цудоўненька! — абурылася Гарамюш — Вы на мяне паглядзелі, перш чым гэта сказаць! А я хіба не адказваю?

— Не пра вас размова, — сказаў Жак.

У яго былі каштанавыя валасы, блакітныя вочы і прыгожы басісты голас. Адносна чыста паголены твар быў на шчоках мала не сіні, быццам спінка недасмажанай макрэлі.

— Калі Брыс мае на ўвазе мяне, — парыраваў Раймон, — то няхай скажа дакладней.

Ён другі раз паглядзеў на Сатурна Лям'еля Той, здавалася, быў цалкам захоплены сваімі думкамі.

—Раней, —заўважыла Карына, —ведалі спосабы прымусіць людзей гаварыць. У часы інквізіцыі Я пра гэта чытала.

Цягнік працаваў як мог, набіраючы добрую хуткасць, але тым не менш сачыў за коламі, і яны кожныя паўсекунды адстуквалі адну і тую ж думку. Час ад часу адзінокае дрэўца давала сваімі лісточкамі поўху гэтай бязмежнай халоднай прасторы

— Калі прыязджаем? — спытала Гарамюш

— Не раней чым заўтра ўранку, — адказаў Раймон.

— Можна і занудзіцца, — сказаў Брыс.

—Хоць бы людзі, калі да іх звяртаюцца, адказвалі, — сказаў Жак.

— Гэта вы пра мяне? — пацікавілася Карына.

— Хопіць! — не выцерпеў Раймон. — Гэта пра яго!

Яны раптоўна змоўклі. Раймон паказваў выцягнутым пальцам на Сатурна Лям'еля. Той не паварушыўся, але чацвёра астатніх прыўзняліся

— Ён мае рацыю, — заўважыў Брыс. — А то мы ўсё палямі-агародамі. Трэба, каб ён загаварыў.

— Вы таксама едзеце ў Ханастрова? — спытаўся Жак.

— Вам даспадобы гэтае падарожжа? — задала сваё пытанне Гарамюш.

Яна перасела да Сатурна, які сядзеў на адлегласці, і пакінула Брыса аднаго ля акна; ужо першы яе рух, зроблены побач з маўчуном, прыадкрыў ружовыя нікелевыя падвязкі Агаліліся сцёгны, загарэлыя і гладкія, — лепш няма куды.

— Вы гуляеце ў карты? — спытаўся Раймон.

— Ці чулі вы што-небудзь пра інквізіцыю? — пацікавілася Карына.

Сатурн Лям'ель, ніяк не рэагуючы, сядзеў па-ранейшаму, нават не паварушыўшыся. Ногі яго былі накрытыя сіне-зялёным шатландскім пледам. Твар — вельмі малады, валасы светлыя, рупліва расчасаныя на прабор.

— Чорт! — абурыўся Брыс. — Ён нас правакуе!

Рэхам ягоныя словы не адгукнуліся, і гэта зусім натуральна, калі ўлічыць той факт, што перагародкі купэ чыгуначнага вагона паводзяць сябе, як герметычныя — гэта вынікае з іхняй пабудовы, якая па перыметру ахоплівае семнаццаць метраў

Цішыня прыгнятала.

— Можа, усё-такі пагуляем у карты? — спытаўся Раймон.

— Абрыдлі вы ўжо з вашымі картамі! — усклікнула Гарамюш.

Было відаць. яна сваё мае на ўвазе.

— Пакіньце нас у спакоі! — усклікнуў Жак.

— У часы інквізіцыі, — пачала Карына, — пяткі такім падсмальвалі, каб загаварылі. Распаленым жалезам ці чым іншым Пазногці вырывалі Вочы выколвалі .

— А што? Нармалёва, — весела сказаў Брыс. — І мы так можам час прабавіць.

Усе ўсталі, за вылікам Сатурна Лям'еля.

Цягнік уехаў у тунель З шумам адскокваў ад палатна гравій — і ўвогуле выццё і грукат былі неверагодныя.

Калі цягнік выехаў з тунеля, Карына і Гарамюш сядзелі каля акна, адна насупраць другой. Побач з Сатурнам Лям'елем знаходзіўся Раймон. Месца спаміж ім і Карынаю было вольнае Насупраць Сатурна сядзелі Жак, Брыс і потым Гарамюш.

На каленях Брыс трымаў зусім новенькую валізу з жоўтай скуры з нікелевымі колцамі-ручкамі. На валізе значыліся ініцыялы нейкага чалавека, яго таксама звалі Брыс, але прозвішча складалася з дзвюх "П".

—Вы едзеце ў Ханастрова? —спытаўся Жак.

Ён звярнуўся непасрэдна да Сатурна Лям'еля Вочы ў таго былі заплюшчаныя, дыхаў ён роўна — відаць, клапаціўся аб якасці свайго сну.

Раймон надзеў акуляры ў масіўнай аправе Гэта быў вялікі і моцны мужчына. Валасы — трохі ў беспарадку, прабор — звычайны.

— Што будзем рабіць? — спытаўся ён.

— Пальцы ног . — прапанаваў Брыс і адкрыў валізу

— Трэба чаравікі зняць, — заўважыла Карына.

— Я выбрала б кітайскі метад, — не згадзілася Гарамюш

Пачырванеўшы, яна змоўкла усе глядзелі на яе з абурэннем.

—Вы думаеце, што кажаце? —спытаўся Жак.

—Ну і ну! Сцерва! —ацаніў яе прапанову Брыс.

— Вы перабіраеце, — разважыла Карына.

—А што гэта такое — кітайскі метад? — пацікавіўся Раймон.

Цяпер ужо запала проста мёртвая цішыня, тым больш, што цягнік праязджаў па спецыяльным, гумовым участку дарогі, пракладзеным спаміж Кансідэрметровам і Смагагалетамі.

Цішыня разбудзіла Сатурна Лям'еля. Ягоныя прыгожыя вочы колеру ляснога арэха расплюшчыліся, і ён падцягнуў шатландскі плед, які споўз яму на калені. Потым зноў заплюшчыў вочы. Здавалася, ён зноў заснуў

Раймон страшэнна пачырванеў і паўтарацьсваё пытанне не стаў Гарамюш нешта бурчэла ў куце Потым дастала з сумкі памаду і, маніпулюючы ніжняй часткаю корпуса, два-тры разы ўпотайкі высунула памаду з цюбіка, каб Раймон зразумеў, што яна мела на ўвазе Раймон пачырванеў яшчэ больш.

Брыс і Жак нахіліліся над валізаю, а Карына глядзела на Гарамюш з агідаю.

— Ногі, — сказаў Жак. — Здыміце з яго чаравікі, — падказаў ён Раймону

Той, шчаслівы праз тое, што можа быць карысным, прысеў на калені каля Сатурна Лям'еля і паспрабаваў развязаць шнуркі ягоных чаравікаў Але шнуркі пры адным толькі набліжэнні ягоных рук са свістам закруціліся ва ўсіх накірунках. Раззлаваны няўдачаю, ён сплюнуў, быццам кот у шале

— Ну давайце ж! — усклікнуў Брыс. — Вы нас затрымліваеце

— Я з усяе сілы намагаюся, — апраўдваўся Раймон. — Не выходзіць нічога.

— Трымайце, — сказаў Брыс.

Ён працягнуў Раймону бліскучыя вострыя шчыпчыкі. Раймон надрэзаў скуру вакол шнуркоў, каб не пашкодзіць іх, і пасля заканчэння аперацыі наматаў шнуркі сабе на пальцы.

— Нармалёва, — сказаў Брыс.

Затым узяўся за справу Жак. Сатурн Лям'ель усё яшчэ спаў Зняўшы чаравікі, Жак паклаў іх у сетку

— А калі чаравікі пакінуць? — прапанавала Карына — Гарачэй будзе І рану забрудзяць. Гэта можа выклікаць інфекцыю.

— Файная ідэя, — адобрыў Жак.

— Згодны, — падтрымаў яго Брыс.

Раймон сядзеў побач з Сатурнам і гуляў са шнуркамі

Брыс дастаў з валізы мініяцюрную паяльную лямпу, бутэлечку і выліў яе змесціва ў адтуліну гарэлкі. Жак запаліў сярнічку, і бензін успыхнуў. Прыгожае жоўта-сіняе полымя з дымам узвілося і абпаліла Брысу бровы Пакутнік вылаяўся

У гэты момант Сатурн Лям'ель расплюшчыў вочы, але неўзабаве зноў іх закрыў Ягоныя прыгожыя дагледжаныя доўгія рукі ляжалі на шатландскім пледзе і былі скрыжаваныя настолькі складаным чынам, што ў Раймона нават галава разбалелася за тыя пяць хвілін, на працягу якіх ён спрабаваў спасцігнуць, што ж гэта за скрыжаванне

Карына адкрыла сваю сумку і ўзяла грабеньчык. Яна прычэсвалася перад акном цемра звонку ёй гэта дазваляла. У стэпе выў моцны вецер, ваўкі скакалі, каб сагрэцца Цягнік абагнаў падарожніка-веласіпедыста, той з апошняе сілы націскаў на педалі, але ягоны двухколы сябра захрас у пяску Было ўжо недалёка да Брыскітапольска. Стэп будзе мець той самы выгляд ажно да Гарнарожніка, што за дзве з паловаю вярсты ад Бранчачарноўня. Ніхто не мог прамовіць імёны гэтых гарадоў, і звычайна іх называлі так: Юрвіль, Масон, Ле Пюі, Сэнт-Машын.

Лямпа раз за разам выплёўвала полымя, і Брыс зменшыў ягоную сілу. Потым перадаў лямпу Раймону і паставіў валізу на зямлю.

— Паспрабуем апошні раз? — пацікавіўся Раймон.

— Паспрабуем, — адказаў Жак і, нахіліўшыся над Сатурнам, запытаўся. — Вы едзеце да Ханастрова?

Сатурн адкрыў адно вока і адразу яго закрыў

– Нягоднік! – усклікнуў раз'юшана Брыс.

Цяпер ён сам прысеў перад Сатурнам на калені і прыўзняў адну нагу, не станем удакладняць, якую.

— Калі вы апаліце спачатку ногі, —

заўважыла Карына, — то будзе лепей — даўжэй зажывае

— Дайце мне лямпу, — сказаў Брыс Раймону

Той працягнуў яму лямпу, і Брыс прагуляўся да дзвярэй купэ, каб праверыць, ці нармальна грэе лямпа Лак адразу пачаў плавіцца, у купэ засмярдзела.

Загарэўшыся, шкарпэткі Сатурна засмярдзелі яшчэ болей, і Гарамюш адразу вызначыла, што гэта была баваўна. Карына не прыглядалася, яна ўзялася чытаць кнігу Раймон і Жак застылі ў чаканні Ад нагі Сатурна падымаўся дым, чулася патрэскванне, смярдзела гарачай скураю, на падлогу падалі чорныя кроплі. Брыс трымаў нагу Сатурна ў сваёй успацелай руцэ, яму рабілася млосна. Карына адклала кнігу ўбок і апусціла крыху шыбу, каб меней смярдзела.

— Хопіць, — вырашыў Жак — Паспрабуем яшчэ раз.

— Вы гуляеце ў карты? — ветліва спытаўся Раймон, паварочваючыся да Сатурна.

Рот у яго быў сціснуты крыху мацней звычайнага, лоб зморшчыўся. Ён усміхнуўся і прыкрыў павекі яшчэ шчыльней.

— Усё дарма, — сказаў Жак. — Не хоча гаварыць.

— Ну і паскуднік! — абурыўся Брыс.

— Вельмі дрэнна выхаваны тып, — выказаў сваю думку Раймон — Нармальныя людзі ў купэ, дзе яшчэ пяць пасажыраў, адказваюць, калі да іх звяртаюцца.

— Ці забаўляюцца, — сказала Гарамюш.

— Заткніцеся, вы! — амаль выкрыкнуў Брыс. — І так відаць, чаго вы хочаце

— Можаце паспрабаваць яшчэ шчыпчыкамі, — заўважыла Карына.

Яна падняла свой прыгожы твар, і павекі яе забіліся, быццам крылцы матылька.

— На далонях вы знойдзеце цікавыя месцейкі, — дадала яна

— Ну што, выключым? — прапанаваў Брыс.

— Чаму? — здзівілася Карына. — Да Ханастрова яшчэ далёка. Працягвайце па чарзе

— Загаворыць — нікуды не дзенецца, — сказаў Жак.

— Чорт ведае што за чалавек! Ну і морда! — абурылася Гарамюш.

На авальным твары Сатурна Лям'еля з'явілася ўсмешка. Брыс зноў узяўся за лямпу і прыступіў да апрацоўкі стапы другой нагі. Раймон тым часам корпаўся ў валізе

Блакітны агеньчык гарэлкі ўвайшоў у пятку Раймон шукаў нерв Жак падбадзёрваў яго.

— Паспрабуйце пад каленам, — параіла Карына.

Яны паклалі Сатурна, каб было зручней працаваць.

Твар у Сатурна быў зусім белы, павекі больш не прыадкрываліся. У купэ быў моцны скразняк: пах паленай скуры рабіўся ўжо амаль невыносным, і гэта Карыне не падабалася

Брыс пагасіў лямпу З ног Сатурна сцякала на запэцканую падлогу чорная вадкасць.

Жак выцер твар тыльным бокам далоні. А Раймон дакрануўся пальцамі да вуснаў Яму хацелася спяваць.

Правая рука Сатурна была падобная на расціснуты інжыр. З яе звісалі шматкі скуры і сухажылляў.

— Моцны хлопец, — адзначыў Раймон і падскочыў, убачыўшы, што рука Сатурна сама ўпала на лаўку

Яны не маглі сесці ўсе разам на адной лаўцы; Раймон вырашыў выйсці ў калідор размяць ногі. Ён прыхапіў з валізы ліст наждачнай паперы і напільнік.

У выніку ад акна да дзвярэй размясціліся Карына, Гарамюш, Жак і Брыс.

— Ну і лыч! — сказаў Жак.

— Не хоча гаварыць — і ўсё, — здзівілася Гарамюш.

— Гэта мы яшчэ паглядзім! — усклікнуў Брыс.

— Я вам зараз штосьці прапаную, — пачала Карына.

II

Цягнік тым часам усё яшчэ ехаў па заснежаным стэпе За акном мільгалі натоўпы жабракоў, якія вярталіся з падземнага базару горада Голдзін.

Ужо зусім развіднелася, і Карына разглядвала краявід за акном

У Сатурна Лям'еля заставаліся толькі адна нага і паўтары рукі, але, паколькі ён усё яшчэ не прачнуўся, нельга было сур'ёзна спадзявацца на тое, што ён загаворыць.

Праехалі Голдзін Да Ханастрова заставалася ўсяго толькі шэсць вёрстаў

Брыс, Жак і Раймон былі змораныя, але іхні маральны дух яшчэ неяк трымаўся.





У калідоры празвінеў тэалагальны[2] званок, і Сатурн тузануўся. Брыс выпусціў з рук іголку, а Жак ледзь не спаліў сябе электрапрасам, які ён трымаў у гэты момант у руках Раймон старанна працягваў вызначаць, дзе ў яго знаходзіцца пячонка?

Сатурн прыадкрыў павекі Ён з цяжкасцю сеў, паколькі адсутнасць левага сядалішча, па логіцы, не магла дазволіць яму ўтрымліваць раўнавагу, і нацягнуў свой шатландскі плед на ацалелую нагу, з якой звісалі шматкі скуры. Чаравікі спадарожнікаў чмякалі ў крыві.

Сатурн страсянуў сваімі залацістымі валасамі і прыемна ўсміхнуўся суседзям·

— Я не балбатлівы, праўда?

Якраз у гэты момант цягнік уязджаў на ханастроўскі вакзал Усе пакінулі вагон.

# Дохлыя рыбы

I

Як заўсёды, дзверы вагона заклініла. На другім канцы цягніка начальнік пры фуражцы ціснуў на чырвоную кнопку, нагнятаючы ў трубы паветра Памочнік з усяе сілы спрабаваў рассунуць створкі дзвярэй Было горача. Па яго твары, нібыта мухі, паўзлі шэрыя кроплі поту З-пад пінжака тырчэў брудны каўнер кашулі з браніраванага зефіру

Цягнік ужо рухаўся, калі начальнік узяў і адпусціў кнопку Паравоз выдыхнуў паветра, яно крутанулася пад вагонам, дзверы спакойна расчыніліся, і памочнік ледзь утрымаўся на нагах. Выходзячы з вагона, ён спатыкнуўся, зачапіўся сумкаю за ручку і парваў сумку

Цягнік ціха набіраў хуткасць, і хваляй паветра памочніка прыклеіла да смярдзючай прыбіральні, дзе два арабы, пусціўшы ў ход нажы, заканчвалі палітычную дыскусію.

Памочніка перасмыкнула, ён ускудлаціў валасы, якія прыліплі да чэрапа, быццам жухлая трава да зямлі Ад грудзей ішла пара — яны ўзмоклі, як у загнанага каня Кашуля была расшпіленая, відаць было ключыцы і крыва пасаджаныя рэбры Цяжка ступаючы, ён зашкандыбаў па пероне, выкладзеным зялёнымі й чырвонымі васьмівугольнікамі, сям-там з чорнымі падцёкамі Пасля абеду пачалася навальніца, здавалася, ей не будзе канца, тым не менш, службоўцы вакзала аддавалі непрыстойным заняткам час, у які павінны былі, у адпаведнасці з Генеральнай хартыяй чыгуначных службоўцаў, прыбіраць перонныя пляцоўкі.

Памочнік пашнарыў у кішэнях. Пальцы намацалі прамакутнік з тоўстага гафрыраванага кардону, які трэба было паказаць на выхадзе У памочніка балелі калені і рыпелі дрэнна падагнаныя суставы: на працы ён усе дні праводзіў стоячы па калені ў копанцы.

Трэба адзначыць, у сумцы ў яго была вельмі нават экзатычная здабыча.

Ён працягнуў квіток безаблічнаму кантралёру, які стаяў за кратамі Узяўшы квіток, той уважліва паглядзеў на яго і злосна ўсміхнуўся.

— Другога няма? — запытаўся ён

— Не . — адказаў памочнік.

— Гэты фальшывы.

— Але мне яго даў гаспадар, — лагодна сказаў памочнік. Ён усміхнуўся і развёў рукамі — на твары ў яго было непаразуменне

Кантралёр ухмыльнуўся

— Тады адназначна. квіток фальшывы. Ён сёння ў нас дзесяць такіх купіў

— Якіх — такіх? — спытаўся памочнік.

— Фальшывых.

— Але навошта яны яму? — Усмешка на твары памочніка зрушылася ўлева і пачала некуды знікаць.

— Навошта? А каб вам даць, — адказаў кантралёр. — У выніку· primo — вас можна павучыць, што я цяпер і раблю, secundo — узяць з вас штраф

— Але за што? — разгублена спытаўся памочнік. — Ды ў мяне і грошай амаль няма

— А за тое, што сорамна ездзіць з фальшывым квітком — парыраваў кантралёр.

— Дык вы ж самі іх робіце!..

— А што застаецца? Ёсць жа яшчэ тыпы накшталт вас — ніякага сумлення, раз'язджаюць з фальшывымі квіткамі. І ўвогуле, думаеце, лёгка дзень пры дні рабіць фальшывыя квіткі?

— Вы б лепей перон пачысцілі, — сказаў памочнік.

— Пагаварыце яшчэ! Плаціце штраф. Трыццаць франкаў

[2] Тэалагальны — неалагізм Віяна, ад слова "тэалагічны"

— А чаму — трыццаць? — запярэчыў памочнік. — За праезд без квітка бяруць дванаццаць.

— А за праезд з фальшывым квітком бяруць болей. Плаціце або паклічу зараз сабаку

— А ён не пачуе.

— Ну і што — што не пачуе? Тым горш — у вас барабанныя перапонкі лопнуць.

Памочнік угледзеўся ў змрочны твар кантралёра — той адказаў яму кплівым поглядам

— У мяне амаль няма грошай, — прамармытаў памочнік.

— І ў мяне таксама. Плаціце штраф.

— Гаспадар плаціць мне пяцьдзесят франкаў у дзень.. — сказаў усхваляваны памочнік, — і мне ж нешта есці трэба.

Кантралёр апусціў уніз сіні казырок фуражкі і, быццам шторкаю, закрыў ім твар.

— Я чакаю, — сказаў ён і пацёр вялікім пальцам аб указальны

Памочнік выняў з кішэні пацёрты, зацыраваны кашалёк, дастаў з яго дзве дзесяціфранкавыя паперкі ў шнарах і адну пяціфранкавую, яна яшчэ кроватачыла.

— Можа, дванаццаць? — нясмела прапанаваў ён.

— Трыццаць. — Кантралёр выцягнуў тры пальцы.

Памочнік уздыхнуў Пад нагамі яму ўбачыўся твар гаспадара. Памочнік плюнуў і трапіў у вока Сэрца забілася мацней Твар гаспадара пацямнеў і растаў Памочнік паклаў грошы ў працягнутую руку кантралёра і выйшаў Ён пачуў шчаўчок: казырок фуражкі кантралёра вярнуўся на звыклае месца. Памочнік пачаў павольна падымацца па сцяжынцы ўгару Сумка церлася аб яго худыя сцёгны, а бамбукавая ручка сачка білася, у такт крокам, па высахлых лытках.

II

Памочнік штурхнуў жалезныя веснічкі, і яны, жудасна праскрыгатаўшы, адчыніліся На ганку запалілася вялікая чырвоная лямпа, у вітальні ціха празвінеў званок. Памочнік увайшоў хутка, наколькі мог, і адразу ж зачыніў за сабою веснічкі, але яго ўсё роўна ўдарыла токам спрацавала электрычнае ахоўнае прыстасаванне, перастаўленае са звыклага месца.

Ён павалокся па прысадах На паўдарозе спатыкнуўся аб нешта цвёрдае, і ў той самы момант з зямлі акурат у штаніну ўляцеў струмень халоднай вады, замачыўшы нагу да калена.

Памочнік пабег Як заўсёды па вечарах, яго апанаваў шал Памочнік сціснуў кулакі і на адным подыху ўзляцеў па прыступках. На ганку ручка сачка трапіла яму паміж ног Жадаючы ўтрымаць раўнавагу, ён узмахнуў рукамі, зачапіўся за цвік, які тырчаў ну проста з нічога, і зноў парваў сумку Быццам штосьці абарвалася ў ягоным целе, ён задыхаўся. Праз нейкі час ён супакоіўся, галава — сілы ўжо больш не было — упала на грудзі. Стала холадна ад мокрай штаніны. Ён узяўся за ручку дзвярэй і адразу ж рэзка падаўся назад. Засмярдзела гарэлым мясам — на распаленай фарфоравай ручцы чарнеў і курчыўся шматочак скуры Дзверы адчыніліся. Памочнік увайшоў

Ягоныя худыя ногі падкошваліся, і, урэшце, ён упаў на смярдзючую, халодную кафельную падлогу Сэрца моцна білася і цела ўздрыгвала ад ягоных штуршкоў

III

— Радавацца нагоды няма, — сказаў гаспадар, вывучаючы змесціва сумкі.

Памочнік маўчаў, стоячы перад сталом.

— І, дарэчы, у якім яны ў вас стане? — дадаў гаспадар. — Вось у гэтай усе зубцы абарваныя.

— Сетка ж старая, — адказаў памочнік. — Калі вы хочаце, каб я прыносіў вам маркі маладыя і ў прыстойным стане, дайце мне грошай на новы сачок.

— А хто сетку сапсаваў, — спытаўся гаспадар, — вы ці я?

Памочнік не сказаў у адказ ані слова. Ныла абпаленая рука.

— Адказвайце — хто? — паўтарыў гаспадар.

— Я. Для вас, — адказаў памочнік.

— Я вас не прымушаю, — сказаў гаспадар — Хочаце атрымліваць пяцьдзесят франкаў у дзень — зарабляйце іх.

— Сёння я ўжо аддаў трыццаць франкаў на квіток.

— Які квіток? Я аплачваю вам дарогу туды і назад.

— Даяце фальшывыя квіткі

— Вам трэба быць больш уважлівым.

— А як я распазнаю, фальшывы квіток ці не?

— Гэта зусім нескладана, — сказаў





гаспадар. — Фальшывыя квіткі робяць з гафрыраванага кардону. Сапраўдныя — з дрэва.

— Добра, — сказаў памочнік. — Вярніце мне трыццаць франкаў, якія я заплаціў сёння.

— Не. Усе гэтыя маркі — у дрэнным стане.

— Няпраўда, — запярэчыў памочнік. — Я лавіў іх дзве гадзіны Усё прадумаў. Калі і пашкоджаныя, дык усяго толькі дзве-тры маркі. З шасцідзесяці.

— Мне такіх не трэба, — сказаў гаспадар. — Мне трэба двухцэнтавая Гвіяна 1885 года[1]. Навошта мне ваша занзібарская серыя? Вы мне яе ўчора прынеслі.

— Лаўлю тое, што ловіцца, — адказаў памочнік. — З такой яшчэ сеткаю І потым, для Гвіяны яшчэ не сезон. А занзібарскія вы абмяняць можаце.

— У гэтым годзе ўсім трапляецца Занзібар, — не згаджаўся гаспадар. — Ён зусім упаў у цане.

— А вада ў штаніне, ток у веснічках, ручка дзвярэй — гэта хоць што-небудзь значыць?! — узарваўся памочнік.

Ягоны худы твар зморшчыўся, па ўсім было відаць, што ён зараз заплача.

— Гэта загартуе вас, — холадна адказаў гаспадар. — Ну чым мне заняцца тут? Нудна мне, разумееце?

— Тады лавіце маркі самі, — сказаў памочнік, з цяжкасцю стрымліваючыся.

— Я вам плачу за гэта. А вы — злодзей Крадзяце мае грошы.

Памочнік з апошняе сілы выцер лоб зашмальцаваным рукавом Галава гудзела, што звон. Стол раптам некуды паехаў ад яго, і памочнік стаў лавіць вачыма, за што б схапіцца. Але печка таксама адышла ўбок, і ён грымнуўся на падлогу.

— Устаньце, — загадаў гаспадар. — Няма чаго на маім дыване валяцца.

— Мне б паесці — сказаў памочнік.

— Другім разам раней вяртайцеся, — параіў яму гаспадар. — І падыміцеся нарэшце! Я не хачу, каб вы валяліся на маім дыване! Падыміцеся, я вам кажу!

Голас гаспадара дрыжэў ад злосці, ён нервова пастукваў вузлаватымі пальцамі па стале.

Памочнік з цяжкасцю ўстаў на калені. У яго разбалеўся жывот, з абпаленай рукі цякла кроў і сукравіца — ён наспех абматаў руку насоўкаю.

Гаспадар хутка перабраў маркі. Тры з іх яму не падышлі, і ён кінуў іх у твар памочніку. Смачна чмокнуўшы, маркі радасна прыссаліся да шчакі

— Аднясіце іх туды, дзе ўзялі, — адчаканіў гаспадар металічным голасам

Памочнік заплакаў. Узмоклыя валасы падалі яму на лоб, левая шчака была прамаркіраваная. Ён ледзьве падняўся.

— Я цярплю гэта ў апошні раз! — прашыпеў гаспадар. — Мне не патрэбныя маркі ў дрэнным стане. І не расказвайце мне больш байкі пра ваш сачок.

— Добра, гаспадар.

— Вазьміце вашы пяцьдзесят франкаў

— Гаспадар выняў з кішэні паперку, пырснуў на яе слінаю, надарваў яе амаль напалову і кінуў на падлогу

Памочнік з цяжкасцю нахіліўся Ягоныя калені коратка і адрывіста патрэсквалі трэолямі[2]

— У вас завэдзганая кашуля, — сказаў гаспадар. — Начаваць сёння будзеце на вуліцы.

Падняўшы грошы, памочнік выйшаў. Вецер узмацніўся, і рыфленае шкло перад кованымі кратамі ўваходных дзвярэй дрыжэла. Зачыняючы за сабою дзверы, ён апошні раз зірнуў на гаспадара. Той схіліўся над альбомам і, узброіўшыся вялікай жоўтай лупаю, разглядваў занзібарскія маркі, вызначаючы іхнюю каштоўнасць.

IV

Памочнік сышоў з ганка, хаваючыся ў доўгую куртку, пазелянелую ад вады марачных копанак. Вецер праціняў старую куртку і так раздзьмуваў яе, што, здавалася, на спіне ў памочніка вырас горб, а гэта не магло не мець шкодных наступстваў для пазваночніка. Памочнік пакутаваў на ўнутраную мімікрыю і быў змушаны штодня змагацца з гэтай хваробаю; у выніку, хворыя органы функцыянавалі нармальна і захоўвалі звычайную форму

Цяпер ужо зусім сцямнела, але зямля яшчэ трохі выпраменьвала назапашанае святло Памочнік збочыў направа і пайшоў уздоўж дома. Ён арыентаваўся па чорным раскручаным шлангу, якім карыстаўся гаспадар, калі тапіў пацукоў у сутарэнні. Памочнік падышоў да трухлявай будкі, у

[1] Адна з самых дарагіх марак у гісторыі сусветнай філатэліі

[2] Трэоль — музычны тэрмін.

якой начаваў напярэдадні Прамоклая саламяная посцілка пахла прусакамі Круглы ўваход быў занавешаны кавалкам старой коўдры Калі памочнік прыўзняў яе, каб залезці ў будку, успыхнула асляпляльнае святло і грымнуў выбух. У будцы разарвалася вялікая петарда. Моцна запахла порахам

Памочнік ускочыў, сэрца ягонае закалацілася Каб супакоіцца, ён затрымаў дыханне, вочы адразу ж затуразіліся, і ён прагна глытнуў паветра. У лёгкія трапіў пах пораху, і памочніку стала крыху лягчэй

Ён пачакаў нейкі час, прыслухаўся. Ціха свіснуў Потым, азіраючыся, упоўз у будку і скурчыўся на гідкай посцілцы Зноў свіснуў і прыслухаўся. Да будкі, дробнымі крокамі, наблізіўся пушысты ручны звярок Памочнік неяк умудраўся пракарміць яго дохлымі рыбамі Звярок залез у будку і прытуліўся да яго. І тут памочнік спахапіўся і ўзяўся рукою за шчаку Усе тры маркі ўжо пачалі ссаць ягоную кроў Ён з цяжкасцю адарваў іх ад шчакі, ледзь стрымаўшыся, каб не закрычаць ад болю, і выкінуў іх з будкі На вільготнай зямлі яны да заўтра, вядома, пражывуць. Звярок лізнуў яго ў твар, і, каб супакоіцца, памочнік загаварыў з ім, — ціха, бо гаспадар усюды расставіў патайныя мікрафоны хацеў ведаць, пра што памочнік гаворыць сам-насам з сабою.

— Ён у мяне ў пячонках сядзіць, — прашаптаў ён

Звярок аддана засоп, пяшчотна лізнуў яго.

— Думаю, мне трэба нешта зрабіць. Нельга дазваляць здзекавацца з сябе, трэба, нягледзячы на ягоныя забароны, надзяваць чыстыя кашулі, і няхай ён выдае мне квіткі з дрэва І потым, трэба адрамантаваць сачок і не даваць яму дзіравіць яго. Я павінен адмовіцца спаць у будцы, запатрабаваць сабе пакой і прыбаўку да зарплаты — немагчыма жыць на пяцьдзесят франкаў у дзень! А яшчэ трэба папраўвіцца і стаць вельмі дужым і прыгожым, а потым нечакана для яго ўзбунтавацца і спусціць яму на галаву цагліну Думаю, прыйдзе час, і я гэта зраблю.

Ён змяніў паставу, павярнуўшыся на другі бок, і пачаў так напружана думаць, што паветра вялікімі штуршкамі выходзіла з будкі праз круглую адтуліну і ў ёй стала немагчыма дыхаць. хоць трохі паветра траплялa ў будку праз шчыліны ў падлозе пад дзіравай посцілкай, але ад гэтага яна яшчэ больш смярдзела прусакамі, да таго ж смярдзелі слімакі, у якіх пачалася цечка.

— Цярпець не магу гэтую будку. У ёй холадна. На шчасце, са мною ты. А ў сутарэнні льецца вада — гаспадар топіць пацукоў Ну нельга ж заснуць, калі ў вушах стаіць іх віскат. Кожны божы вечар! І чаму ён так хоча любой цаною звесці гэтых пацукоў і патапіць іх менавіта ў вадзе? Пацукоў жа топяць у крыві.

Звярок больш не лізаў яго. На шэрым фоне адбіваўся ягоны профіль: выцягнутая пысачка, завостраныя вушкі, жоўтыя, з халодным водбліскам, вочы. Звярок таксама круціўся, уладкоўваючыся ямчэй, і, нарэшце прыладзіўшыся, уткнуўся носам у сцягно.

— Мне холадна, — сказаў памочнік.

Ён пачаў ціха плакаць. Слёзы капалі на посцілку, ад яе падымалася лёгкая пара, і контуры ўсяго, што ні было наўкол, рабіліся цьмяныя.

— Разбудзі мяне заўтра раней, — папрасіў памочнік звярка — Мне трэба аднесці назад гэтыя тры маркі Толькі б ён не даў мне фальшывы квіток!

Недзе ўдалечыні пачуліся спачатку грукат, потым пранізлівы віск і лёгкі тупат лапак.

— О! — прастагнаў памочнік. — Зноў ён узяўся за пацукоў! Я хацеў бы, каб ён сам быў пацуком — тады я паліваў бы яго са шланга, пакуль ён не здохне Можа, заўтра ўвечары ён дасць мае пяцьдзесят франкаў Ах, які я галодны! Пацука б з'еў жыўцом!

Ён трымаўся за жывот абедзвюма рукамі і ўсё плакаў, потым патроху рытм ягоных пакутаў запаволіўся — так спыняецца матор, — і скурчанае цела расслабілася Памочнік заснуў, прыціснуўшыся шчакою да смярдзючай посцілкі і высунуўшы ногі з будкі. У ягоным пустым жываце ўсё роўна як жвір перасыпалі.

V

Поўзаючы па пакоі, гаспадар пачуў, як праспявала знаёмыя словы гандлярка перцам: яна заўсёды абвяшчала аб сваім прыходзе такім чынам. Гаспадар устаў на ногі, і зразумеўшы, што ў гэтым становішчы можа таксама перасоўвацца, пабег у вітальню, дзе з дэманстратыўнай грубасцю адчыніў дзверы Стоячы на ганку, ён углядваўся ў дзяўчыну.

Адзетая яна была як звычайна. плісіраваная спаднічка, якая ледзь прыкрывала задок, шкарпэткі ў чырвоную і сінюю палоску і балеро з вялікім дэкальтэ, а таксама чырвона-белы каптурык з бавоўны. Такая уніформа была прынятая ў свеце з лёгкае рукі гандляраk бавоўнаю з вострава Маўрыкій

Гаспадар зрабіў дзяўчыне знак, і яна пачала падымацца па прыступках. Ён спусціўся з ганка і пайшоў ёй насустрач.

— Добры дзень, — сказаў гаспадар. — Мне патрэбны перац.

— Колькі зерняў? — спыталася гандлярка з няшчырай усмешкаю. яна ненавідзела гаспадара.

Гледзячы на яе чорныя валасы і матавую скуру, гаспадар адчуў такое пачуццё, быццам яму вылілі на ягонае мужчынскае гаспадарства шклянку ледзяной вады (адчуванне, дарэчы, дужа моцнае).

— Падыміцеся на ганак, — адказаў ён, — і я назаву вам дакладную колькасць.

— А вы застанецеся ўнізе і будзеце разглядваць мае сцёгны? Вы гэтага хочаце?

— Так, — адказаў гаспадар.

У яго пацякла сліна, і ён паспрабаваў абняць дзяўчыну

— Заплаціце спачатку за перац, — сказала яна.

— Колькі?

— Сто франкаў за зярнятка. Вы можаце спачатку пакаштаваць.

— І тады вы падыміцеся? — прашаптаў гаспадар — у яго ажно дух заняло — У мяне ёсць для вас серыя занзібарскіх марак.

— Мой брат прынёс мне ўчора тры серыі Занзібара, — адказала яна, саладжава ўсміхаючыся. — Пакаштуйце майго перцу

Яна працягнула яму зярнятка, і гаспадар не заўважыў, што гэта было семя атрутнага гваздзіка. Нічога не падазраючы, ён спакойна засунуў яго ў рот і праглынуў.

Гандлярка перцам сабралася сыходзіць.

— Як? — здзівіўся гаспадар. — Вы забыліся падняцца!

— Ах! Ах! Ах! — сказала дзяўчына, уклаўшы ў гэты вокліч усю злосць, на якую была здатная.

Гаспадар тым часам ужо пачаў адчуваць уздзеянне атрутнага семені — яно яго дужа танізавала, — стаў бегаць, як ашалелы, вакол дома. Абапершыся локцямі на веснічку, гандлярка перцам назірала за ім.

На трэцім крузе яна падала яму знак, і на чацвёртым гаспадар, нягледзячы на тое, што з кожным кругам бег усё хутчэй і хутчэй, зірнуў на яе Тады яна задрала плісіраваную спаднічку і нават на адлегласці ўбачыла, што твар гаспадара спачатку стаў фіялетавым, потым зусім пачарнеў і нарэшце пачаў проста палаць. Паколькі ён бег, не зводзячы вачэй з таго, што яна яму дэманстравала, то неўзабаве ўпаў, заблытаўшыся нагамі ў шланзе, з дапамогаю якога спрабаваў патапіць пацукоў Падаючы, ён стукнуўся тварам аб вялікі камень, і той, нібыта ў паз, увайшоў яму спаміж скулаў, праламаўшы нос і сківіцу Ногі ў гаспадара сутаргава тузаліся, і неўзабаве на зямлі з'явіліся два раўкі, а калі наскі ягоных чаравікаў сцерліся, у раўках пазначыліся сляды вялізных тоўстых пальцаў.

Гандлярка перцам зачыніла веснічкі і пайшла сваёй дарогаю, насмешліва патрэсваючы хвастком каптурыка.

VI

Памочнік марна спрабаваў адчыніць дзверы вагона У цягніку было вельмі горача, і, выходзячы ў тамбур, пасажыры хапалі сабе насмарк. А брат машыніста, заўважым, гандляваў насоўкамі.

Увесь дзень памочнік працаваў не пакладаючы рук на копанках дзеля нікчэмнай здабычы, і цяпер яго перапаўняла радасць. ён вырашыўся нарэшце забіць гаспадара. Пасля шматлікіх спробаў яму ўдалося рассунуць створкі дзвярэй, пацягнуўшы іх уверх і ўніз, і тады ён дапяў, што начальнік пры фуражцы паклаў дзверы набок, жадаючы лішні раз злосна пасмяяцца з яго. Задаволены тым, што не трапіў у гэтую пастку, памочнік лёгка саскочыў на перон. Апусціўшы руку ў кішэню, ён намацаў кавалак гафрыраванага кардону, які трэба было паказаць, і пайшоў да выхаду. Там, хітравата ўсміхаючыся, яго чакаў кволенькі чалавечак — памочнік адразу пазнаў у ім учорашняга кантралёра.

— У мяне фальшывы квіток. . — сказаў ён

— Няўжо? — здзівіўся кантралёр. — Пакажыце.

Памочнік працягнуў кантралёру квіток. Той пачаў разглядваць яго так уважліва, што фуражка насунулася яму на вушы.

— Добрая падробка, — сказаў ён нарэшце

— А квіток не з дрэва — з кардону, — заўважыў памочнік.

— Праўда? — яшчэ больш здзівіўся кантралёр. — А я сказаў бы, што з дрэва, няйначай.

— Падумаць толькі, — сказаў памочнік, — гаспадар падсунуў мне яго замест сапраўднага...

— Сапраўдны каштуе ўсяго толькі дванаццаць франкаў, — сказаў кантралёр, — а такі нашмат даражэйшы

— Колькі? — спытаўся памочнік.

— Я вам дам за яго трыццаць, — сказаў кантралёр і сунуў руку ў кішэню.

Жэст быў настолькі звыклы, што памочнік западозрыў кантралёра ў благіх схільнасцях. Але той выняў з кішэні ўсяго толькі фальшывыя купюры па дзесяць франкаў, расфарбаваныя ў карычневы колер.

— Вось, вазьміце, — сказаў кантралёр.

— Яны, вядома, фальшывыя? — спытаўся памочнік.

— Ну не магу ж я даць вам за фальшывы квіток нармальныя грошы, самі падумайце, — сказаў кантралёр.

— Слушна, — згадзіўся памочнік, — але і свой квіток я пакіну пры сабе

Сгрупаваўшыся, ён нанёс удар. Размах быў такі магутны, што сваім кашчавым кулаком памочнік садраў скуру з паловы твару кантралёра. Кантралёр узяў пад казырок і ўпаў па стойцы "смірна", ударыўшыся тварам аб цэментны перон, выкладзены шасцівугольнымі пліткамі, якраз у тым месцы, дзе яны зіхацелі сінім фасфарычным бляскам

Памочнік пераступіў цераз цела і энергічна пайшоў далей. Неўзабаве ён ужо хутка падымаўся па сцяжынцы, адчуваючы, як ясная і цёплая радасць жыцця перапаўняе яго. Ён адшпіліў сачок і скарыстаў яго ў сваёй эскаладзе[3] чапляючыся сачком за жалезныя слупкі, на якіх была нацягнута ўздоўж сцяжынкі абарончая жалезная сетка — падцягваючыся на локцях, ён праслізнуў спаміж вострымі камянямі некалькі метраў; ад гэтага сетка сачка абарвалася. Засталося толькі колца з дроту. Вось гэтым колцам памочнік і вырашыў задушыць гаспадара.

Ён хутка дабраўся да агароджы маёнтка і, нічога ўжо не баючыся, штурхнуў веснічкі. Ён нават спадзяваўся, што яго ўдарыць токам гэта адно распаліць ягоны шал. Але ўдару ён не адчуў і таму прыпыніўся. Ля ганка ляжала, дакладней, ледзь варушылася нешта неакрэсленае. Памочнік пабег туды па прысадах. Было холадна, але ў памочніка нават скура гарэла. Ён з нянавісцю адчуваў гідкі пах свайго даўно нямытага цела — яно аддавала саломаю ды прусакамі.

Ён напружыў дыстрафічныя біцэпсы, пальцы ягоныя сутаргава сціснулі бамбукавую ручку сачка. Мабыць, падумаў ён, гаспадар некага забіў

Але, пазнаўшы цёмны касцюм і крухмальны каўнерчык, ён, разгубіўшыся, запыніўся Галава гаспадара ўяўляла сабою нейкую чарнаватую масу, ногі яшчэ патузваліся ў глыбокіх раўках, але жыццё ўжо пакідала іх.

Памочніка ахапіў адчай Ён дрыжэў усім целам, узбуджаны шалам і прагай забойства Нічога не разумеючы, ён азіраўся вакол. Чаго толькі не збіраўся ён выкласці гаспадару, як ён марыў пра гэта!

— Навошта ты гэта зрабіў, свіння?!

У апатычным паветры апошняе слова прагучала непераканальна.

— Свіння! — крыкнуў ён зноў — Падлюга! Гад! Паскуда! Сука! Погань!.. Гад!..

Ён плакаў . З вачэй цяклі слёзы. гаспадар не адказваў Памочнік тыкнуў у спіну гаспадара ручкаю сачка.

— Адказвай, старая паскуда! Ты ж зноў даў мне фальшывы квіток!

Ён усім целам налёг на ручку сачка, і яна прайшла скрозь разбураную ядам тканку Памочнік круціў ручкаю, усё роўна як стрыжнем гіраскопа...

— Квіток фальшывы, пасцілка з прусакамі, я з-за цябе трыццаць франкаў страціў, а мне есці хочацца — дык дзе ж мае сённяшнія пяцьдзесят франкаў, дзе?!

Гаспадар ужо амаль не варушыўся, а чэрві, якіх ён хацеў з яго выгнаць, усё не выпаўзалі

— Я забіць цябе, падла, хацеў! Я павінен быў цябе забіць! Прыкончыць цябе, старога хрэна!.. Дзе мае пяцьдзесят франкаў, я ў цябе пытаюся!

Ён вырваў ручку сачка і некалькі разоў з усяе сілы ўдарыў ёю па абвугленым чэрапе Чэрап развaліўся на кавалкі, быццам скарынка падгарэлага пірага Нарэшце на месцы галавы ўжо не засталося нічога. Труп гаспадара заканчваўся шыяй

Памочнік перастаў дрыжэць.

— Сам вырашыў здохнуць? Добра Але мне ж трэба некага забіць!

Ён сеў на зямлю і заплакаў, як напярэдадні Да яго, маленькімі крокамі, падбег звярок — ён занудзіўся па сваім сябру Памочнік заплюшчыў вочы Звярок прыціснуўся да ягонай шчакі цёплым пяшчотным цельцам — памочнік пальцамі сціснуў яму шыю Вырвацца звярок не спрабаваў, і, калі цельца стала халодным, памочнік зразумеў, што задушыў свайго сябра. Тады ён узняўся Спатыкаючыся, выйшаў па прысадах на дарогу Ён брыў куды вочы глядзяць, а гаспадар ужо не варушыўся.

VII

Ён прыйшоў да вялікай копанкі, дзе жывуць блакітныя маркі Маркі цаніліся не вельмі высока. іх у неглыбокай сажалцы было багата, размнажаліся яны ўвесь год.

Блізілася ноч, і вада свяцілася далёкім і загадкавым святлом

Ён дастаў з сумкі два калкі і ўваткнуў іх у зямлю побач з копанкай, у метры адзін ад другога. Потым нацягнуў паміж імі сталёвы дрот і, дакрануўшыся да яго, узяў сумную ноту Дрот быў нацягнуты паралельна берагу, дзесяць сантыметраў над зямлёю

Памочнік адышоў на некалькі метраў назад, павярнуўся тварам да вады і пайшоў на дрот Вочы ў яго былі закрыты, ён насвістваў пяшчотную мелодыю, якую так любіў ягоны звярок Ён павольна наблізіўся да дроту, зачапіўся за яго і ўпаў тварам у ваду Ён ляжаў у копанцы нерухома, і пад застылай роўнядзю вады блакітныя маркі ўжо прыссаліся да ягоных худых шчок.

**Пераклаў з французскай мовы**
**Алесь АСТАШОНАК.**

[3] Эскалада (ваен.) — прыступ, штурм.



## Замест пасляслоўя

**Барыс Віян, адзін з найбольш папулярных французскіх пісьменнікаў нашага стагоддзя, нарадзіўся ў 1920 годзе ў прыгарадзе Парыжа. Ён атрымаў тэхнічную адукацыю, але працаваў інжынерам нядоўга. Яго вабілі музыка і літаратура. Граючы юнаком у розных джаз-бандах, ён меў рэпутацыю аднаго з лепшых трубачоў Парыжа. З дзяцінства ў яго было хворае сэрца, і праз нейкі час ён быў змушаны адкласці трубу ўбок. Пазней, калі яго адлучылі ад літаратурнага працэсу, ён зарабляў сабе на жыццё перакладамі і крытычнымі артыкуламі па музыцы.**

**Дэбютаваў ён (пад сваім іменем) раманам "Скакунок і планктон" (1947), своеасаблівым літаратурным "капуснікам", героем якога былі сябры і знаёмыя. У 1944—1945 гадах Віян піша амаль што ўсе свае апавяданні, якія ўвайшлі ў зборнікі "Мурашкі", "Ваўкалак", "Тралі-валі". (У дадзенай нізцы прадстаўлены навелы з усіх трох кніжак.) Пяру Віяна належаць раманы "Шум дзён", "Восень у Пекіне", "Чырвоная трава", "Сэрцадзёр", п'есы "Усеагульная жывадзёрня", "Сняданак генералаў", "Будаўнікі імперы", зборнік вершаў "Замарожаныя кантылены". Ім напісана каля 400 песень, якія ён сам спрабаваў выконваць — праўда, не надта ўдала. (Дарэчы, у багата якіх яго творах дужа адчуваецца атрыманая ім тэхнічная адукацыя, што яскрава відаць і ў навелах, якія прапанаваныя вашай увазе.)**

**Цяпер ён прызнаны класік, творы якога ўваходзяць у праграмы французскіх навучальных установаў, выдаюцца ў анталогіях, экранізуюцца. Але пры жыцці ён зведаў адно скандальную славу. У пасляваеннай Францыі вялікую папулярнасць мелі амерыканскія баевікі. У 1946 годзе, пайшоўшы ў заклад, Віян за два тыдні піша бестселер — раман "Я прыйду плюнуць на вашы магілы", падпісаны іменем Вэрнан Сюліван. Калі выявілася, што аўтар не амерыканец, а француз-імітатар, усчаўся скандал. Віяна нават прыцягнулі да судовай адказнасці. Пакарання ён не меў аніякага, аднак далей літаратурны лёс склаўся няўдала: да самага канца свайго нядоўгага жыцця ён заставаўся ў вачах крытыкі і выдаўцоў містыфікатарам. Ён і памёр на папярэднім праглядзе экранізацыі свайго скандальнага рамана. Здарылася гэта ў 1959 годзе.**

**Неўзабаве прыйшла слава сапраўдная, якой ён не меў пры жыцці.**

ЯНО

# 21 x 1

## КАЛІ Б Я БЫЎ ПРЭЗІДЭНТАМ

Я — палітык, палітык не абы-які, палітык незасцянковы Я пераканаўся ў гэтым, аналізуючы палітыку іншых. І вось, калі Ён — прэзідэнт, дык і я таксама мог бы ўзначаліць Алімпійскі камітэт (на большае не замахваюся, бо на большае патрэбен палітык менавіта засцянковы, а замахніся, — дык па казематах зацягаюць, умардуюць да поўнага знемажэння плоці, перш чым паспееш слова вякнуць, а патрэбны прэзідэнт у нас адзін, ён у нас доўгайгральны, ні мяняць яго, ні на другі бок перакладаць ніяк не выпадае, і ўжо ж ён ніяк не можа быць кепскі, каб на яго пасаду аж замахвацца, сам бо прызнаўся, — народ у наш дужа харошы, народ не дазволіць!)

Ну, дык вось, калі б я быў прэзідэнтам Алімпійскага камітэта, дык, як чалавек яшчэ не пазбыты пачуцця ўдзячнасці, я адшкадаваўся б найперш часопісу "Крыніца", якая насуперак волі 90% харошага(!) народа Беларусі ўсё-такі рызыкнула прапанаваць мне высокую пасаду, тым самым як бы намякаючы на магчымасць ссадзіць з наседжанага седала прадзяржашчага народнага любімца, што яўна ідзе ўпоперак не толькі волі народа, але і волі вышняй, якая вуснамі найвышэйшага іерарха дабраслаўляе на пасад сярод богаспадобных манархаў не толькі богабаязных хрысціян, што хрысцяцца справа налева, але і атэістаў праваслаўнай арыентацыі, якія зусім не хрысцяцца, бо ж галоўнае не тое, што ў хрэсьбіта на языку і на трохперсці, а тое, што наўме сабе маюць, — а гэта ўжо ёсць арыентацыя

Але, калі перасадзіць таго самага на высокі пасад у якую-небудзь Гранавітую палату ці ў Барвіху, дык дзе наша не прападала, — чаму б гэта я не пацягнуў на прэзідэнта Алімпійскага камітэта, — бо там не мусова бегаць трэба, там можна па 20 кіламетраў хадзіць пяшэчкам, і нідзе ж не сказана, што з кіёчкам нельга, пясочак падсыпаючы, а калі ты ўмееш круціць мазгі, дык навучыцца круціць задніцай, — вялікая мне штука, гэта проста, як два пальцы абасфальт! Альбо што? — не мог бы пасадзіць Баршчэўскага? Ну, вы як дзеці малыя! — сядзеў бы як міленькі без выхадных на з'езды!

Чым аддзячыў бы? Пайшоў бы насустрач волі 90% харошага народа (бо годзе той з ім канфрантацыі!) і перавёў бы "Крыніцу" на рускую мову, на якой (ды яшчэ на ангельскай) толькі і можна сказаць нешта разумнае, бо ж і праўда яно, калі зірнуць на ўсіх тых, якія балбочуць хто па-кітайску (ціў-ціў, сяо-мао-ха), хто па-хахлацку (вой! гэтыя ўвогуле нават не балбочуць, яны — балакають, тэрэбэні розводять та языкамы пэрэкладають!), дык дзе калі хто чуў ад іх з усімі іхнімі канфуцыямі і мазепамі хоць якую разумную думку!?

Ну, яшчэ, бадай, недурная мова нямецкая, на якой пісаў другі народны кумір, які і заклаў асновы майго





цяперашняга бачання моцнай алімпійскай улады, да якое "Крыніца" ласкава мяне запрашае

Дык вось — толькі руская мова добра кладзецца пад разумныя думкі, дадае ім крылатасці Прыгадайце, напрыклад, незабыўнае· "Мая каманда перетрахивает старые кадры Это на меня накладает абязацельства!" Здаецца, і не дужа геніяльная думка, а як заззяла, як загучала, як гранямі зайграла! А скажы гэта па-беларуску — і ўсё прапала, адна загуменная пошласць!

Другое.

Як што я чалавек далёка не беспахібны, а ўлада ўсё-такі нешта чалавеку дае, дык я за казённы кошт (а не збяднела б дзяржаўная скарбніца!) паставіў бы сабе новыя зубы, бо як на сённяшні дзень, дык я стаю ў чарзе (і не абы-дзе, а ў лячэбні, якая пад патранажам таго самага прэзідэнта, дзе абы-каго не лечаць!), а там усё намякаюць, намякаюць на нешта, і пакуль намёкі не зразуметыя правільна, я сяджу бы пень са старымі дупламі, які ўсім да дупы, якому ўжо ні рады ні ўёму не дасі ні трыма палоскамі aquafresh з іх трайной зашчытай, ні blend-a-medam, які толькі яйца украпляет

Сітуацыя, скажу я вам, усё роўна, што паміж бэркулёзам і пранцамі, як дасціпна выславіўся адзін наш галасісты Арфей, між іншым, зацяты працаўнік алімпійскай хартыі, які нібыта з ножыкам па Летуве бегаў і мерыўся прышпіліць нейкага пахана, а таго пад увагу не ўзяў, што ў нас з мафіяй — шуткі, браце, плохі, дык цяпер вось усё то судзіцца, то сядзіць, то судзіцца, то адседжвае, усе храсткі адсадзіў седзячы і медытуючы над актам перапыненай мастурбацыі, і на мае непрэзентабельныя зубы яму напляваць.

А тым часам вы паглядзіце, як асляпляе ўсмешкай на ўсю храпу прэзідэнт Кліртар, які нават і не ўзначальвае Алімпійскага камітэта! А што, беларускі павінен быць горшы, ці наш не з тых варот, адкуль увесь народ? Клліртар у іх з зубамі, а ў нас з пацуком у зубах?.. — не, насорю тваёй галаве, дзеткі вы мае, так дзела не пайдзёт, ня дурэце мне Масквы, яна і так дурная!

Аж тут якраз ваш "крынічны" рэдактар вазьмі ды наедзь на мяне· "Дурны ты, Васіль, кажа, як тваё дупло, і дурны цябе поп хрысціў· на каго, падла, батон крышыш? — сто даляраў за зуб, і другім Клліртарам будзеш!" І ён мае рацыю, гэты ваш рэдактар, дай бог яму сілы і моцы ў ручкі, у ножкі і паміж трошкі! — ясна, трэба даць у лапу! Гэта элементарна, як перетрахіваць кадры, тым больш проста, што апошнім часам у мяне, не пры рэкеціpax будзь сказана, завялося золата

А ўсё дзела ў том, што, як чалавек з прэтэнзіямі на прэзідэнцтва, я завёў сабе рыжую сучку Кармлю яе, даглядаю, за гумно выводжу, муніцыпальны падатак за яе, суку рыжую, сплачваю — 30 000 "зайчыкаў" кожнага месяца, як сабаку пад хвост! Але ж дабро дабром стакроць вяртаецца Сучка мая, Бэртачка (па дакументах. інвэнтарны нумар — 29 536, народжаная Баўнтыз (райская асалода!) і, бацька — Гайвэт Босс (sic!), маці — Зіта (таксама, мабыць, здатная сікуха была!), за адзін год жыцця патрапіла больш, чым сам я за шэсцьдзесят· пайшла ў людзі, выставілася, і вярнулася з залатым медалём за характва, за ўкормленасць, за альснёнасць поўсці, за кананічную масцітасць, за стрыжанасць, за пародзістасць, за зубы, нарэшце!

Менавіта! У прэзідэнта сука павінна быць — не абы-якое апоўзлае дзяўгала, не абы-якая падплотная кудлата-блыхастая псіна, не дзеравенская прыхлеўная халда-фалда з будкі, не мурза якая, што цыцкі па вядру на ўсю скавараду, а сука пазорная, пародзістая, стрыжаная, як мая спаніеліха — вушы да зямлі, морда — во! і вочы — вернападданыя, як у харошых служак! І ўсё маўчыць, маўчыць, лісліва заглядае, абцятаю куксаю радасна круціць, слова не скажаш, а ўжо зразумела, а ўжо адгадала, а ўжо след бярэ! Дасі ёй костку — дык радая-радая, аж трымціць, аж усяго абліжа, і ўсё служыць, служыць. Любы прэзідэнт такое сучары варты Дык вось, пушчу я таго залатога медаля сабе на зубы! А Бэртачка? — жыве без хваста, пражыве і без медаля, костка ёй у зубы!

Ага ж бо, — медалі, як усё адно за адно чапляецца!

Гэтаму дам . гэтаму дам. і гэтаму.. гэтаму ўжо давалі, і так служыцьме, як мая Бэртачка... і гэтаму . у гэтага адбяру· занадта разумны стары, бард альпійскі, а ў палітыку лезе... Га-а-а, прыпахлебнік падлыжны, з кабялёў, нябось —яму заслужанага Так, а каму народнага? Стары Казьма сказаў калісьці "Держаться партии народной и современно и доходно", значыцца. — "не спрашивай, какой там редут, а иди, куда

ведут", ён у нас пастараецца, ён ідэйны, патрыёт, за капейку ў царкве вятры пусціць. Гэтаму годзе і Граматы, не, хай ужо — Ганаровая будзе, чорт з ім, хай пацешыцца, хай падатрэцца ёю, кундаль прыдворны Гэтага гнаць, хай вуліцы падмятае, інцілігент бэнээфаўскі (што рабіць з Хадыкам, прафесарам, вечна ў галаве круціцца. можа, — як таго пііта даваеннага? ці не ён "Мудзішчава" састрапаў? гэны можа, не ўшчамі яму хваста, яшчэ як зглуздуе, хоць і не паэт, акту не перапыніць) . Так, але каго ж такі ў народныя, мне без народнага нльзя, народ не паймёт . народ просіць Сталіна вярнуць. а, чаго тут мудрыць, народны сам прыйдзе, папросіцца .. А можа, Бэртачку ў народныя? — рабілі ж каня сенатарам, прэцэдэнт у гісторыі ёсць

Цяпер сам гаспадзін Народ!

Яму чаго-небудзь сацыяльненькага падкіну пад грыбочкі, — дужа, халеры, пад Брагінам родзяць. Больш і не трэба, — мудра сказана. не рабі смердзі дабра, не любі яго жонкі!

Яшчэ — з Махмудам перагаварыць, ці не адшпіліць, хапуга, якога працэнта Віннікаву патрэсці як след, колькі і дзе закапала, і ўсё перадаць народу

Альбо ж запусціць назад Сораса, бяссрэбраніка гэтага, хай пасяўную прафінансуе, альбо ж на бульбу капаць, бо саюз маладых патрыётаў не дужа разгоніцца. толькі з чэрава выпаўзлі, а ўжо грызуцца, зуб за зуб сцінаюцца, пасады зыскуюць; не, патрыёты на члонках охромны, парнішкі за работаю не залягаюць, у трэску, бля, не вырабляюцца, пасадзіў бы ў душу, ды баюся — насеруць . А Сорас апазіцыю карміць пачне, Хадыку на гранты пасадзіць (зноў гэты Хадыка, га, а можа-такі, пасадзіць Хадыку не на гранты, а на хлеб і ваду? — двайная выгода апазіцыі мікіткі загну, каб не дрыгалася, і бюджэту чыстая ашчада набягае — даказаў жа, што без хлеба і вады на адных клізмах пражыць можа і жыватом не качаецца .)

А на мне ж пенсіянеры, электарат Падумаю пра льготы Хоць, зрэшты, і цяперашніх годзе, аж лішне І не кажыце вы мне, што толькі скула на задніцы лішняя, не ад'ядайце душу мне гэтымі льготамі На соткі два месяцы бясплатна ездзяць, а колькі ж таму пенсіянеру трэба, каб старасць пранудзіць І тое ж бач, зажывушчы пенсіянер пайшоў, выдалікачваецца, печанай рэдзькі не з'есць, падавай яму правансальскую салату, каб яго спруты з салатаю елі, не, каб з таго ж Хадыкі прыклад узяць ды пажываць сабе пад паляшуцкім дэвізам еж вода і пі вода, а-а нэ будэш нікогда!

Бюджэт!

Не бачу праблем Адслядзіць Віннікаву і яшчэ раз добранькаператрахнуць, на два бюджэты, нябось, закапала і ў сценах замуравала, вясталка царэўная

Сканфіскаваць усе каталіцкія саборы і касцёлы (фарныя і няфарныя, катэдральныя і некатэдральныя), капліцы і бажніцы, могілкі і капішчы і аддаць іх у арэнду тым жа каталікам, — хай плацяць, калі правільна хрысціцца не навучыліся, такая, бачыце, мая арыентацыя, мыслі такія маю

Тое самае — з пратэстантамі хай сабе пратэстуюць, але ж не за так, не бясплатна, — а нязабаўка ім хоць і на войска скінуцца, калі самі служыць не любяць, мірнасцю сваёй анёлаў цешаць няхай .

Тое самае з басурманамі, з юдэямі гэтым увогуле храмы не патрэбныя, бо першыя моляцца на каберцах і маюць магчымасць за кошт Эміратаў лётаць на хадж у Мекку, а другія маюць Ерушалайм са Сцяною плачу, — хай сабе там і плачуць не перасыхаючы, хай хоць на сцены дзяруцца, а ў нас, на святой славянскай зямліцы — будзь ласкавы плаці, а то ж папрывыкалі мне тут, прысмакталіся!

Праваслаўных не чапаць — яны права славяць, і вышэйшае нябеснае, і найвышэйшае — маё прэзідэнцкае, няхай адчыняюць манапалькі, няхай свечкі і шкаплікі прадаюць А падатак — у бюджэт! І высокі прадстаяцель прадстаяцьме не перад нейкай там мярзотай сідонскай, не перад мярзотай маабіцкай, не перад мярзотай аманіцкай, а перад мярзо .. (вой! — пардон) прэзідэнтам беларускага Алімпійскага камітэта, як звездачот прыдворны Як сёння, як цяпер, так і прысна і вавекі, — кесару кесарава, так бы мовіць! І ўся духоўная дастойнасць збярэцца і згуртуецца вакол мяне, бо сказана ў Пісанні "Идеже бо аще будет труп, там соберутся орлы" (Мц.. 24·28) А ўсё астатняе ёсць "вашывыя блохі" ці, як зноў жа сказана ў евангеліста· "вожди слепіи, отцеждающии комары, вельблуды же пожирающе" (Мц., 24 24). І каб ужо больш не вяртацца да атэізму праваслаўнай арыентацыі, будучы прэзідэнтам, я нанёс бы рашучае паражэнне ератычнаму Казьме на яго ж кананічнай тэрыторыі, які меў нахабства сцвярджаць, быццам "нет ничего слюнявее и плюгавее русского безбожия и православия". Бо такі ёсць! — Беларускае! А тут яшчэ і разам!

А Ваню ані пальцам, хай і далей, як той маскоўскі Каліта, капейку да капейчыны складвае, на ідэю славянскую

Славянскасць!

О! — гэта святое! Гэта — ідэалогія! Імяніны сэрца! Тут мяне не задзірайце! Па гэтым пытанні "Крыніцы" адмысловую анкету след прыдумаць, тады ўжо я вас падрабязна і патрактую!

А на першым часе ўмацую Саюз трох славянскіх народаў Вы скажаце, Украіна ўпіраецца, у адпады мерыцца? Слухайце, каму патрэбна тая Украіна з яе сепаратнымі гуцуламі, лемкамі, бойкамі, крымчакамі, севастопальскімі маскалямі, адэскімі шаландамі і Чарнаморскім флотам? А палешукі нашто? Ужо ж апошняму дурню даказана, дакументальна пацверджана, антрапалагічна прамерана, што палешукі — нацыя! І гаворка ж у нас пра Саюз Трох (Мінск—Масква—Пінск! Ну, можа, яшчэ на перспектыву — Пекін да славянаў прыпішам!), чацвёрты, тая ваша нэнька — прышпілі кабыле хвост, без патрэбы, абыдземся, хай да НАТА прышпіляецца! Вось хоць бы я сам — палешук, з хутора Ясэнэц на Поросьліні, шчо под Пружаною! І чым кепско, скажыэтэ віэтэ мніэ? Жыцімэмо разом, дружыцімэмо, як тры слаўянскіе народы, бэз усёго гэтого вашого мазурства і пошэхонства! То ж бо то воно й е!

Вечнае пасяброўства, пабрацімства і пасястрынства! Каб я век волі не бачыў, калі не здружу, калі не ўшыюся ў памяць нашчадкаў Збяруцца дзе-небудзь у Драздах, па-над морам (а на моры байдаркі, каноэ, гэтае, як яго — акадэмічнае веславанне!), пасядуць на прызбе славяне цэлым, ведаеце, славянскім саборам і спамінацьмуць "Ах! які чалавек быў, гэты наш прэзідэнт Алімпійскага камітэта, — і з малым на дварэ паталкуе, і старога ўважыць, і душы не дастане, і ў смалянога бычка выпрасіць, і мёрзлай сучцы ўцісне!"

Гэта — праграма-мінімум На першыя сто дзён прэзідэнцтва! Пра максімум — гаворка асобная патрэбна Але і тады на поўную расхрыстанасць душы не разлічвайце, любая ўлада тады моцная, калі абапіраецца на тайную дыпламатыю, у сапраўднага прэзідэнта, як і ў Бога, промысел — неспасцігальны, не кожнаму басяку ў крапіву лезці, так і вам! Таму нават у максімуме вялікай застанецца тайнай, як нам каланізаваць матухну-Расею, як нам у Ціхім акіяне ножкі спаласнуць Але светлыя мыслі на гэты конт ёсць!



**Дзядзька Васіль**
**з хутара Ясенца.**

